АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВОСЕНЬСКІЯ І ТАЛОЧНЫЯ ПЕСНІ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1981

ББК 82.3Бел 6
В 76



Складальнік **А. С. Ліс**

Укладанне і каменціраванне талочных песень
**С. Т. Асташэвіч**

Музычная частка В. І. Ялатаў.

Рэдактар тома **А. С. Фядосік**

В 76 **Восеньскія і талочныя песні** / [Склад. і аўт. уступ. артыкулаў А. С. Ліс; Уклад. і камент. талоч. песень С. Т. Асташэвіч; Муз. частка В. І. Ялатаў; Рэд. А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.— 679 с., іл., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 20 к.

Том уключае восеньскія і талочныя песні, а таксама іх напевы. У песнях гэтых жанраў шырока адлюстраваны працоўны народны быт, духоўны свет простага чалавека. Яны надаюць адметнасць паэзіі беларускага земляробчага календара.

Разлічана на фалькларыстаў, тэарэтыкаў і практыкаў, пісьменнікаў, мастакоў, выкладчыкаў ВНУ, студэнтаў, настаўнікаў.

В $\frac{70700—172}{М316—81}$ 139—81 4702120000

ББК 82.3Бел-6
БелФ

# АСЕННІ ПЕРЫЯД ЗЕМЛЯРОБЧАГА КАЛЕНДАРА
# ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

Восеньскія песні складаюць завяршальны цыкл паэзіі беларускага земляробчага календара. Гэта песні той пары года, калі земляроб збіраў апошні плён сваіх рук і дары прыроды. У адрозненне ад усіх іншых каляндарных песень восеньскія не канцэнтруюцца вакол аднаго якога-небудзь свята, адной падзеі, урачыстасці. Яны не нясуць у сабе ніякіх абрадавых момантаў. У іх на першы план выразна выступае жыццёвая гаспадарчая аснова. Народныя назвы восеньскіх песень — ярынная (ярная), восень, восеньская, асенняя, спасаўская, як лён, каноплі бяруць, капаюць бульбу, у арэхах, збіраючы ягады, грыбы і іншыя — вельмі выразна выяўляюць функцыянальную ролю гэтага цыкла твораў, акрэсліваюць сферу іх бытавання. Яны гучалі над даспелымі аўсянымі палеткамі, у час уборкі проса і грэчкі, над ільнянішчам, калі рвалі лён, даносіліся з ляснога ўзлеску, дзе збіралі брусніцы...

Мелодыя іх уторыць асенняй задуме палёў, асенняй далечы. У ёй чуецца сум па леце і мінулых дзявочых гульнях. Мелодыка восеньскіх песень— найбольш выразная іх жанравая адзнака. Нягледзячы на тое што восеньскія пе́сні суправаджалі ў асноўным гаспадарчыя работы ў полі, зместу гэтых работ яны амаль не адбілі. Толькі паасобныя вобразы дазваляюць улавіць іх сувязь з асенняй парой года, з клопатамі і заняткамі селяніна-земляроба ў гэты час. Між такіх вобразаў — вобразы асенняй прыроды, штрыхі асенняга пейзажу, што трапляюцца ў творах гэтага цыкла.

У цэлым жа па сваім ідэйна-тэматычным змесце восеньскія песні стаяць блізка да пазаабрадавай любоўнай лірыкі. Матывы будучага замужжа, вяселля надаюць своеасаблівы характар тэматыцы ўсяго асенняга цыкла, дамінуюць у ім. Апошняе тлумачыцца тым, што некалі ў Беларусі якраз на восень, калі канчаліся ўсе палявыя работы і ў сялянскай хаце з'яўляўся адносны дастатак, прыпадала асноўная колькасць вяселляў.

Тое, што восеньскія песні ў ідэйна-тэматычным плане пераклікаліся з іншымі, не мелі абрадавага прымеркавання, не спрыяла іх паўнейшаму выяўленню і фіксацыі ў фальклорна-этнаграфічнай літаратуры. Першыя звесткі аб асеннім перыядзе беларускага земляробчага календара адносяцца да 1828 г. Аўтарам публікацыі быў Казімір Фалютынскі, «вучоны юнак», як

прадставіла яго чытачам рэдакцыя часопіса «Вестник Европы»[1]. Свае назіранні над земляробчым календаром Фалютынскі сабраў на Віцебшчыне. Аўтар артыкула даў правільныя, але вельмі сціплыя апісанні земляробчых свят і абрадаў. Адносна асенніх свят земляробаў ён пісаў: «Спас сапраўды ёсць першае асенняе свята, хоць беларускія жыхары пачынаюць восень звычайна ад Іллі; ёсць прыказка, што на Іллю да абеда лета, а па абедзе восень»[2]. Фалютынскі ўпамінае звычай акладзін — своеасаблівую ўрачыстасць у памяць продкаў. Хоць кароткая нататка этнографа мала што дае для разумення асенняга цыкла гадавога круга, яна цікавая як першая спроба акрэсліць яго межы.

Дзякуючы таму што захаванае ў XIX ст. у Беларусі старажытнае асенняе свята дзяды як выражэнне культу продкаў знайшло цудоўную мастацкую інтэрпрэтацыю ў творчасці Адама Міцкевіча, яно прыцягнула асабліва пільную ўвагу і даследчыкаў народнага быту. Выкладчык Віленскага універсітэта А. Мухлінскі ў 1830 г. апублікаваў артыкул «Святы, забавы, забабоны і прымхлівыя абрады простага народа ў Навагрудскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні», у якім даў кароткае апісанне дзядоў[3]. Сярод іншых асенніх свят і звычаяў Мухлінскі адзначаў прысвятак «дасеўкі» — заканчэнне азімай сяўбы[4]. Апісанне дзядоў як асенняй урачыстасці ў гонар продкаў знаходзім у М. Радзевіча[5], Я. Тышкевіча, Р. Зянькевіча. Тышкевіч больш грунтоўна, чым папярэднія аўтары, спыніўся на звычаі памінання беларусамі продкаў. Ён даволі падрабязна апісаў змітраўскія дзяды і блізкія да іх па характару і мэтах прыкладзіны[6]. Усе гэтыя ўшанаванні, урачыстасці Тышкевіч лічыў язычніцкімі ў сваёй аснове. Але вучоны адным з першых сярод даследчыкаў у кульце продкаў за абалонкай язычніцкіх уяўленняў убачыў і высокую маральную падаплёку. «Звычай... ушанавання памяці продкаў,— пісаў ён,— у прыгожым святле выстаўляе характар паважанага нашага люду»[7].

Мабыць, найбольш поўна, з увнаўленнем самой атмасферы даўняй урачыстасці апісаў дзяды Рамуальд Зянькевіч у працы «Аб урочышчах і звычаях пінскага люду, а таксама аб характары яго песні»[8]. Добры знаўца

---

[1] Ф а л ю т и н с к и й К. Народные праздники, увеселения, поверья и суеверные обряды жителей Белоруссии.— Вестник Европы. М., 1828, март—апр.
[2] Там жа, с. 85.
[3] Вестник Европы.— СПб., 1830, № 15—16, с. 271—276.
[4] Там жа.
[5] R o d z i e w i c z Wł. Przesady Białorusinów.— Magazin Powszechny. Warszawa, 1840, 1, c. 7.
[6] T y s z k i e w i c z E. Opisanie powiatu Borysowskiego.— Wilno, 1847, c. 377—381.
[7] Там жа, с. 381.
[8] Biblioteka warszawska. Warszawa, 1853, t. 1.

народнага побыту, шчыры прыхільнік народнай паэзіі, Зянькевіч перадаў у дэталях і сам рытуал святкавання, і комплекс уяўленняў, вераванняў, што за ім стаялі. Пісаў пра гэты асенні звычай на матэрыяле Навагрудчыны і М. А. Дзмітрыеў [9]. Як сведчаць згаданыя аўтары, у прыватнасці Тышкевіч, у час урачыстай вячэры ў гонар дзядоў спяваў гусляр, услаўляючы «адвагу ў баях і ціхія хатнія чалавечыя годнасці айцоў люду, сваёй вялікай сям'і, уласных родзічаў» [10]. Час не захаваў тых даўніх гуслярскіх песень, і ў восеньскім песенным цыкле ні адна з гэтых урачыстасцей не пакінула ніякага знаку. Мы спыняемся на іх толькі як на нейкіх асаблівых момантах у духоўным жыцці колішняга земляроба.

Першым у нашай фалькларыстыцы пра восеньскія песні, яшчэ не карыстаючыся самім тэрмінам «восеньскія песні», загаварыў Аляксандр Рыпінскі. У сваіх нарысах і нататках, выдадзеных у Парыжы пад назвай «Беларусь», у раздзеле «Рабочыя» (так называў этнограф каляндарныя песні наогул) ён гаворыць пра песні, што суправаджалі асеннія работы ў полі, на агародзе і ў хаце. «Па жніве, дзе галоўную ролю адыгрываў серп,— пісаў Рыпінскі,— наступаюць іншыя так званыя ручныя работы нявест: як то выбіранне лёну, канопляў і агародніны, а ўвосень прадзіва..., шаткаванне капусты і г. д.» [11] Пісьменнік-этнограф далей прыводзіць па памяці ўрывак з «канапелькі» і заўважае, што пры капусце і прадзіве «спяваюцца ўжо найчасцей вясельныя песні, бо гэта якраз той час, калі адбываюцца вяселлі» [12].

Першыя ўзоры беларускіх восеньскіх песень «Чаго ты, лосю?» і «Кляновая ліспінка» надрукаваў Ян Чачот, спачатку на польскай мове, затым у арыгінале [13]. Аднак трэба адразу агаварыцца, што Чачот яшчэ не заўважыў адметнасці восеньскіх песень у сістэме каляндарна-земляробчай паэзіі, змяшчаючы адну восеньскую сярод вясельных, а другую ў раздзеле «Розныя». Паходзілі ж абедзве песні, пададзеныя Чачотам, з лепельскага Падзвіння і былі запісаны на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

У рускіх навуковых публікацыях восеньскія беларускія песні з'явіліся на пачатку 50-х гадоў. С. П. Мікуцкі, якому пасля смерці І. Грыгаровіча Акадэміяй навук была даручана праца над складаннем слоўніка беларускай мовы, у сваёй невялікай фальклорнай публікацыі, зробленай з лінгвістыч-

---

9. Дмитриев М. А. Описание похорон и дедов в Новогрудском уезде.— Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. СПб., с. 84—88.
10 Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego, c. 378.
11 Rypiński A. Bialoruś!— Pariž, 1840, c. 123.
12 Там жа, с. 124.
13 Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny.— Wilno, 1837, kz. 1, c. 79, 87; яго ж: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny z dołączeniem pierwotwornych w mowie sławiano-krewickiej.— Wilno, 1844, c. 68—69.

нымі мэтамі, змясціў дзве восеньскія песні з Дзісеншчыны «А ў цёмным лесе мядзведзь рыкаець» і «На гары лён» [14].

Упершыню восеньскія песні ў самастойны раздзел вылучыў у 1858 г. пры публікацыі ўзораў беларускай вершаванай мовы аўтар «Заметак аб Заходняй частцы Гродзенскай губерні» [15]. Хоць тэксты чатырох восеньскіх песень, змешчаных у гэтай публікацыі, нельга лічыць характэрнымі, тыповымі для восеньскага цыкла, факт іх вылучэння даследчыкам сведчыць аб існаванні асобнай традыцыі восеньскіх спеваў на паўднёва-заходніх узмежках этнаграфічнай Беларусі. Да таго ж гэта вельмі паэтычныя творы, адабраныя з вялікім густам.

Дзве ўжо тыповыя восеньскія песні, праўда, не вылучаючы іх з іншых, прыводзіць у сваім артыкуле, надрукаваным у гэтым самым выпуску «Этнографического сборника», А. Кіркор [16].

У раздзеле «Абрады і звычаі» складальнік кнігі «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю» М. А. Дзмітрыеў даволі падрабязна спыніўся на апісанні святкавання асянін і зьмітраўкі, якія, паводле яго слоў, адзначаліся звычайна ў суботу і былі асеннімі святамі ў памяць продкаў [17]. Што датычыць апісання свята дзядоў, то Дзмітрыеў у «Зборы...» паўтарыў у асноўным ужо сказанае ім у артыкуле «Памятной книжки Виленского генерал-губернаторства на 1868 год». Песні ж, пазначаныя ім як восеньскія, запісаныя ў Дзісне, маюць адноснае дачыненне да восеньскіх. Адна з іх — рэкруцкая, а другая нясе на сабе моцны ўплыў гарадской песнятворчасці XVII—XVIII стст.[18]

Падрабязна на падставе назіранняў над бытам, жыццём валожынскіх сялян у XIX ст. апісаў старадаўні каляндар Іван Берман [19]. Адпаведна шмат увагі ўдзяліў ён і асеннім святам. Яго, праўда, як служку культу цікавіла больш царкоўная рэгламентацыя пораў года, рэлігійны аспект святаў і прысвяткаў. Тым не менш у публікацыі Бермана ёсць нямала цікавага для даследчыка народнага побыту, духоўнай культуры беларускага селяніна ў мінулым.

---

[14] Микуцкий С. И. Белорусские песни и загадки, записанные в Витебской губернии, в имении Зябки Дриссенского уезда.— Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности. СПб., 1853, с. 335—337.

[15] Этнографический сборник.— СПб., 1858. Вып. III. Дарэчы, аўтарам гэтай даволі цікавай на той час працы, на думку акадэміка Карскага, быў Куклінскі. Гл.: Карский Е. Ф. Белорусы.— Вильна, 1903, т. 1, с. 228.

[16] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— Этнографический сборник, вып. III, с. 226, 230.

[17] Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края М. А. Дмитриева.— Вильна, 1869, с. 213—216.

[18] Там жа, с. 121—123.

[19] Берман И. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе.— Записки имп. Русского географического общества по отделению этнографии.— СПб., 1873, т. V, с. 3—43.

Сярод асенніх свят, што адзначаліся ў свой час на Валожыншчыне (вядома, і ў іншых кутках Беларусі), Берман пералічае спас, спажу, аспожку, звіжанне, пакровы (1 кастрычніка[20]), Марцін — свята млынароў, Змітраў дзень. Пры гэтым Берман, здаецца, больш дакладна ў параўнанні з іншымі этнографамі апісвае абходзіны дзядоў. Як і іншыя аўтары, ён падкрэслівае, што да дзядоў вельмі старанна рыхтаваліся: мялі і чысцілі падвор'е, прыбіралі ў хаце, рыхтавалі абрадавыя стравы — сем у бедных сем'ях, адзінаццаць у заможных. Тут знаходзім і поўнае пералічэнне гэтых страў. Сярод іншых свят і прысвяткаў Берман спыняецца яшчэ на асеннім Юр'і (26 лістапада), спрабуючы растлумачыць яго ў гістарычным аспекце. Заслугоўвае ўвагі думка аўтара аб тым, што сяляне вылічалі час не па месяцах, а паводле каляндарных свят, пары года і канкрэтных гаспадарчых работ (за тыдзень да каляд, у два тыдні па купаллі, як кросны снавалі, агароды палолі, касілі, жалі і г. д.).

Спыняецца на дзядах, прыводзіць павер'і, звязаныя з імі, і паданне Іван Насовіч у публікацыі «Беларускія песні»[21]. Сярод іншых заўваг адносна бытавання беларускай народнай песні гэты знаўца народнага слова пісаў: «Жанчына нават за прасніцай у хаце ці пры мыцці бялізны на рэчцы спявае. Палявыя ж работы жаночыя, як поліва, уборка канопляў або лёну, і збор ягад і грыбоў ніколі не абыходзяцца без песень рознага зместу»[22]. На жаль, восеньскіх песень сярод апублікаваных Насовічам няма.

Першай значнай публікацыяй восеньскіх песень (трыццаць тэкстаў) можна лічыць публікацыю П. В. Шэйна[23]. Ярныя песні (гэты першы раздзел восеньскіх) пададзены тут асобна, і сярод іх некалькі класічных узораў, якія даюць добрае ўяўленне аб асеннім цыкле каляндарнай паэзіі. Праўда, трапляецца некалькі такіх, якія большасць збіральнікаў адносяць да летніх. Амаль усе ярныя, пададзеныя Шэйнам, паходзяць з Чашнікаў і Лепельшчыны, што сведчыць аб распаўсюджанні ў свой час тут традыцыі спявання восеньскіх песень.

Даволі яркае ўяўленне аб земляробчым календары, у тым ліку аб гаспадарчым занятку хлебароба ўвосень, дае кніга Юльяна Крачкоўскага «Быт заходнерускага селяніна»[24]. Паводле Крачкоўскага, да спаса селянін павінен быў скончыць усе асноўныя палявыя работы, трэба было ўжо кла-

---

[20] Тут і далей усе старажытныя земляробчыя святы падаюцца, як і ў этнаграфічнай літаратуры, па старому стылю.

[21] Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем.— Записки имп. Русского географического общества по отделению этнографии, т. V, с. 46—280.

[22] Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем.— Записки имп. Русского географического общества по отделению этнографии, т. V, с. 69.

[23] Шейн П. В. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями, с приложением объяснительного словаря и грамматических примечаний.— СПб., 1874, с. 477—491.

[24] Крачковский Ю. Ф. Быт западно-русского селянина.— М., 1874, с. 152—159.

націцца пра сяўбу. На зельную, або спажу (8 верасня), па сведчанню этнографа, селянін думае пра будучы год, пра пасеў азіміны. Падрыхтоўка раллі пад азіміну і засеўкі адбывалася ўрачыста. Селянін надзяваў белую кашулю, часам усцілалі поле саломаю тых снапоў, з якіх збожжа ішло на засеўкі. Гэта было аграрна-магічнае дзеянне, накіраванае на тое, каб на будучы год жыта таксама ўсцілала поле. Пасля спарадкавання азімай нівы селянін меў час на тое, каб ажаніць сына, выдаць замуж дачку. Увосень часцей здараліся кірмашы, фэсты, куды селянін выбіраўся справіць сякі-такі гаспадарчы клопат.

Арганічнымі асенняму часу бачыў Крачкоўскі асяніны, або багатыя дзяды, якія, паводле яго слоў, былі «адным з найвялікшых свят у сельскім асяроддзі». Этнограф апісвае асяніны на падставе асабістых назіранняў пераважна на Дзісеншчыне і Навагрудчыне, мясцінах, дзе браў свой матэрыял пра гэта свята Мухлінскі, Дзмітрыеў і інш. Апісанне Крачкоўскага адрозніваецца большай дэталізацыяй і пранікнёнасцю даследчыка. Яно вольнае ад недакладнасцей, якія дапускаў Дзмітрыеў.

Аб асенніх абрадах і звычаях памінання продкаў, у прыватнасці пра асяніны, даволі добрае ўяўленне дае і публікацыя А. Троіцкага «Уклад, спевакі і шаптуны-руйнавальнікі» [25].

Не абышлі ўвагай беларускія восеньскія песні, звычаі і тыя зборнікі, што друкаваліся ў 70—90-я гады ў выданнях Кракаўскай Акадэміі навук. У сваёй невялікай публікацыі «Абрадавыя песні рускага люду акаліц Пінска» П. Быкоўскі сярод песень гадавога круга асобна вылучыў восеньскую [26]. Адам Гурыновіч, пускаючы ў свет песні, сабраныя ў сябе на радзіме, каля Вішнеўскага возера, таксама падаў адну восеньскую, аднесеную мясцовай традыцыяй да хрэсьбінных [27]. Сярод дваццаці васьмі песень беларускага земляробчага календара, змешчаных А. Чэрным у «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», пяць восеньскіх і пры гэтым дзве пададзены ў нотным запісе [28].

Не вылучаў восеньскіх песень сярод іншых, хоць адна-дзве з іх і трапляюцца ў яго публікацыі між вясельных, даследчык Магілёўшчыны А. Дэмбавецкі [29]. «Сялянскі каляндар», што ідзе ў яго асобным раздзелам, асеннія святы толькі называе і то падаючы іх амаль усе ў царкоўнай наменклатуры. Заслугоўвае ўвагі толькі хіба засведчаны ў кнізе факт сяткаван-

---

[25] Литовские епархиальные ведомости, 1875, № 8, 11, 18, 30.

[26] Bykowski P. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, wydawany staraniem Komisji antropologicznej Akademii umiejętności w Krakowie. Kraków, 1878, t. II, c. 266.

[27] Hurynowicz A. Zbiór rzeczy białoruskich.— Zbiór wiadomości..., 1893, t. XVII, dz. II, c. 140.

[28] Cerny A. Pieśni białoruskie z powiatu Dzisnieńskiego gubernii Wileńskij.— Zbiór wiadomości..., 1895, t. XVIII, c. 221—223.

[29] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии.— Могилев-на-Днепре, 1882, кн. 1.

ня ў 80-я гады мінулага стагоддзя на Магілёўшчыне дзядоў, якія тут зваліся «радзіцелямі» [30].

Натуральна, што восеньскіх песень больш трапляецца ў тых аўтараў, якія асаблівую ўвагу надавалі збору якраз самой народна-песеннай паэзіі. Так, прыкметную колькасць тэкстаў восеньскіх песень даюць зборы П. Шэйна, М. Доўнар-Запольскага і інш. Першы том «Матэрыялаў...» Шэйна, папоўніў скарбніцу восеньскіх песень яшчэ на дзесятак твораў [31]. На гэты раз песні, пададзеныя даследчыкам, паходзілі з шырэйшага рэгіёна, чым у папярэдняй публікацыі. Яны былі сабраны на Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне і гаварылі новае аб геаграфіі распаўсюджання восеньскай песні, дакладней яе разнавіднасці — ярыннай песні.

З паўночнай Піншчыны паходзяць дванаццаць восеньскіх песень, вылучаных у самастойны раздзел у кнізе М. Доўнар-Запольскага «Песні пінчукоў» [32]. Няма, аднак, між імі ніводнай тыпова восеньскай. Гэта звычайныя лірычныя песні, прымеркаваныя мясцовай фальклорнай традыцыяй да асенняй пары. Зрэшты, яны пераканаўча ілюструюць думку вучонага, выказаную ў прадмове да кнігі: «Пінчукі, як і паўднёвыя беларусы (рэчыцкія, мазырскія; у паўночных гэты падзел ужо забыты), дзеляць свае лірычныя песні на вясну, лета, восень і зіму, г. зн. на веснавыя, летнія, восеньскія і зімовыя» [33].

Манаграфія А. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў» на сённяшні дзень цікава тым, што дае даволі багаты матэрыял для пазнання народнага земляробчага календара, і ў прыватнасці асенняга яго цыкла. Ні ў якага іншага этнографа мы не знойдзем, напрыклад, такога грунтоўнага апісання колішняга восеньскага свята «багач» (8 верасня), хоць упамінанне аб ім дзе-нідзе і сустракаецца. Праўда, наўрад ці можна пагадзіцца з аўтарскім тлумачэннем генезіса свята, якое ён выводзіць ад язычніцкага боства. Уласна багачом называлі лубку з зернем, якую ставілі на покуці. Зерне для «багача», паводле слоў Багдановіча, вымалочвалі з першага «зажыначнага» снапа [34]. Трэба думаць, што назва свята паходзіць ад слоў «багацце», «багаты». Час яго святкавання, калі было сабрана ўсё дабро з палёў, сам абрад, песні, падобныя на дажынкавыя, якія спяваліся пры гэтым, сведчаць, што гэта было тыповае земляробчае свята. Земляробчы, аграрны сэнс гэтай урачыстасці пацвярджае і заўважаны М. Нікіфароўскім звычай у жанчын грамадой хадзіць гэтым днём па сваім і

---

[30] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 1, с. 520.

[31] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб., 1887, т. 1, ч. 1, с. 257—263.

[32] Довнар-Запольский М. Песни пинчуков.— Киев, 1895, с. 60—69.

[33] Там жа.

[34] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов.— Гродна, 1895, с. 122—126.

чужым ільнянішчы, прыгаворваючы: «Няхай будзіць лён такі даўгі, калькі мы прайшлі!» [35]

Самы пачатак XX ст. не быў адзначаны буйнымі публікацыямі беларускага фальклору, але за збіральніцкую працу бралася ўсё больш і больш людзей. Новы змястоўны матэрыял аб землЯробчым календары прынесла надрукаваная ў двух выпусках «Живописной старины» праца Марыі Косіч «Літвіны-беларусы» [36]. Этнограф адзначала, што пасля спасу (6 жніўня) сеюць азімае. Пасля заканчэння азімай сяўбы святкуюць «абработкі» — «вельмі радаснае свята ў хаце». На абработках, паводле сведчання Косіч, спявалі вясёлыя песні. Даследчыца прыводзіць тэксты дзесяці гэтых песень. Дзве з іх «Што й за гаем» і «Медуніца, медуніца лугавая» маюць рысы восеньскіх песень [37].

Далей Косіч пералічвае асеннія святы і прысвяткі. З іх заслугоўваюць увагі, зразумела, тыя, што маюць больш выразную працоўную аграрную аснову. Пасля пакроваў да глыбокай восені, як зазначае этнограф, сяляне заняты ўборкай канопляў. «Праз тры тыдні пасля пакроваў ідуць «родзічы», «памінальная субота»,— пісала Косіч, падаючы цікавы факт адпраўлення свята дзядоў далёка ад тых месц, з якімі звычайна этнографы звязвалі захаванне, лакалізацыю гэтай з'явы,— Навагрудчыны [38].

У 1904 г. амаль адначасова з'явіліся ў друку дзве публікацыі песень з Міншчыны. Я. Ляцкім запісаны песні ў ваколіцах Лагойска, над Гайнай. З дваццаці песень землЯробчага календара дзве былі восеньскія [39]. Песні публікацыі А. Розенфельда сабраны каля Радашковіч, некаторыя пад Астрашыцкім гарадком. Розенфельд не заўсёды дакладна вызначаў песенны жанр, іншы раз змяшчаў матэрыял не класіфікуючы. Восеньскія ў яго не вылучаны і рассыпаны сярод іншых [40].

Між летніх вясельных, любоўных і сямейных песень, запісаных па-над рэчкай Лань на Нясвіжчыне С. Малевічам, трапляецца таксама некалькі восеньскіх ярных і спяваных у час збору ягад [41].

Вылучаў восеньскі цыкл каляндарнай паэзіі і карыстаўся тэрмінам

---

[35] Никифоровский Н. Я. Простонародные приметы и поверья.— Витебск, 1897, с. 254.

[36] Косич М. Н. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни.— Живая старина. СПб., 1901, № 3—4, с. 30—37.

[37] Там жа, с. 36—37.

[38] Там жа, с. 37.

[39] Ляцкий Е. Материалы по белорусской словесности и языку.— Известия отделения русского языка и словесности имп. Академии наук. СПб., 1904, т. IX, кн. 4, с. 335—337.

[40] Розенфельд А. Белорусские народные песни.— Сборник отделения русского языка и словесности имп. Академии наук. СПб., 1904, т. XXVII. № 3, с. 28, 46, 84.

[41] Малевич С. Белорусские народные песни.— СПб., 1907, с. 36, 39, 49, 103.

«ярныя песні» даследчык паўночна-заходняга паграніччa Беларусі В. Камінскі [42]. Запісаныя ім дзве ярныя паходзілі з Відзаў і Браслава. Дапаўненнем да запісаў Розенфельда, зробленых у Мігаўцы пад Радашковічамі, з'яўляюцца песні, сабраныя І. Белановічам і А. Сніткам у ваколіцах Радашковіч, у тым ліку восеньскія «Бярозка з лістком усю восень шумела», «У гародзе да на пагодзе», якія можна лічыць узорамі восеньскай лірыкі [43]. Некалькі твораў асенняга цыкла губляецца між пазаабрадавай лірыкі ў другім выпуску «Матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні» [44] пад рэдакцыяй Раманава.

Дарэвалюцыйную публікацыю матэрыялаў беларускага земляробчага календара асенняга перыяду завяршыла фундаментальная праца Е. Раманава «Белорусский сборник», вып. VIII. У раздзеле «Народны каляндар» славуты беларусазнавец з уласцівай яму грунтоўнасцю спыніўся і на асеннім перыядзе працы і духоўнага жыцця селяніна [45].

Паводле Раманава, у паўднёвых паветах Беларусі сяўба жыта прымяркоўвалася да 1 (14) верасня. Лічылася, хто да гэтага часу пасее збожжа, той будзе з хлебам. У гэты дзень адлятаюць птушкі ў вырай. Тыдзень з 1 па 8 верасня завецца «бабскім летам». Святкаванне «багача» на поўдні Беларусі Раманаў не адзначае. Для нас цікавасць мае той факт, што з 14 (28) лістапада (запусты на Піліпаўку) дзяўчаты на працягу ўсёй зімы пачынаюць хадзіць на попрадкі. Раманаў адзначаў, што за доўгі перыяд попрадак дзяўчаты «пераспеўвалі ўвесь рэпертуар песень, не прымеркаваных да якога-небудзь пэўнага часу ці абраду». «Па мясцовасцях,— пісаў вучоны,— песні гэтыя носяць розныя назвы: пасядзелачныя, восеньскія, зімнія, такія, што спяваюцца «абы-калі» і г. д.» [46].

Ужо ў 20-я гады, са станаўленнем беларускай савецкай навукі, прыкметны крок наперад зрабіла і фальклардыстыка. Аб гэтым пераканаўча гаворыць двухтомнае выданне песень Ал. Шлюбскага і зборнік М. Гарэцкага і А. Ягорава «Народныя песні з мелодыямі». У першым томе «Матэрыялаў...» Шлюбскага было надрукавана каля двухсот пяцідзесяці твораў каляндарнай паэзіі. Восеньскіх песень, праўда, было між іх мала, усяго не-

---

[42] Каминский В. А. Белорусы Ново-Александровского уезда Ковенской губернии в их песнях, обрядах, обычаях.— Филологические записки Воронежского университета. Воронеж, 1910. Вып. V, с. 743.

[43] Сказки, легенды, песни (Записаны в Минской и Виленской губ. А. И. Родзеловской, А. К. Снитко и Иваном Белановичем).— Минская старина. Мн., 1911. Вып. II, с. 228, 234.

[44] Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильна, 1912. Вып. II, с. 84, 98, 185—186.

[45] Романов Е. Р. Белорусский сборник.—Вильна, 1912. Вып. 8, с. 274—281.

[46] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 280.

калькі тэкстаў. Вылучыў асобна даследчык толькі льняную. Ярная «Авясец, мамухна» трапіла ў жытнія [47].

У «Народных песнях з мелодыямі» Гарэцкага і Ягорава ярныя атрымалі права самастойнага раздзела каляндарных песень. Усяго іх там пятнаццаць нумароў з жанравымі азначэннямі спявачкі «ўвосінь», «як авёс жнуць», «аўсы жаўшы» і інш.[48]

З выданых у 30-я гады ў Заходняй Беларусі песень цудоўныя восеньскія «Ой, пры Дунаі», «Ой, там у бару» ёсць у кнізе Бранiславы Гаўронскай [49]. Запісаны яны на Пастаўшчыне ў в. Камаі выкладчыкам Варшаўскай кансерваторыі Б. Рудкоўскім і кампазітарам Ст. Казурам.

Саракавыя гады прынеслі адну з найбольш значных публікацый восеньскіх песень. У выданні С. Сахарава «Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў» ёсць тры раздзелы песень восеньскага цыкла: дзесяць тэкстаў песень ярынных, столькі ж ільняных і семнаццаць уласна восеньскіх [50]. Варта адзначыць, што раздзел «ільняныя» ні ў аднаго збіральніка так не прадстаўлены. Публікацыя Сахарава паказала, што ў паўночна-заходні рэгіён — месца шырокага бытавання восеньскіх песень. Сучасныя запісы (экспедыцыя ІМЭФ АН БССР, 1972 г.) пацвярджаюць гэтыя вывады. Першы том «Песень беларускага народа», які выйшаў напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, прынёс яшчэ чатыры запісы, і што каштоўна, з мелодыямі песень асенняй пары [51]. З іх дзве льняныя з усходняй Віцебшчыны. Крыху папоўнілі скарбніцу каляндарнай паэзіі, у тым ліку і восеньскай, два зборнікі, выдадзеныя кампазітарам і фалькларыстам М. Чуркіным. У першым з іх дзве восеньскія з усходу Магілёўшчыны [52], у другім — з Ашмяншчыны [53].

З Нарачаншчыны, з-пад Налібоцкай пушчы, Пружаншчыны і Маладзечаншчыны паходзяць восеньскія песні ў публікацыях народнага артыста СССР Р. Шырмы.

У выданні народных песень Шырмы 1947 г. раздзел «Яравое жніво, або восень» заняў адпаведнае месца сярод паэзіі земляробчага календара. Шаснаццаць тэкстаў характэрных восеньскіх песень даюць даволі добрае ўяўленне пра гэты жанр [54]. У чатырохтомным зборы народных песень,

---

[47] Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны.— Мн., 1927, ч. 1, с. 165, 173.

[48] Гарэцкі М. і Ягораў А. Народныя песні з мелодыямі.— Мн., 1928, с. 108—116.

[49] Gawrońska Bronisława. Pieśni ludowe ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej.— Wilno, 1935.

[50] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў.— Рыга, 1940. Вып. 1, с. 50—54, 57—60, 61—66.

[51] Грынблат М. Я. Песні беларускага народа.— Мн., 1940, т. 1.

[52] Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы.— Мн., 1949.

[53] Беларускія народныя песні/Запіс М. Чуркіна.— Мн., 1959.

[54] Шырма Р. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі.— Мн., 1947, с. 56—63.

падрыхтаваным Шырмам, колькасць восеньскіх песень павялічылася да трыццаці дзевяці [55]. Раздзел атрымаў назву «Яравое жніво і восень». Гэта самы прадстаўнічы раздзел восеньскай песні, пададзенай у музычным запісе. Апублікаваныя Шырмам восеньскія песні вельмі добра арыентуюць у выбары гэтага віду песень сярод іншых.

На жаль, у пасмяротнае выданне «Люду беларускага» М. Федароўскага не ўключаны разам з песнямі зробленыя збіральнікам шматлікія апісанні абрадаў і звычаяў. Калі б каляндарна-абрадавая песня была прыведзена ў арганічным адзінстве з абрадам, з апісаннем гаспадарчых клопатаў і спраў земляроба, мы мелі б цікавы матэрыял і з асенняга аддзела старажытнага календара, бо ў мясцінах, якія ахапіў сваімі даследаваннямі гэты выдатны фалькларыст і этнограф, шырока бытавалі і восеньскія песні і асеннія аграрныя звычаі. Укладальнікі і рэдактары V тома «Люду беларускага» абышлі ўвагай асаблівасць восеньскага цыкла земляробчага календара, і восеньская песня аказалася распыленай сярод іншых каляндарных, сямейна-бытавых і сямейна-абрадавых [56]. Праўда, у паасобных выпадках у зносках ёсць указанне на прыналежнасць песні якраз да восеньскіх, а гэта гаворыць аб тым, што Федароўскі не ігнараваў спецыфікі гэтага віду песень. Цікава, што пастухоўскія, або пастырскія, песні, якія нярэдка спяваюцца на мелодыю восеньскіх, аказаліся вынесенымі ў асобны невялічкі, у шэсць песень, раздзел [57].

Многія ўкладальнікі не вылучалі восеньскіх яшчэ і па той прычыне, што восеньская песенная разнавіднасць не вывучана. Не выпадкова пра восеньскія песні, пра асенні цыкл земляробчага календара няма ні слова ні ў вучэбным дапаможніку па фальклору пад агульнай рэдакцыяй прафесара М. Р. Ларчанкі, ні ў гісторыка-тэарэтычным даследаванні «Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць». Нават у цікавым навукова-папулярным нарысе Ніла Гілевіча, дзе каляндарная паэзія разгледжана з пранікнёнасцю знаўцы яе, восеньскай песні аддадзена да крыўднага мала ўвагі— менш старонкі [58]. Аўтар упершыню адзначае, што «беларускія восеньскія песні вызначаюцца вельмі прыгожым і самабытным меласам і з'яўляюцца ўзорам старажытнага нацыянальнага песеннага шматгалосся», але ён міжволі звужае ўяўленне аб функцыянальнай ролі самой восеньскай песні, сферы яе бытавання і не бачыць яе падвідаў, калі гаворыць, што «спяваліся восеньскія песні часцей за ўсё жанчынамі і дзяўчатамі на «попрадках». Трэба сказаць, што нашым музыказнаўцам выразней бачыцца восеньская песня. Кіруючыся такім крытэрыем, як мелодыя, Г. Цітовіч, напрыклад,

---

[55] Шырма Р. Беларускія народныя песні: У 4-х т.— Мн., 1962. Т. 3, с. 205—248.

[56] Federowski M. Lud białoruski.— Warszawa, 1958, t. V, c. 34, 125, 212, 404.

[57] Federowski M. Lud białoruski, t. V, c. 733—735.

[58] Гілевіч Н. С. Наша родная песня.— Мн., 1968, с. 67.

беспамылкова вызначае восеньскую песню сярод іншых і ў тых выпадках, дзе збіральнікі, як Ул. Тэраўскі або Э. Ледаховіч, змясцілі яе ў раздзеле сямейна-бытавых песень. У гэтым сэнсе каментарыі Г. Цітовіча да «Анталогіі беларускай народнай песні» з іх дэталізацыяй функцыянальнага прызначэння кожнага твора — падмога і фальклярысту-славесніку. Ацэньваючы ў першую чаргу каментарыі да «Анталогіі...», мы, вядома, памятаем, што выданнем гэтым Г. Цітовіч увёў у навуковы і культурна-грамадскі ўжытак некалькі новых узораў восеньскага меласу, запісаных як ім самім, так і іншымі нашымі музыказнаўцамі і збіральнікамі-фальклярыстамі [59].

Фальклорныя выданні 1973 г. таксама засведчылі, што восеньская песенная традыцыя яшчэ не забыта, прынамсі на шырокай тэрыторыі Міншчыны і Брэстчыны. У анталогіі «Песні сямі вёсак» Гілевіча апублікавана 17 тэкстаў розных падвідаў восеньскіх песень [60]. Дзве раней нікім не публікаваныя восеньскія песні змешчаны ўкладальніцай кнігі «Беларускі фальклор у сучасных запісах» В. А. Захаравай [61]. Істотна папоўніла скарбніцу восеньскай паэзіі публікацыя Гілевіча 1974 г.[62]

І ўсё ж, як відаць з агляду друкаваных фальклорна-этнаграфічных крыніц, твораў восеньскага цыкла сабрана не так ужо многа. Усяго дарэвалюцыйнымі і савецкімі фальклярыстамі апублікавана крыху больш двухсот восеньскіх песень з варыянтамі. Тры-чатыры дзесяткі твораў асенняй паэзіі даюць архіў былога Рускага геаграфічнага таварыства ў Ленінградзе і Вільнюскія архівы. І большую, каб не сказаць асноўную, частку тома «Восеньскія песні» складае матэрыял Архіва ІМЭФ АН БССР.

Ужо агляд крыніц каляндарнай паэзіі дае падставы папярэдне меркаваць аб арэале восеньскай песні, рэгіёнах больш ці менш актыўнага яе бытавання. Сабраныя матэрыялы сведчаць, што традыцыя асенняй каляндарнай паэзіі ў той ці іншай ступені была ўласціва практычна ўсёй тэрыторыі Беларусі. Аднак развіта была яна не ўсюды аднолькава, мела свае рэгіянальныя асаблівасці. Гаварыць аб восеньскай паэзіі ў найбольш характэрным яе праяўленні можна маючы на ўвазе перш за ўсё цэнтральную і заходнюю Беларусь, часткова паўночную. На ўсходзе і поўдні моцна развілася лірычная плынь, вытворча-абрадавае ядро каляндарнай паэзіі тут заслонена творамі любоўна-сямейнай тэматыкі, якія хутчэй можна лічыць прымацаванымі да таго або іншага каляндарнага цыкла, чым уласна каляндарнымі.

---

[59] Анталогія беларускай народнай песні/Укладанне і каментарыі Г. І. Цітовіча.— Мн., 1975, с. 80—91.

[60] Песні сямі вёсак / Укладанне і рэдакцыя Ніла Гілевіча.— Мн., 1973, с. 55—62, 363, 424.

[61] Беларускі фальклор у сучасных запісах/Складальнік В. А. Захарава.— Мн., 1973.

[62] Песні народных свят і абрадаў / Укладанне і рэдакцыя Н. С. Гілевіча.— Мн., 1974.

Кіруючыся крытэрыем працоўнай асновы каляндарнай паэзіі, у восеньскім цыкле можна вылучыць песні ярынныя (ярныя), ільняныя, песні пры зборы ягад і грыбоў, песні ўласна восеньскія, або восень. Апошняя група песень — гэта песні лірыка-вясельнай тэматыкі. Прапанаваная класіфікацыя восеньскай паэзіі не прэтэндуе на адзіна правільную. Тым больш, што народ у сваёй песеннай практыцы часам строга не размяжоўвае функцыянальнай ролі песні ў рамках аднаго каляндарнага цыкла. Так, адну і тую ж песню маглі спяваць жнучы ярыну і пры зборы ягад і грыбоў. Прыгадаем, што амаль усе яны адлюстроўваюць настрой, перажыванні і менш за ўсё характар работы, якой быў пры гэтым заняты чалавек. Такая ўжо спецыфіка восеньскіх песень. Іх аб'ядноўвае толькі настрой, нейкая эмацыянальная хваля, стыхія, выказаныя ў мелодыі. Калі ўлічыць тое, што паасобныя групоўкі песень, як, напрыклад, песні пры ўборцы канапель, прадстаўлены вельмі малой колькасцю твораў, то прыкладную класіфікацыю матэрыялаў тома трэба рабіць больш сціслай. Некалькі ўмоўна можна аднесці да восеньскіх песень пастухоўскія. Ідучы ўслед за М. Доўнар-Запольскім, Г. Цітовічам і іншымі фалькларыстамі, піліпаўскія, або паставыя, песні не адносім да асенніх. Справа ў тым, што самі попрадкі прыпадалі больш на зімовы час, чым на асенні. Перадзімнія — умоўная назва невялікай групы восеньскіх песень, у паэтыцы якіх пераважаюць вобразы прыроды зімовай пары.

Арганічна звязаная з жыццём народа, як і ўвесь фальклор, восеньская паэзія мае свой круг тэм, свае адпаведныя сродкі мастацкай выразнасці, маляўнічасці.

Пры ўсіх асенніх работах — ці то на постаці ў час яравога жніва, ці тады, калі бралі, слалі лён, ірвалі каноплі, капалі бульбу — і ў лесе пры зборы ягад, грыбоў спяваліся песні, асноўнай тэмай якіх было будучае замужжа. Ні ў адным каляндарным цыкле, нават у самой сямейна-абрадавай, вясельнай паэзіі, гэта тэма не атрымала такой шырокай і спецыфічнай распрацоўкі, як у восеньскіх песнях. Такі адбітак наклала на восеньскія песні сама пара іх выканання: у гэты час іх складальніцы найбольш задумваліся аб тым, што чакала іх за парогам бацькоўскага дома, у чужой сям'і. Асенняя песня з усёй непасрэднасцю, шчырасцю, якія ўласцівы народнай паэзіі наогул, расказвае аб перажываннях дзяўчыны, аб роздуме, трывогах і спадзяваннях яе. Так, тыповая восеньская песня «А ў цёмным лесе мядзведзь рыкае», акрамя таго, што тонка інтэрпрэтуе тэму дзявочай будучыні, замужжа, дазваляе ўявіць, адчуць саму атмасферу, дзе ўзнікала, спявалася гэта песня. Пры ўсёй прастаце формы яна стварае ёмісты эмацыянальны вобраз. Уяўленне лёгка ідзе ўслед за словамі песні. І бачацца маладыя жнеі на аўсянай пожні дзесь пры лесе, у якім голасам колішняга гаспадара нашых лясоў — мядзведзя гучыць напамін аб тым, што зіма недалёка. І той зварот дзяўчат да мядзведзя, які складае сюжэт песні, яе змест, набывае арганічную форму, мастацкую пераканальнасць.

А ў цёмным лесе,
Люлі, рана, мядзведзь рыкаіць,
Мядзведзь рыкаіць,
Люлі, рана, дзевак пужаіць.
Рыкай не рыкай,
Люлі, рана, я не баюся.
Толькі ж баюся,
Люлі, рана, асенняй ночкі:
Асення ночка,
Люлі, рана, цёмна, вяліка.
Яна разлучыць,
Люлі, рана, з айцом і мамкай.
Яна прылучыць,
Люлі, рана, к чуж-чужаніну,
К чуж-чужаніну,
Люлі, рана, к свёкру, к свякроўцы.

Іншы раз восеньская песня выразна, рэльефна пазначала пару і абставіны, у якіх яна гучала.

Журавы лятуць,
Палудзень нясуць —
Будзем палуднаваць.
Журавы селі,
Палудзень з'елі —
Нечага палуднаваць.
Мамачка йдзе,
Палудзень нясе —
Будзем палуднаваць.

Свет прыроды арганічна ўвайшоў у асеннюю паэзію. Магчыма, яшчэ больш арганічна, чым у які-небудзь іншы від каляндарнай паэзіі. І не толькі ўзяты ў плане паралелізмаў. Вока народнага творцы, чуйнае сэрца яго добра ўлоўлівалі жыццё асенняй прыроды ў суаднясенні, сувязі яго з жыццём чалавека. І гэта хораша клалася ў словы песні.

— Чаго ты, лосю, чаго, сівенькі,
К сялу прылягаеш?
А ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую,—
Не будзе, як лецечка,
Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую,—
Не будзе, як цёплае.
— Чаго, дзевачка, чаго, маладая,
Ты к сталу прылягаеш?
Ці ты, дзевачка, ці ты, маладая,
Ліхую свякроў чуеш?
— Ды хоць ліхую, хоць не ліхую,—
Не будзе, як мамачка...

Варыянты песні дэталізуюць малюнак, вобразна ўдакладняюць яго. Пра лося, ад яго імя: «Я ўлетку хаджу, травіцу скубу (або «расу церушу»), зімою не буду». І адпаведна пра дзяўчыну, яе вуснамі:

Я ў мамкі ўстану,
Коскі чашу —
Я ў яе работніца.
У свякроўкі ўстану,
Работку раблю —
Я ў яе нягодніца.

У паасобных творах паралелізм не такі выразны. Асацыяцыя ідзе не па першым крузе. Так, у песні «Ой, за лесам-борам» далёкае рыканне мядзведзя наводзіць на думку аб свекрыві, а дзяўчына, магчыма, ужо засватаная, да якой звяртаюцца сяброўкі словамі песні «Будзе ў цябе, Ганначка, свякроўка ліхая», пераводзіць размову на жартоўны тон:

Я таму мядзведку
Саладзін падкіну,
А сваю свякроўку
Пярынай накрыю.
Няхай той мядзведка
Саладзіны смокча,
А мая свякроўка
Пад пярынай квокча.

Песня «Ай, у бару цецярук балбочыць» таксама нясе роздум аб будучыні дзяўчыны. Перадае яе пераживанні перад вялікай зменай у жыцці. Думка рэалізуецца зноў жа з дапамогай шырокага параўнання і супрацьпастаўлення. Прычым параўнанне бярэцца таксама з свету прыроды, і ўжо гэта неяк адразу надае твору натуральнасць, выклікае пэўны круг асацыяцый.

А ў бару цецярук балбочыць,
А ён з бору ляцеці не хочыць:
Ай, у бару ягадкі салодкі,
У крыніцы вадзіца сцюдзёна.
Ганулька ад маткі ісці не хочыць:
У матулькі позняе ўставанне,
У матулькі ранняе ўкладанне,
А ў матулькі гладкае часанне,
У матулькі белае ўмыванне,
У матулькі ранняе сняданне.
У свякроўкі такога не будзіць...

У роздуме дзяўчыны над будучым лёсам восеньская песня дасягае глыбокай лірычнай пранікнёнасці. Шчырая, авеяная лёгкім смуткам задумёнасць пранізвае сам рытм песні «Пушчу я паву па Дунаёчку»:

Пучшу я паву па Дунаёчку,
А сама пайду па беражочку,
Да ці не ўбачу таткавых сяней.
Да хоць убачу,— мне там не быці,
Цясовых сталоў не засцілаці,
Дарагіх гасцей не запрашаці.

У некаторых выпадках пры ўвасабленні тэмы будучага лёсу дзяўчыны песня набывала драматычнае гучанне. Прыкладам таму можа быць песня «Чом вы, канапелькі, не зялёны стаіце».

— Чом вы, канапелькі, не зялёны стаіце?
Ой, люлі-люлі, не зялёны стаіце.
— Як жа нам, канапелькам, зялёным стаяці?
Ой, люлі-люлі, зялёным стаяці.
Зверху канапелькі клююць верабейкі,
З ісподу канапелькі вада падмыла,
А ўсярэдзіне канапелькі хваля эламіла.
— Чом ты, дзевачка, невясёлая ў танку?
— Як жа мне вясёлаю ў танку стаці?
Бацюшка кажа: — За князя аддаць,
Мамачка кажа: — У чорныя чарнушкі.
Ой, стукаў-пагрукаў у цясовыя вароты.
Мне бачца — мой бацька з князямі, баярамі,
Аж то мая мамка з чорнымі чарнушкамі.

Непакой, трывога, якімі напоўнен роздум лірычнай гераіні восеньскай песні аб сваім будучым, своеасабліва афарбоўваюць нават жартоўныя творы гэтай тэматыкі. Так, песня «Авясец, мамачка, авясец», пабудаваная ў форме дыялога або ўнутранага маналога (у паасобных варыянтах), мае агульны мінорны тон гучання, хоць яе нібы і аздабляе скупая ўсмешка. Твор гэты цікавы яшчэ і тым, што вобразы яго ідуць непасрэдна ад гаспадарчага занятку жанчыны ўвосень. У гэтым сэнсе восеньская песня дэманструе рэдкасную паслядоўнасць.

— Авясец, мамачка, авясец.
Калі чорт сватоў прынясець?
— Пажні, дачушка, авясец,
Тады чорт сватоў прынясець.
— А я авясец пажала,
Сватоў у вочы не відала.
— Прыбяры, дачушка, канапелькі,
Прыедзець к табе маладзенькі.
— А я канапелькі пабрала,
Сватоў у вочы не відала.

Тэма кахання, сустрэчы закаханых, здрады любага не знайшла шырокага развіцця ў асеннім цыкле паэзіі. Тым не менш сярод восеньскіх песень трапляецца некалькі высокамастацкіх твораў любоўнай тэматыкі. Некато-

рыя з іх, відаць, проста былі захоплены ў сферу асенняга цыкла. Іншыя ж, мяркуючы па паэтыцы, узніклі непасрэдна ў рамках цыкла, на той аснове і паводле тых жа паэтычных прынцыпаў, што і астатнія восеньскія песні. Наогул нельга ўявіць ні адзін каляндарны цыкл без развіцця ў ім любоўных і сямейных матываў, бо яны (любоўныя творы) былі часткай духоўнага жыцця чалавека і заўсёды суправаджалі яго. У гэтым сэнсе восеньская паэзія, вядома, не складае выключэння. Праўда, і гэта трэба адзначыць, тая любоўная і сямейная лірыка асенняй пары, якая знаходзіцца ў арганічнай сувязі з восеньскім цыклам, выглядае неяк больш арганізаванай у паэтычным сэнсе і ў моўным, чым тая, што толькі прымеркавана да восені. Магчыма, першая складае больш старадаўні, ранні пласт лірыкі.

Тыя песні любоўнай і сямейнай тэматыкі, што ўзніклі ў рамках самога восеньскага каляндарнага цыкла паэзіі па ўзору і законах яе, маюць, як правіла, вельмі лаканічную форму. У паэтыцы ж іх толькі часам ледзь угадваецца нейкі штрышок, дэталь, што, акрамя народнай традыцыі залічэння да восеньскіх песень, указвае на іх прыналежнасць да асенняга цыкла. Яскравы прыклад таму — песня «Дробна пташачка, невялічкая» — твор аб дзявочай вернасці.

Дробна пташачка, невялічкая,
Па ляшчэўейку скача,
Маладая дзяўчына, неразумная,
Па малойчыку плача.
— Ані я плачу, ані я тужу —
Самі слёзанькі льюцца,
Што ад мілага лісточкаў няма,
Ад нямілага шлюцца.
А хоць шліцеся, хоць не шліцеся,—
Я ваша не буду,
Каму дала вернае слоўца,
Таго я век не забуду.

Ёсць, вядома, сярод восеньскай лірыкі паасобныя творы, дзе тэма кахання рэалізуецца, як і ў большасці пазаабрадавых, без сувязі з часам прымеркавання, з гаспадарчым заняткам, клопатам увосень. Але іх зусім няшмат. Звычайна ж любоўны матыў у восеньскіх песнях развіваецца ў плане своеасаблівага заляцання. Само заляцанне хлопца падаецца ў сімвалічнай форме сватання. У ім скрозь адчуваецца намёк на жаніцьбу, вяселле. І ў гэтым, вядома, адбілася, як ужо гаварылі, тое, што восень была парой вяселляў.

Ішла цяцера з лугоў, з балотаў,
Рана, рана,
За ёй су поля ясны саколік.
— Пастой, цяцера, пастой, рабая,
Знімаю табе рабае пер'е,
Жадаю табе саколле крылле!

— Я не кідаю рабае пер'е,
Я не жадаю саколле крылле!
Ішла Франуська з хаты на ранак,
А за ёй су поля малады Стасік.
— Пастой, Франуська, пастой, малада,
Знімаю табе румяны венчык,
Ускладаю табе шаўковы чэпчык!
— Я не скідаю румяны венчык,
Я не жадаю шаўковы чэпчык!

Нельга не звярнуць увагі на тое, як створаны вобраз, колькі пачуцця гармоніі ў кожным штрыху, рытміцы верша гэтай песні. Які незвычайны ўнутраны рух слова. Здзіўляюча ўмее часам восеньская песня, як і наогул песня народная, адкрываць новыя вобразныя адценні ў слове, узбагачаць мастацкую палітру. Песня, напрыклад, «Высокае ў лесе дрэва яліна была»— твор аб дзявочым каханні — знаходзіць такі метафарычны вобраз, такую лексічную навінку, як слова «загуда»:

Высокае ў лесе дрэва яліна была,
Яліна была.
Усяму лугу зялёнаму загуду дала,
Загуду дала...

У зачыне песні «На двары дождж ык» створан зрокавы вобраз асенняга дня як агульнай атмасферы, у якой разгортваецца дзеянне. Метафара «дождж ык у сіцечка сіціць» разам з лексічнай знаходкай «сіціць» вельмі трапная, яскравая. Такой можа ганарыцца і прафесійная паэзія самага высокага класа.

А на двары дождж ык
У сіцечка сіціць,
А брат сястру
У акошачка клічыць...

Пры вырашэнні любоўнай тэмы восеньская песня шырока выяўляе такія аспекты народнай маралі, як погляд на жаніцьбу, меркаванне, якой павінна быць жонка.

Ты, ярынка, ярыся ў полі,
Ай, люлі, рана, у полі.
Ты, Пётранька, жаніся ў доме,
Ай, люлі, рана, у доме.
Не выбірай дзевачак на рынку,
Ай, люлі, рана, на рынку,
А выбірай дзевачак на ніўкі,
Ай, люлі, рана, на ніўкі.
Да на рынку дзевачкі хвасліва,
Ай, люлі, рана, хвасліва,
А на ніўкі дзевачкі праўдзівы,

Ай, люлі, рана, праўдзівы.
У каторай постацька шырэй,
Ай, люлі, рана, шырэй,
У каторай снапочкаў часцей,
Ай, люлі, рана, часцей,
У каторай галоўка гладзей,
Ай, люлі, рана, гладзей,
У каторай кашулька бялей,
Ай, люлі, рана, бялей...

Матыў будучага замужжа ў восеньскіх песнях пераходзіў у матыў адлюстравання самага адказнага моманту ў жыцці дзяўчыны — выхаду замуж. Восеньская песня не прэтэндуе на паказ вяселля з яго багатым рытуалам, этапамі, іншымі словамі, на такое мастацкае ўвасабленне, якое яно знайшло ў сямейна-абрадавай лірыцы. У восеньскай песні — свой выяўленчы дыяпазон, свой ракурс падыходу да аб'екта паэтызацыі. Калі глянуць на ўсю сукупнасць восеньскіх песень вясельнай тэматыкі, то можна ўбачыць паступовае развіццё асноўнай тэмы. Як у сімфоніі, спачатку гучыць своеасаблівы ўступ, уверцюра, затым паступова разгортваецца асноўная тэма. Сапраўды, неяк вельмі далікатна, здалёк пачынае ўзнікаць асенне-вясельны матыў:

Адпадае лісток
На жоўты пясок
Дзевачцы на вяночак.

Уся танальнасць песні «Бярозка з лістком», агульны паэтычны настрой прасякнуты прадчуваннем блізкай разлукі. Гэта дасягнута вельмі простымі, але арганічна знойдзенымі і суаднесенымі ў добрай мастацкай гармоніі вобразамі прыроды і маці з дачкой, перадразвітальная размова якіх і складае паэтычны змест твора.

Бярозка з лістком,
Бярозка з лістком
Усю восень шумела:
— Мой ты лісточак,
Мой зялёненькі,
Як жа мы расстанёмся?
Ветры павеюць,
Цябе абвеюць,
А я тут застануся.
— Не бойся, бяроза,
Не бойся, белая,
Я цябе не пакіну.
Цяпер ападу,
Вясною прыду,
З табой шумець буду.
Матулька з дачкой,

Матулька з дачкой
Усю ноч гаварыла:
— Мая дачушка,
Мая родная,
Як жа мы расстанёмся?..

Само вяселле восеньская песня, як і сямейна-абрадавая, адлюстроўвае ў сімвалічнай форме. Так, відаць, дыктавала ўстойлівая народна-паэтычная традыцыя, што склалася дзесь у глыбіні вякоў. Восеньская вясельная толькі звычайна ў адрозненне ад абрадавай вясельнай брала палітру для сваёй паэтыкі ў асенніх барваў. Самі ж сімвалічныя вобразы вянка, каліны, мяты заставаліся агульнымі з творамі вясельнай паэзіі:

Затужылася Евачка,
Што рана восень настала,
Рута мятачка завяла,
Не з чаго маладзе вянка звіць,
На галовачку ўзлажыць.
Зачуў тое Лявонька.
— Не клапаціся, Евачка,
Я ўчора на таргу пабываў,
Я ж табе вяночак старгаваў,
А з руты, з мяты зялёны,
З чырвоненькае каліны.

Мабыць, найбольш шырока і поўна ў восеньскіх песнях вясельнай тэматыкі адбіўся момант развітання дзяўчыны-«нявехны» з родным домам — з маці і бацькам. Тут восеньская вясельная выяўляе надзвычай многа тонкасці, мастацкай вынаходлівасці ў паэтызацыі перажыванняў як маці, так і дачкі. Хораша, у паэтычным святле ўстае з іх народны побыт, народная этыка.

Закракатала шэра вутанька на рацэ,
Заплакала родна матулька па дачцэ.
— Не плач, родна матулька, па мне.
Мамка, пойдзеш у чыста поле авёс жаць,
А я пайду на сіне мора хусты праць,
Ранняю вячэрняю парою
Да й сойдуцца нашы галаскі з табою.

У распрацоўцы тэмы будучага замужжа, развітання дзяўчыны з маці і бацькам восеньская песня знаходзіць бясконца многа мастацкіх адценняў, варыянтаў вобразнага ўвасаблення яе. Пры гэтым жыццёвая аснова вобразаў, сюжэта, як правіла, узята з працоўнага побыту і адносін у рамках гэтага побыту. Галоўнае, дасягаецца поўная адпаведнасць зместу і формы, арганічная злітнасць усіх элементаў іх, нейкае дзіўнае, стыхійнае ў сваёй аснове, адчуванне мастацкай меры. Ну хоць бы і ў гэтым простым прыкладзе:

Ці я табе, мая мамачка,
Усю вясну не казала:
— Не ары барку ды не сей мачку —
Я яго рваць не буду.
Узары дарожку, пасеем гарошку
Для сваіх малых дзетак.
Людзі прыдуць, мяне забяруць,
Твой мак зазімуе.

У прыўзнятых рамантычных танах падае восеньская вясельная ад'езд маладой з бацькоўскага дому. Песня «Румяна поле, румяна» ўжо зачынам, першым радком стварае настрой чакання. Далей яго ўзмацняе з'яўленне крыху загадкавых коней, якіх «поўны двор нагнана», і, нарэшце, увесь рытмічны лад песні, агульная танальнасць яе параджаюць атмасферу задушэўнасці, пяшчотнасці, любасці.

Румяна поле, румяна,
Рана, рана, румяна,
Поўны двор коней нагнана,
Рана, рана, нагнана.
Ніхто тых коней не пазнаў,
Рана, рана, не пазнаў
Ды ніхто ў стаенькі не загнаў,
Рана, рана, не загнаў.
Вышла Алёнка, пазнала,
Рана, рана, пазнала
І да стаёнкі загнала,
Рана, рана, загнала.
Прышла ў хату, сказала,
Ой, рана, рана, сказала:
— Пойдзе татачка да току,
Ой, рана, рана, да току,
Дай конікам аброку,
Ой, рана, рана, аброку.
Сівому каню болей дай,
Рана, рана, болей дай,
На ім паеду ў чужы край...

Такім чынам, асноўны змест ярынных песень складаюць роздум дзяўчыны аб будучым замужжы, духоўная падрыхтоўка да яго і, нарэшце, вяселле з усёй гамай перажыванняў, з ім звязаных. Кола гэтых пытанняў, такіх жыццёва важных для сялянскай дзяўчыны, з'яўляецца прадметам мастацкага адлюстравання і ў іншых падгрупах восеньскіх песень. Разам з тым у льняных, напрыклад, большы акцэнт робіцца на сямейнае жыццё, на адносіны ў мужавай сям'і — тэме наогул не чужой і ярынным песням. Невялікая колькасць ільняных песень (а мы ўпэўнены, што яны няпоўна сабраны нашымі фальклярыстамі) не дазваляе гаварыць аб усім аб'ёме праблематыкі, жыццёвых з'яў, пытанняў, па-мастацку асэнсаваных у гэтай

падгрупе восеньскіх песень. Можна з пэўнасцю сказаць, аднак, што льняная песня як мастацкі твор нядрэнна выкарыстоўвала тыя магчымасці, якія давала ёй функцыянальная роля гэтага песеннага падвіду. Характэрна, што многія льняныя песні пачынаюцца з указання на месца сустрэчы дзяўчыны з хлопцам. І гэта, як правіла, «пад гаем зеляненькім», дзе дзяўчына бярэ або сцеле лён, ці на гары, дзе лён, які трэба браць, вырас, даспеў. Жартоўны дыялог дзяўчыны з хлопцам, казаком і складае ў такіх выпадках мастацкі змест песні. Хлопец (казак), каб угаварыць дзяўчыну паехаць з ім, выйсці замуж, расказвае аб казачным багацці яго стараны:

У нас рэкі, у нас рэкі
Мядовыя, мядовыя.
У нас горы, у нас горы
Залатыя, залатыя.
У нас травы, у нас травы
Шаўковыя, шаўковыя.

Дзяўчына ж не верыць і пытаецца ў бацькі, ці можа такое быць. У адказе бацькі чуецца сацыяльнае бачанне свету:

А каб былі, а каб былі
Рэкі мядовыя, мядовыя,
Усе паны, усе паны
Паз'язджалі, паз'язджалі б...

Вельмі шырокае распаўсюджанне на поўначы і паўночным захадзе Беларусі атрымала льняная песня «На гары лён». У песні гэтай своеасаблівы мелас, які прыкметна адрозніваецца ад меласу асенняга жніва. Кампазіцыйная форма яе вядомая і іншым падвідам песень, яна скарыстоўвае прыём рэтардацыі. Рытмічная арганізацыя верша простая і лёгкая.

На гары лён,
Белы кужаль
Валакністы.
Не з кім стаці
Лён ірваці,
Лён ірваці.
Свёкар кажыць,
Свёкар кажыць:
— Я з табою,
З маладою.
То ж не рванне —
Гараванне,
Гараванне...

Паўночна-заходняя песенная традыцыя настойліва адносіць да льняных песень песню пра сватанне рака да жабкі. Гэта прыклад вельмі рэдкі ў

каляндарнай паэіі, дзе, як у байцы, дзейнымі асобамі выступаюць звяры і птушкі. У нашым выпадку алегорыя вельмі празрыстая. Гумарыстычны сэнс песні ў тым, што жабка і рак узаемна вышукваюць заганы і выстаўляюць іх адно другому. А ў выніку — не могуць пажаніцца.

На бару жабка красёнцы ткала,
Рана-ранечка!
(Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.)
Прыехаў рачок к жабцы у сваты.
— Бог помач, жабка, красёнцы ткаці.
— Дзякуй, рачок, добры мадочак!
— Што ў цябе, жабка, лапкі кароткі?
Лапкі кароткі красёнцы выткаць!
— Да хоць кароткі, красёнцы вытку!
А што ў цябе, рачок, вочкі адзаду?
— Хоць вочкі ззаду, каня асядлаю,
Каня асядлаю, сяду, паеду.

Што да песень, якія спяваліся пры рванні канапель, то іх жанравая адзнака слаба выяўляецца. Найчасцей сёння мы можам вылучыць гэту падгрупу восеньскіх песень па ўпамінанню самога занятку — выбірання пласконня, ірвання канопляў.

Часам прыналежнасць да «канапелек» (у народзе так называюць гэту разнавіднасць песень) вызначаецца апасродкавана, зыходзячы з паэтыкі твора. Некаторыя песні мы адносім да гэтага жанравага падвіду толькі на падставе іх прымеркавання паводле народнай традыцыі. Здараецца, праўда, калі ў песні праглядае вытворчы аспект. Але гэта выключэнне.

Што ж ты, канапелька,
Што ж ты, зялянелька,
Ні сама не рвешся,
Ні мне не даешся?..

Наогул жа «канапелькі» не акцэнтавалі ўвагу, як жніўныя, напрыклад, якраз на працы. Зварот да канапелькі часта быў мастацкім прыёмам пры раскрыцці тэмы кахання, сямейнага жыцця:

У гародзе ды на пагодзе
Канапелька стаяла.
На накапельцы на зялёненькай
Зязюля кукавала.
Чыя то матулька, чыя то матулька
Зязюлю праклінала?
— Бадай, зязюля, бадай, шэрая,
Тут болей не лятала:
Адкукавала, адшчабятала
Дачушку-работніцу,
Прыкукавала, прышчабятала
Нявестку-нягодніцу.

Песні, што спяваліся асенняй парой пры зборы ягад і грыбоў, таксама не маюць выразных адзнак, па якіх можна заўсёды з перакананасцю аднесці іх да пэўнай падгрупы. Паводле мастацкай прыроды сваёй, гэта тыповыя лірычныя песні. Праўда, у пэўнай ступені арыентуе ў іх жанравай прыналежнасці ўпамінанне занятку лірычнай гераіні, месца дзеяння.

Тыповым сюжэтам песні, якую спявалі збіраючы грыбы, быў сюжэт аб сустрэчы ў лесе дзяўчыны, што заблудзіла, з хлопцам, казаком. Дзяўчына просіць хлопца вывесці яе з гаю, у адказ на што хлопец патрабуе за гэта з ім ночку начаваць. Абражаная дзяўчына горда яму адмаўляе. Ідэйны сэнс гэтых песень, як і іншых восеньскіх,— у сцверджанні маральнай чысціні, дзявочай годнасці.

Песні пры зборы ягад расказваюць пра дзявочыя мары, сямейнае жыццё. Апошняе асэнсоўвалася, мабыць, больш як будучыня. Напярэдадні замужжа карцела кінуць думку ў заўтрашняе, уявіць, якім яно будзе. Песні варʼіравалі адвечную тэму адносін нявесткі і свекрыві. У некаторых з іх, напрыклад у песні «Дзевачка дзевачак хораша просіць», ствараўся абаяльны вобраз клапатлівай, чулай дачкі.

Невялікі след у восеньскай паэзіі пакінула і сяўба азімых. У старажытнасці заканчэнне азімай сяўбы адзначалася даволі ўрачыста.

Сярод песень, якія спяваліся з нагоды заканчэння сяўбы — дасевак, ідэйна-эстэтычнымі вартасцямі вылучаецца восеньская ўдавіная «Усе людзі жыта сеюць». У песні сродкамі мастацкага абагульнення перадаюцца перажыванні адзінокага чалавека, жанчыны, яе бязраднасць перад цяжкай мужчынскай работай якраз насупраць зімы:

А ўсе людзі аруць, пашуць,
А я сяджу дома.
А ўсе людзі жыта сеюць,
А я — сваё гора.
А ўсе людзі бога просяць,
Каб жыта ўрадзіла,
А я, млада, прашу бога,
Каб гора не ўсхадзіла...

Восеньская песня не абмежавалася тым, што, шчодра чэрпаючы ў асеннім пейзажы фарбы для сваіх палотнаў, надавала ім адпаведны каларыт. Яна стварыла і абагульняльны твор аб восені як пары года, і ён вельмі хораша вянчае ўсю паэзію асенняй пары земляробчага календара.

— Ой, восень мая,
Восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала?
— А я й не раненька,
А я й не позненька,—
Калі мая пара прышла.
Лісточак апаў,

Зямельку услаў —
Вось мая пара прышла.
Рэчачкі сталі, пазамярзалі —
Во мая й другая пара.

Такім чынам, восеньская песня суправаджала працу селяніна з другой палавіны жніўня, з часу так званага асенняга жніва, да канца лістапада, да піліпаўкі. Найболей песень прыпадала якраз на асенняе жніво — апошнюю значную работу на полі. Сустракаюцца сярод восеньскіх песень творы, якія выканаўцы адносяць да копкі бульбы. Але песень з такім функцыянальным прызначэннем мала адзначана, відаць, па той прычыне, што бульба як сельскагаспадарчая культура хоць і заняла вялікае месца ў гаспадарчай вытворчасці, пачала культывавацца ў Беларусі адносна позна. Прынамсі, значна пазней часу складвання каляндарных цыклаў паэзіі.

Восеньская песня ва ўсіх групавых разнавіднасцях у мастацкай форме выказала даволі шырокі свет чалавечых пачуццяў, у прыватнасці дзявочых і жаночых перажыванняў. Яна апаэтызавала працу і чалавека працы, сцвердзіла высокі лад яго душэўнага свету, чысціню, далікатнасць, праўдзівасць, шчырасць людскіх адносін. У лепшых сваіх узорах восеньская песня дасягнула яскравай выяўленчай красы і сілы, што дазволіла ёй заняць належнае месца сярод багатай каляндарнай паэзіі і ўсёй беларускай народна-паэтычнай культуры ў цэлым. Звычайна мастацкі вобраз восеньская песня, як і іншыя творы народнай паэзіі, будуе на аснове дэталей, узятых з працоўнага побыту, з жыцця прыроды, якую земляроб адчуваў заўсёды востра, а асабліва вясной і ў асеннюю пару.

Нягледзячы на тое што ў восеньскай паэзіі так часта гучыць матыў замужжа, восеньская песня вельмі рэдка прыбягае да сімвалічных вобразаў. Затое ні ў адным каляндарным цыкле няма столькі твораў, дзе б так часта выкарыстоўваўся паралелізм. Якраз у сувязі з тым што вясельная тэматыка дамінуе ў восеньскіх песнях, яны ў сваю мастацкую тканіну асабліва актыўна ўвабралі вобразы прыроды ў суаднясенні іх з жыццём чалавека. Прычым, як часта можна было бачыць нават з цытаваных урыўкаў, восеньская песня любіць, падаючы паралелізм з жыцця прыроды, разгортваць яго ў цэлыя малюнкі з адпаведным паэтычным настроем. Іншымі словамі, восеньская песня больш, чым уласна вясельная, вельмі актыўна і па-мастацку выкарыстоўвае разгорнуты псіхалагічны паралелізм. У гэтым — адна з самых характэрных рыс яе паэтыкі.

Як сведчаць запісы фальклорных экспедыцый апошніх гадоў, восеньская песня яшчэ крыху бытуе, а больш жыве ў памяці старэйшага пакалення. Больш актыўныя рэгіёны жыцця восеньскай песні — гэта Падзвінне, сярэдняе Падняпроўе, заходняя Міншчына, асабліва Налібоцкая ваколіца, Нарачаншчына. Па актыўнасці бытавання восеньская ўступае купальскай і жніўнай песням і ідзе дзесь за веснавой.

Беларуская паэзія мае сталыя традыцыі творчага звароту да народна-

паэтычнай культуры. Сягоння вельмі актыўна ставіцца да мастацкага вопыту народа сярэдняе і малодшае пакаленне беларускіх савецкіх паэтаў. Часта і плённа да пераасэнсавання народнай спадчыны, у тым ліку каляндарнай паэзіі, звяртаюцца Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Янка Сіпакоў, Генадзь Бураўкін, Вера Вярба, Валянціна Коўтун. Тонкая паэтычная нюансіроўка, пранікнёнасць восеньскіх песень і іх мелодый не пакінулі абыякавымі да іх майстроў мастацкага слова. Рыгор Барадулін, напрыклад, на аснове восеньскіх песень стварыў паэтычную нізку «Бяроза з лістом гаварыла» [63].

Сваім багатым меласам восеньскія песні даўно звярнулі на сябе ўвагу кампазітараў. Музычную апрацоўку іх рабілі сусветнай вядомасці творцы рускі кампазітар А. Грачанінаў, польскі — Т. Шэлігоўскі, беларускія — Г. Цітовіч і К. Паплаўскі. На жаль, у творчасці беларускіх савецкіх кампазітараў мелас восеньскай песні, як і ўсёй каляндарнай паэзіі, не знайшоў яшчэ належнага творчага пераасэнсавання. Трэба спадзявацца, што мелодыка восеньскіх песень, адметная і самабытная, не будзе абыйдзена ўвагай музычных дзеячаў і атрымае творчае пераасэнсаванне ў сімфоніях, операх і жанрах камернай музыкі.

У зборы матэрыялаў да раздзела «Восеньскія песні» ўдзельнічалі М. П. і С. М. Гваздзёвы.

*АРСЕНЬ ЛІС*

---

[63] Барадулін Рыгор. Свята пчалы.— Мн., 1975, с. 269—277.

# ТАЛОЧНЫЯ ПЕСНІ

Талочныя (талачанскія, талаковыя) песні складаюць адну з разнавіднасцей каляндарна-абрадавай паэзіі. У адрозненне ад іншых песень гадавога круга, прымеркаваных звычайна да якога-небудзь аднаго земляробчага свята або канкрэтнай работы ў полі і замкнутых у рамках аднаго цыкла, талочныя песні суправаджалі розныя віды работ і развіваліся на перыферыі некалькіх каляндарных цыклаў. Гэта абумоўлена тым працоўным звычаем, з якім яны звязаны генетычна і функцыянальна.

Талака (адсюль паходзіць і назва талочных песень) — старажытны спосаб працоўнай узаемадапамогі, вядомы многім народам, у прыватнасці ўсяму балта-славянскаму рэгіёну. Талаку склікалі на цяжкую тэрміновую працу, якая была не пад сілу адной сям'і.

Талокі збіралі вясной, па сканчэнні асноўных палявых работ, на вывазку гною, летам — на дажынкі жыта, радзей на касьбу, увосень — на апрацоўку льну, вываз лесу на будову, малацьбу, часам на сяўбу азіміны.

Талака была прыгожай і высакароднай традыцыяй, праявай узаемавыручкі, зычлівасці, калектывізму.

Талочны звычай, якім ён склаўся ў глыбокай старажытнасці, выключаў плату за ўдзел у талацэ. Працавалі за адно частаванне.

Асабліва высакародны маральна-этычны характар насіла талака ў тых выпадках, калі яна збіралася ў хату, дзе асноўны «рабачай» занемагаў у гарачую пару ці наогул сям'я траціла яго. Грамадой касілі, жалі, рабілі іншыя работы і выконвалі іх без традыцыйнага талочнага застолля.

Праца ў талацэ, як сведчыць М. Нікіфароўскі, «заўсёды робіцца шчыра, увішна, добра» — спорыцца, як звычайна ў грамадзе.

Збор многіх людзей, сумесная праца парадзілі песеннае суправаджэнне талакі.

Найбольш запісана песень веснавой, або гнаёвай, талакі, менш — жніўнай, таму што іх не проста вылучыць са жніўных песень. Адным з крытэрыяў талочных жніўных песень можна лічыць іх бяседна-застольны характар. Важнай адзнакай песень жніўнай талакі з'яўляецца ўпамінанне ў іх змесце талакі, працы грамадой, зварот да жней як да талачанак.

Зусім мала песень асенняй талакі. Нашы ранейшыя збіральнікі іх амаль не заўважылі. Ал. Шлюбскі і С. Сахараў гаварылі і пра веснавую,

і пра восеньскую талаку, але песень талочных пры гэтым не размяжоўвалі.

Талочная праца прадвызначала характар рэпертуару. Так, увосень, калі збіралася талака на сяўбу жыта, у талочным застоллі не гучалі песні, у якіх упаміналіся сітуацыі, звязаныя з працай на веснавой або летняй талацэ. Нейкая частка талочных песень бяседнага характару магла, эразумела, паўтарацца. Нешта і сама восеньская пара ўносіла ў талочныя песні. Напрыклад, у песнях талочных, якія народна-паэтычная традыцыя адносіць толькі да асенняй талакі, з'яўляюцца сугучныя восеньскаму песеннаму цыклу перадвясельныя матывы.

Паўней зразумець талаку як з'яву грамадскага народнага побыту ва ўсёй разнастайнасці і характары яе праяўлення, а тым самым і ідэйна-вобразную своеасаблівасць песень, што ёй спадарожнічаюць, дапамагае фальклорна-этнаграфічная літаратура, прысвечаная гэтай старадаўняй народнай традыцыі. На жаль, літаратура гэта ў нас не багатая. Многія збіральнікі і даследчыкі духоўнай культуры беларускага народа абмінулі сваёй увагай талочныя звычаі і звязаныя з імі песні. На гэта былі розныя прычыны.

Па-першае, талочная традыцыя ў розных рэгіёнах Беларусі к часу інтэнсіўнага вывучэння быту народа (XIX ст., асабліва яго другая палавіна) выяўлялася нераўнамерна. У некаторых у сваім прадуктыўным выглядзе яна ўжо не выступала, калі не паспела знікнуць зусім. Па-другое, не спрыяла фіксацыі ўвагі збіральнікаў на талацэ і тое, што яна адбывалася ў розныя вытворчыя сезоны, прымяркоўвалася да самых розных відаў гаспадарчых работ.

Акрамя таго, веснавая талака, напрыклад, пры ўсёй яе практычнай значнасці ў жыцці земляроба не пакінула такой непаўторнай паэзіі, як іншыя этапы гадавога круга старажытнага гаспадарчага календара.

Праўда, нельга сказаць, што збіральнікі былі няўважлівымі да дажынкавай талакі. Але таму што дажынкі, і гэта заканамерна, разглядаліся як звяно ў жніўных абрадах, на іх асобна не акцэнтавалі ўвагі.

Адно з першых упамінанняў талакі ў сістэме беларускіх каляндарна-гаспадарчых звычаяў і абрадаў адносіцца да 1828 г. Гэта беглая заўвага аб тым, што «між Янам і Пятром спраўляюцца на Беларусі гнаёвыя талокі»[1]. Упамінанне зроблена па матэрыялах Віцебска-Полацкага рэгіёна, дзе традыцыі талакі і талочныя песні жывуць у памяці старэйшага пакалення па сённяшні дзень.

Асобна артыкул аб талацэ ў ліку іншых, прысвечаных народным уяўленням, апублікаваў у 1846 г. П. М. Шпілеўскі. Ён упершыню даў даволі поўнае апісанне дажынкавай талакі, прывёўшы пры гэтым некалькі песень-імправізацый, якія пазней ні ў адной публікацыі не сустракаюцца. У сваёй канцэпцыі талакі як з'явы народнага побыту Шпілеўскі зыходзіў

---

[1] Фалютинский К. Народные праздники, увеселения, поверья и суеверные обряды жителей Белоруссии.— Вестник Европы. М., 1828, март—апр., с. 84.

з пазіцый міфалагічнай школы і ў талацэ бачыў апякунку жніва, ахоўніцу пладароддзя [2]. Відаць, міфалагічная ўстаноўка і перашкодзіла дасведчанаму этнографу, які так шырока апісаў беларускія звычаі і абрады, падаць у навуковай літаратуры іншыя віды талакі. Тым больш, што ў сваёй збіральніцка-даследчыцкай працы ён ахапіў даволі шырокі этнаграфічны рэгіён і з асаблівай увагай ставіўся да гаспадарчага календара, звязаных з ім песень гадавога круга.

Паўнейшае ўяўленне аб талацэ як старажытным звычаі, які адыгрываў значную ролю ў жыцці, працоўным побыце народа, дае складзеная на падставе запісак, этнаграфічных апісанняў, у тым ліку і Анімеле, праца «Быт беларускіх сялян» [3].

У ёй упершыню названы розныя віды талочных работ. Адзначаецца, што талокі падзяляюцца на жаночыя і мужчынскія: жанчын клікалі на жытняе жніво і ўборку льну, мужчын — на касьбу і вывазку гною. Даецца кароткае апісанне веснавой, або гнаёвай, талакі. Гаворыцца пра звычай у час яе абліваццa вадой: верылі, што гэта спрыяе ўраджаю на будучы год: Апісанне талакі, якім яго сустракаем у артыкуле «Быт беларускіх сялян», з невялікім дапаўненнем знаходзім у раздзеле «Талочныя песні» першай беларусазнаўчай публікацыі П. В. Шэйна [4]. Навуковая ж каштоўнасць шэйнаўскай публікацыі ў тым, што яна ўпершыню падала ўзоры песень веснавой талакі.

У наступнай сваёй публікацыі П. В. Шэйн даў ужо грунтоўнае, заснаванае на назіраннях яго карэспандэнта М. Я. Нікіфароўскага, апісанне веснавой талакі, далучыўшы да яго яшчэ каля двух дзесяткаў тэкстаў талочных песень [5]. Этнаграфічная нататка, што папярэднічае песням, дае даволі ёмістае ўяўленне пра веснавую талаку: яе этапы, размеркаванне ролі ўдзельнікаў, талочную тэрміналогію. Усё гэта дазваляе добра ўявіць месца песні ў талочных звычаях, лепш зразумець сэнс і вобразную структуру яе.

У першым томе свайго «Беларускага зборніка» Е. Раманаў у асобным раздзеле пад назвай «Талочныя» змясціў звыш дваццаці тэкстаў песень, пераважна дажынкавай талакі [6]. Пазней, апісваючы народны каляндар, славуты збіральнік і даследчык беларускай культуры публікуе звыш сарака тэкстаў талочных песень з розных куткоў Беларусі [7]. На гэты раз у публікацыі пераважаюць песні веснавой талакі. Гэта адна з самых багатых калек-

---

[2] Древлянский. Белорусские народные поверья.— Прибавление к журналу Министерства народного просвещения. СПб., 1846, с. 111.
[3] Этнографический сборник.— СПб., 1854. Вып. II.
[4] Шейн П. В. Белорусские песни.— СПб., 1873, с. 411—424.
[5] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб., 1887, т. 1, ч. 1, с. 201—213.
[6] Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Киев, 1886, т. 1, вып. 1 і 2, с. 269—275.
[7] Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Вильна, 1912. Вып. 8, с. 192—203.

цый вяснова-талочных песень. На жаль, збіральнік, такі ўважлівы да народных звычаяў і абрадаў, пры друкаванні талочных песень абмежаваўся самай кароткай заўвагай: «Час паміж ушэсцем і сёмухай прысвячаецца звычайна талокам. Сяляне памагаюць адзін другому вывозіць у поле гной. Пры звароце з поля паражняком і пры раскіданні ўгнаення спяваюцца асобныя песні» [8]. Такім чынам, збіральнік адзначыў два моманты: час, калі спраўляліся веснавыя талокі і калі ў талацэ спяваліся адпаведныя песні.

З усёй дарэвалюцыйнай этнаграфічнай літаратуры найбольш поўнае ўяўленне аб старажытным звычаі каляндарнай працоўнай узаемадапамогі ў беларусаў дае публікацыя Аляксандра Пшчолкі «Талака» [9]. Яна зроблена ў форме разгорнутага нарыса і добра ўзнаўляе не толькі ўвесь ход талакі, але і яе непасрэдную атмасферу. Перад намі як бы своеасаблівы дакументальны сцэнарый веснавой талакі, пачынаючы ад апісання падрыхтоўкі яе, збору ў адпаведны дзень талочнікаў да адлюстравання іх працы, паводзін, песеннага суправаджэння.

У працэсе разгортвання талакі разам з паказам ролі яе ўдзельнікаў называюцца іх талочныя найменні: капачы — мужчыны, што нагружаюць вазы, важтайкі — вознікі, калачоніцы — жанчыны і дзяўчаты, якія растрасаюць гной на полі. У іншых месцах іх называюць «трасенніцы».

Талочная тэрміналогія, важная для разумення самой талакі, яе бытавога каларыту, мае не меншае значэнне і для спасціжэння сэнсу і вобразнай структуры паасобных талочных песень.

Пад сацыяльным пунктам гледжання ў «Нарысах Беларусі», напісаных на палескім матэрыяле, зірнуў на старадаўні народны звычай працоўнай узаемадапамогі А. К. Сержпутоўскі [10]. Этнограф дае азначэнне талакі як дапамогі грамадой выканаць вялікую і цяжкую працу, непасільную для адной сям'і. Падкрэслівае, што талаку на Палессі склікаюць вельмі часта ў самых розных выпадках. Называючы розныя віды талакі, вучоны тлумачыць прычыны, што пабуджалі да яе склікання. Пажар, паводка выклікалі патрэбу талакой адбудаваць сялібу, паправіць на рэчцы «язы», хвароба гаспадара ў час касавіцы, жніва — збіраць талаку на сенакос, уборку збажыны. Сержпутоўскі адзначае высакародны маральны характар працоўнай узаемадапамогі.

Першым у беларускай этнаграфічнай літаратуры Сержпутоўскі звяртае ўвагу і на такі факт, што гэты дабрадзейны, высакародны па свайму маральнаму і сацыяльнаму характару звычай актыўна выкарыстоўвалі ў карыслівых інтарэсах людзі не сялянскага асяроддзя. Акрамя памешчыкаў, якія здаўна практыкавалі дажынкі, каб за адно частаванне, не плацячы жнеям, зжаць палеткі, талакой усё часцей сталі карыстацца людзі духоўнага

---

[8] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 192.
[9] Пщелко А. Толока.— Витебские губернские ведомости, 1903, № 139.
[10] Сержпутовский А. К. Очерки Белоруссии. IV. Толока.— Живая старина. СПб., 1907. Вып. 4, с. 210—214.

звання і прадстаўнікі царскай улады. Вучоны падкрэслівае, што на такую талаку сяляне ідуць не ахвотна, як у сваім асяроддзі, а па неабходнасці, каб не наклікаць на сябе нялітасць, гнеў.

Публікацыя Вячаслава Камінскага цікавая тым, што збіральнік змяшчае разам песні веснавой і жніўнай талакі: гэтым яшчэ раз сведчыць аб іх агульнай жанравай прыродзе [11].

Ужо ў савецкі час, у 20-я гады, талочныя звычаі і песні даволі актыўна прыцягвалі да сябе ўвагу даследчыкаў народнага быту. Вядомы этнограф Ал. Шлюбскі ў сваім двухтомным зборы фальклору Віцебшчыны змясціў каля дваццаці тэкстаў талочных песень (раздзел «У талацэ») [12], прывёў некалькі звестак аб талочных звычаях. У нататках «Жніўныя і талочныя звычаі» аўтар апісвае дажынкі, але крыху гаворыць і аб веснавой талацэ (пералічвае стравы, якія падаваліся ў час яе) і, што асабліва важна падкрэсліць, ці не ў першы раз упамінае пра асеннюю талаку. Сярод апублікаваных Шлюбскім вяснова- і асеннеталочных песень, талачынскіх, як завуць іх на Віцебшчыне, пераважаюць талочна-застольныя, або талочна-бяседныя.

Цікавы матэрыял пра талокі змяшчае ў сабе артыкул Л. Ламакі «Рысы калектывізму сярод сялян» [13]. Аўтар яго абагульніў свае назіранні над бытам сялян Міншчыны, Случчыны. Ён гаворыць аб фактах узаемавыручкі сярод сялян у час няшчасця, калі пагарэльцу складаюцца на дрэва для зрубу, а потым талакой памагаюць ставіць хату.

Асабліва цікавыя прыведзеныя Ламакам звесткі пра льняную талаку. Аўтар дае цэлую замалёўку яе.

Жанчына спачатку «зацірае церніц», г. зн. ідзе да суседак у талаку мяць лён. Калі надыходзіць чарга везці свой лён у сушню (часта сушылі яго і ў лазні), то да яе на дапамогу прыходзяць жанчыны, якім яна памагала ці яшчэ будзе памагаць. Мялі высахлы лён нярэдка ноччу. Аўтар падкрэслівае, што работа гэта хоць і цяжкая, але ў талацэ вясёлая. Пасля снедання, якое давала гаспадыня сваім церніцам (мяльніцам), відаць, спяваліся талочныя песні.

Невялікую нізку талочных песень з Латгаліі апублікаваў у 1940 г. С. П. Сахараў [14]. Гэта тыповыя песні веснавой талакі. Некаторыя з іх, як «Няслава, няслава, Яначка, твая», вядомы з іншых публікацый. У кароценькай нататцы да песень этнограф дае сціслае азначэнне талакі як узаемавыручкі пры цяжкай працы, «асабліва ў час вывазу гною, вясной і ўво-

---

[11] Каминский В. Белорусы Ново-Александровского уезда Ковенской губернии в их песнях, обрядах и обычаях.— Филологические записки. Воронеж, 1910. Вып. V, с. 742—745.

[12] Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны.— Мн., 1927, ч. 1.

[13] Наш край.— Мн., 1926, № 10—11, с. 34—36.

[14] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў.— Рыга, 1940, Вып. 1.

сені». Для нас істотна гэта «і ўвосені», бо сведчыць аб існаванні амаль не адлюстраваных у этнаграфічнай літаратуры восеньскіх талок.

У пасляваенны час песні не жніўнай талакі (хочацца іх назваць уласна талочныя) публікаваліся толькі аднойчы, калі не лічыць перадруку некалькіх іх узораў у хрэстаматыі «Беларускі фальклор» (1977). Публікацыя талочных песень Нілам Гілевічам, пра якую ідзе гаворка, адна з самых прадстаўнічых [15]. Фалькларыст падаў у ёй вельмі паэтычныя тэксты талочных песень, а ў сціслым і змястоўным уступе акрэсліў у агульных рысах іх характар і змест.

Не знайшлі належнай увагі і ацэнкі талочныя песні ў працах, прысвечаных разгляду народнай паэзіі.

Кароткім упамінаннем талочных песень і агульным меркаваннем аб іх абмежаваўся пры аглядзе звычаяў і песень палявых работ акадэмік Я. Ф. Карскі [16].

Талака як з'ява грамадскага быту беларускіх сялян знайшла сучаснае навуковае асвятленне ў артыкуле М. Я. Грынблата [17]. Аўтар бачыць у талацэ «перажыткі абшчынных адносін і даўняга калектывізму». Даследчык азначае талаку як «від узаемнай суседскай дапамогі ў гаспадарчых работах, тэрміновых і працаёмкіх, якія вымагалі значнай колькасці рабочых рук і цягла».

Спроба паўней ахапіць ідэйна-мастацкую своеасаблівасць талочных песень на падставе вывучэння талочных звычаяў і іх песеннага суправаджэння зроблена ў дапаможніку па фальклору для ВНУ [18].

А наогул талочныя песні, як і песні іншых груп гаспадарчага календара, яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Натуральна, што даным уступам да раздзела, дзе яны ўпершыню найпаўней сабраны, тэма талочных песень не можа быць вычарпана. Укладальнікі ставілі мэту паказаць функцыянальную асаблівасць талочных песень, іх жыццёвае напаўненне, акрэсліць тыпалагічныя рысы, не паглыбляючыся ў шырокую распрацоўку, дэталізацыю круга звязаных з імі пытанняў.

Умовы, якія выклікалі да жыцця талочныя песні, выразна адбіліся на іх характары, тыпалогіі. Талочныя песні гучалі ў час талочнай працы: у полі іх спявалі трасенніцы (калачоніцы) гною (аб гэтым сведчыць змест саміх песень); зацягвалі талочныя жніўныя і жнеі-талачанкі, дажаўшы ніву. Але найчасцей талочныя песні спяваліся ў талочнай застольнай бяседзе. Адсюль і бяседны характар, бяседны жартаўлівы тон, уласцівы гэтым песням. «У талочны дзень,— пісаў П. В. Шэйн,— ядуць звычайна тры разы:

---

15 Гілевіч Н. С. Песні народных свят і абрадаў.— Мн., 1974.
16 Карский Е. Ф. Белорусы.— М., 1916, т. III, вып. 1, с. 197—198.
17 Грінблат М. Я. Риси грамадського побуту белоруських селян другої половини XIX — початку XX ст.— Народна творчість та етнографія. Київ, 1957, кн. 4, с. 95—96.
18 Беларуская народна-паэтычная творчасць.— Мн., 1979, с. 188—192.

палуднуюць каля 11 гадзін, пасля чаго, наклаўшы вазы і адпрогшы коней, адпачываюць гадзін да 2-х; затым ідзе падвячорак, а па сканчэнні работы — вячэра. Як полудзень, таксама падвячорак і вячэра праходзяць пад адкрытым небам на вынесеных з хаты ці да часу зладжаных сталах»[19].

Пры частаванні пад адкрытым небам, асабліва ў час вячэры па сканчэнні работы, ствралася самая належная атмасфера, як эмацыянальная, так і псіхалагічная, для спявання талочных песень. Усе талачане, раз'яднаныя ў час работы,— капачы, важтайкі, трасенніцы, гаспадар з гаспадыняй— цяпер былі разам. Песенная ініцыятыва, яе эмацыянальны зарад зыходзілі ад жанчын-трасенніц, калі гэта была веснавая талака.

Можна вылучыць некалькі тэматычных груп талочных песень. Асноўныя з іх:

1) песні пра талочную працу;
2) песні пра гаспадара і гаспадыню;
3) песні пра талачан і талочнае застолле, бяседу;
4) песні аб сямейным жыцці, долі.

Спяваючы, талачанкі звярталіся да гаспадара. У песнях паэтызавалася здзейсненая праца, быў далікатны намёк на патрэбу аддзякаваць талачанам за яе.

Таргуйся, таргуйся, суседка, з намі,
А плаці ж, суседка, нам чырванцамі.
Мы тваё полечка ўсё разведалі,
Мы твае нівачкі пазатрасалі,
Мы твае хлявочкі павычышчалі,
Ад цябе, суседка, чэсці не знялі[20].

Іншыя з гэтых талочных песень-зваротаў акцэнтавалі ўвагу на тым, што работа была нялёгкая, і давалі досыць дэталізаваны вобраз веснавой талакі, па-мастацку ўзнаўлялі талочны занятак.

Талака, талака, талачыся,
Увесь дзень на полі валачыся.
Мы ўвесь гнаёчак павыносілі,
На падводачках павывозілі
Да ўвесь гнаёк раскалацілі,
На ручках гнаёчак перадзяржалі,
Ножкамі зямельку перамералі.

Зрэдку талочная песня ад сцвярджэння талачан аб тым, што яны гаспадару «славу ўчынілі, гнаёк павазілі, ніўку ўкрасілі», пераходзіла да працоўна-магічнага заклінання: «Радзі, божа, жыта, радзі ўсюды роўна: якое на навозе, такое й на аблозе».

---

[19] Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 1, с. 202.
[20] Горбачевский Иван. Древность белорусских песен и их напевов.— Витебские губернские ведомости: Отд. неофициальный, 1896, № 87.

Настойліва, вар'іруючыся ў розным кантэксце, гучаў матыў папроку гаспадару за тое, што ён быццам бы недастаткова ўважліва прывячае талачан. У адным выпадку песня вылівалася ў дыялог паміж талачанкамі і гаспадаром, які прасіў «не гудзіць» (не ганіць) яго і абяцаў усіх упаіць. У іншых (такая інтэрпрэтацыя сюжэта сустракаецца часцей) гаспадара папракалі за тое, што нібыта не роўна дзеліць сваю ўвагу паміж талачанкамі.

Няслава, няслава, гаспадар, твая:
Не п'яна, не п'яна талака твая.
У хляве мужчынкі п'янюсенькі,
У полі жоначкі цверазюсенькі,
У хляве мужчынкі, як жучкі, гудзяць,
На полі жоначкі, як пчолкі, звіняць.
Да ўчыні, да ўчыні славаньку сваю,
Да ўпаі, да ўпаі талаку тваю.

Супрацьпастаўленне, так характэрнае для жартоўных каляндарных песень (супрацьпастаўленне адной групы моладзі другой, хлопцаў дзяўчатам), у талочных песнях таксама шырока выкарыстоўваецца.

Кідачы (іншая мясцовая назва капачоў) паслядоўна паказаны ў талочных песнях гультаяватымі, нядбалымі. Ім супрацьпастаўляюцца ўвішныя, руплівыя трасенніцы, што «ў полі, як пчолкі, звіняць (дрыжаць)». У песнях гучыць жартаўлівая просьба талачанак да гаспадара заплаціць ім «хоць па талеру», «важтайкам па рубельчыку», а «кідачам паддаць гарбачом», таму што яны «гаспадару наругаліся», э-за іх «не часта конікі ідуць», г. зн. марудна нагружаюцца вазы, і «не піўшы, не еўшы талачане».

Незласліва жартуе, пасміхаецца талочная песня э гаспадыні. Аб'ектам насмешкі з'яўляецца гаспадыніна скупаватасць.

Ды знаць наша доля худая —
Наша гаспадынька скупая:
Схавала чарачку пад хвартух,
На свайго мілога міргала:
— А схавай, мой мілы, бутэльку,
Пап'юць талачанкі ўсю гарэлку.

Пры гэтым талочныя песні спалучаюць лёгкае паджартоўванне з гаспадыні з узвелічэннем яе, пахвалой. І робіцца гэта дасціпна, тонка, як у лепшых паэтычных узорах народнай гумарыстыкі.

А чыя то жана па двару ходзіць —
Двор разлягаіць?
Максімава жана па двару ходзіць —
Двор разлягаіць.
На ганачак узойдзець — аж ганачак гнецца,

А ў клетаньку ўвойдзіць — аж клетанька ззяець,
За пляшачку возьмецца — гарэлачка льецца,
За чарачку возьмецца — гарэлачка п'ецца.

Аднак намнога часцей талочная песня звяртаецца да гаспадара. І ў гэтых зваротах шмат гуллівасці, досціпу, добрага мастацкага густу. Песня падвышае гаспадара і «просіць» прыглядаць гасцей, ім чарачку-пазлачаначку пускаць часцей. Лёгкай гуллівасцю прасякнуты бывае дыялог талачанак з гаспадаром, у якім апошні падхоплівае жартоўны тон спявачак, ад чаго ўвесь твор набывае артыстызм, мастацкую няэмушанасць, цэльнасць.

— Ці ў цябе, Барыска, двор на памосце?
Ці ў цябе, суседка, любыя госці?
Чым жа нас, суседка, частаваць будзеш:
Ці віном зялёным, ці гарэлачкай?
— Я віном зялёным, салодкім мёдам.
— Ці ў цябе, Барыска, ячмень не ўрадзіў,
Што для нас, для гасцей піва не варыў?
— А ўрадзіў жа ячмень, як і пшоначка,
Не варыла ж піва мая жоначка.

У песнях найчасцей талачане, талачанкі выступаюць агульнай грамадой. Але ёсць многа талочных песень, якія даюць калі не індывідуалізаваны, то прынамсі дыферэнцыраваны вобраз талочніцы. Іншыя з песень заглыбляюцца ў пэўнай меры ў духоўны свет жанчыны або дзяўчыны-талочніцы, у яе перажыванні, думкі.

Натуральна, талочныя песні не маглі замкнуцца ў вузкім коле ўласна талочнай тэматыкі. У талочным застоллі, асабліва пасля яго пачатковай урачыстай часткі, дзе ўсё было тэматычна і эмацыянальна звязана з талочным звычаем, рытуалам, самой талочнай працай, абавязкова пачыналі гучаць матывы, не звязаныя непасрэдна з талакой,— спявалася аб долі, аб жыцці. І гэта зразумела: талочнае застолле, бяседа пабуджалі выказаць усё, што ляжала на душы. І ў гэтым сэнсе ўключэнне ў каляндарную групу талочных песень твораў, тэматычна талакой не абумоўленых, можа, больш арганічна, чым у іншых цыклах песень гадавога круга, дзе яны заўсёды ёсць як прымеркаваныя, замацавана народнай традыцыяй.

Агульны настрой, тон талакі, талочных песен — весялосць. Дамінуе атмасфера жарту, досціпу, азарту. Дух жыццярадаснасці, усплёск весялосці, непасрэднасці перадаюцца ў змесце песень, іх гумарыстычнай афарбоўцы, танальнасці, рытміцы і асобных выразах накшталт «Талачу, талачу, талакі не ўняць...»

У гэтай атмасферы добразычлівасці, прыязнасці праз раскрыццё настрою, перажыванняў адбываецца сцвярджэнне талачанкамі на вачах суседзяў, грамады сваёй асобы, сваёй праўды:

На мяне казалі:
Пасялушачка,
На мяне казалі:
Пасялушачка,
А я ў свайго таткі
Весялушачка,
А я ў свайго таткі
Весялушачка.
На мяне казалі:
Па сялу хаджу,
На мяне казалі:
Па сялу хаджу,
А я ў свайго таткі
Работку раблю,
А я ў свайго таткі
Работку раблю...

Часам гэта самасцвярджэнне талочніцы набывае форму выкліку. Аднак, беручы пад увагу ўмовы талочнай бяседы, тон гэты не выглядае фальшывым. Твор гучыць вельмі натуральна, арганічна, і характар, створаны ў ім мастацкімі сродкамі, не супярэчыць агульнай фальклорнай канцэпцыі чалавека, маральна-этычным нормам паводзін яго.

Талака, талака
Талачылася,
Таўкучы, мелючы,
Я змарылася.
Сеяла мучыцу —
Апылілася.
Вышла на вуліцу —
Скаланулася
Да сваім суседкам
Наругнулася.
Работка мая
Уся пыльная,
Маім суседзям
Ды й завідная.

У песні жывы, пульсуючы рытм, добрая пластыка слова, вобразаў, яна ўсім сваім ладам перадае настрой, дух, атмасферу народнага гуляння па сканчэнні калектыўнай працы, у даным выпадку талакі.

Часам маладая талочніца дазваляла сабе выявіць у талочна-гуллівай бяседзе і глыбейшыя свае перажыванні, інтымныя памкненні. Песня пачынала неяк вельмі далікатна, у форме своеасаблівага іншасказання, намёку гаварыць пра каханне ці, хутчэй, жаданне яго.

Бруіла вада каля камешку,
А пабруіўшы, у Дунай пашла.
Мовіла дзеўка з добрым молайцам,
А размовіўшы, у цяром пашла.

— Добры маладзец, прыбывай ка мне —
А па полейку шэрым заенькам,
Па падвор'ейку гарнастаенькам.
Ты на ганачцы, як баранaчак,
Як у сенечкі,— красны яблычак,
У высок церам добрым молайцам...

Талочныя песні даволі шырока ахопліваюць і тэматыку сямейнага жыцця. У іх маладая замужніца жаліцца на тое, што свякроў неўзлюбіла яе «менейка» — імя («Нядоля, нядоля, няшчасце маё»). Чуецца ў талочна-бяседных нараканне на свякроўку наравістую і нялёгкі мужаў характар («Бяроза, бяроза, каранiстая»), бедаванне маці або сястры па дачцэ (сястры), «што ў чужой старане» («Лятала паванька з саду да саду»), самапапрок мужчыны, які «маладым не жаніўся, пад старыя леты валачыўся», і да т. п.

Для гэтых песень у адрозненне ад большасці талочных, дзе ўсе жыццёвыя праявы, у тым ліку і сямейныя адносіны, асэнсаваны ў аптымістычным, жартоўным ключы, уласціва іншая агульная танальнасць. Ім характэрны задуменнасць, развага, якія выяўляюцца і ў рытмічнай арганізацыі радка, і ў вобразнай сістэме. Некалькі занатаваных сучаснымі фалькларыстамі ўзораў асенняй талакі прасякнуты ўласцівым увогуле восеньскаму каляндарнаму цыклу тонкім адчуваннем прыроды, уменнем па-мастацку суаднесці прыкметы асенняй пары з жыццём чалавека. Зрэшты, гэтыя некалькі песень як бы выпадаюць з талочных, у якіх усё ж, беручы ў цэлым, прырода так шырока не пераасэнсоўваецца, хоць паэтыка талочных песень, вядома, не цураецца пераўтварэння яе.

— Час дамоў, час дамоў, час дамоў ісці.
А ў маім дамочку раёчкі ўюцца,
Усе раі, усе раі, усе не пустыя,
Ой, носяць мядочкі ды ўсё густыя.
А хто ж тыя раёчкі аграбаць будзіць?
А хто ж тыя мядочкі спажываць будзіць?
— Аграбаць раёчкі будзіць Міцечка,
Спажываць мядочкі будзіць Верачка.

Талочныя песні адлюстроўваюць сваю, спецыфічную сферу народнага быту. Адлюстроўваюць і абслугоўваюць адметна, па-свойму. І гэта вызначае іх тыпалагічную аснову.

Адна з тыпалагічных рыс талочных песень — адлюстраванне спецыфікі талочнай працы, адносін людзей у працэсе яе. Бяседны, жартоўны характар — выразная адзнака талочных песень. У адрозненне ад іншых бяседных у талочных акрамя таго, што называецца працоўны заняткі, часта ўпамінаецца слова «талака»: «Талака, талака талачыстая», «Талачу, талачу, гарэлкі хачу», «Талака, талака талачылася», «Талака, талака, талакі не ўняць» і г. д.

Тыпалогія талочных песень, натуральна, выявілася і ў іх паэтыцы.

Кампазіцыя талочных песень, як і іншых каляндарных жартоўных, у асноўным мае двухчасткавую будову, заснаваную на прынцыпе супрацьпастаўлення якасцей адной групы талачан другой.

Бяседна-жартоўны характар асноўнай масы талочных песень, іх дастасаванасць да танца абумовілі лёгкую вузкарадную будову верша, гнуткую рытмічна. Рытмічная пластыка ў іх вельмі выразная, вымоўная. Вельмі частыя ў талочных песнях звароты: да гаспадара, гаспадыні, гасцей; да атрыбутаў застолля, бяседы, стала, чаркі. Зварот паімённа нярэдка мае пры гэтым памяншальна-ласкальную або клічную форму, што надае творам яшчэ больш душэўнасці, сардэчнасці.

Эпітэт, параўнанне, метафару — гэтыя атрыбутыўныя выяўленчыя сродкі народнай паэзіі — талочныя песні выкарыстоўваюць не так інтэнсіўна, як песні іншых каляндарных цыклаў. Але, натуральна, без іх яны не абыходзяцца і імкнуцца да пэўнай своеасаблівасці, прадвызначанай ужо адметнасцю адлюстраванай у іх рэчаіснасці. Так, традыцыйным параўнаннем, на якім ляжыць пячаць старадаўнасці, калі земляроб упадабляецца месяцу, а яго госці-талачане — зоркам (звёздам), талочныя песні карыстаюцца даслоўна ў адзінкавых выпадках («Каля месяца, каля яснага»). Часам у адлюстраванні талочнай працы песні дасягаюць яркай метафарычнасці:

Таргуйся, таргуйся, Кірылку, з намі,
Мы тваё поленька златам слалі,
Золатам, золатам ды ўсё серабром...

Талачанкі-трасенніцы за працай і з песнямі ў полі трапна параўноўваюцца са званкамі і звінячымі пчолкамі:

У хлеве мужчынкі покатам ляжаць,
А на ніве жоначкі, як званкі, звіняць.

Шырэй разгортваюцца параўнанні ў песнях дажынкавай талакі («Селязенька, галоўка сізенька», «А чыя ж то жана?..», «Па полю сіз голуб лятаіць»):

Па полю сіз голуб лятаіць,
А ён свае галубкі шукаіць:
— Ой, каб мая галубка са мною,
А ўмеў ба ж я па полю лятаці,
А ўмеў ба ж я пшанічку клеваці...
І Ванечка ўсё па двару ходзіць,
А ён сваю Алесечку просіць:
— Ай, каб мая Алесечка са мною,
А ўмеў ба ж я пры сталу стаяці,
А ўмеў ба ж я жнеек частаваці.

Імкненне да паэтызацыі працы, уласцівае каляндарнай паэзіі, можна заўважыць і ў талочных песнях. Тут нават прылада талочнай працы вілы—

залатыя («Дамашэўскае поле»). Эпітэт «талачыстая» ў дачыненні да талакі азначае, трэба думаць, вясёлая, радасная, шумная.

Песні жытняй талакі ў пераважнай большасці маюць велічальны характар. Яны ўслаўляюць гаспадара, багаты ўраджай, сабраны на яго ніве. У іх паэтызуюцца жнеі-талачанкі, іх праца.

Ад уласна жніўных песні жытняй талакі адрозніваюцца мажорным гучаннем. У іх эмесце многа гумару. Часам ён мае сацыяльную скіраванасць («У нашага пана»).

Талочныя песні ў адрозненне ад іншых каляндарна-абрадавых — валачобных, купальскіх, жніўных, восеньскіх — горш захаваліся і пашыраны на непараўнальна меншым этнічным абсягу. Практычна ўсе запісы веснавых і асенніх талочных песень пасляваеннага часу і асабліва апошніх двух дзесяцігоддзяў, калі стала вядзецца фальклорна-этнаграфічнае абследаванне тэрыторыі рэспублікі, зроблены на Віцебшчыне і паўночнай Міншчыне. Найбольшая колькасць талочных песень зафіксавана ў Полацкім, Лепельскім, Міёрскім, Верхнядзвінскім, Крупскім раёнах. Усе без выключэння запісаны яны ад людзей старэйшага пакалення і ў жывым бытаванні ўжо не гучаць. Такія запаведныя астравы традыцыйнай народна-паэтычнай культуры, як Валожыншчына і Вілейшчына, сёння не даюць нават адзінкавых запісаў талочных песень.

Талочныя песні разам з валачобнымі і восеньскімі складаюць адметнасць паэзіі беларускага земляробчага календара. У найбліжэйшых суседзяў беларусаў іх або зусім не было, або яны былі страчаны, і іх не паспела засведчыць навуковая літаратура.

Уключэнне талочных песень у том разам з восеньскімі не прадыктавана прынцыпамі класіфікацыі і носіць умоўны характар. Восеньскі цыкл народнай паэзіі завяршальны ў гадавым крузе абрадава-земляробчых песень, а паколькі талочныя песні практычна сустракаюцца ў трох вытворчых сезонах, у розных цыклах, то правамерна вынесці іх, аб'яднаўшы паводле функцыянальнага прынцыпу, у канец календара.

*АРСЕНЬ ЛІС*

# МЕЛОДЫКА ВОСЕНЬСКІХ ПЕСЕНЬ

Меладычны змест беларускіх восеньскіх песень даволі разнастайны, хоць у колькасных адносінах яны некалькі ўступаюць іншым жанрам каляндарнага сельскагаспадарчага цыкла. Тым больш, што песні гэтыя ў значнай ступені (больш, чым нават песні веснавыя) падвергліся ў працэсе свайго развіцця лірычнаму пераасэнсаванню, трывала замацаваліся ў рэпертуары суб'ектыўна-бытавога характару, перасталі дакладна выяўляць свае спецыфічныя каляндарна-вытворчыя функцыі.

Адрозненнем восеньскіх песень ад песень іншых сезонных цыклаў з'яўляецца таксама слаба выяўленая функцыянальная тыпізацыя, што адлюстравана ў структуры гэтых песень. Жанравыя прыкметы многіх восеньскіх песень, асабліва лірычных, значна згладжаныя. Іх сезонная прымеркаванасць адчуваецца, як правіла, у агульным характары інтанацыйнага зместу, які знаходзіцца ў элегічнай, іншы раз «сумнай» сферы эмоцый.

Па сутнасці, сама жыццёвая абумоўленасць гэтага песеннага цыкла — паступовае затуханне жыватворчых сіл прыроды, завяршэнне сельскагаспадарчых работ і падрыхтоўка да пэўнай аднастайнасці зімовага перыяду — прадвызначае своеасаблівую меланхалічнасць інтанацыйнага зместу. У восеньскіх песнях, як і ў веснавых, адчуваецца момант затоенасці, сузіральнасці. Але калі ў веснавых гэта затоенасць звязана з чаканнем, то ў песнях восеньскіх яна навеяна пачуццямі развітання. Праўда, і ў восеньскіх песнях не адчуваецца цалкам сумнага, жалобнага настрою, яны сведчаць, хутчэй, аб мудрым прызнанні непазбежнасці жыццёвага кругавароту.

Восеньскія песні з іх спецыфічным фанічным каларытам, які нагадвае ў агульнагадавым інтанацыйным развіцці гіганцкую плачавую кадэнцыю, як бы замыкаюць цыкл гадавой каляндарнай земляробчай паэзіі.

У гэты перыяд звычайна не выконваюцца розныя магічныя дзеянні, для таго каб задобрыць і прызваць сілы прыроды на дапамогу чалавеку; з песень знікае ўпамінанне дакладнага язычаскага боства, цудаў, звязаных з яго дзейнасцю. Асноўную тэму гэтых песень складае апісанне прыроды ў цеснай сувязі з апісаннямі асабістых перажыванняў чалавека.

Вельмі прыкметнай меладычнай асаблівасцю восеньскіх песень з'яўляецца безумоўная перавага ў іх мінорных ладоў. І нават лады, якія маюць у сваёй аснове мажорны гукарад, у дакладным сваім інтанацыйным развіцці імк-

нуцца ўсё ж да пластыкі мінорнай выразнасці: сыходная тэндэнцыя інтаніравання, пластычныя рытма-інтанацыйныя рашэнні. У саміх жа мінорных ладах асаблівую выразнасць набывае інтэрвал танічнай квінты, асабліва квінтовы гук ладу, — гэта, як сказаў М. Глінка, «душа рускай (і беларускай, дадзім мы) музыкі».

Як правіла, у восеньскіх песнях слаба праяўляецца імправізацыйны момант. Метрарытмічная структура большасці з іх укладаецца ў дакладныя сіметрычныя пабудовы. Толькі некаторая частка песень, іменна тых, якія выяўляюць трывалую генетычную сувязь з традыцыйнымі працоўнымі песнямі іншых каляндарных цыклаў, мае ўсе прыкметы працоўнай вольнаінтаніруемай мелодыкі.

У музычных адносінах беларускія восеньскія песні можна размежаваць на дзве часткі.

Першая — меншая — песні працоўныя каляндарныя, якія звязаны са зборам ураджаю. Можна меркаваць, што ў мінулым гэтых песень было больш, чым зараз, ва ўсякім разе, у агульнай масе восеньскіх песень яны не складалі меншасці. Працоўныя песні — гэта ў першую чаргу песні ярынныя, або ярныя, прысвечаныя жніву позняй, яравой збажыны. Сюды ж адносяцца песні, прысвечаныя ўборцы важнейшай для Беларусі сельскагаспадарчай культуры — ільну, а таксама канапель. І нарэшце, даволі невялікую групу сярод працоўных восеньскіх песень складаюць песні збіральніцкія, якія суправаджаюць збор ягад, грыбоў, арэхаў. Гэтыя песні, здаецца, павінны б былі быць (побач з песнямі паляўнічымі) найбольш ранні́мі. Але іх меладычны змест не выяўляе спецыфічных характэрных рыс.

Канапляныя (канапельныя) песні даволі мала распаўсюджаны на Беларусі, у асноўным у паўднёва-ўсходняй частцы рэспублікі, дзе яны супадаюць з песнямі рускімі і ўкраінскімі.

Песні, якія спадарожнічаюць збору ўраджаю, з'яўляюцца завяршальным звяном у агульным земляробчым цыкле і таму маюць асабліва прынцыповае значэнне.

Другая — большая частка восеньскіх песень — песні лірычнага рэпертуару, якія ў цяперашні час з'яўляюцца ўвогуле ядром жанру. Іменна лірычныя восеньскія песні ярчэй за ўсё выяўляюць спецыфічныя нацыянальныя рысы гэтага цыкла каляндарнай паэзіі.

Песні, якія суправаджаюць яравое жніво (№ 1—8) [1], у большасці сваёй мала чым адрозніваюцца ў меладычных адносінах ад песень жніўных летніх. Той жа паўімправізацыйны склад, багацце інтанацый, звязаных з фізіялагічнымі прыёмамі гуказдабыцця — не рэгламентаваныя фермата, працяглыя глісанда, дэкламацыйнага характару звароты, нестабільная гукавышынная шкала і іншыя асаблівасці, характэрныя іменна для некалектыўнай

[1] У музычным дадатку з левага боку нотнага прыкладу прастаўлены парадкавыя нумары напеваў, з правага — парадкавыя нумары тэкстаў.

працоўнай песні, што, натуральна, вызначаецца ідэнтычнасцю ўмоў жніва летам і ўвосень. Праўда, структурна гэтыя два сезонна розныя песенныя пласты некалькі адрозніваюцца адзін ад аднаго. Песні восеньскага жніва часцей, чым летнія, выконваюцца больш дакладна ў метрарытмічных адносінах, з выразнымі межамі меладычных фраз.

Гэта асаблівасць, безумоўна, не з'яўляецца прыкметай функцыянальных змен і, відаць, тлумачыцца тым, што ўвосень выконваецца шмат познетрадыцыйных песень з іншымі прынцыпамі меладычнай і рытмічнай арганізацыі, якія даволі актыўна ўцягваюць у новую інтанацыйную сферу песні жніўныя традыцыйныя.

Значна часцей у восеньскіх жніўных песнях у міноры сустракаецца гарманічны ўводны тон, што разам са структурнай дакладнасцю надае гэтым песням пэўны гамафонна-гарманічны каларыт. Ярныя песні радзей, чым летнія жніўныя, выконваюцца хорам, яны маюць выразную тэндэнцыю да індывідуалізаванага вакалізавання і ў гэтых адносінах прымыкаюць да той лірычнай сферы вобразнасці, якой адрозніваецца ўся восеньская песнятворчасць.

Летнія і восеньскія жніўныя песні нярэдка адрозніваюцца ў плане рэпертуарным. Так, калі ў некаторых мясцовасцях (асабліва гэта характэрна для паўднёвай часткі Беларусі) і летам, і ўвосень выконваюцца адны і тыя ж, і прытым у той жа манеры, жніўныя песні, дык на поўначы і захадзе рэспублікі ўвосень або некалькі інтанацыйна трансфарміруюцца тыя ж летнія песні, або ўвогуле выконваецца зусім іншы рэпертуар (часцей за ўсё вясельныя песні). Песні са жніўнай тэматыкай спяваюцца тут у манеры тыпова лірычных песень (іншы раз для гэтага выкарыстоўваецца дакладная лірычная мелодыя). Радзей, наадварот, лірычная песня спяваецца на жніўны манер, але амаль ніколі восенню не выкарыстоўваюцца песні (асабліва гэта датычыцца мелодыі) іншых каляндарных цыклаў — часавая прымеркаванасць строга захоўваецца. Такім чынам, збор ураджаю ідзе ва ўсе перыяды «пад акампанемент» адзінай меладычнай формулы на ўсёй тэрыторыі Беларусі (наогул гэты арэал значна шырэйшы).

Трэба, дарэчы, адзначыць, што ў некаторых мясцовасцях розніца паміж летнімі і восеньскімі песнямі заўважаецца толькі ў тэксце, які іншы раз нязначна трансфарміруецца: у тэкст уводзіцца якое-небудзь слова, выраз, якія ўдакладняюць час выканання песні:

Пасылала мяне маці
Яравое жыта жаці...

Часта звычайная жніўная песня па мясцовай традыцыі бывае нібыта прымацаванай да яравога жніва і ў іншы час не выконваецца.

Лён на Беларусі — тыпова восеньская культура. Таму пры ўборцы яго выконваюцца песні спецыфічныя як у меладычных, так і ў тэкставых адносінах (№ 9—15). Зразумела, што і ў гэтай групе песень замацавалася шмат познетрадыцыйных, у асноўным лірычных — «як лён поляць», «лён

збіраючы» і г. д. Упамінанне ў тэксце самога льну ў такіх песнях не абавязкова.

Напевы льняных песень, як і ўсіх каляндарных раннетрадыцыйных, г. зн. строга прымеркаваных да пэўнага часу і дзеяння, маюць свае тыпова рытмічныя сінтагмы. Асабліва традыцыйна-стабільны выгляд яны маюць на поўначы рэспублікі, дзе здаўна вырошчваюць гэту культуру.

Асновай дзвюх найбольш распаўсюджаных тут музычна-рытмічных сінтагм ільняных песень з'яўляецца чатыры разы паўтораны чатырохскладовік 4+4+4+4:

першая сінтагма




другая сінтагма




Меладыка песень, якія маюць гэтыя рытмічныя сінтагмы, даволі разнастайная, але ўвогуле, як і ўся восеньская песнятворчасць, схільна да мінорных ладоў і заснавана на інтанацыйнай ячэйцы квартовай пабудовы (асноўнае меладычнае развіццё зверху ўніз — ад кварты да тонікі).

Абодва рытмічныя тыпы сінтагмы сустракаюцца амаль у тых жа раёнах, хоць другі (№ 16, 17) — значна радзей. Адрозненнем гэтай сінтагмы ад папярэдняй з'яўляецца тое, што яна музычна суарганізуецца ў трохдольныя метры, часцей за ўсё ў страфе — 6/8+6/8 (у тэкставай складовай разбіўцы яна часта выглядае як 5+3+5+3).

У адрозненне ад песень ільняных, распаўсюджаных на поўначы Беларусі, песні паўднёвых раёнаў (Гомельская, Брэсцкая вобл.) маюць больш вольную рытмічную структуру. Гэта тлумачыцца тым, што на поўдні рэспублікі пазней, чым на поўначы, лён стаў культурай грамадскай гаспадаркі, і таму песні, якія суправаджаюць яго апрацоўку і ўборку, не сталі грамадска значнымі, не афарміліся ў рытуальна-абрадавы цыкл. Гэта не значыць, што яны пазбаўлены наогул спецыфічнай выразнасці. Вялікі ўплыў на гэту групу аказалі песні познетрадыцыйнай песнятворчасці, што адбілася ў першую чаргу на іх шматгалосым распеве.

Своеасаблівымі «ўкрапваннямі» ў восеньскую працоўную песенную тэматыку з'яўляюцца песні так званыя збіральніцкія (№ 18—21). Па сваіх музычна-тыпалагічных прыкметах яны далучаюцца звычайна да іншых груп восеньскіх песень. Часам у іх меладычным змесце праглядаюць стылістычныя рысы, якія характэрны для развітай лірычнай познетрадыцыйнай песні. У народнай традыцыі яны звычайна называюцца «як ісці па грыбы», «па

ягады» або проста «восеньскія». Дакладнага тэрміну выканання яны не маюць і ў гэтых адносінах непасрэдна далучаюцца да песень уласна лірычных.

Восеньскія лірычныя песні займаюць, як мы казалі, у песнях данага сезоннага цыкла асноўнае месца як у колькасных адносінах, так і ў плане тыпалагічным. У гэтых песнях даволі паслядоўна і дакладна праяўляецца важнейшы паэтычны прыём, які вызначае іх лірычны напрамак — аб'ектыўна-суб'ектыўныя асацыяцыі, якія раскрываюць пэўны «сумны» тонус працэсаў, што адбываюцца ў гэты перыяд года ў прыродзе, і адпаведныя ім падзеі ў жыцці чалавека: разлука з каханым, у якой вінавата «асенняя ночка», няўдалы шлюб, адзіноцтва, жыццё далёка ад родных і блізкіх і г. д. Нярэдка сустракаюцца сюжэты баладна-бытавога характару, дзе ў драматычных танах апавядаецца пра здраду, пра вольнае, але няшчаснае каханне. Увогуле падзеі такіх песень падаюцца ў асноўным у змрочна-сузіральных танах.

Зместу адпавядаюць і музычныя сродкі: пераважна мінорныя лады, мелодыка, якая імкнецца ўтрымацца на значнай працягласці аднаго якога-небудзь гукавога гарызонта (часцей квінтовага тону гукарада), плаўныя, пластычныя пераходы ад адной папеўкі да другой. Вялікае значэнне ў стварэнні агульнага стрыманага характару меладычнага развіцця маюць своеасаблівыя «тармазячыя» рытмічныя фігуры (завяршэнне рытмічных матываў у сярэдзіне песеннай сінтагмы доўгімі працягласцямі).

Даволі трывала замацаваўся ў восеньскіх песнях характэрны тып ладавай пераменнасці, які параўнальна рэдка сустракаецца ў іншых жанрах і, відаць, мала ўласцівы раннетрадыцыйнай мелодыцы. Маем на ўвазе пераменнасць паралельных танальнасцей (унізе — мінор, уверсе — мажор), якая ажыццяўляецца з дапамогай VII натуральнай ступені




Гучыць гэты пераход з адной танальнасці ў другую даволі рашуча і можа быць прыроўнены да мадуляцыйнага абароту. Да таго ж такі абарот азначае структурны рубеж (пераход да другога сказа) і падкрэслівае заканамернасці гамафонна-гарманічнай фактуры.

У меладычнай інтэрпрэтацыі пяціскладовай стапы, якая ляжыць у аснове восеньскага верша, традыцыйна падкрэсліваецца пяты, апошні склад. Дарэчы, гэтым і тлумачыцца спецыфічнасць «тармазячай» рытмічнай фігуры, пра якую гаварылася вышэй.

Пяцідольнік восеньскіх лірычных песень не застаўся, дарэчы, закансерваваным. Усе мадыфікацыі восеньскага верша выстройваюцца ў пэўную лагічную схему, якую, відаць, наўрад ці можна трактаваць як схему, што ад-

люстроўвае гістарычны аспект развіцця гэтай структуры, але на яе прыкладзе дастаткова ясна адчуваецца суадноснасць простых і больш складаных канструкцый.

Самай простай, відаць, можна лічыць страфічную канструкцыю, якая складаецца з чатырох пяцідольнікаў — 5+5+5+5. Гэта страфа цікавая тым, што ў ёй іншы раз выкарыстана паўторнасць асобных вершаў (ААББ, АББС, ААБС). Для напеву таксама характэрны прыём паўторнасці меладычных паўсінтагм, аднак пры гэтым адсутнічае структура паўторнасці тэксту (№ 22—56).

Ужо ў гэтай меладычнай страфе ясна выяўляюцца такія характэрныя асаблівасці восеньскай лірычнай страфы, як «тармозячыя» рытмічныя фігуры, мадуляцыя з дапамогай VII натуральнай ступені, абыгрыванне V мінорнай ступені ладу, дакладная квадратная структура. Не падкрэсліваючы гістарычнае першынство гэтай страфы, усё ж трэба адзначыць яе пэўны зыходны характар у радзе пяцікладовых вершаваных структур.

Сярод песень падобнай страфы на Беларусі асабліва распаўсюджана ў розных мясцовасцях песня:

У цёмным лесе мядзведзь рыкае,
Мядзведзь рыкае, дзевак пужае... (№ 22—36)

Між песень гэтага зместу сустракаецца мадыфікацыя пяцікладовай страфы, якая нагадвае страфічную структуру карагодных песень (ABRB) і якая адрозніваецца ад апошняй спецыфічным для восеньскіх песень рэфрэнам «Ой, рана, рана». Іншы раз гэты рэфрэн разгортваецца не ў пяцідольніку, а ў чатырохдольніку, што таксама набліжае яго да карагоднага — «Рана, рана» або «Люлі, люлі».

Страфу тыпу ABRB маюць восеньскія песні і іншага зместу. У некаторых з іх гэта страфа некалькі пераўтвараецца: адна з паўсінтагм будуецца не на пяцідольніку, а на дольніку, які мае большую ці меншую колькасць складоў (№ 51, 55). Мелодыка падобных песень можа быць самай рознай. Тут можа сустрэцца песня, распетая ў стылі жніўных паўімправізацыйных напеваў з даволі рухомай гукавышыннай шкалой (№ 50, 53). Побач з імі можна выявіць таксама мелодыі, якія з'яўляюцца сапраўднымі шэдэўрамі стылю гамафонна-гарманічнага, з ярка падкрэсленым тэматычным развіццём, з дакладна акрэсленымі зонамі ўзаемазвязаных гарманічных функцый (№ 47). Песня «Ой, там у бору» ўвогуле з'яўляецца, на нашу думку, адным з выдатных прыкладаў беларускай меладычнай пластыкі, прыкладам таго, што народны геній нават у межах нязначнага гукараднага амбітуса здольны дасягнуць высокіх эстэтычных вынікаў. Трэба адзначыць, што развіццё лірычных эмоцый у раннетрадыцыйнай песнятворчасці звязана ў беларускай мелодыцы са з'яўленнем у ёй мяккіх, па-свойму акруглых «вальсавых» рытмаў.

Паслядоўнасць чатырох пяцідольнікаў вызначае ў песнях, якія маюць

падобную страфу, метрарытмічную аднатыповасць усіх чатырох песенных паўсінтагм (страфа мае дзве сінтагмы або чатыры паўсінтагмы). Гэта ж у сваю чаргу выклікае і аднатыповасць меладычных кадэнцый, якія ва ўсіх восеньскіх лірычных песнях маюць завяршэнне на тоніцы.

Прыкметай суб'ектыўна-лірычнай абмалёўкі мелодыкі трэба, відаць, таксама лічыць наяўнасць у ёй гарманічнага ўводнага тону, які гучыць даволі ўстойліва (№ 24, 40). Гэты ўводны тон выразна ўдзельнічае ў меладычным развіцці нават у песнях, блізкіх па інтанацыйнай фактуры да жніўных песень. У гэтых адносінах восеньскія лірычныя песні блізкія да калыханак — жанру беларускай традыцыйнай творчасці з асабліва «ласкавымі», пяшчотна-сузіральнымі эмоцыямі.

Лірычныя песні, якія маюць у аснове свайго верша чатыры пяцідольнікі, часта выконваюцца ў час жніва яравых культур. Таму інфарматары іх называюць ярнымі, хоць гэтыя песні, хутчэй, прымеркаваны да перыяду яравога жніва.

Большасць іх запісана ў паўночна-заходняй частцы рэспублікі, дзе, дарэчы, увогуле сканцэнтравана асноўная маса беларускіх восеньскіх лірычных песень.

Наступная вершаваная структура, у аснове якой ляжыць пяцідольнік— 5+7+5+7 (№ 57—59). Адносіць яе іменна да пяцідольных утварэнняў дае падставу тое, што ў больш дэталёвым метрычным набліжэнні гэта страфа выяўляе структуру 5+(5+2)+5+(5+2), г. зн. сямідольнік, які яўна распадаецца на дзве больш дробныя часткі: пяцідольнік і двухдольнік.

Ой, не куй, не куй /сіва зязюленька/ ўночы,
Бо павыкаліш /на шыпшынаньку/ вочы.

Песні гэтага тыпу пашыраны крыху на поўдзень ад рэгіёна распаўсюджання папярэдняй групы песень. Песні гэтай строфікі маюць эпізадычны характар, але ў радзе мадыфікацый песеннай страфы адлюстроўваюць цэлы этап у афармленні адной з найбольш развітых і складаных строф беларускай народнай песнятворчасці ў яе лірычна-баладнай тэматыцы.

Асаблівасцю гэтых песень з'яўляецца іх ярка выражаная мажорналадавасць, а таксама унікальная для восеньскага жанру кадэнцыя на 2-й ступені. Апошняя, дарэчы, з'яўляецца не столькі ўнутрыжанравым выключэннем, колькі мясцовай асаблівасцю.

І нарэшце, страфа, найбольш развітая сярод песень восеньскай лірыкі,—

5+5+7
5+5+7 (№ 60—113).

Як бачым, страфа гэтай складанай канструкцыі яўна падзяляецца на дзве паўстрафы. Трэба, дарэчы, сказаць, што часам у запісах гэта страфа паўстае як бы ў выглядзе, зробленым напалову (№ 114—131). Гэта тлумачыцца тым, што абедзве палавіны страфы ідэнтычныя ў рытмічных і мела-

дычных адносінах (AA), і збіральнікі не лічылі неабходным выпісваць адзін і той меладычны кантэкст два разы, успрымаючы паўстрафу як закончаную страфу. Нярэдка і самі выканаўцы даюць для гэтага падставу, робячы генеральную (міжстрафічную) паўзу ў канцы першай паўстрафы. На тое, што ў даным выпадку мы маем справу з меладычнай паўстрафой, а не з закончанай у сэнсавых і структурных адносінах страфой, указвае паэтычны тэкст, які звязвае ў адзінае цэлае гэтае выказванне. (Гл. Шырма Р. Беларускія народныя песні, т. 3. Мн., 1962, № 148, 150.) Як бы там ні было, абедзве страфы сустракаюцца ў тых самых раёнах і аднолькава прадстаўляюць мастацкую каштоўнасць, садзейнічаюць больш поўнаму ўспрыняццю музычнай стылістыкі гэтага унікальнага ў рамках усёй усходнеславянскай (і славянскай увогуле) песнятворчасці жанру.

У поўным выглядзе разглядаемая страфа мае наступную тэкставую стопную пабудову:

/—/—/ /—/—/

/—/—/—/

/—/—/ /—/—/

/—/—/—/

Дакладна выдзелена ўнутрывершавая цэзура паміж пяцідольнікамі. Рыфма амаль абавязковая — паміж сяміскладовымі вершамі:

Ой, заржы, заржы, сівы конік,
Па полі гарцуючы,
Ці не пачуе мая мілая,
Вячэру гатуючы.

Падобная страфа вельмі каларытная і дынамічная. Яе выразнасць заснавана на «прынцыпе суміравання», які характэрны для ўсходнеславянскай паэзіі і музыкі, дзе пачатковыя, дробныя структурныя часткі аб'яднаны больш працяглай завяршальнай. У беларускай страфе гэты прынцып атрымаў распаўсюджанне ў познетрадыцыйнай творчасці, прычым іменна ў «неквадратных» суадносінах, як у даным выпадку, і часта асацыіруецца з усхваляванымі, але стрыманымі эмоцыямі.

Зрэдку, праўда, гэта схема крыху пераўтвараецца. Пры гэтым кольkaсным зменам складовага саставу верша ў асноўным падвяргаецца не сяміскладовая, а пяцiскладовая частка страфы:

$$6+7+6+7$$
$$5+7+6+7$$

Музычна-рытмічная структура страфы выяўляе найбольш распаўсюджаную ўстойлівую схему.



Яна таксама мае свае мадыфікацыі, галоўная з якіх вызначаецца скарачэннем (радзей) або падоўжаннем (часцей) працягласці кадэнцыйнага гуку. Вельмі рэдка сустракаюцца варыяцыі працягласцей пачатковых кароткіх гукаў. Як правіла, яны падкрэслена раўнамерныя і знаходзяцца з тэкстам у квантытатыўных адносінах (адзін склад — адзін гук). Распеў, як, напрыклад, у песні № 118, вызначае пераход у прынцыпова іншы стыль меладызавання, у даным выпадку стыль жніўных песень.

Сярод лірычных восеньскіх песень гэтай структуры найбольш часта сустракаюцца тры наступныя зачыны: «Ой, валы мае палавенькія, чаму ж вы не гарэце?», «Чаго ты, лосю (косю), чаго, сівенькі, ды к сялу прылягаеш?», «Ой, заржы, заржы, сівы коніку, на пашаньку ідучы».

Элегічны характар восеньскай песнятворчасці найбольш поўна праявіўся ў песнях, якія маюць разглядаемую рытмічную структуру. Яна часам становіцца асновай для распеваў тэкстаў жалобнага або засмучана-драматычнага характару, як, напрыклад, песня ўдавы [2]. Песня «Ой, каб я стала» (№ 113) з'яўляецца тыповай і ў адносінах меладычнага развіцця. Звяртае ўвагу меладычны гарызонт, які вытрымліваецца даволі працягла на квінтовым гуку, а затым «знікаючае» падзенне яго на тоніку. Увогуле характэрны каларыт гэтай квінты стаў прычынай таго, што шмат якія аналагічныя песні вызначаюцца ў народным рэпертуары як «любоўныя».

Лірычныя восеньскія песні выконваюцца звычайна сольна, як адлюстраванне індывідуальных эмоцый. Песні № 103, 129 — гэта, безумоўна, выключэнне для данага жанру, якое ўзнікла на аснове мясцовага палескага вакальнага стылю з яго спецыфічнай гетэрафоннай фактурай. Дарэчы, адрозніваецца гэта песня таксама інтанацыйным зместам, які разгортваецца на аснове не квінтовага, а квартовага ладу.

Увогуле, для восеньскіх песень не характэрны пераменныя ладавыя ступені, а тым больш тэрцовая «нейтральная». Наяўнасць такіх (№ 70, 89) гаворыць аб прынцыпова іншым стылі манадыйнай музыкі.

У цыкле беларускіх восеньскіх лірычных песень больш ці менш трывала замацаваліся таксама песні, якія не маюць тыпова восеньскіх структур, як папярэднія, але дастаткова характэрныя ў змястоўным плане. Сярод іх даволі распаўсюджаны песні «вясельнага тыпу — 5/6+3 (№ 132—152) [3].

---

[2] Цітовіч Г. Анталогія беларускай народнай песні.— Мн., 1975, № 192.
[3] Мясцовай традыцыяй некаторая частка іх адзначаецца як ярынныя або «як у грыбы ці ў ягады ісці».

Таксама, як і веснавыя песні падобнага тыпу, па тэксту яны блізкія да традыцыйных вясельных песень. На блізкасць гэтых песень да традыцыйных вясельных указвае іх інтанацыйны склад, у тым ліку і лады квінтовага гукарада. Некаторыя з іх разгортваюцца ў тыповай для вясельных песень структуры, разам з тым маюць характэрны для восеньскіх лірычных песень прыпеў «Ой, рана, рана» (№ 133—135). Апошнія песні маюць больш архаічны, чым вясельныя, лад — тэрцовы і па свайму інтанацыйнаму складу адносяцца да больш ранніх узораў беларускай раннетрадыцыйнай манодыі. У гэтых адносінах асабліва характэрна песня «І курна, дымна над сялом» (№ 133).

З'яўленне падобных песень сярод восеньскіх зразумела. Восень — час вяселляў. Гэтаму спрыяе і вызваленне селяніна ад цяжкіх гаспадарчых прац, і запоўненыя засекі, і, нарэшце, сама пара года, якая схіляе да падвядзення вынікаў усяго гаспадарча-бытавога жыцця чалавека.

Некаторыя восеньскія песні вельмі цесна змыкаюцца з вясельнымі, што з'яўляецца сведчаннем непасрэднага жанравага ўзаемаабмену паміж гэтымі двума песеннымі цыкламі. Уся структурная і інтанацыйная будова шырока распаўсюджанай у паўночных раёнах рэспублікі песні «Авясец, матуля, авясец» (№ 140—143) сведчыць пра яе блізкасць да вясельных напеваў. Пра гэта ж гаворыць і яе тэкст (жартоўнага зместу). Адзінай прыкметай, якая дазваляе аднесці гэту песню іменна да восеньскіх, з'яўляецца слова «авясец» (уборка яго сапраўды прыпадае на восень). Відаць, гэта слова з'явілася не як дакладная прыкмета зместу песні, а ў якасці паэтычнага элемента формы (рыфма: авясец — прынясець). У практыцы народнай творчасці гэты тыповы народны троп атрымаў з часам удакладняючы аграрны сэнс.

У некаторых раёнах у гэты час спяваюць звычайна вясельныя песні, прычым не абрадавага, а толькі лірычнага характару.

Яшчэ адзін распаўсюджаны структурны тып лірычных восеньскіх песень — каламыйкавы (4+4+6) (№ 144—155). Па назіраннях украінскага фалькларыста В. Гашоўскага[4], гэта структурна-рытмічная песенная форма даволі шырока распаўсюджана ў беларускім фальклоры. У адрозненне ад каламыйкавай структуры ўкраінскага тыпу, якая набліжаецца да танцавальнай рытмічнай схемы і характарызуецца мерным, рэпетыцыйным чаргаваннем аднолькавых долей, беларускія каламыйкавыя структуры вызначаюцца песенна-распеўным рытмам.

Каламыйкавая структура ў беларускім фальклоры сустракаецца ў самых розных жанрах познетрадыцыйнай песні. Таму з'яўленне яе ў восеньскіх песнях, жанры каляндарным, трэба разглядаць як, безумоўна, пазнейшыя ўплывы. Іншы раз гэтыя ўплывы выяўляюцца не цалкам, у выніку

---

[4] Гошовский В. У. У истоков народной музыки славян.— М., 1971, с. 101—106.

чаго з'яўляюцца строфы нібы змешанага тыпу: рытмічныя сінтагмы каламыйкавага тыпу чаргуюцца з якімі-небудзь іншымі, звычайнага характару (№ 147, 151).

Сярод строф каламыйкавага тыпу таксама сустракаюцца структуры карагодныя, з прыпевам у трэцяй частцы. Магчыма, некаторыя з іх з'яўляюцца тыпова карагоднымі, якія перанесены ў іншы сезон і крыху зменены ў сувязі з гэтым па тэксту.

Астатнюю групу восеньскіх лірычных песень складаюць песні, прымеркаваныя да гэтага жанру (№ 156—200). Як і веснавыя прымеркаваныя, восеньскія таксама прысвечаны ў асноўным бытавой і «любоўнай» тэматыцы. Сярод іх сустракаюцца такія, у якіх так ці інакш ідзе гаворка пра восень або пра яе характэрныя прыкметы (№ 156—172); пры гэтым некаторыя вызначаюць пэўную лакальную тыпалагічнасць (№ 156—159), іншыя ж замацаваліся за восеньскім цыклам толькі дзякуючы ўстойлівым мясцовым традыцыям. Часам сярод такіх песень сустракаюцца ўзоры, у тэксце якіх праглядвае сувязь з некаторымі восеньскімі заняткамі земляроба: яравым жнівом (№ 193), зборам грыбоў (№ 195). Дэталёвы аналіз падобных песень паказвае, што гэта не адносіцца да іх жанравай характэрнасці.

Восеньскія лірычныя песні, якія адрозніваюцца слаба выяўленай жанрава-функцыянальнай абумоўленасцю, хутка і ўстойліва перайшлі ў групу песень, якія выконваюцца «абы-калі». Некаторыя з іх, дарэчы, яшчэ захавалі сувязь са сваёй першапачатковай функцыянальнай абумоўленасцю і самімі выканаўцамі вызначаюцца і як «восеньскія» і як «абы-калі».

У цяперашні час восеньскія песні ўжо амаль поўнасцю страцілі свой функцыянальны сэнс (можа, за выключэннем працоўных). Але разам з веснавымі яны з'явіліся асновай для фарміравання познетрадыцыйнай лірычнай песні.

## МЕЛОДЫКА ТАЛОЧНЫХ ПЕСЕНЬ

У музычных адносінах талочныя песні, як і бяседныя, у цяперашні час не столькі самастойны жанр, які мае свае тыпалагічныя прыкметы, што вылучаюць яго сярод астатніх каляндарных, колькі песенны рэпертуар, замацаваны за пэўным абрадам. Толькі ў асобных раёнах сустракаюцца яшчэ ўзоры, якія вызначаюць пэўную жанравую тыпалагічнасць, гэта быццам «асколкі» некалі існуючага самастойнага песеннага «масіву» (№ 1—38). Музычны змест другой часткі песень (№ 39—45) уключае самае шырокае кола тэматыкі і ў першую чаргу выяўляе інтанацыйную сувязь з лірычнымі песнямі, баладамі і асабліва песнямі святочна-застольных эмоцый (напрыклад, вясельнымі); большасць талочных песень гэтага рэпертуару выконваецца пры частаванні пасля заканчэння працы, калі гаспадары дзякуюць за дапамогу. У лік талочных часта трапляюць песні так званыя банкетныя,

або пірушачныя, разнастайныя па зместу і тыпова застольныя па выкананню. Спяваюць такія песні звычайна на эмацыянальна павышаных танах, яны маюць характар «развясёлых» прыпевак і яўна трансфарміруюць інтанацыйную аснову песень-першакрыніц.

Нярэдка як мясцовая асаблівасць меладычны змест талочных песень выяўляе блізкасць да якога-небудзь дакладнага жанру каляндарных або сямейных песень. У некаторых раёнах Магілёўшчыны і Брэстчыны, напрыклад, талочныя песні па меладычнаму зместу вельмі падобны да напеваў жніўных песень (№ 46—48), а часам з імі супадаюць, на поўначы Беларусі талочныя часта інтанацыйна блізкія да вясельных песень (№ 49).

Тыпова талочнай песняй летне-восеньскага сезона, якая набыла самастойнае значэнне, з'яўляецца дажынкавая песня, што выконвалася ў перыяд завяршэння збору ўраджаю. Сустракаюцца талочныя песні, якія аднояцца да іншых каляндарных сезонаў — веснавога, восеньскага, зімовага. Усе яны звязаны з выкананнем тых або іншых «памочных» сельскагаспадарчых работ і выяўляюць меладычную сувязь з жанрамі, якія адпавядаюць сезонам (№ 50—54).

Прыведзеныя ў даным томе мелодыі талочных песень адлюстроўваюць гэту «неспецыфічнасць» жанру, хоць у некаторых месцах, як мы сказалі, асабліва на Віцебшчыне, распаўсюджаны арыгінальныя талочныя напевы, якія прыкметна адрозніваюцца ад мелодыкі іншых раннетрадыцыйных жанраў і трывала захавалі сезоннасць свайго выканання. Гукавышынная структура іх — квартовы лад з ясна акрэсленымі вышыннымі межамі і субквартовай ячэйкай. Апошняя часцей за ўсё прадстаўлена адным, ніжнім, гукам, але сустракаюцца таксама выпадкі выкарыстання ўсяго субквартовага гукарада (V, VI, VII ступені ўніз да тонікі). Аднак і ў апошнім выпадку ярка падкрэсліваецца квартовы скачок ад V да I ступені ўверх. Рытмічна гэты скачок выяўляе сцвярджальную інтанацыю, што ўвогуле ўласціва талочным песням у адрозненне ад песень, напрыклад, жніўных. Па свайму актыўнаму характару талочныя песні стаяць бліжэй да веснавых заклічак.

Асноўная ячэйка ладу — I—IV ступені — развіваецца, як правіла, у сыходным напрамку. V ступень звычайна не закранаецца, нават як гук, які апяваецца. Падкрэсліванне дзвюх узыходных кварт (субкварты і кварты асноўнай ладавай ячэйкі) надае напеву талочных песень асабліва рашучы і ўстойлівы характар.

Рытм кананічна талочных песень мае формульную структуру і сведчыць пра пэўныя сувязі з працоўнымі працэсамі (№ 1—21):




Пачуццё напружанасці, нібыта звязанай з нейкай значнай фізічнай нагрузкай, падкрэсліваецца цяжкай сінкопай на пачатку кожнай з трох

частак вершавага радка (3+3+5)2, а таксама ў кадэнцыйным ходзе, «сілавая» інтанацыя якога, акрамя таго, звязана з рашучым кадансавым ходам: квартовым — V—I або секундавым — VII—I. Паўторнасць простых рытмаінтанацыйных зваротаў нібы імітуе рытмічную мернасць працоўных рухаў, момант пэўнага працоўнага напружання. Розніцы паміж песнямі, якія выконваюцца на розных работах, на прыкладзе талочных напеваў не выяўлена.

Звычайна кананічна талочным песням мала ўласцівы значны распеў. Аднак разам з тым ёсць песні з даволі шырокімі меладычнымі ўзорамі, якія часам перарываюцца гуканнем на сярэдзіне і ў канцы страфы (№ 17). Зрэдку ў талочных песнях разглядаемай групы рытмічны малюнак страчвае сваю спецыфічнасць, выраўноўваецца (№18, 20), у асобных напевах значна рэканструіруецца, ускладняючыся мадуляцыйнымі абаротамі, ладавая будова напеву (№ 20).

У кананічных талочных песнях з вершам павышанага складовага аб'ёму (3+4+5)2, (3+3+8)2, (6+3+3)2 лішнія склады знутры «размываюць» рытма-формулу (№ 7, 3, 9), але разам з тым гэтыя песні — той ланцуг, які звязвае паміж сабой кананічна талочныя працоўныя песні з талочнымі прыпеўкамі, са спецыфічнымі песнямі пасляталочнага адпачынку. Маем на ўвазе вялікую групу песень (№ 22—38), вытворных ад групы формульных, таго ж ладава-інтанацыйнага складу, але ўвогуле без характэрнага сінкапіраванага рытму, які знік, растварыўшыся ў раўнамерным руху ♪ працягласцей з асобнымі толькі, залежнымі ўжо ад канкрэтных вершавых структур, ♩ прыпынкамі: ♪ ♪ ♪ ♪ ♩ ♪ ♪ ці

♪ ♪ ♪ ♪ ♪ | ♪ ♪ ♩ ♪ ♪ ♩

і г. д. Вядома, што і семантычная накіраванасць гэтых напеваў ужо іншая, абумоўленая сувяззю з прыпеўкамі, скокамі.

Часам сустракаюцца талочныя напевы, яшчэ больш аддаленыя ад сваёй першакрыніцы (№ 38).

Часта ў метрычных дакладных напевах назіраецца метрычны паралелізм паміж сінтагмамі. Меладычная страфа мае ў большасці выпадкаў паўторную структуру—АА з рэдкімі варыяцыйнымі адхіленнямі ў кадэнцыйнай частцы — АА′. Іншы раз напеў будуецца з чатырох ідэнтычных кароткіх паўсінтагм (№ 2, 30, 29, 25). Сустракаюцца таксама структуры АВ, у якіх ідэнтычнымі з'яўляюцца толькі кадэнцыйныя завяршэнні абедзвюх сінтагм (№ 23, 29).

Беларускія талочныя песні з'яўляюцца раздзелам раннетрадыцыйнай песнятворчасці вольнай прымеркаванасці, што родніць іх, з аднаго боку, з песнямі каляндарнымі, з другога — з бытавымі. Адсюль і іх інтанацыйная шматскладанасць.

*В. І. ЯЛАТАЎ*

## ЯРЫННЫЯ ПЕСНІ. ВОСЕНЬ

### 1. А У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

А ў цёмным лесе,*
Люлі, рана, мядзведзь рыкаіць.

Мядзведзь рыкаіць,
Люлі, рана, дзевак пужаіць.

Рыкай не рыкай,
Люлі, рана,— я не баюся.

Толькі ж баюся,
Люлі, рана, асенняй ночкі:

Асенняя ночка,
Люлі, рана, цёмна, вяліка.

Яна разлучыць,
Люлі, рана, з айцом і мамкай.

Яна прылучыць,
Люлі, рана, к чуж-чужаніну,

К чуж-чужаніну,
Люлі, рана, к свёкру, свякроўцы.

### 2. А У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ, А У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

А ў цёмным лесе, а ў цёмным лесе,
Рана, рана, **
Мядзведзь рыкаець, дзевак пужаець.
Рыкай не рыкай — я не баюся.
Толькі баюся васенняй ночкі:
Гэтая ночка — разлучніца мая.
Яна разлучыць з роднай матухнай,

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Яна разлучыць з родным татухнай,
Яна прылучыць к свёкру, к свякроўкі.
Мне не ўгадаці, як свёкра звації:
Свёкранькам звації — няслава мая,
Татухнам звації — мне не хочацца.
Звацць не звації: свякор-татухна,
Свякроўка-мамухна.

### 3. А Ў ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

А ў цёмным лесе *
Мядзведзь рыкаіць.
Мядзведзь рыкаіць,
Дзевак пужаіць.
Пужай не пужай —
Я не баюся.
Толькі ж баюся
Асенняй ночкі:
Асення ночка —
Разлука мая.
Адлучыць мяне
Ад матулькі,
Прылучыць мяне
Да свякроўкі.
Адлучыць мяне
Ад татулькі,
Прылучыць мяне
Да свёкаркі.
Адлучыць мяне
Ад сястрычкі,
Прылучыць мяне
Да залвічкі.
Адлучыць мяне
Ад брацетка,
Прылучыць мяне
Да дзеверка.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 4. ЯК У БАРОЧКУ

Як у барочку,*
Люлі, рана,**
Пры беражочку,

Мядзведзь рыкаіць,
Мядзведзь рыкаіць.

Мядзведзь рыкаіць,
Дзевак пужаіць.

Рыкай не рыкай —
Я не баюся.

Толькі баюся
Асенняй ночкі:

Асення ночка
Цёмна, вяліка,

Цёмна, вяліка
Наша разлука.

Да й разлучаіць
З айцом і маці,

З айцом і з маці,
З братам, сястрыцай.

Да прылучаіць
К свёкру, свякроўцы,

К свёкру, к свякроўцы,
К дзевер, залоўцы.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля першага радка кожнай страфы.

## 5. А Ў ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ МЯДЗВЕДЗЬ РЫКАЕ

А ў цёмным лесе мядзведзь рыкае,
Мядзведзь рыкае, дзевак пужае.
Рыкай не рыкай — я не баюся.
А толькі баюся асенняй ночкі,
Асенняй ночкі, сватняй ручкі:
Сватняя рука — разлука мая.
Адлучыць мяне ды ад дзевачак,
Прылучыць мяне ды да жоначак.

## 6. ТАМ ПАД БОРАМ-ЛЕСАМ

Там пад борам-лесам,
Там мядзведзь рыкае,
Цёмна, позна,
Там мядзведзь рыкае.

У маладой малодкі
Свякроўка ліхая,
Цёмна, позна,
Свякроўка ліхая.

— А таму мядзвёдку
Саладзін падкіну,
Цёмна, позна,
Саладзін падкіну.

Я сваю свякроўку
Пярынай прыкрыю,
Цёмна, позна,
Пярынай прыкрыю.

Няхай той мядзвёдка
Саладзіны смокча,
Цёмна, позна,
Саладзіны смокча.

Хай мая свякроўка
Пад пярынай квокча,
Цёмна, позна,
Пад пярынай квокча.

## 7. ОЙ, У ЛЕСЕ, ЛЕСЕ

— Ой, у лесе, лесе,
Там мядзведзь рыкае,
Ой, будзе табе, Манечка,
Ды свякроў ліхая.

— А я таму мядзведзю
Саладзін падкіну,
А сваю свякроўку
У пярыну ўкіну:

«Смакчы, смакчы, мядзведзю,
Хоць разарвіся.
Спі, мая свякроўка,
Хоць не прачніся».

## 8. А ЗА ЛЕСАМ, ЛЕСАМ, ТАМ МЯДЗВЕДЗЬ РЫКАЕ

— А за лесам, лесам, там мядзведзь рыкае,
Будзе твая, дзевачка, свякроў ліхая.

— Да няхай ліхая, я таму не дбаю,
Я таму мядзведзю саладзін падкіну,
Саладзін падкіну,
А я тую свякроў у пярыну кіну.

Няхай той мядзведзь саладзіны смокча,
А тая свякроўка ў пярыне квохча.

Яна будзе бурчаць, а я буду маўчаць,
Яна будзе гаварыць, а я буду наравіць.

## 9. АХ ТЫ, ЦЯЦЕРА, ТЫ ЦЯЦЕРА

— Ах ты, цяцера, ты цяцера,
Люлі, рана, ты баравая,
Казалі, ў цябе, (2)

Люлі, рана, ножка крывая.
— Я сваёй ножцы, (2)
Люлі, рана, ды пагадаю:
Пад гару лётма, (2)
Люлі, рана, а з гары котма.
— Ах ты, дзяўчынка, (2)
Люлі, рана, ты маладая,
Казалі, у цябе, (2)
Люлі, рана, свякроў ліхая.
— Я сваёй свякроўцы, (2)
Люлі, рана, ды пагадаю:
Кароў падаю, вады прынясу.

## 10. МЯДЗВЕДЗЬ КАРЎ ДЗЯРЭЦЬ

Мядзведзь кару дзярэць,
Маруся ваду бярэць.
Нашто мядзведзю кара,
Нашто Марусі вада?
Кара — у печы паліць,
А вада — есці варыць.

## 11. ВЯДЗМЕДЗЬКА КАРУ ДЗЯРЭЦЬ

Вядзмедзька кару дзярэць,
Дзевачка ваду бярэць.
— Нашто табе, вядзмедзька, кара?
— Хату крыці, зімаваці.
— А нашто табе, дзевачка, вада?
— У хаце мыці, сватоў ждаці.

## 12. АЙ, У БАРУ ЦЕЦЯРУК БАЛБОЧЫЦЬ

Ай, у бару цецярук балбочыць,
А ён з бору ляцеці не хочыць:
Ай, у бару ягодкі салодкі,

У крыніцы вадзіца сцюдзёна.
Гапулька ад маткі ісці не хочыць:
У матулькі позняе ўставанне,
У матулькі ранняе ўкладанне,
А ў матулькі гладкае часанне,
У матулькі бела ўмыванне,
У матулькі ранняе сняданне.
У свякраткі такога не будзіць:
У свякраткі позняе ўкладанне,
У свякраткі ранняе ўставанне,
У свякраткі не бела ўмыванне,
У свякраткі не гладка часанне,
У свякраткі позняе сняданне.

## 13. У БАРУ-БАРОЧКУ ЦЕЦЯРУК БАЛБОЧЫЦЬ

У бару-барочку цецярук балбочыць,
А з барочку вылятаць не хочыць.
А хоць хочыць не хочыць — паляціць,
Як саспеюць у барочку ягады,
Як замерзне ў крыніцы вадзічка.

## 14. У БАРУ ЦЕЦЯРУК БАЛБОЧЫЦЬ

У бару цецярук балбочыць,
Ён сы бору ляцеці не хочыць:
У бару мядкі салодкі,
А ў крыніцы сцюдзёна вадзіца.
Яму ў полі такаво не будзіць.
Аўгінька ад маткі ісці не хочыць:
Ёй жа ў мамкі нега вяліка,
У свякроўкі такаво не будзіць.
Свякроўка, вышаўшы на вулку, абсудзіць:
— Негадзяй нявестка, негадзяй,
А казалі, нявестка дасужа:
Белы кужаль прала — драмала,
Красёнцы ткала — ірвала,
Палатно бяліла — гнаіла.

## 15. А НА БАРУ ЦЕЦЯРУК ГАЛДЗІЦЬ

А на бару цецярук галдзіць,*
А ён з бору ляцеці не хочыць:
А ў барочку ягадкі салодкі,
А ў крыніцы вадзіца сцюдзёна.
— А я ў бару ягадак наемся,
А ў крыніцы вадзіцы нап'юся.
А Тонечка ад мамкі йсці не хочыць:
— А мне ў мамкі вялікая нега,
А ў свякроўкі такое не будзець,
А раненька на ніўку пабудзіць,
А вышаўшы на людзі, абсудзіць:
«А санліва, драмліва нявестка,
А раннюю зараньку праспала,
Вячэрнюю зару прагуляла».

## 16. ДА У БАРУ ЦЯЦЕРКА САКОЧА

Да ў бару цяцерка сакоча,
Ой, божа мой, божа, сакоча, **
Да яна ж з бору ляцеці не хоча:
І ў бару ягадкі салодкі,
Да ў бару вадзіца-крыніца,
Да ў лузе калінка горкая,
Да ў лузе вадзіца мутная.
Да плача жа Марыська, плача,
Ад матулькі ехаці не хоча:
Да ў матулькі петухоў не чула,
А ў матулькі зарыцы не знала,
А ў матулькі вадзіца блізенька,
А ў матулькі вядзеркі лягенькі,
А ў матулькі парожкі нізенькі.
У свякрові петухоў пачула,
А ў свякрові зарыцу пазнала,
А ў свякрові вадзіца далёка,
А ў свякрові вядзёркі цяжкія,
А ў свякрові парожкі высокі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка з апошнім яго словам.

## 17. ЖУРАВЫ ЛЯТУЦЬ

Журавы лятуць,
Палудзень нясуць —
Будзем мы палуднаваць.
Журавы селі,
Палудзень з'елі —
Нечага палуднаваць.
Мамачка ідзе,
Палудзень нясе —
Будзем мы палуднаваць.

## 18. А НА ГАРЭ ДЗЕУКА ПШОНКУ ЖНЕ

А на гарэ дзеўка пшонку жне.
— Сцеражыся, дзеўка, тучка йдзе.
— А я гэтай тучкі не баюся:
Гэта тучка — свякроў мая,
А дробны дожджык — дзевер мой,
А буйны вецер — свёкар мой.

## 19. А З ЛУГУ, З ЛУГУ ДОЖДЖ ІДЗЕЦЬ

А з лугу, з лугу дождж ідзець,*
З-пад цёмнай хмаркі пярун б'ець.
— Ці не баішся, Васілька?
— Каго я буду баяцца?
Гэта не пярун, а татка мой,
Ды ён жа мяне не заб'ець.
Ды ён жа мяне не заб'ець,
Ды й шчасцем-доляй абашлець.

* Кожны радок паўтараецца.

## 20. НА ДАЛІНЕ

На даліне
Тры Кацярыны
Ячмень жнуць.

Сонца нізенька,
Вечар блізенька —
Не дажнуць.

А зраўнуй, божа,
Ай, гару й даліну
Раўненька.

Прынясі, божа,
Маю мамачку
Раненька.

Ай, хоць раненька,
Ай, хоць позненька,
Ай, рана.

Я сваю мамачку,
Ай, па галасочку
Спазнаю,

Па галасочку
І па платочку
Спазнаю.

## 21. ПАСАДЖУ ЯВАРА У НЯДЗЕЛЮ РАНА

Пасаджу явара ў нядзелю рана,
Расці, расці, яварэц, буду палівацi,
Любіў казак дзеўчыноньку, здумаў пакідаці.
На крутую горушку гуляці хадзіла
Да праваю ручкаю краскі зрывала,
А леваю ручкаю атыкалася,
У нова люстэрка ўглядалася,
Сама сваёй красаце дзівавалася:

— Краса ж мая, красата, дзе ты дзелася?
Чы ж я цябе, мая урода, ў карчме прапіла?
Чы з харошым моладцам час прастаяла?

## 22. УЗЫДЗІ, ЎЗЫДЗІ, ЯСНЫ МЕСЯЧЫК

— Узыдзі, ўзыдзі, ясны месячык,
Найбольшае кола.
Ой, выйдзі, выйдзі, дзяўчына-душа,
Пагаворым мы слова.
— Як жа мне выйсці, пагаварыці?
Аб нас людзі гавораць.
Я, маладзенька, у мамкі адна,
Я баюся ліхога.
— Няхай жа судзяць, няхай гавораць,
Нагавораць ліха,
А мы з табою, дзяўчына мая,
Кахаймася ціха.
— Мы кахаліся, мы любіліся,
Нас мамка не знала,
А цяпер жа нам расставаціся,
Як цёмная хмара.
Мы кахаліся, мы любіліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
А цяпер жа нам расставаціся,
Як ягадкам у лесе.

## 23. ДЫ УЗЫЙДЗІ, УЗЫЙДЗІ, ЯСЕН МЕСЯЧЫК

— Ды ўзыйдзі, узыйдзі, ясен месячык,
Як млынава кола.
— Хоць не ўзыйду, хоць я ўзыйду,
Я свяціці не буду.
— Выйдзі, дзяўчына, сэрца ядына,
Пагаварым мы з табою.
— Не буду стаяць, не буду чакаць,
Не буду гаварыці:
Я й сама знаю, мне й людзі гавораць,
Што з табою мне не жыці.

## 24. ДА ЎЗЫДЗІ, ЎЗЫДЗІ

— Да ўзыдзі, ўзыдзі,
Ясен месячка,
Як млыновае кола.
Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, маліна,
Да прамоў ка мне слова.
— Рада я выйсці, пагаварыці —
Мне тваё слаўцо міла,
Усе людзі судзяць, усе гавораць,
Каб цябе не любіла.
Да няхай судзяць, да няхай гавораць,
Хоць па ўсім белым свеце,
А я, малада, ў сваёй мамачкі,
Як у ружовым цвеце.

## 25. НА МОРЫ, НА СІНІМ АЗЕРЫ

На моры, на сінім азёры,
Там Іван белых лебядзей страляіць,
Ён дзеваньке правым вокам міргаіць.
— Ці ўдаваліся, мая дзевіца, да цябе?
— Ўдаваліся нежанатыя панічы.
Я ж тымі панічамі гардзела,
За цябе, маго Ванечку, хацела.

## 26. ХАДЗІЛА ДЗЕВАНЬКА

Хадзіла дзеванька
Каля рэчанькі,
Крыкнула, гукнула
Перавознічку.
Адклікнуўся, адгукнуўся
Яе міленькі:
— Я ж к табе, мілая,
Чаўнаком плыву.
— На тваім чаўночку
Я не плавала.

— Я ж табе, мілая,
Масты машчу.
— Па тваім масточкам
Я не хадзіла.
— Я ж табе, мілая,
Конікаў пашлю.
— На тваіх коніках
Я не ездзіла.
— Я ж табе, мілая,
Баяроў пашлю.
— З тваімі баярамі
Я не знаюся.
— Я ж к табе, мілая,
Сокалам ляту.
— Я ж к табе, мілы мой,—
Перапёлачкай.

## 27. Я Ў БАРУ ВАДУ БЯРУ

Я ў бару ваду бяру,
Вецер воду да вылівае.
З вядра вада да выліваецца,
Не ведае ацец, маці,
Хто да мяне заляцаецца:
Чы паповіч, чы дзяковіч,
Чы харошы мужыковіч.
Я роду шляхецкага,
Люблю сына ацецкага.

## 28. У КАГО БАЦЬКА, У КАГО МАТКА, ТАМУ ЛЮБА ПАГУЛЯЦЬ

У каго бацька, у каго матка, таму люба пагуляць,*
У каго брацця да сястрыца, таму люба пасядзець.
А ў мяне, сіраціны, нету роду ніякога,
Толька ў мяне ўсяе радні — адзін міленькі дружок.

* Кожны радок паўтараецца.

Пайдзём, мой міленькі, да ў зялёны сад,
Нашчыплем, мой міленькі, хмелю ярага,
Наварым мы, мой міленькі, піва п'янага,
Мы сядзем жа, мой міленькі, за цісовы стол,
Мы вып'ем жа, мой міленькі, піва п'янага,
Людзі відзюць, пра нас скажуць,
Што мы добрага роду.

## 29. ЖУРЫЦЬ-БРОНІЦЬ МЯНЕ МАЦІ

Журыць-броніць мяне маці,
Што позна гуляю.

А я позненька гуляю,
Добры розум маю.

Во на ціхенькім Дунаю
Каня напаіла.

Во конь вароны вады не п'ець,
Дарожачку чуіць.

Чую-знаю, мой міленькі
З другою начуіць.

Начуй, начуй, мой міленькі,
Начуй, абнімайся,

А на мяне, маладую,
Ты не забывайся.

## 30. ЯК ПАГНАЛА КАЦЯ

Як пагнала Каця
Волы на дубровы,
Да й пасвіўшы ж волы,
Легла да й ж заснула.

А прачнулася Каця —
Валы пацярала.
Да й пашла ж Каця
Волікаў шукаці.
Не найшла ж яна вала,
А найшла ж яна варана.
— Гой ты, воран чорны,
Ты сядзіш высока,
Ой ты, воран, ты, воран,
Ці відзеў ты вала?
— Я валоў не відзеў,
Відзеў твайго бацьку.
Ён па двару ходзіць,
Белы ручкі ломіць:
«Будуць у мяне валы,
Валы палавыя,
Будуць у мяне валы,
Валы палавыя,
А свайго дзіцяці
Навек не відаці».

## 31. ЦІ НЕ ЖАЛЬ ТАБЕ, ЯВАР

— Ці не жаль табе, явар,
Сваёй белай бярозанькі.
Ай, жа тваю бярозаньку,
Ай, пасеклі, парубалі.
— Хай сякуць, хай рубаюць,
Толькі вецця не чапаюць.
— Маладзенькі Іванька,
А ўжо тваю дзевачку
Да другія спалюбілі.
— Няхай любяць, хоць не любяць,
Толькі не цалуюць,
Яе лічанька не псуюць.

## 32. ОЙ, ДУБ ЗЯЛЁНЫ І ЛІСТ ШЫРОКІ

Ой, дуб зялёны і ліст шырокі
І нічоганька не гаворыць, (4)
Толькі лісцейкам шаволіць. (2)

— Хто цябе сякець-рубаіць?
— Няхай сякуць і рубаюць,
Толькі тростак не кідаюць.
— Якаво табе, малойчык,
Што тваю дзяўчынку любяць?
— Няхай любяць і галубяць,
Толькі ліцо не цалуюць.
Яе лічка, як брусьнічка,
Сама дзеўка невялічка.

## 33. ЁСЦЬ У ПОЛІ ТРЫ ДАРОЖКІ РОЗНЫХ

Ёсць у полі тры дарожкі розных,*
Ой, і хадзіў парань да дзевачкі позна.
— Ой, прашу цябе, не хадзі да мяне:
Ой, пройдзець слава пра цябе, пра мяне.
— Ой, тае славы павек не баюся,
Ой, [illegible] кім люблюся, з тым і ажанюся,
Ой, з кім я знаюсь, з тым [illegible] павянчаюсь.
Ой, павянчаўшы, пойдзем да шынкаркі.
Ой, шынкарачка шырыначку шыла,
Ой, яна шыла, сваю дочку ўчыла.
За ракою маці палотны бяліла,
Ой, там Дунька венчык свой прызабыла.
Ой, 'ткуля ўзяўся казак маладзенькі,
Ой, узяў Дунькін венчык зеляненькі.

## 34. БЫЛІ У ПОЛІ ДЗВЕ ДАРОЖКІ ТОРНЫХ

Былі ў полі дзве дарожкі торных,*
Хадзіў казак да дзевачак позна.
— Ты, казача, не хадзі да мяне:
Будзе худа слава пра цябе і пра мяне.
— Тыя славы павек не баюся,
Не нагаваруся, з кім люблюся,
З кім я знаюсь, пайду павянчаюсь.

* Кожны радок паўтараецца.

## 35. ПАД ГАРОЮ ДВА ДУБОЧКІ НІЗКА

Пад гарою два дубочкі нізка,*
Хадзіў хлопец да дзяўчыны блізка.
— Прашу цябе, не хадзі да мяне:
Пройдзе слава пра цябе й пра мяне.
— А я, мальчык, славы не баюся,
З кім люблюся, із тым ажанюся.
Каго люблю, таго й пацалую,
Падарачак яму й падарую,
Падарачак — залато калечка.

## 36. ПА ДАЛІНЕ ГАЛУБОК ЛЯТАЕ

Па даліне галубок лятае,
Ой, па даліне галубок лятае, **
Хлопец дзеўкі праўдачкі пытае:
— Скажы, дзеўка, ці ты сіраціна,
Што ты сабе славы нарабіла,
З тае славы дзіцяці радзіла?
— Кіну-брошу дзіцяці ў люльку,
Сама пайду з дзеўкамі на вулку.
Кіну-брошу дзіцяці ў крапіву,
Сама пайду з казакамі на Украіну.

## 37. ПА ГАРОДУ ДЗЯЎЧОНАЧКА ХОДЗІЦЬ

Па гароду дзяўчоначка ходзіць,
Расадачку сеіць.
— Узыйдзі, узыйдзі, расадачка, скора.
Мне імецца: ні з кім не стаяла,
А на ручачках дзіцятачка стала.
Кіну-брошу дзіцятачка ў крапіву,
А сама пайду з казакамі на Украіну.
А па чаму ж, казакі, вы званалі,

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца з выгукам «Ой».

Што мяне, чужаземачку, звалі?
— Твайго бацькі на кватэры стаялі,
Мы з табою на адной пасцелі спалі.

## 38. ПАШЫ, ДЗЕВАНЬКА, ШЫРОКІЯ РУКАВЫ

— Пашы, дзеванька, шырокія рукавы,
Штоб было йдзе класці нявіннае славы.
— Пасею я тры лёшкі цыбулі,
Каб мае асуднічкі судзілі да паснулі.
Пасажу я тры калівы бобу,
Каб мае асуднічкі не выжылі году.
Пасею я тры лёшкі шалвея,
Каб мае асуднічкі ўсе пашалелі.
Бог дай таму трылетняя трасца,
Хто судзіць і гаворыць аб чужоя шчасце.
Бог дай таму тры леты хварэці,
Хто судзіць і гаворыць аб чужыя дзеці.

## 39. ВЫ ПАДУЙЦЕ, ВЕТРЫКІ, ПА ДАЛІНУШКЕ

Вы падуйце, ветрыкі, па далінушке *
На маё на лічанька на бяленькае,
На маё сярдэчушка рацівенькае.
А ўжо маё лічанька запылілася,
Мілая па міламу затужылася.
Справаджу я мілага хоць да Кіева,
Я з Кіева з горада хоць да Піцера.
Я ў Піцеры ў горадзе станавілася,
Вараныя конікі прытаміліся,
Шчыровы сядзелушкі запыліліся.
Чыя гэта парачка разлучылася?
Разлучылась парачка палюбоўнічкаў.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 40. ТРАВАЧКА-МУРАВАЧКА

Травачка-муравачка
Рассцілаецца, у-у-у...
Мой мілы ў дарожаньку
Сабіраецца, у-у-у...*

З усімі суседзямі
Ён прашчаецца,
Са мной, краснай дзевачкай,
Не расстанецца:

— Прашчай, прашчай, дзевачка,
Прашчай, жысць мая.
Праважу я мілага
Аж да Кіева.

А ў горадзе Кіеве
Станавіліся,
Вараныя конікі
Прытаміліся.

Уся аграмадачка
Удзівілася,
Чыя ж гэта парачка
Разлучылася:

Ці муж з жаною,
А ці брат з сястрою,
Ці добры маладзец
З краснай дзевіцай?

## 41. А НА ДВАРЭ ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕЦЬ

А на дварэ вечар вечарэець,
Маё сэрца па дзяўчонцы млеець,
Яно ныець, занываець.
Прывяжу я каня к тычыне,
А сам пайду да краснай дзяўчыны:

---

* Кожны другі і чацвёрты радок куплета загукваюць.

— Добры вечар, мая чарнаброва,
А ці дома твая горка доля?
— Дома доля, вячэру гатовіць,
Згатаваўшы, спаці кладзецца.
Худой долі ў пярынах ляжаці,
А нуда малайцу пад сцяною стаяці,
Мароз ціснець, боцікі сціскаець.

## 42. ДУМА МАЯ, ДУМУШКА

Дума мая, думушка,
Думаць дзеўцы нечага,
Любіць дзеўцы некага.
Любіла б я старога,
Дык старога не хочацца.
Любіла б я малога,
Малога не прыходзіцца.
Любіла б я роўнага,
Роўны скора жэніцца,
Любоў пераменіцца.

## 43. ЧЫЯ Ж ТО ПШАНІЦА

Чыя ж то пшаніца,
Што колас пахіліўся?
То ж таго казака,
Што шчэ не жаніўся.*

Да чыя ж то пшаніца,
Што доўгі загоны?
То ж таго казака,
Што чорныя бровы.

Да чые то валы
Па гары хадзілі?
То ж таго казака,
Што мы ўдзвёх любілі.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Адна я любіла,
Друга зашлюбіла.
Адна я любіла,
Сястра разлучыла.

Бадай цябе, сёстра,
Вада утапіла,
Як ты мяне, сёстра,
З мілым разлучыла.

## 44. ШТО ПАНІЖА ДУБА ЯЧМЕНЬ МАЛАЦІЛА

Што паніжа дуба ячмень малаціла,
Што павыша дуба саломка ляцела.
Як паўз тый дубочак рэчачка бяжыць,
Як па тэй жа рэчачкі чаўночак плывець,
Як у том чаўночку паранёк сядзіць.
Ён чэша кудзерушкі частым грабяшком,
Рэжа і кідае кудзеркі ўніз за вадой:
— Плывіце, кудзеркі, і к маёй мілай.
А там міла ваду брала, кудзеркі паймала.
Спрасіце вы яе, ці тужыць яна па мне.
— Няхай па ім тужыць зямля і вада, не я, малада!
Ён з мяне, маладзенькай, наругіваўся,
Ён крэсаў аганёк з красных маіх губ,
Раскладываў аганёк на грудзях маіх.
— Мілая мая, няпраўда твая:
Я крэсаў аганёк з губы — з крэменя,
Раскладываў аганёк на сырой зямлі.

## 45. ГОЙ, У ПОЛЮ, У ПОЛЮ

Гой, у полю, у полю
Дубочак стаяў,
Гой, а пад тым дубочкам
Ячмень малоцяць.
Гой, а паверх дубочка
Саломка ляціць,

Гой, па той бок дубочка
Рэчанька бяжыць.
А на той рэчаньцы
Лодачка плывець,
А ў той лодачцы
Малодчык сядзіць,
А чэша ён кудры
Частым грабянцом,
Кідае прачосы
На быстру воду.
— Плывіце, прачосы,
Да майго роду.
Там мая мілая
Хусціны мые,
Ужо мае прачосы
Здаўні пазнае.
Вы, мае прачосы,
Накажыце мне,
Ці тужа, ці плача
Мілая па мне.
— Няхай па табе тужа
Човен да вясло,
Штоб майго мілога
Далей занясло.
Няхай па табе тужа
Човен да вада,
Не я буду плакаць
Па табе малада.

## 46. КАЛЯ ДУБУ ХАДЖУ

Каля дубу хаджу,
Ячмень малачу,
Вышэй таго дуба
Саломка ляціць,
Каля таго дуба
Рэчачка бяжыць.
А на той рэчачцы
Чаўночак плывець,
А ў тым чаўночку
Малойчык сядзіць,

Кудзелькі чэша.
Ай, чэша ён, чэша,
Пускае на ваду.
— А плывіце, мае кудры,
Да мае жаны.
Скажыце вы, кудры,
Жане маладой,
Няхай не тужа
Маладая жана.
— Няхай па ім тужа
Агонь ды вада,
Пакуль жа я буду тужыць
Па ім малада.
А віў жа ён вяроўкі
З русых маіх кос,
А цясаў ён цёскі
З белых маіх плеч,
А пускаў ён рэчкі
З дробных маіх слёз.
— Ой, няпраўду кажаш,
Жана малада,
Віў жа я вяроўкі
З лёну і пянькі,
А цясаў я цёскі
З белай бярозкі,
А пускаў я рэчкі
З крыніц, балатоў.

## 47. ЯК У БАРЫ СОСНА

Як у бары сосна
Тонкая вырасла,
А я ў сваёй мамачцы
Яшчэ не дарасла.
Ох, я не дарасла,
Яшчэ маладая,
Стрэла мяне доля,
Долечка ліхая.
Была ў мяне каса,
Каса да пояса.
Вырваў мілы касу

Паваласу.
Ох, пайшла я, млада,
У сад, у садочак
Ды прабіла ножку
Аб быль-быліначку.
Баліць мая ножка,
Баліць яна больна,
Любіў парань дзеўку
Сколькі заўгодна.
Любіў жа ён дзеўку
На час, на часочак,
А сам сеў, паехаў
У горад, гарадочак,
А за ім дзяўчонка
Услед, у слядочак.
Гнала дзяўчо, гнала,
Гнала, не дагнала
Ды у паўдарожкі
Начаваці стала.
Начаваці стала,
Крэпка прызаснула,
Казача прыехаў,
Дзяўчынка не чула.
— Устань, устань, дзяўчо,
Устань, прабудзіся
Ды на мае коні,
Коні наглядзіся.
Ды на мае коні,
Коні вараныя,
Ды на мае сёдлы,
Сёдлы залатыя.

## 48. ОЙ, УЗЫДЗІ, УЗЫДЗІ

— Ой, ўзыдзі, ўзыдзі,
Зоранька вячорная,
Ой, выйдзі, выйдзі,
Дзеванька надобная!

— А як я маю
Да цябе выхадзіці,

Свае ножанькі
Марозам маразіці?

— Не бойсь, дзеванька,
Я цябе не змарожу,—
Шапачку здыму,
Твае ножанькі ўложу!

Мая шапачка
Не вельмі дарагая —
За два таляры,
Дзеванька маладая!

## 49. ОЙ, ПАВЕЙ, ПАВЕЙ, БУЕН ВЕЦЯРОЧАК

— Ой, павей, павей, буен вецярочак,
Са зялёнага гаю, (2)
Ой, прыбудзь, прыбудзь, душачка-малойчык,
Са далёкага краю. (2)
— Ой, і рад бы я, вецярок, павеяць,
Дык не хіляцца лозы, (2)
Ох, і рад бы я, душачка, прыбыці,
Дык і мой край далёкі. (2)
— Край далёкі, вір глыбокі,
Б'юць халодныя ключы, (2)
Надаела мне, надакучыла
Ды міленькага ждучы. (2)
Ох, і ждала, ждала ды не дождала,
Чорну галку паслала. (2)
Ох, ляці ж, ляці ты, чорная галка,
Ды й на Дон рыбу есці,
Прынясі ж ты мне, чорная галка,
Ад майго ад мілага звесці.

## 50. ЛЯЦІ, ЛЯЦІ, ЧОРНАЯ ГАЛКА

Ляці, ляці, чорная галка,
На Дон рыбу есці.

Нясі, нясі, чорная галка,
К міламу звесці,
Ой, звесці.

Скажы, скажы, чорная галка,
Што я тут не плачу,

Як выйду за вароты,
Дык я свету не бачу.

Па свайму па міламу
Штовечара плачу.

## 51. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, СІВЫ КОНІКУ

Ой, заржы, заржы, сівы коніку,
Да на пашаньку ідучы,
Чы не зачуе мая дзеўчына,
З руты вяночак ўючы.
Яна зачула, цяжка ўздыхнула
І сільненька заплакала:
— Чаму ж не прыйшоў  чы не прыехаў?
Я цябе ўчора чакала!
Відна, Ясеньку маладзюсенькі,
Ты конічка не маеш?
Чы мо да мяне, маладзюсенькай,
Дарожанькі не знаеш?
Чы ад матулі ад старэнькае
Пазваленечка не маеш?
— Я коніка маю, дарожку знаю,
Пазваленечка маю,
З меншай сястрой, сваею роднаю
Нігды ладу не маю.
Меншая сястра, бадай не зрасла,
Мне гэта, ой, выпытала,
З майго коніка вараненькага
Сядзелачка схавала.

## 52. ЧАМУ НЕ ПРЫБЫЎ, ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ

— Чаму не прыбыў, чаму не прыйшоў
На мае заручынькі?
Ці коні не меў, ці ехаць не хацеў,
Ці мамка не пусціла?
— Я конікі меў і ехаць хацеў
І мамачка выпраўляла,
Меншая сястра, лет не дарасла,
Яна мяне не пусціла:
«Не едзь, брацітка, не едзь, родненькі,
Ды да той нягодніцы,
З'ездзіш конікі вараненькія,
Па полю гарцуючы,
Стопчаш боцікі казловенькія,
З паненкай танцуючы,
Зносіш шапачку бабровенькую,
Галоўку скланяючы,
Змочыш хустачку шаўковенькую,
Слёзачкі ўціраючы.
Выбярэм табе ў сваім сяле
Добрую работніцу».

## 53. ЧАМУ НЕ ПРЫЕХАЎ, ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ

— Чаму не прыехаў, чаму не прыйшоў?
Ці каня не меў, ці сам не пасмеў,
Ці цябе мамка не пушчала?
— Я й коніка меў, я і сам ды хацеў,
Мяне мамка выпраўляла,
Сястра меншая, каб яна большая расла,
Яна мяне не пусціла.
Вяночка не спляла, хустачкі не дала,
Коніка адпрагла, у стойку завяла,
А мяне спаць паклала:
«Не едзь, братачка, не едзь, родненькі,
Па тую нягодніцу,
Возьмем сабе ў сваім сяле,
Яна будзе работніца».

## 54. ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ, ЧОМ НЕ ПРЫЕХАЎ

— Чаму не прыйшоў, чом не прыехаў,
Як я табе казала?
Ці каня не меў, ці дома не быў,
Ці маці не пускала?

— Ой, я дома быў і коніка меў,
Мяне маці пускала,
Старшая сястра, што замуж пайшла,
Сядзёлка захавала:

«Ой, не едзь, браток, ой, не едзь, родны,
Тае дзеўкі любіці,
Бо тая дзеўка — вялікі гультай,
Не ўмее рабіці:

Ні жыта жаці, ні красён ткаці,
Ні шыці, вышываці,
Ой, толькі яна, маладзенькая,
З хлопцамі жартаваці!»

## 55. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, ВАРАНЫ КОНЮ

Ой, заржы, заржы, вараны коню,
Рана з падвор'я йдучы,
Ці не пачуе млода дзяўчына,
Ў саду вяночка ўючы.

Конічак іржаў, аж явар дрыжаў,
Дзяўчынанька пачула.
Яна пачула, цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала:

— Чаму не прыйшоў ці не прыехаў,
Як я табе казала?
Ці каня не меў, ці дома не быў,
Ці маці не пускала?

— А я дома быў і коніка меў,
Мяне маці пускала,
Меншая сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзёлачка схавала:

«Не едзь, Ясенька, не едзь, брацейка,
Да тае дзяўчынанькі,—
Не ўмее жаці, ні вышываці,
Толькі косу часаці».

— Расці ты, каса, хоць да пояса,
Буду цябе часаці,
Ці не пакіне а мой Ясенька
Мяне верна кахаці!

## 56. ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ, НЕ ПРЫЕХАЎ

— Чаму не прыйшоў, не прыехаў,
Калі я цябе прасіла?
Ці каня не меў, ці сам не хацеў,
Ці мама не пусціла?
— Ды я коніка меў, я ехаць хацеў,
Мамачка выпраўляла,
Меншая сястра, год не дарасла,
Яна мяне не пускала:
«Не едзь, брацейка, не едзь, родненькі,
Супроць цёмнай ночы.
Ты сам не ўбраны,
Твой конік няўдалы —
Ты будзеш асмяяны».

## 57. ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ, ЯК ВЕЧАР НАЙШОЎ

— Чаму не прыйшоў, як вечар найшоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не маў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала?
— А я сцежку знаў, а я каня маў
І маць выпраўляла,
Менщая сястра, дай бог, не ўзрасла,
Сядзельца схавала.
Большая сястра сядзельца нашла

Каня заважжала:
«Едзь, мой брахнінька, едзь, мой родненькі,
К той, катора ждала».

## 58. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, СІВЫ КОНІЧАК

Ой, заржы, заржы, сівы конічак,
Па полі гарцуючы,
Ці не пачуе мая мілая,
Вячэру гатуючы.

А як пачула, цяжка ўздыхнула,
Слёзкамі заплакала:
— Чаму не прыйшоў ці не прыехаў,
Як цябе дажыдала?

Каб жа я была шэрай зязюляй,
Умела кукаваці,
Паляцела б я па белым свеце
Міленькага шукаці.

Прыляцела б я ў вішнёвы садок,
Стала б я кукаваці.
Выйшла удоўка, бедна галоўка,
Ды стала разважаці:

«Пакінь, зязюля, пакінь, шэрая,
Так жаласна кукаваці,
Мне кінуў мілы малыя дзеці,
Няма з кім гадаваці.

Сцялю пасцелю, сцялю белую,
Мне не з кім размаўляці:
Пасцелька бела, а сценка нема —
Да мяне не гавора».

## 59. ОЙ, ЧАМУ НЕ БЫЎ

— Ой, чаму не быў,
Чаму не прыбыў
На мае заручыны? *

Ці дома не быў,
Ці каня не меў,
Ці маці не пусціла?

— А я дома быў,
Коніка карміў,
Мяне маці выпраўляла.

Ё ў мяне сястра,
Лет не дарасла,
Яна ж мяне не пусціла:

«Не едзь, братнейка,
Не едзь, родненькі,
У чужыя людзі далёка.

Там ты увап'ешся,
З каня звалішся,
З цешчухнай пасварышся.

Ай, людзі будуць
Усё прымячаці,
Для цябе смяяціся:

Ай, чый ета сын
Кастыр-п'яніца
Па двару валяецца?

Ай, гэта жа сын
Кастыр-п'яніца
Ды Лявонаў сыночак!»

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 60. УЧОРА НЕ БЫЎ, УЧОРА НЕ БЫЎ

— Учора не быў, учора не быў,
Сягоння не быў,
Знаць, мой міленькі, знаць, мой міленькі
На мяне забыў.
— Яшчэ не забыў, яшчэ не забыў,
Мажа, забуду,
Ў Маскву паеду, ў Маскву паеду,
Сем год прабуду.
З Масквы прыеду, з Масквы прыеду,
Жаніцца буду,
З тою дзяўчонкай, з тою дзяўчонкай
Сватацца буду.
— Дзяўчонка мая, дзяўчонка мая
Заручаная,
Чаго ты ходзіш, чаго ты ходзіш
Засмучаная?
— Таго я хаджу, таго я хаджу
Засмучоная,
Што не на праўду, што не на праўду
Заручоная.

## 61. ОЙ, ПРЫДЗІ, ПРЫДЗІ, ОЙ, ТЫ ДА МЯНЕ

— Ой, прыдзі, прыдзі, ой, ты да мяне,
Мой маладзенькі хлопча,
Бо ўжо да мяне, маладзенькай,
Другі дарожку топча.
Топча дарожку да й невялічку
Да самае паўночы,
А выплакала я па міламу
Свае чорныя вочы.
— Ці добра было, дзяўчына мая,
Мёд, гарэлачку піці?
Сягоння не хочаш, маладзенькая,
Са мною гаварыці.
— Ой, не многа я, мой міленькі,
Мёд, гарэлачку піла,
Адну чарачку і паўчаркі —

І за тую заплаціла.
Ой, ці многа я, мой міленькі,
Падарунакчі брала?
Адны панчошкі і чаравічкі —
І тыя не стаптала.

## 62. ОЙ, НА ГАРЭ ЯЧМЕНЬ ЖАЛА

Ой, на гарэ ячмень жала,
Снапоў не вязала,
Каго верна любіла,
Праўды не казала.
Тагды буду ячмень вязаць,
Як месяц узойдзіць,
Тагды буду праўду казаць,
Як ён мяне возьмець.
Вышла дзеўка за варота,
Думушку думаіць,
А за ёй бел малойчык,
На скрыпачку граіць.
— Ты, дзявіца-красавіца,
Гардуіш ты мною!
Будзіць тваё гардаванне
Усё перад табою,
Будуць твае русы косы
Пад маёй нагою:
Будуць твае русы косы
Усе паразвяваны,
Будуць твае дробны слёзы
Усе паразліваны.
Ой, не стой, не стой,
Вербанька, над вадою,
Зімная вада,
Крыніца пад табою.

## 63. ОЙ, ТАМ НА ГАРЭ

Ой, там на гарэ
Два галубочкі ўюцца,
За мяне, маладу,
Два кавалеры б'юцца.

Ой, няхай б'юцца,
Хоць пазабіваюцца,
На мяне, маладу,
Няхай не спадзяваюцца.

Ой, пайду, пайду,
Куды летам хадзіла,
Ой, ці не знайду,
Каго верна любіла.

Калі не яго,
То таварыша яго,
Папытаюся
Пра здароўе мілога.

Галоўка баліць —
Пабаліць, перастане,
А горкі мой быт
Да сэрданька дастане.

Ой, пайду, пайду
Гарою, даліною,
Ой, ці не знайду
Вербанькі над вадою.

### 64. ОЙ, ТАМ НА ГАРЭ

Ой, там на гарэ,
На белай крамяніцы,
Там танцавалі
Дзеванькі, маладзіцы.

А паміж імі
Малады Яся ходзіць,
Сваю Касеньку
За белу ручку водзіць.

— Мая Касенька,
Не ганьбуй жа ты мною,
Мы жыць будзема,
Як галубочкаў двое!

— Рада б я была
Табою не ганьбіці,
Але будзе мяне
Мая матанька біці!

— Я тваe маткі
Не вельмі-то баюся,
Кіну шапку да ног
Ды вазьму пакланюся!

Мая шапачка —
Яна не дарагая,
За сто таляроў,
Дзеванька маладая!

## 65. ОЙ, РАЗВІСЯ ТЫ, ДЫ СУХІ ДУБЕ

— Ой, развіся ты, ды сухі дубе,
Ды на чатыры лісці,
Ой, любіў, любіў я дзве дзеванькі,
Ды не меў з іх карысці.

Адну я любіў ды на Валыні,
А другу — на Украіне,
Ой, разрэзалі мае сэрданька
Ды на дзве палавіны.

Ой, узыдзі, узыдзі, ясны месячык,
Як млыновае кола,
Перагавары, люба дзеўчына,
Да мяне адно слова!

— Я выхадзіла, я гаварыла,
Мой бяленькі Дунаю,
Людзі гавораць, я сама знаю,
Што не жыць нам з табою.

— Няхай гавораць, няхай гавораць
Хоць па цэлым свеце,—
Я цябе любіў і любіць буду,
Мой ружовенькі цвеце!

## 66. ПАЦЯГ ТУМАН ПА ДАЛІНЕ

Пацяг туман па даліне,*
Шырок лісцік на каліне,
Яшчэ шыршы на дубочку,
Кліча голуб галубачку,
Хоць не сваю, чужую:
— Хадзі, сэрца, пацалую.
— Нашто чужу цалаваці,
Сваёй жалю задаваці.
Не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, вазьме другі,
Не другі, возьме трэці,
А не трэці, то чацвёрты,
Не чацвёрты, возьме пяты,
Не ты, шэльма, распракляты.

## 67. ПАЙШЛА, ПАЙШЛА КРАСНАЯ ДЗЕЎКА

Пайшла, пайшла красная дзеўка,
Да гэй, у лясочак
Да прабіла правую ножку,
Да гэй, на трасочку.

Баліць, баліць правая ножка,
Да гэй, да не больна,
Палюбіла краснага малойца,
Да гэй, ненадоўга.

Здалі, здалі краснага малойца,
Да гэй, у салдаты,
Забылася я, маладая,
Да гэй, запытаці.

Забылася я, маладая,
Да гэй, запытаці:
— Ці пазволіш, красны малойчык,
Ты мне пагуляці?

---

* Кожны радок паўтараецца, акрамя апошняга.

— Гуляй, гуляй, красная дзеўка,
Да гэй, як гуляла,
Тапчы, тапчы ты чаравічкі,
Да гэй, як таптала.

Тапчы, тапчы ты чаравічкі,
Да гэй, як таптала,
Не стой, не стой так з малайцамі,
Да гэй, як стаяла!

Бо малойцы, здрадныя людзі,
Да гэй, цябе здрадзяць,
Яны тваю русую косу,
Да гэй, растрапаюць.

Яны тваю русую косу,
Да гэй, растрапаюць,
Яны тваё белае лічка,
Да гэй, памараюць!

## 68. ГУЛЯЛА МАШАНЬКА ПА САДОЧКУ

Гуляла Машанька па садочку
Ды ўскалола ножаньку на вілочку.
Эй-ей-ей баліць, баліць ножанька,
Ды не больна,
Любіў парань дзевіцу,
Ды нядоўга.
Здалі малайца ў салдаты,
А забылася Машанька
Яго папытаці:
— Ці мне замуж выхадзіці,
Ці цябе ждаці?
— Гуляй, гуляй, Машанька,
Як гуляла,
Не кажы хлопцам праўды,
Як казала,
Не сцялі пасцель белу, як слала:
Яны пасцель тваю белу параскінуць,
Будуць любіць ды пакінуць.

## 69. СОНЦА СХОДЗІЦЬ, ТО ДРЭМЛЕЦЦА

Сонца сходзіць, то дрэмлецца,
Спаці хочацца,
Сіў конь бяжыць, але чутка спіцца.
Дзе, мой коню вараненькі,
Дзе мы будзем начаваці,
Да дзяўчыны ліст пісаці?
Ой, запрагу каня ў санкі
Да паеду да каханкі.
Прыязджаем у вароты,
Стаіць дзеўка ў залоце.
Як прыязджаюць перад дзверы,
Яна стаіць на паперы.
Узяла каня за уздэчку
Да павяла на стайнечку,
А казака за ручэньку —
Да ў святлічэньку.
Дала каню аўса й сена,
А казаку — мёду й віна,
Сама села ў канцы стола,
Да казака ні слова.
— Чаго, дзеўка, задумала,
Чорны вочы зарумала?
Чы жаль каню аўса й сена,
Чы казаку мёду й віна?
— Не жалую аўса й сена,
Ні казаку мёду й віна,
Ні смачнае вячэрушкі,
Ні мяккае пасцелюшкі.
Ой, жаль жа мне палюбошчы,
Што не жывем па шчыросці.

## 70. ОЙ, ЗЯЗЮЛЯ РАБАЯ ПА ПОЛЮ ЛЯТАЛА

Ой, зязюля рабая па полю лятала,
Па полю лятала, саколя шукала.
— Саколю, саколю, гардуеш ты мною,
Вецер — далінаю, сонца — калінаю,
Казак — дзяўчынаю.

— Ох, дзень добры, маці!
Чы ўжо донька ў хаце?
— Пашла да крыніцы чэрпаці вадзіцы.
Казак да крыніцы —
Не знаці й расіцы,
Не брана й вадзіцы.
— Ох, дзень добры, маці!
Чы ўжо дочка ў хаце?
— Пашла да садочку шчыпаці лісточку.
Казак да садочку —
Не знаці слядочку.
— Ох, дзень добры, маці!
Чы дочка ў хаце?
— Пашла да каморы пасцеленькі слаці,
— Няхай сцеле, няхай сцеле — ляжама абое,
Будзем гаварыці, як на свеце жыці,
Будзем размаўляці, як век каратаці.

## 71. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ, ДОБРЫ СУСЕДКІ

— Бывайце здаровы, добры суседкі,
Прашу, не судзеце мяне, спамянеце,
Спамянеце мяне добрымі славамі:
Дзе хлопец падзеўся з чорнымі брывамі?
Чы яго забыта, чы да войска ўзята,
Што яго не відна ні ў будзень, ні ў свята?
— Яго не забыта, да да войска ўзята,
Тым яго не відна ні ў будзень, ні ў свята.
— Выйду на пясочак, угледжу слядочак,
Пайду да садочку, нашчыплю лісточкаў
Да пакрыю сваго мілага слядочак,
Каб па яго следу людзі не хадзілі,
Каб маго мілога іншы не любілі,
Каб яго слядка людзі не стапталі,
Каб маго мілога іншы не кахалі.

## 72. ДА КАБ Я, МАЛАДЗЕНЬКІ

Да каб я, маладзенькі,
Я ж бы й век не жаніўся,
Малойчыкам валачыўся,

Кудзеркамі апусціўся
Ды й часаў бы кудзеркі
Частым-густым грабяшэчкам,
Ды й пушчаў бы кудзеркі
Ды на ціхі Дунаёчак.
Ды й плывіце, кудзеркі,
Вы па ціхім Дунаёчку.
А там дзеўка воду брала
Ды ўчарпнула кудзеркі
Ды ў чысовыя вядзеркі.

### 73. А У ЧЫСТЫМ ПОЛІ

А ў чыстым полі,*
А ў чысцюсенькім,
Там кусты густы
Усе й дубовыя,
Цвілі цвяточкі
Усе ружовыя.
Вырву цвяточак,
Саўю вяночак,
Саўю вяночак
На галовачку,
Свайму першаму
Палюбоўнічку.
Як мяне любіў,
Так шчаслівы быў,
Любіць перастаў —
Ён няшчасны стаў.
Ён няшчасны стаў,
У цюрму папаў.

### 74. А У ЧЫСТЫМ ПОЛІ

А ў чыстым полі *
Усе кусты густы,
Усе кусты густы,

* Кожны радок паўтараецца.

Усе дубовыя,
На іх цвяточкі
Усё ружовыя.
Сарву цвяточак,
Саўю вяночак,
На галовачку
Свайму палюбоўнічку.
Як мяне любіў,
Шчаслівы ён быў,
Перастаў любіць —
Стаў без шчасця жыць:
Па вуліцы ходзіць,
Валанкаецца,
Усім сабакам
Наругаецца.

## 75. КАЦІЛІСЯ ДВА ЯБЛЫЧКІ

Каціліся два яблычкі,
Абодва садавыя,
Любілі мяне два малойчыкі,
Абодва маладыя.
Адзін любіў паўдарожачкі,
А другі з Украіны,
Разлучылася маё сэрданька
На дзве палавіны.

## 76. СКАЦІЛІСЯ ДВА ЯБЛЫЧКА

Скаціліся два яблычка,
Абодва садавыя,
Любілі ж мяне малойчыкі,
Абодва маладыя.
Адзін любіў — хустачку купіў,
А другі — навек згубіў.

## 77. А НА ДУБЧЫКУ ДВА ГАЛУБЧЫКІ

А на дубчыку два галубчыкі,
Ой, рана, рана, два галубчыкі *
Б'юцца, дзяруцца за галубачку,
Каму галубка, каму крылейка.
Каму крылейка — той лятаць будзіць,
Каму галубка — брукаваць будзіць.
А на вуліцы два малойчыкі
Б'юцца, дзяруцца да за дзевачку,
Каму пярсцёнкі, каму дзевачка.
Каму пярсцёнкі — той насіць будзіць,
Каму дзевачка — той з ёй жыць будзіць.

## 78. ПАЙДУ Я У ПОЛЕ

— Пайду я ў поле,
Займу шыроку постаць.
Не з кім мне стаці,
Постаць выганяці.
— Не хадзі, мой сыночак,
Запражы сабе коняў
І едзь жаніцца,
Прывязеш сабе жану,
А мне памочніцу.
Будзем жаць,
І нам будзе бог памагаць,
А мы будзем з радасці спяваць.

## 79. ОЙ, ЛЯЦЕЎ ВОРАН ДЫ ЧОРНАЯ ГАЛКА

Ой, ляцеў воран ды чорная галка,
Ой, нізка над вадою,
Ой, раскажыце, братцы, майму роду,
Што застаў сіратою.
Сіратою небальшою нядаўна застаўся

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

А за тую дзяўчыначку,
Што я заўляцаўся,
Заўляцаўся, верненька ўкахаўся.
А дума ж мая, дума ж мая будзіць,
Ой, цяпер жа мне, парню маладому,
Да й парачкі не будзіць.
Столькі ў мяне, у казачанькі, пары,
Што вочыкі яры,
Столькі ў мяне, у казачанькі, долі,
Што чорныя бровы,
Столькі ў мяне, у казачанькі, шчасця,
Што дзевачка Насця.
Адна была, тую людзі ўзялі,
Мне зазнобушку далі.

## 80. ЗАЖУРЫУСЯ ДОБРЫ МОЛАДЗЕЦ

Зажурыўся добры моладзец
Не па той, не па матушкі,
Не па сваёй горкай долюшкі,
А па сваёй краснай дзевіцы.

Вы найдзіце, тучы цёмныя,
Вы найдзіце, дажджы сільныя,
Вы размыйце жоўтыя пяскі,
Узніміце грабавы даскі.

— Устань, устань, мая мілая,
Мы з табою павідаемся,
На падаркі размяняемся,
Вазьмі свой шолкавы пояс,

Аддай мой залаты персцень.
— Золат персцень у смале скіпеў,
А шолкавы пояс у агні згарэў.

## 81. ОЙ, ПАЙДУ Я МУТЛАВОЮ

Ой, пайду я мутлавою,
Няма дзе вады піці.

Бедна ж мая галованька,
Няма дзе прыхіліці.*

Прыхілюся да дубочка —
Дубачок не ойчанька.

Прыхілюся да бярозкі —
Бярозка не матанька.

Прыхілюся да хвоечкі —
Хвоечка не сястронька.

## 82. АЙ, ХУДА ЖЫЦІ СІРАЦІНЕ

Ай, худа жыці сіраціне
На чужой дальняй старонкі,
Ай, што некаму сіраціне
Галовачкі прыхінуці.
Ай, прыхіну я галовачку
Ка зялёнаму дубочку,
Ай, прыгарну я сярдэчанька
Ка шырокаму лісточку.
Ай, дуб зялёны, ліст шырокі,
Ён нічога не гаворыць,
Ай, ён нічога не гаворыць,
Толькі лісцейкам шаволіць.
Ай, выхадзіла сіраціна
За новыя за вароты,
Ой, вынімала сіраціна
З карманічка рымушочак,
Ай, высекла сіраціна
З рымушочка й аганёчак.
Ай, нету, нету з рымушочка,
Нет іскар'я, ні 'ганёчка,
Ай, нету, нету мне свету,
Нету мілага дружочка.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 83. ШТО ЛЯТАЛА ГАЛУБКА ПА ДАЛІНЕ

Што лятала галубка па даліне,
Ой, што яна раняла сіза пер'е па даліне,
Худа пражыць сіраціне на Украіне,
Што не к каму галоўку прыхінуці.
Ой, прыхіну я галовачку ка дубочку,
Сваё сэрца к шырокаму лісточку.
Дуб зялёны не татачка,
Ліст шырокі не мамачка.
Дуб зялёны не прыгорне,
Ліст шырокі не прыкрые.
Дуб зялёны не жалее,
Ліст шырокі не кахае.

## 84. ХУДА ЖЫЦІ, АЙ, СІРАЦІНЕ НА УКРАІНЕ

Худа жыці, ай, сіраціне на Украіне,
Што лятала галубачка па лужочку,
Што раняла сыза пер'я па даліне.
Худа жыці сіраціне на Украіне,
Што некуды, ай, да галовачку прыхінуць.
Прыхіну я галовачку да дубочку,
Прыгарнуся я к шырокаму лісточку.
— Дуб зялёны, што ты са мной не гаворыш?
Ліст шырокі, што ты мяне не прыгорнеш?
Дуб зялёны не татачка, не гаворыць,
Ліст шырокі не мамачка, не прыгорне.
— Мяне, дуба, буйны ветрыкі калышуць,
Мяне, лісцік, буйны ветрыкі здымаюць.

## 85. ДЗЕ ТАЯ ПТУШКА

— Дзе тая птушка,
Дзе тая маленькая?
Запытаюся:
Дзе мая міленькая?
— Твая мілая

За лесам, за вадою,
Умываецца
Зеллечкам-купіною.
Ой, не паможа
Зеллечка купавое,
Як загарэла
Лічанька ружавое.
Ой, не паможа
Ані мыла, ні вода,
Як загарэла
Твая слічная ўрода.

## 86. ОЙ ТЫ, СІНЕНЬКІ ГАЛУБОЧАК

— Ой ты, сіненькі галубочак,
Дзе бываў, лётаў далёка,
Дзе бываў, лётаў далёка?
Да ці быў жа ж ты на моры?
Ой, ці быў жа ты на моры,
На сінюсенькім азёры?
Да ці быў жа ж ты на азёры,
Да ці відзеў жа ж ты галубку?
— За малым, малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.
Як я на мора ўзляцеў,
Дык яна ў трысцё пала.
А яна ў трысцё ўпала,
А за ёй вада шугала.
— Маладзенькі малойчык,
Дзе бываў, ездзіў далёка,
Дзе бываў, ездзіў далёка?
Да ці быў жа ж ты ў цешчы?
Ой, ці быў жа ж ты ў цешчы,
Ці відзеў жа ж ты паненку?
Да ці відзеў ты паненку
Маладзенькую Паўлінку?
— За малым, малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.
Як я на надвор'е ўз'ехаў,
Дык яна ў камору пашла.
А на ёй жа сукні шалясцелі,

А па ёй хлопцы аж млелі.
А на ёй ленты ліцелі,
Бо яе хлопцы жалелі.

## 87. ОЙ ТЫ, СІЗАНЬКІ ГАЛУБОЧАК

— Ой ты, сізанькі галубочак,*
Што ты рана не лятаеш,
Громкіх песень не спяваеш?

— Ох, і рад бы я лятаці,
Громкі песенькі спяваці —

Паламаў я сваё крылле,
Лятаючы цераз былле,

Павыкалаў свае вочы,
Лятаючы да паўночы,

Пацяраў я галасочак,
Лятаючы да ў лясочак.

— Ох ты, маладзец-малойчык,
Што ты халаст, не жанаты?

— Ох, і рад бы я жаніцца,
Да мне некага ўзяць:

Узяў бы я дзяўчоначку —
Дзяўчонка не пайдзець,

Узяў бы я ўдовушку,
Дак я дзетачак баюся,

Узяў бы я цыганачку —
Цыганачка чорная,

Узяў бы я яўрэечку —
Яна нехрышчоная.

* Кожны радок паўтараецца.

## 88. АХ ТЫ, СІЗЕНЬКІ ГАЛУБОЧЫК

— Ах ты, сізенькі галубочык,
Ты па полечку лятаеш.

Ты па полечку лятаеш,
У маім садзе не бываеш,

У маім садзе не бываеш,
Сладкіх вішань не кушаеш.

— Ах, і рад бы я лятаці,
Тваіх вішань пакушаці —

Пакалоў я сває вочы,
Лятаючы цёмна ночы,

Паламаў я сває крыллі,
Лятаючы цераз былле.

— Выдзі, выдзі, Ваня, з саду,
Раскажу табе дасаду.

Раскажу табе дасаду,
За што мяне маці біла,

За што мяне маці біла,
Не так біла, як журыла,

Не так біла, як журыла,
Каб я Ванькі не любіла,

Каб я Ванькі не любіла,
Каб я к Ваню не хадзіла.

Як любіла, любіць буду,
Павек Ванькі не забуду.

## 89. А ПШАНІЧКА—ЯРЫЦА, ЯРЫЦА

А пшанічка — ярыца, ярыца,
А Юзэтка — п'яніца, п'яніца,
А Агатка міленька, міленька,

Прытуліся блізенька, блізенька.
Як мы будзем туліцца, туліцца,
А людзі скажуць: любіцца, любіцца.
А пад мастом рыба з хвастом,
Вадзіца лілее, лілее,
А Агатка прасці не ўмее, не ўмее,
Шыць, мыць — не навучыць, не навучыць,
А жаць — не прыгнецца, не прыгнецца,
Як увідзіць Юзэтку,
Так і прыхінецца, прыхінецца.

## 90. ОЙ, ЗА ЛЕСАМ, ЗА БОРАМ

Ой, за лесам, за борам,
Ой, за сінім азёрам,
Ой, там сонейка йграе,
З месяцам размаўляе:
— Пытаю цябе, месяцу,
Пытаю цябе, месяцу,
Ці ранёнька ты заходзіш,
Ці позненька усходзіш?
— Што табе, сонейка, да таго,
Да заходу майго?
Я зыду змяркаючы,
А ўзыйду світаючы.
Асвячу неба і зямлю,
Асвячу неба і зямлю
І тое новае сялко.
А ў тым новым сяле
Марыся з Ясем размаўляе:
— Пытаю цябе, Ясеньку,
Пытаю цябе, Ясеньку,
Ці многа коней маеш?
— Аднаго й каня маю,
Аднаго каня маю
І таго не ззымаю.
Пабег конь да крыніцы,
Пабег конь да крыніцы,
Да здраёвае вадзіцы.

## 91. А МОЙ МІЛЫ НА ДАНУ

А мой мілы на Дану,
Я да яго палыну.
— З кім ты, міла, сюды шла,
Што ты мяне тут нашла:
Чы з бураю, чы з дажджом,
Чы з харошым малайцом?
— Ні з бураю, ні з дажджом,
А з харошым малайцом.

## 92. КАЛА РЭЧАНЬКІ Я ХАДЗІЛА

Кала рэчанькі я хадзіла
І ўлавіла ліна,
Не з кім сесці
Й ліна з'есці:
Няма ў мяне міла.
На тым баку Дунай-рэчкі
Казак сена косіць,
Ён мяне, маладыя,
Белыя ручкі просіць.
Не для цябе я рукі мыла,
Бела вымывала,
Для таго я вымывала,
Каго ■ кахала.
Для таго я рукі мыла,
Каго я любіла.

## 93. А КАЛЯ ЛУГУ, ЛУГУ

А каля лугу, лугу *
Там старэнечкі ходзіць,
Сухое дуб'ё ломіць,
Пра сваю старасць мовіць:
— А старасць мая, старасць,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Запрадаў бы я цябе —
Ніхто не купляець.
А каля лугу, лугу
Маладзюсенькі ходзіць,
Сырое дуб'ё ломіць,
Пра сваю маладосць мовіць:
— Маладосць мая, буйнасць,
Прыкупіў бы я цябе —
Ніхто не прадаець.

## 94. ЦЯЧЭЦЬ РЭЧКА, ЦЯЧЭЦЬ РЭЧКА ЖАДУНАЧКА

Цячэць рэчка, цячэць рэчка Жадуначка
З вішнёвага саду,*

Крычыць парань, крычыць парань на дзевачку
К сабе на параду:

— Парадзь, парадзь парадачку,
Як роднаму брату,

Ці цяпера мне жаніцца,
Ці восені ждаці?

— Ці я табе, бел малойчык,
Тады не казала,

Як я ад цябе, маладога,
Гасцінчыкі брала:

Што першы гасцінчычак —
Залаты пярсцёнак,

А другі гасцінчычак —
Кралічак шнурочак,

А трэці жа гасцінчычак —
Шаўковы платочак.

* Кожны другі радок паўтараецца.

## 95. ЯК ПАЙДУ Я У ЛЯСОК

Як пайду я у лясок
Ды й на жоўценькі пясок,
Аёў-аёў-аёў.*

І пушчу я галасок
Ды й на зялёненькі лужок,
Ды й на цёмненькі лясок.

Няхай мамка чуець
Ды й вячэрку гатуець.

Будзець вячэру гатавацъ,
Буду дома начавацъ.

Не будзець гатавацъ,
Не буду дома начавацъ.

Буду ў полі начавацъ
Пад белай бярозкай,

Пад белай, кудравай,
Пад белай, кудравай.

Ой, мая мамка,
Улюбіў мяне Янка.

А я лягу з Петраком,
Накрыюся армяком.

А я лягу з Мішкам,
Накрыюся зніскам.

## 96. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

Ў цёмным лесе
Сядзіць Алеся,
Панчошкі робіць,
У цёмным лесе

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Панчошкі робіць,
Хлопчыкаў зводзіць:
— Хлопчыкі мае,
Хадзіце ка мне.
Раблю панчошку
На вашу ножку,
Раблю панчошку,
На вашу ножку.

## 97. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ, А Ў ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

У цёмным лесе, а ў цёмным лесе
Крычыць Алеся, крычыць Алеся,
Панчошкі робіць, панчошкі робіць,
Хлопчыкаў зводзіць, хлопчыкаў зводзіць:
— Хлопчыкі мае, хлопчыкі мае,
Хадзіце ка мне, хадзіце ка мне,
Дайце панчошкі, дайце панчошкі
Надзець на ножкі, надзець на ножкі,
І рукавічкі, і чаравічкі,
І чаравічкі.

## 98. АВЯСЕЦ, МАМАЧКА, АВЯСЕЦ!

— Авясец, мамачка, авясец!
Калі ка мне бог сватоў прынясець?
— Пажнем, дачушка, авясец,
Тады к табе бог сватоў прынясець,
Судзі, божа, каноплі пабраць,
Тады будзем вяселле гуляць.

## 99. АЙ, АВЯСЕЦ, МАМАЧКА, АВЯСЕЦ!

— Ай, авясец, мамачка, авясец!
Ды калі ж бог сватоў прышлець?
— Увосень, дзіцятка, увосень

Будуць ездзіць па восем.
— Я не буду, мамачка, не буду аўса жаць,
Ды буду, мамачка, сватоў ждаць.
Дзевяць каля варот аб'едзе,
А восем заедзе.

## 100. АВЯСЕЦ, МАМАЧКА, АВЯСЕЦ!

— Авясец, мамачка, авясец!
А калі ж тых сватоў чорт прынясець?
— Дажні, дачушка, авясец,
Тады чорт сватоў прынясець.
Дабяры, дачушка, канапелькі,
Тады прыедзіць к табе маладзенькі.
Дакапай, дачушка, бурачкі,
Тады прыедуць к табе дварачкі.

## 101. АВЯСЕЦ, МАМУХНА

— Авясец, мамухна,
Авясец!
А калі ж чорт сватоў
Прынясець?
— Пачакай, дачушка,
Пажнёмся,
Тады мы сватоў
Дажджомся.
Мы ім вячэрку
Згатуем
Да сваіх сваточкаў
Участуем.
Купленая гарэлка
На куце,
Грыбіны пірог
На стале,
Пражоная яешня
У вагню.

## 102. АВЯСЕЦ, МАМАЧКА, АВЯСЕЦ!

— Авясец, мамачка, авясец! *
Калі бог ка мне сватоў прынясець?
— Пажні, дачушка, авясец,
Тады бог сватоў прынясець.
— Авясец, мамачка, пажала
І ў гародзе канапелькі пабрала,
А й у вочы сватоў не відала.

## 103. А ЗЯЛЁНЕНЬКІ МОЙ АВЯСЕЦ

А зялёненькі мой авясец,*
А каго мне бог прынясець?
А багаты ка мне не едзе,
Беднячок-худачок не смее.
Беднячок-худачок, асмелься,
Кала багатага насмейся.

## 104. А ЗЯЛЁНЕНЬКІ МОЙ АВЯСЕЦ

А зялёненькі мой авясец,*
А каго ка мне бог прынясець?
А калі старога — не хачу,
А калі маладога — біці буду,
А калі ж роўніцу — жыць буду.

## 105. АВЯСЕЦ, МАТУЛЬКА, АВЯСЕЦ!

— Авясец, матулька, авясец!
Калі бог ка мне сватоў прынясець?
— Пажні, дачушка, авясец,
Тады табе бог сватоў прынясець.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пабяры, дачушка, канапелькі,
Прыедзець сваток маладзенькі.
У чацвер авясец дажала,
У пятніцу канапелькі дабрала,
У суботу сватоў даждала,
У нядзелю вяселле згуляла,
У панядзелак з замужжа ўдрала.

## 106. АВЯСЕЦ, ТАТКА, АВЯСЕЦ!

— Авясец, татка, авясец! *
Калі бог сватоў прынясець?
— Увосень, дзіця, увосень
Да будуць ездзіць па восем.
— Сыплюць золата па скам'і,—
Татка золата не бярэць,
Мяне, маладу, не аддаець.

## 107. ПА СТАРАНАХ ДАЖДЖЫ ІДУЦЬ

Па старанах дажджы ідуць,
А ў нас не, **
К чужым дзеўкам сваты едуць,
А к нашым не.
Прайдзець восень, прыедзець восем
І к нам.

## 108. А УЖО К ВОСЕНІ ПРЫХОДЗІЦЬ

А ўжо к восені прыходзіць,
Жодзін па сабе знаходзіць:
Жоднаму дразду па гнязду,

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожныя два радкі паўтараюцца.

Жоднай перапёлке па яйцу,
Жоднаму мальчыку па дзеўке.
Нашаму аднаму Івану дзеўкі нет.
Пасодзім яму удаву —
Завязаную галаву.
Паложым мы аўсяны сноп,
Няхай ён есць, як белка,
Няхай плачыць, як дзеўка.

## 109. ЗІМА К ВОСЕНІ ПРЫХОДЗІЦЬ

Зіма к восені прыходзіць,*
Жодзін па сабе находзіць:
Кажнаму дразду па гнязду,
Кажнай перапёлке па яйцу,
Кажнаму дзецюку па дзеўке.
Аднаму Архіпу дзеўкі нет.
Аддадзім яму удаву —
Усё пабеднае галаву.
А ўдава плачэць, да хочэць,
Конічэк іржэць, не вядзець.
Удава плакала, да пашла,
Конічак іржаў, перастаў.

## 110. А УЖО ВОСЕНЬ ПРАХОДЗІЦЬ

А ўжо восень праходзіць,
А свой свайго находзіць.
Кажух куплёны, каўнер бабровы,
А наш Колечка чарнабровы.

## 111. АЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ!

Ай, восень, восень!
Сватоў па восем,
А ка мне ніводнага!

* Кожны радок паўтараецца.

Каб яны прыбіліся —
Пра мяне забыліся!
Каб яны пагінулі —
Як мяне пакінулі!
Я гора набралася:
У поле нахадзілася,
Сабак наманілася
І мальцаў надражнілася,
А ўжо замуж хочацца!..

## 112. ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ!

Восень, восень!
Сватоў па восем,
Ка мне ніводнага,
Ка мне ніводнага,
Нет нікога роднага.

## 113. ПРЫЙШЛА ВОСЕНЬ

Прыйшла восень —
Сватоў к людзям восем,
А ка мне ніводнага,
Мусіць, я нягодная.

## 114. АСЕННЯЯ НОЧАНЬКА

— Асенняя ночанька,*
Ох, з кім я буду начаваць?

З кім я буду начаваць,
Ой, усю ночку размаўляць?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Сама лягу — баюся,
Ой, пайду ў рэчку ўтаплюся.

— Не тапіся, дзевіца,
Ох, не тапіся, красная.

Будзем з табой начаваць,
Ох, усю ночаньку размаўляць.

## 115. АЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ, МАКРОТА

Ай, восень, восень, макрота,*
Дзецюкам жаніцца ахота,
Дзевачкамісці няволя.
Заняволіла субота —
Усё й татулькава работа.

## 116. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, РОС, ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, РОС

— Дзе ты, хмелю, рос, дзе ты, хмелю, рос,
А на чым жа ты, хмелю, віўся?
— Я ў садзе рос, я ў садзе рос,
Па быліначцы віўся.
— Дзе ты, Ясю, быў, дзе ты, Ясю, быў,
Чаму не жаніўся?
— Я ў войску быў, я ў войску быў,
А цяпер вярнуўся.

## 117. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, БЫЎ

— Дзе ты, хмелю, быў,
Дзе ты, хмелю, рос,
Чаму ты не павіўся?

---

* Кожны радок паўтараецца.

Дзе, малойчык, быў,
Дзе, малойчык, жыў,
Чаму ты не жаніўся?
— Я ў садзе рос,
Прыўдарыў мароз,
Затое не павіўся.
Я ў пана быў,
Я пану служыў,
Затое не жаніўся.

## 118. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, БЫУ

— Дзе ты, хмелю, быў,
Дзе, зялёны, рос,
Чаму ты не развіўся?
— Я ў гародзе рос,
Прыўдарыў мароз —
Развіціся спазніўся.
— Дзе, малойчык, быў,
Дзе, малады, быў,
Чаму не ажаніўся?
— Я ў войску быў,
Я цару служыў —
Жаніцца спазніўся.
Цару адслужуся,
Дадому вярнуся —
Тады ажанюся.

## 119. НЕ РАНЬСЯ НА ДВАРЭ, НЕ РАНЬСЯ

Не ранься на дварэ, не ранься,*
Не голься, Лявонька, не голься —
Усё й на русыя валасы,
Усё й на громкія галасы,
Усё й на белае лічанька.
Русыя валасы счэшуцца,

* Кожны радок паўтараецца.

Громкія галасы зменюцца,
А белае лічанька змыецца.
Тады табе, маладому, жаль будзець,
Што ў Евы красы не будзець.

## 120. СІВА ПТАШАЧКА НЕВЯЛІЧКАЯ

Сіва пташачка невялічкая
Па быліначцы скача,
Ой, дурно дзяўчо, неразумнае,
Па малойчыку плача.

— Ой, не я плачу, ой, не я плачу —
Самі слёзанькі льюцца,
Што ад мілага лісточкаў няма,
Ад нямілага шлюцца.

Ой, хоць шлецеся, хоць не шлецеся,
То я ваша не буду,
Ой, каму дала праву ручаньку,
То я жыці з тым буду.

Ой, адзін стаіць ды й на ганачку,
А другі — за плячыма,
Ой, адзін сыпле ўсё талярамі,
Ой, а другі — слязіма:

— Ой, бадай табе, таварышыку,
Больш таляраў не стала,
Ой, як я любіў змалу дзеўчыну,
А табе шкода стала.

Ой, бадай жа ты, таварышыку,
Налажыў галавою,
Ой, як я любіў змалу дзеўчыну,
А ты яе адмовіў.

## 121. ДРОБНА ПТАШАЧКА, НЕВЯЛІЧКАЯ

Дробна пташачка, невялічкая,
Па ляшчыначцы скача,
Дурна дзеванька, неразумная,

Па малойчыку плача.
Дурна дзеванька, неразумная,
Дзе ты розум падзела?
Ён не сватае — толькі смяецца,
Ты напраўду хацела.

## 122. САЛАВЕЕЧКА, ДРОБНА ПТАШАЧКА

Салавеечка, дробна пташачка,
Па ляшчэўнічку пляшаць,
Дурна дзяўчына, неразумная,
Што замуж ідзець, плачыць:
— Як мне не плакаць, як мне не тужыць?
Самі слёзкі льюцца,
Звязуць мяне ў чужу старану,
Няма да каго прыхінуцца:
Ані татачкі, ані мамачкі,
Ані роднай сястрыцы.
Мяне, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць.
Прынясу вады — на сябе бяды,
Кожнаму піць падаці:
Як старому, так малому
І свайму маладому.
Піцькі падаўшы, пасцель паслаўшы,
Сама сяду вячэраць.
Лыжачку ў раток —
Слёзачкі ў платок.
Вось мая вячэра.

## 123. ОЙ, ВАЛЫ МАЕ ПАЛАВЕНЬКІЯ

Ой, валы мае палавенькія,
Чаму ж вы не гарэце?
Летанькі ж мае маладзенькія,
Чаму ж вы марна йдзеце?

Ой, коні мае ды й вараныя,
Ды й жалезныя путы!
Ой, каб жа не ты, люба дзеўчына,
То й не быў бы я тута!

Дробны пташачкі, невялічкія,
Што на прысцежках скачуць,
Дурна дзеўчына, неразумная,
Што па молайцу плача.

— Ані я плачу, ані я тужу —
Самі слёзанькі льюцца,
Ад міленькага лісточкі не йдуць,
Ад нялюбага шлюцца.

— Ой, узыдзі, узыдзі, ясне месячык,
Як млыновае кола,
Перагавары, люба дзеўчына,
Да мяне адно слова!

## 124. ОЙ, ЗАБАЛЕЛА МНЕ ГАЛОВАНЬКА

— Ой, забалела мне галованька,
Ніхто праўды не скажа,
Ой, я не знаю, я не ведаю,
З кім татка ручкі зважа.

Ой, няхай вяжа, з кім ён сам знае,
Я здамся на волю,
Ой, як прыйдзецца з нялюбым быці,
То я з моста ў воду.

— Ой, не тапіся, маё дзіцятка,
Навекі душу загубіш,
Ой, скажы, скажы шчыру праўданьку,
Каго верненька любіш.

— Ой, яшчэ ж бо я, маладзенькая,
Нікога не любіла,
Каб яшчэ гадок, каб яшчэ другі
З дзеўкамі пахадзіла.

Ой, яшчэ ж бо я, маладзенькая,
Нікога не кахала,
Каб яшчэ гадок, каб яшчэ другі
З дзеўкамі пагуляла.

## 125. НЕ ВУЧЫ, МАТКА

Не вучы, матка, не вучы, матка,
Ты мяне не навучыш,
Каго я люблю, за таго пайду,
Ты мяне не разлучыш.

Я Яся люблю, за яго пайду,
Бо мне Ясь харошы.
Ясь харошы — ў кішэні грошы,
Як яго не любіці?

Дробная пташка, невялічкая,
Па быліначцы скача,
Дурная дзеўка, неразумная,
Па малойчыку плача.

— Ой, не я плачу, ой, не я тужу —
Самі слёзанькі льюцца,
Што ад мілага пісьмяца няма,
Ад нялюбага шлюцца.

Няхай шлюць, няхай перашлюць,
Я аб тым і не дбаю,
Ой, расці, каса, ніжэй пояса,
Яшчэ год пагуляю.

— Гуляй, дзяўчына, сэрцу адзіна,
Белымі ножанькамі,
А я ўбачу, сільна заплачу
Дробнымі слёзанькамі.

## 126. ЙДЗЕЦЕ, ХМАРАЧКІ, УСЕ ДА КУПАЧКІ

Йдзеце, хмарачкі, ўсе да купачкі,
А веце, зорачкі,— розна,
Ой, не гамані, мая маценька,
Што [illegible] йду з жніва позна.

Ой, хоць гамані, хоць не гамані,
Ты мяне не адвучыш,
Каго любіла, верна кахала,
З тым мяне не разлучыш.

Каго любіла, верна кахала,
То таму не папала,
З каго кпілася, насміхалася,
З тым да шлюбаньку стала.

## 127. ІДУЦЬ ХМАРАЧКІ УСЕ ДА ПАРАЧКІ

Ідуць хмарачкі ўсе да парачкі,
Адна хмарачка — розна,
На мяне мамачка пасварылася,
Што я хаджу позна.
Да хоць сварыся, не сварыся,
Ты ж мяне не навучыш,
Каго жа я верненька люблю,
З тым мяне не разлучыш.
Не разлуча мяне ні свет, ні святок,
Разлуча жоўты пясок.
Не разлуча мяне ні свет, ні зара,
Разлуча мяне сыра зямля.

## 128. ДЫ УСЕ ХМАРАЧКІ ДА ГРАМАДАЧКІ

Ды ўсе хмарачкі да грамадачкі,
Адна хмарачка — розна,
Вось сварылася мая мамачка:
— Не хадзі, дачка, позна.

— Хоць сварыся, не сварыся,
Мяне ўжо не навучыш,
Каго я люблю, любіць я буду,
З тым мяне не разлучыш.
Вось пі, мамачка, гэта піва,
Што я ўсё накупіла,
Любі, мамачка, гэтага зяця,
Што я ўсё й палюбіла.
— Не буду піць гэтага піва,
Буду ўсё разліваці,
Не буду любіць гэтага зяця,
Буду ўсё праклінаці.
— Не разлівай, мамачка, гэтага піва,
Бо мне трэба плаціці,
Не праклінай, мамачка, гэтага зяця,
Бо мне трэба з ім жыці.

### 129. МАЕ ХМАРАЧКІ, МАЕ ЦЁМНЫЯ

Мае хмарачкі, мае цёмныя,
Разыйдзіцеся розна,
Да сварылася на мяне мама,
Што я гуляю позна.
— Хоць ты сварыся, хоць не сварыся,
Ты мяне не навучыш,
Каго я люблю, верна кахаю,
Ты мяне не разлучыш.
Да вары мама а тую ваду,
Што я нанасіла,
А любі, мама, да таго зяця,
Каго я палюбіла.
— Не буду варыць, не буду варыць,
А буду разліваці,
Не буду любіць, не буду любіць,
А буду разлучаці.
— А не разлівай, мая мамачка,
Мне цяжанька насіці,
А не разлучай, мая мамачка,
Мне цяжанька забыці.

## 130. ІШЛІ ХМАРКІ Ў ТРЫ ПАРКІ

— Ішлі хмаркі ў тры паркі,
Адна хмарка — розна,
Не сварыся, пані матка,
Што я хаджу позна.
Ой, сварыся не сварыся,
Мяне не адвучыш,
Каго люблю, з тым пайду,
Мяне не разлучыш.
— Бадай тая крынічанька
На сем сажней упала,
Бадай таго нямілага зяця
Зямліца забрала.

## 131. ДА ЎСЕ ХМАРАЧКІ ДА ПА ПАРАЧЦЫ

— Да ўсе хмарачкі да па парачцы,
Адна хмарачка — розна,
Да не сварыся, мая мамачка,
Што я гуляю позна.
А хоць сварыся ці не сварыся,
Ты мяне не навучыш,
Да каго люблю, за таго пайду,
Ты ж мяне не разлучыш.
Да пі, мамачка, да тую вадзіцу,
Да што я нанасіла,
Хоць нялюбы зяць, хоць нялюбы зяць,
Ну ж я яго палюбіла.
— Не буду піці, не буду піці,
Не буду разліваці,
Хоць нямілы зяць, хоць нялюбы зяць,
Не буду разлучаці.

## 132. ПУШЧУ Я ПАВУ

Пушчу я паву,*
Рана, рана, па Дунаю,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А сама пайду,
Рана, рана, па беражочку,

А ці не ўвіджу,
Рана, рана, таткавы сені,

Таткавы сені,
Рана, рана, новыя дзверы.

Па гэтых сенях,
Рана, рана, мне не хадзіці.

Пушчу я паву,
Рана, рана, па Дунаёчку,

А сама пайду,
Рана, рана, па беражочку,

А ці не ўвіджу,
Рана, рана, свёкравы сенцы,

Свёкравы сенцы,
Рана, рана, старыя дзверцы.

Па гэтых сенцах,
Рана, рана, па іх хадзіці,

Па іх хадзіці,
Рана, рана, у свёкра жыці.

## 133. ЯК ПУШЧУ Я ПАВУ ПА ДУНАЁЧКУ

Як пушчу я паву па Дунаёчку,
А сама пайду па беражочку,
Да гляджу я, гляджу ў таткавы сені:
Таткавых сяней не падмятаці,
Цісовых сталоў не засцілаці,
Залатых кубкаў не наліваці,
Любых гасцей не прыглашаці.
Як пушчу я паву па Дунаёчку,
А сама пайду па беражочку

Да гляну, я гляну ў свёкравы сені:
Свёкравы сені падмятаці,
Цісовы сталы засцілаці,
Залатыя кубкі наліваці,
Нялюбых гасцей напрыглядаці.

## 134. ПУШЧУ Я ПАВУ ПА ДУНАЁЧКУ

Пушчу, я паву па Дунаёчку,
А сама пайду па беражочку,
Ці не ўвіджу я татавы сенцы.
Ды хоць увіджу, мне там не быць,
Шырокіх двароў не падмятаць,
Цясовых сталоў не засцілаць,
Залатых кубкаў не наліваць.
А вам, кубачкі, тут пастаяць,
А мне, маладой, ды ўдаль ступаць.
А вам, кубачкі, тут абярнуцца,
А мне, маладзе, к вам не вярнуцца.

## 135. КУНА С КУНАЧКАЙ ДЫ ГАВАРЫЛА

Куна з кунычкай ды гаварыла,*
Седзячы над вадою:
— А ці добра табе, мая куначка,
Седзячы над вадою.
— А датуль жа добра, датуль харашо,
Пакуль дожджыкі пройдуць.
Дожджыкі пройдуць, усе беражкі змыюць,
А мяне, куначку, згоняць.
Ой, сястра з сястрой ды гаварыла,
Жывучы ў татачкі:
— А датуль жа добра, датуль харашо,
Пакуль баяры прыедуць.
Баяры прыедуць, па застоллю пойдуць
І мяне з сабой возьмуць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 136. ОЙ, У РОЗЕ ДЗВЕ БЯРОЗЫ

Ой, у розе дзве бярозы
Адна к адной пахіліліся,
Было ў мяне два нялюбых —
На Украіну пакруціліся.
Хоць круціціся, хоць вярніціся
На сваё ды безгалоўечка,
А я буду піць, гуляці
Да на сваё здароўечка...

## 137. АЙ, ІЗ ГОР, ІЗ ДАЛІНЫ

Ай, із гор, із даліны
Цёк ручэй з Украіны.
Ай, у тым ручаёчку
Анюта кубкі мыла,
З ручайком гаварыла:
— А ручэй, ручаёчак,
Ці з высокага цячэш,
Ці далёка ведаеш:
Ці багат мой свёкарка,
Ці багацей за татачку?
У майго татачкі
У гаршках есці вараць,
У паўміскі наліваюць.
А ў свёкаркі ў катлах есці вараць...

## 138. ТРАЎКА ЧАРНАБЫЛКА

Траўка чарнабылка
Пры гарэ стаяла.
— Горушка крутая,
Скажы мне ўсю праўду:
Якая зіма будзець,
Якія марозы?

— Траўка чарнабылка,
Сама ў зіму пойдзеш,
Сама будзеш знаць,
Якая зіма будзець,
Якія марозы.
Маланка младая
Пры столе стаяла,
У мамухны пытала:
— Мамачка радная,
Скажы мне ўсю праўду:
Які свёкар будзець,
Якая свякрова?
— Дачушка младая,
Сама ў людзі пойдзеш,
Сама будзеш знаці,
Які свёкар будзець,
Якая свякрова.

## 139. НАД РАКОЮ КАЛІНА

Над ракою каліна,
Рана, рана, каліна,*
Умывалася дзяўчына.
— Лічанька маё бяленькае,
Каму будзеш міленькае?
Калі старому, не дай бог,
Калі малому, сцеражы,
За роўніцу — памажы.
За старэнькім — гараваць,
За маленькім — бедаваць,
За роўніцай — піць, гуляць.

## 140. У БАРУ БРУСНІЧАНЬКА РАСЛА

У бару брусьнічанька расла,
А на мяжы — пшанічанька,
Дачушка у маманькі — дарагая госцїка.

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Гасці, мая дзіцятанька,
Пакуль у роднай маманькі.
Як маманькі не станець,
Гуляць перастанеш,
Як таткі не будзець,
Гуляць пазабудзеш.

## 141. ЗА ГАРОЮ КАЛІНКА БУЯІЦЬ

За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
— Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча.
— Няхай кліча, я знаю нашто:
Хоча маці за старога аддаці.
Я старога здаўна не любіла,
У тыдні тры дні ўсё дымам паіла,
За вароты сабакамі правадзіла,
У яго след камень пакаціла.
За гарою калінка буяіць,
За другою — дзяўчынка гуляіць.
— Гуляй, дзеўка, цябе маці кліча.
— Няхай кліча, я знаю нашто:
Хоча маці за роўніцу аддаці.
А я роўніцу здаўна любіла,
У тыдні тры дні ўсё віном паіла,
За вароты з скрыпкамі правадзіла,
У яго следзік персцень пакаціла.

## 142. ОЙ, ЗАРА МАЯ НЕСХАДЗІМАЯ

Ой, зара мая несхадзімая,
Ой, ля-лё, рана, несхадзімая,
За што я ў таткі нешчаслівая,
Ой, ля-лё, рана, нешчаслівая.
З церама йдучы, ўцярала ключы,
Ой, ля-лё, рана, ўцярала ключы.
А прызнайцеся: хто за мной ішоў,
Ой, ля-лё, рана, хто за мной ішоў,

Хто за мной ішоў, ключыкі знайшоў,
Ой, ля-лё, рана, ключыкі знайшоў?
Калі маленькі — братцам назаву,
Ой, ля-лё, рана, братцам назаву.
Калі старэнькі — таткам назаву,
Ой, ля-лё, рана, таткам назаву.
Калі роўніца — то замуж пайду,
Ой, ля-лё, рана, і з ім жыць буду.

## 143. БАРАВАЯ ЯГАДКА

Баравая ягадка,
Што ў бару брушнічушка,
Дарагі госцічак,
Што дачушка ў бацюшкі.
Дачка к бацюшкі на двор —
Бацька кубачкі на стол:
— Ты гасцюй, гасцюй, дачка,
Ты гасцюй, зараначка!
— Я б і рада гасцяваць —
[У] мяне конічак не свой
І павознічак чужой.
— Уж я коніка куплю,
Я павознічка найму.
— Уж я буду гасцяваць
Цэлы дзень да вечара
У свайго роднага бацюшкі.

## 144. ЧАГО, ЛАЗА, СХІЛІЛАСЯ

— Чаго, лаза, схілілася,
Мо бура збурыла?
Чаго, дзеўка, сільна плачаш,
Мо маці набіла?
— Мяне маці не набіла,
Братка пасварыўся.
Аддай, аддай мяне, маці,
Дзе хораша ў хаце,

Дзе свякруха-гаваруха,
Буду паважаці,
Дзе ятроўкі — чорны броўкі
У поле жыта жаці,
Дзе залвіцы-красавіцы
Косы ўплятаці,
Дзе дзеверы маладыя,
Люблю жартаваці.

## 145. ДОСІЦЬ, КАЛІНКА ЧЫРВОНЕНЬКАЯ

— Досіць, калінка чырвоненькая,
Табе ў лузе стаяці,
Цябе, калінку чырвоненькую,
Пташачкі абклявалі.
Не так пташачкі, не так пташачкі,
Як малыя пташаняткі,
Прылятуць клююць, палятуць клянуць —
Ягадкі не салодкі.
Цябе, дзевачка маладзенькая,
Усе суседкі абсмяялі.
Не так суседкі, не так суседкі,
Як суседнія дзеткі,
Прыдуць пабудуць, пойдуць абмовяць —
Дзевачка нехароша.
— Да няхай судзяць, няхай гавораць,
Да я іх не баюся.
Восені прыжду, і замуж пайду
Да я з іх пасмяюся.

## 146. ДОСЫЦЬ, КАЛІНА, ДОСЫЦЬ, МАЛІНА

Досыць, каліна, досыць, маліна,
У лозе стаяці,
І так каліну, і так маліну
Пташкі абклювалі.
Не так жа пташкі,
Як салавейкі,

Не так жа салавейкі,
Як шэры зязюлькі,
Не так зязюлькі,
Як верабейкі,
Не так верабейкі,
Як сінія сініцы.
Досыць, княгінька, досыць, лябёдка,
У дзеўках сядзеці,
І так княгіньку, і так лябёдку
Усе людзі абсудзілі.
Не так людзі,
Як бліжнія суседзі,
Не так суседзі,
Як яе падружкі,
Не так падружкі,
Як родныя сяструшкі!

## 147. ДОСЫЦЬ, КАЛІНКА, ДОСЫЦЬ, ЧЫРВОНАЯ

Досыць, калінка, досыць, чырвоная,
У лузе стаяці,
Цябе, калінка, цябе, малінка,
Пташачкі аклявалі.
Не так пташачкі, не так дробныя,
Як тыя салавейкі.
Досыць, Марыся, досыць, малада,
Да ў матулькі быці,
Цябе, Марыся, цябе, малада,
Суседцы абмаўлялі.
Не так суседцы, не так блізкія,
Як твае баярачкі.
Ля цябе сядзяць і п'юць, і ядуць,
І цябе абмаўляюць.

## 148. ДОСА, КАЛІНА, ДОСА, МАЛІНА

Доса, каліна, доса, маліна,
У лесе цвісці,
Тую каліну, тую маліну

Усе птушкі склявалі.
Не так птушкі, не так птушкі,
Як сізы канарэйкі.
Доса, доса ў дзеўках сядзеці,
Дзявутаньку ўсе людзі судзілі.
Не так людзі, не так людзі,
Як бліжні й суседзі,
Не так суседзі, не так суседзі,
Як родная сямейка,
Не так сямейка, не так сямейка,
Як родныя сястрыцы,
Не так сястрыцы, не так сястрыцы,
Як родная маці.

## 149. ГОДЗЕ, КАЛІНА

Годзе, каліна,
Годзе, маліна,
У лузе стаяці,
Цябе, каліна,
Цябе, маліна,
Галубы абклявалі.
Не так галубы,
Не так галубы,
Як галубіныя дзеці.
Ягадкі клююць,
Каліну клянуць,
Што ягадкі не салодкі.
Годзе, Ганначка, у таткі гуляць,
Цябе суседзі абсудзяць.
Не так суседзі, не так суседзі,
Як суседачкі,
Што твая каса мала,
Што рана не ўставала,
Косачку не часала.

## 150. ДОСІЦЬ, КАЛІНКА, ДОСІЦЬ, ЧЫРВОНА

— Досіць, калінка, досіць, чырвона,
Табе ў лузе стаяці,
Цябе, калінку, цябе, чырвону,

Пташачкі абкляваді.
Прылятуць — клююць,
Палятуць — кляпуць —
Ягадкі не салодкі.
Цябе, дзеваньку, цябе, маладу,
Суседкі абгаварылі.
Не так суседкі, не так суседкі,
Як суседнія дзеткі.
— Няхай судзяць, няхай гавораць —
Я таго не баюся,
Пайду у клетку, скіну наметку,
Хустачкаю абхінуся.

## 151. ГОДЗЕ, КАЛІНЕ, ГОДЗЕ, МАЛІНЕ

Годзе, каліне, годзе, маліне,
Ў цёмным лузе стаяці,
Да ўжэ каліну, да ўжэ маліну
Галубы абабралі.
Да не так галубы,
Да не так сізыя,
Як тыя галубачкі.
Да на луг ляцелі,
На ей паселі,
Каліну абзыбалі,
А з лугу ляцелі, есці хацелі,
Каліну падабралі.

## 152. ЛАСТАЎКА-БЕЛАКРЫЛКА

Ластаўка-белакрылка,
Не лятай па гародзе: (2)
На цябе сакол глядзіць
Да з высокага дубу, (2)
Да з зялёнага лугу.
Ён цябе ўхапіць хоча,
Ухапіць хоча, паляцеці (2)
У сваё гняздзечачка.

Маладая дзяўчыначка, (2)
Не хадзі па рыначку:
На цябе хлапец глядзіць (2)
Да з высокага ганку.
Ён цябе узяць хоча,
Узяці паехаці (2)
У сваю дзярэўнечку, (2)
У сваю сямеечку.

## 153. АХ ТЫ, ВУТАЧКА-ПЕРАПЛЫВАЧКА

— Ах ты, вутачка-пераплывачка,
Ты цяпер на Дунаю,
Як пераплывеш сіне мора,
Там цябе невад злове.
Ах ты, дзевачка маладзенькая,
Ты цяпер у матульki,
А як пойдзеш да свякрованькі,
Там цябе гора пойме:
Ані шчэпачкі, ні лучынкі,
Нечага заламіці,
Ані брацейкі, ані сястрыцы,
Няма з кім гаварыці.
— Замочкі мае нутраныя
Са мной гаварыць будуць,
А пярсцёнкі мае залаценькія
Дарожку свяціць будуць.

## 154. ДА ГУЛЯЙ, ГУЛЯЙ, ШЧУКА-РЫБАЧКА, У СІНІМ МОРЫ

Да гуляй, гуляй, шчука-рыбачка, у сінім моры,
Як жа ты пойдзеш на лугі, рэкі, не будзеш гуляць:
Уловяць цябе маладыя рыбаловы
Да знімуць з цябе залатую лускавіцу,
Пакроюць рыбачку на стальніцы,
[Вынесуць рыбачку] у святліцы,

Згатуюць рыбачку маладыя кухары
Да з'ядуць цябе панове-сенатарове.
Да гуляй, гуляй, Агатка, у роднага таткі,
Пойдзеш к чужому
Да не раднему,
Не будзеш гуляць.
У свайго татачкі крутыя горы,
Да гуляла па волі,
А ў чужога ўсё поле роўна,
Да гуляць не вольна.
У свайго таткі штодзень
Галоўка ў вяночку,
А штонядзелю ў таночку,
А ў чужога татачкі
Будні дзень у рабоце,
А святы ў балоце.

## 155. ОЙ, ПЛАВАЙ, ПЛАВАЙ, ШЧУЧКА-РЫБІЦА

Ой, плавай, плавай, шчучка-рыбіца,
Да па сіняму мору,
Зловяць цябе, спаймаюць цябе
Маладыя рыбалоўцы,
Парэжуць цябе, парэжуць цябе
Па кавалачку.
Ой, гуляй, гуляй, маладая дзевачка,
У свае роднае мамкі.
Ой, пойдзем к свякрусе да не будзем гуляці:
Сям'я сядзе вячэраць,
Цябе пашлюць па ваду,
Вады прынёсшы, вады прынёсшы,
Трэба піці падаці
Як старому, так маладому,
Яшчэ наперад міламу.
Вады падаўшы, пасцельку паслаці
Як старэнькаму, так маленькаму,
А наперад міленькаму.
Пасцельку паслаўшы, ложачкі мыць.
Ложачкі бразь-бразь,
Слёзачкі кап-кап —
Тут мая і вячэрачка.

## 156. А ЯК ТЫ БЫЛА, РЫБА ПЛОТАЧКА

А як ты была, рыба плотачка,
Ты ж была ў возеры,
А цяпер пойдзеш, рыба плотачка,
У быструю рэчаньку.
А там жа цябе, рыба плотачка,
Рыбалоўнічкі зловяць,
А яны ж цябе, рыба плотачка,
Жывую варыць будуць.
Як ты была адзінока
У роднай матулькі,
А цяпер пойдзеш, малада Ярынка,
Да ліхой свякровачкі.
Самі сядуць, вячэру з'ядуць,
Цябе па ваду пашлюць.
Прынесла вады для сваёй бяды —
Усякаму піці падаці:
А як старому, так і малому,
Стасеньку маладому.

## 157. ОЙ, ГУЛЯЙ, ГУЛЯЙ, ШЧУКА-ПЛОЦІЦА

Ой, гуляй, гуляй, шчука-плоціца,
Пакуль цёпла вадзіца:
Марозы будуць, возеры стануць —
Гуляці не будзеш.

Ой, гуляй, гуляй, млода Ганначка,
Пакуль у роднай матулькі:
У свякроўкі станеш, рана ўстанеш —
Гуляці не будзеш.

## 158. ГУЛЯЙ, ГУЛЯЙ, ШЧУКА-ПЛАЦІЦА

Гуляй, гуляй, шчука-плаціца,
Пакуль цёпла вадзіца:
Маразы ўдаруць, возеры стануць — гуляць не будзеш.
Гуляй, гуляй, малада дзеванька,

Пакуль у роднай мамаңькі:
Як у людзі пойдзеш,
Гуляць не будзеш — работку зададуць.
Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць абедаць.
Горы высокі, воды далёкі — на абед не паспееш.
Прынясеш вады для сваёй бяды —
Кожнаму трэба даць піць:
Дасі старому, дасі малому і мужаньку маладому.
Дадуць кусочак, пойдзеш у куточак —
Там твой абед будзе.

## 159. КОЦІЦЦА ДРОБНЫ ДОЖДЖЫК, ПАЛІВАІЦЬ

Коціцца дробны дожджык, паліваіць.
— Гуляй, гуляй, Ганначка,
У свайго роднага таткі!
— Як я магу гуляць пайсці,
Калі сваты на двор едуць?
На двор едуць, вароты расчыняюць,
Вароты расчыняюць, з роднай мамкай размаўляюць.

## 160. ТЫ, ЛАСТАВАЧКА, ТЫ, ЛАСТАВАЧКА

Ты, ластавачка, ты, ластавачка,
Рана, рана, белакрылачка,
Не ві гняздзечка, не ві гняздзечка,
Рана, рана, блізка дарожкі:
Пастушкі гоняць, пастушкі гоняць,
Рана, рана, гняздзечка спораць,
Гняздзечка спораць, гняздзечка спораць,
Рана, рана, самую зловяць.
А ты, Люсечка, а ты, Люсечка,
Рана, рана, не ві вяночка,
Не ві вяночка, не ві вяночка,
Рана, рана, нізка галоўкі:
Валодзька едзіць, Валодзька едзіць,

Рана, рана, вяночак здойміць,
Вяночак здойміць, вяночак здойміць,
Рана, рана, самую возьміць.

## 161. ШТО Ж ТЫ, ПТАШАЧКА, ГНЯЗДЗЕЧКА НЕ МАЕШ?

— Што ж ты, пташачка, гняздзечка не маеш?
— Звіла б гняздо, гняздо пры дарозе,
Дык баюся — пылам запылюся.
Звіла б гняздо, гняздо на бярозе,
Ой, дык баюся — бярозку зрубюць.
Звіла б гняздо, гняздо на лужочку,
Дык баюся — вадою заллюся.

## 162. НЕ ЛЯТАЙ ТЫ, ЛАСТАЎКА

Не лятай ты, ластаўка,
Рана па зары,
Не співай ты, ластаўка,
Ранныя расы!
Не ездзі ты, татухна,
Часта на таргі,
Не прапі ты, татухна,
Мяне, малады.
А прапі ты, татухна,
Варанога каня.
Варанога коніка
За год забудзеш,
Мяне, маладзенькі,
Век не забудзеш.

## 163. ЦІ Я ТАБЕ, МАЯ МАМАЧКА

Ці я табе, мая мамачка,
Усю вясну не казала:
— Не ары барку ды не сей маку —

Я яго рваць не буду.
Узары дарожку, пасееш гарошку
Для сваіх малых дзетак.
Людзі прыдуць, мяне забяруць,
Твой мак зазімуе.

## 164. ЦІ Я ТАБЕ, МАЯ МАМАЧКА

Ці я табе, мая мамачка,
З вясны не казала:
— Градак не рабі, рожачкі не сей —
Некаму паліваці.
Млады Ляксейка град надзелаіць,
Рожачкі насеіць,
Младой Мархфачке раненька ўставаць,
Рожачку палоць, з вечара паліваць.
Рожачка мая, воля не мая,
Воля бацюшкіна.

## 165. ОЙ, Я ТАБЕ, ТАТУЛЬКА, З ВЯСНЫ ГАВАРЫЛА

Ой, я табе, татулька, з вясны гаварыла:
— Не дзяры барку, не сей лянку —
Да некаму палоць будзе.
Ой, я табе, свёкратку, з вясны гаварыла:
— Надзяры барку, насей лянку —
Я к табе прасці прыду.

## 166. А ЦІ Я ТАБЕ, МАЯ МІЛАЯ

А ці я табе, мая мілая,
Да ці не казала:
— Не ары бору да не сей лёну —
Я яго рваць не буду.
Заары барыцу, пасей пшаніцу —

Я яе мамцы сажну,
Восені прыжду, я замуж пайду,
Я у мамкі не буду.
Пашла мамка ў роўнае поле
Густое жыта жаці,
Нажала снапок, кінула сярпок
Да стала ўздыхаці,
Глянула сюды, глянула туды —
Не відаць дзіцяці.

## 167. НЕДАСПЕЛАЯ МАКАУКА

Недаспелая макаўка,*
А дзе ж ты будзеш даспяваць:
А ці ў гародзе на лясе,
А ці ў капуснай баразне?
Маладая Валечка,
А дзе ж ты будзеш дарастаці:
А ці ў татулькі на куце,
А ці ў мілога на руцэ?

## 168. НЕДАЗРЭЛАЯ МАКАУКА

— Недазрэлая макаўка,*
А дзе ж ты будзеш дазраваць:
А ці ў гародзе наградзе,
А ці ў капуснай баразне?
— У гародзе на градзе цвісць буду,
А ў капуснай баразне гнісць буду.
— Неразумная Манечка,
А дзе ж ты будзеш разумнець:
А ці ў мамачкі за сталом,
А ці ў свёкаркі за дваром?
— У мамачкі за сталом
Мёд-віно п'юць,
А ў свёкаркі за дваром
Слёзкі льюць.

* Кожны радок паўтараецца.

## 169. МАКАВІНКА ЗЕЛЯНАЯ

— Макавінка зеляная,*
Дзе ты будзеш даспяваці?
— Не даспею на градочцы,
Да даспею ў квяточцы.
— Маладая ты дзевачка,
Дзе ты будзеш дарастаці?
— Не дарасту ў баценька,
То дарасту ў свёкарка,
У свёкарка ў каморацьцы
Да й на ціхай размованьцы.

## 170. БЯРОЗА З ЛІСТОМ

Бяроза з лістом (2)
Усю восень шумела:
— Мая бяроза, мая белая,
Як жа мы расстанемся?
— Ты, мой лісточак,
Ты, мой зялёны,
Так мы расстанемся:
Ветры павеюць,
Лісток абвеюць,
А я застануся.
— Не бойся, бяроза,
Не бойся, белая,
Я ж цябе не пакіну:
Цяпер я ападу,
А вясной прыду,
З табой шумець буду.

Мамулька з дачкой
Усю ночку гаварыла:
— Мамулька ж мая родная,
Як мы расстанемся?
— Сваты прыедуць
І цябе возьмуць,

---

* Кожны радок паўтараецца.

А я застануся.
— Мая мамулька,
Мая родная,
Я ж цябе не пакіну:
Хоць замуж пайду,
Я ў госці прыду,
З табой гукаць буду.

## 171. БЯРОЗА З ЛІСТАМ, БЕЛАЯ З ЛІСТАМ

Бяроза з лістам, белая з лістам
Усю восень шумела:
— Лісточак мой, зеляненькі мой,
Ты ж мяне пакідаеш?
— Не бойся, бяроза, не бойся, белая!
Я ж цябе не пакіну:
Увосень паду, вясной прыду,
З табой шумець буду.
Дзевачка з мамкай, маладая з мамкай
Ночачку гаварылі:
— Дачушка мая, мілая мая,
Ты ж мяне пакідаеш?
— Не плач, мамачка, не плач, родная,
Я ж цябе не пакіну:
У нядзелю паеду, у другую прыеду,
З табой гаварыць буду.

## 172. ЛІПАЧКА КУДРАВАЯ

Ліпачка кудравая
Усю восень шумела.
Яна шумела, яна буела,
Усю ноч гаварыла:
— Лісточак мой шырокенькі,
Не кінь мяне, ліпу.
— А ліпачка кудравая,
Рад бы цябе не кінуць:
Узняліся буйныя ветры

З лютымі марозамі,
Нашумелі, набуелі,
З табой нас разлучылі.

## 173. ЛІПУШКА ЗЯЛЁНАЯ УСЮ НОЧ ШУМЕЛА

Ліпушка зялёная ўсю ноч шумела,
Люлюшкі-лялёшанькі, усю ночку шумела,
Усю ночаньку шумела, з лісцікам гаварыла:
— Лісточак зялёны, будзець нам разлука!
Мар'юшка маладая усю ночку не спала,
Усю ночку не спала, з маткай гаварыла:
— Матушка радзімая, будзець нам разлука!
Разлучаць нас з табою княззя да баяры,
Княззя да баяры, малады Іванька.

## 174. ДУБРОВУШКА ДЫ ЗЯЛЁНАЯ

Дубровушка ды зялёная
Ўсю восень шумела,
Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Ўсю восень шумела,
Усю восень шумела,
З лістам гаманіла,
Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
З лістам гаварыла:
— Лісточак мой ты зялёненькі,
Будзець нам разлука!
Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Будзець нам разлука.
Разлучаць жа нас з табою
Снягі ды марозы,
Астануся я без цябе
Веццямі шугаці,
А ты зляціш, а ты падзеш
Зямлю пакрываці.
Дачка дый з маткаю
Усю ночку не спалі,

Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Усю ноч гаварылі:
— Ах, мамачка ты радзімая,
Будзець нам разлука!
Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Будзець нам разлука.
Разлучаць жа нас з табою
Князі ды баяры,
Ох, лёлюшкі ды палёлюшкі,
Князі ды баяры.

## 175. ЗЯЛЁНАЯ ЛІПКА З СВАІМ ЛІСТОЧКАМ

Зялёная ліпка з сваім лісточкам
Усю восень гаварыла:
— Лісточак ты мой, зялёненькі мой,
Разлука наша з табой.
Ой, як павеюць буйныя ветры
З паўночнай староначкі,
Яны цябе возьмуць, мяне пакінуць,
Мы з табой разлучымся.
Красна Алёнка з сваім татулькам
Усю нядзельку гаварыла:
— Татулька ты мой,родненькі ты мой,
Разлука наша з табой.
Ой, як наедуць чужыя людзі
З чужое староначкі,
Яны мяне возьмуць, цябе пакінуць,
Мы з табой разлучымся.

## 176. А ЛІПАЧКА КУДРАВАЯ УСЮ ВОСЕНЬ ГАВАРЫЛА

А ліпачка кудравая ўсю восень гаварыла:
— Лісточак мой ды зялёненькі, ты мяне пакідаеш.
— А ліпачка кудравая, рад бы я не пакінуць:
Мароз марозіць, вецер павеіць —
Лісточак адпадзе.

А дзевачка ды із маткаю ўвесь вечар гаварыла:
— А дачушка ды дзевачка, ты мяне пакідаеш.
— А мамачка мая родная,
Рада б я не пакінуць:
Сваты неадхожыя, баяры неад'езджыя,
Не даюць мне жыці,
Павязуць мяне далёка ад цябе
У чужую старонку.

## 177. БЯРОЗКА З ЛІСТКОМ

Бярозка з лістком,
Белая з лістком
Усю восень шумела:
— Бярозка мая, белая мая,
Як мы з табой расстанёмся?
— Лісточак ты мой, зялёны ты мой,
Так жа мы расстанёмся:
Ветрык павеіць, цябе пакоціць,
А я буду стаяці,
Буду зімачкі халодненькай,
Стоячы, чакаці.
Дзевачка з мамкай маладзенькая
Усю ночку гаварыла:
— Мамачка мая, родная мая,
Як мы з табой расстанёмся?
— Дзіцятка маё, роднае маё,
Так жа мы расстанёмся:
Сваты прыдуць,
Цябе забяруць,
А я тут астануся.
Пайду ў каморку,
Пайду ў новую,
Слёзкамі абальюся.

## 178. ВЫСОКАЕ У ЛЕСЕ ДРЭВА ЯЛІНА БЫЛА

Высокае ў лесе дрэва яліна была,
Яліна была,
Усяму лугу зялёнаму загуду дала,

Загуду дала.
Харошая дзяўчына ў таткі была...
— Распрадай жа, мой татачка,
Свой зялёны сад
Да спраў жа, мой родненькі,
Дзявоцкі нарад.
Як пасею чарнабрыўца
Цэлую граду,
Вы расціце, чарнабрыўцы,
Да не буяйце,
Як выйду ўвосень замуж,
Дак вы і завяньце.

## 179. У САДОЧКУ ДЫ НА ЛІСТОЧКУ

У садочку ды на лісточку
Салавейка шчабеча,
У новай каморы на крэселцы
Дзевачка касу чэша.
Часала касу, часала русую,
Чэшучы, гаварыла:
— Мамачка мая, родная мая,
Чаму я табе няміла?
Мілыя табе, мая мамачка,
Зяцявы падарачкі.
Падарачкі — спадманачкі,
Паложыш — ляжаць будуць,
А каго ж тады, мая мамачка,
Пасылаці будзеш
У крыніцу па вадзіцу,
У шчыры бор па ягадкі?

## 180. ОЙ, У САДОЧКУ У ХАЛАДОЧКУ

Ой, ў садочку у халадочку
Салавейка шчабеча,
А ў ганачку ў новым крэслачку
Марылька коскі чэша.

Ой, чэша коскі і льюцца слёзкі,
Што нялюбая ў таткі:
— Ужо стараецца-сабіраецца
Мяне выправіць з хаткі.
Ён прапіў мяне горкай гарэлкай
У святую нядзельку,
За пастылага ды нялюбага
Аддае маладзеньку.

## 181. У САДОЧКУ НА ВЕТАЧЦЫ САЛАВЕЙКА ШЧАБЕЧА

У садочку на ветачцы салавейка шчабеча,
У святліцы на крэсалку Аўдоська коскі чэша.
Часала коскі, часала русыя,
Чэшачы, гаварыла: — Чым я мамачцы няміла?
У нядзельку ранюсенька буду мілюсенька.
Коскамі апушчуся, слёзкамі аблiюся,
Коскамі русенькімі, слёзкамі драбненькімі,
Коскамі плечы ўкрыю, слёзкамі ліцо ўмыю.

## 182. У САДОЧКУ Ў ХАЛАДОЧКУ

У садочку ў халадочку
Салавейка шчабеча,
У новым ганачку
У залатым крэсле
Дзевачка коску чэша.
Ой, чэша, чэша, перабірае
І з мамачкай размаўляе:
— Мамачка мая, родная мая,
Чым я стала няміла?
Ці я ў цябе, мая мамачка,
Верненька не рабіла:
Тонка не прала,
Звонка не ткала
І беленька не бяліла?
Ці табе мілей, мая мамачка,
Зятняя гарэлачка?

Зятняя гарэлачка
Выпіта будзе,
Няма дзевачкі, няма дзіцяці —
І некага пасылаці.

## 183. У САДОЧКУ ДА НА ВІШАНЬЦЫ

У садочку да на вішаньцы —
Салавейка шчабеча,
А у каморы да на крэслечку
Дзевачка коску чэша.
Часала касу, часала русу,
Чэшучы, гаварыла:
— Да ці я табе, мая мамачка,
Да й так стала няміла?
Да мілей табе горка гарэлка,
Да як я маладзенька?
— Дзевачка мая, дзіцятка маё,
Гарэлка перапіта,
А ты, малада-маладзюсенька,
Ты навек не забыта.

## 184. ЛЯЦЕЛА КУНА З БОРУ Ў ДУБРОВУ

Ляцела куна з бору ў дуброву
К сакалу на размову:
— Мне ў бару добра,
Мне ў бару добра,
У дуброўцы лепей будзе.
Ішла дзевачка з сяней у камору
Да мамачкі на размову:
— Мне ў мамкі добра,
Мне ў мамкі добра,
У свякроўкі лепей будзе;
У мамкі хлеб палыном пахне,
А ў свякроўкі — чарнушкаю,
А ў мамкі бяру выдаванае,

А ў мілога сама вазьму,
У мамкі ключы пад паясочкам,
А ў міленькага — на прабоі.

## 185. ДЫ БЕЛАЯ СУРАВЕЖАЧКА

Ды белая суравежачка
Прасілася ў гарэшка:
— Ды мой ты гарэшачак,
Ды вазьмі мяне, суравежачку,
Бо я з бору вялікага
Ды з дубровенькі зялёнай!

Маладая Аленачка
Прасілася ў Іванькі:
— А мой жа ты Іванечка,
Вазьмі мяне, маладзенькую,
А я роду вялікага,
Ой, бацькі багатага,
Ды бацькі багатага,
Ды маткі разумнай!

## 186. ОЙ, ПРЫ ДУНАЮ ПРЫ ЦІХУСЕНЬКІМ

Ой, пры Дунаю пры ціхусенькім,
Ой, позна, позна, пры ціхусенькім *
МлодаВаруська кубачкі мыла,
Кубачкі мыла, вянка забыла.
— Да хто паедзе па мой вяночак?
Татулька кажыць: — Я не паеду,
Я не паеду, каня не маю,
Каня не маю, вянка не знаю.
Франучок кажыць: — Я сам паеду,
Коніка маю, вяночак знаю.

---

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка

## 187. ПРЫ ДУНАЁЧКУ

Пры Дунаёчку,*
Пры беражочку
Ды там дзяўчына
Кубачкі мыла.

Кубачкі мыла,
Кальцо згубіла,
Мамачка прыйшла,
Кальцо не знайшла.

Мамачка прыйшла,
Кальцо не знайшла.
Міленькі прыйшоў,
Калечка знайшоў.

## 188. ЯК ПАЙДУ Я У ЦЁМЕН ЛЯСОЧАК

Як пайду я ў цёмен лясочак,
Як высеку ліповы чаўночак,
Ай, пушчу ж я на крут беражочак,
Ай, крыкну ж я, малада, ратунку,
Ці не пачуіць мой брацетка родны.
Хоць і пачуіць, мяне не ратуіць.
Як пайду я ў цёмен лясочак,
Як высеку ліповы чаўночак,
Ай, пушчу ж я на крут беражочак,
Ай, крыкну ж я, малада, ратунку,
Ці не пачуіць сястрыца родная.
Хоць і пачуіць, мяне не ратуіць.
Як пайду я ў цёмен лясочак,
Як высеку ліповы чаўночак
Ды пушчу я на сіне мора,
Ай, крыкну ж я, сярод мора стоя,
Ці не прыдзець мой татачка скора.
Зачуў, пачуў мой татанька родны,
У суседа у бяседзе седзячы,
Прыскочыў жа да к сіняму мору,

* Кожны радок паўтараецца.

Ухапіў жа вясло кленавое,
Прыляцеў чаўночак на крут беражок:
«Дзіця мае, дзіця дарагое,
Памерала глыбокае мора».

## 189. ЗАТУЖЫЛАСЯ ЕВАЧКА

Затужылася Евачка,*
Што рана восень настала,
Рутая мятачка завяла,
Не з чага маладзе вянкі звіць,
На галовачку ўзлажыць.
Зачуў тое Лявонька:
— Не клапаціся, Евачка,
Я ўчора на таргу пабываў,
Я ж табе вяночак старгаваў,
А з руты, з мяты зялёны,
З чырвоненькае каліны.

## 190. ЗАРАННЯ ВОСЕНЬ НАСТАЛА

Зарання восень настала,*
У садзе рута павяла.
Стала Леначка бедаваць:
— Не з чага вяночка савіваць.
Як зачуў тое Колечка:
— Не плач, не бядуй, Леначка,
Я на таржочку бываў,
Табе вяночак старгаваў,
Хоць не руцяны — пяровы,
Табе да шлюбу гатовы.

## 191. А ШТО Ў СТАЕНЦЫ ЗВІНЕЛА?

А што ў стаенцы звінела?
Ой, рана, рана, звінела. **
Конік падкоўкай звінеў,

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

Хлопчык каня вывадзіў,
З ім татулька гаварыў:
— Куды паедзіш, сынок?
— Паеду, татачка, на рынак
Выбіраць сабе паненак.
— Не глядзі, сынку, на рынку,
А глядзі, сынку, на ніўку,
Ці быстра сярпом махаіць,
Ці густа снапы стаўляіць.
— Махаіць сярпом, як жняя,
Стаўляіць снапы, як змяя.

## 192. ДЫ НА ПОЛІ ЛІПА З СОНЕЙКАМ ЙГРАЕЦЬ

Ды на полі ліпа з сонейкам йграець,
Рана, рана! *
Малады маладзец коніка сядлаець,
А старшы брацітка яго намаўляець:
— Выбірай, брацітка, на ніўцы,
А не выбірай, брацітка, на рынку:
На рынку дзевачкі хваслівы,
А на ніўцы дзевачкі працаўлівы.

## 193. ТЫ, ЯРЫНКА, ЯРЫСЯ У ПОЛІ

Ты, ярынка, ярыся ў полі,
Ай, люлі, рана, ў полі. **
Ты, Пётранька, жаніся ў доме!
Не выбірай дзевачак на рынку,
Да выбірай дзевачак на ніўкі:
Да на рынку дзевачкі хваслівы,
А на ніўкі дзевачкі праўдзівы.
У каторай постацька шырэй,
У каторай снапочкаў часцей,
У каторай галоўка гладзей,
У каторай кашулька бялей.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У Надзенькі постацька шырэй,
У Надзенькі снапочкаў часцей,
У Надзенькі галоўка гладзей,
У Надзенькі кашулька бялей.

## 194. ЯРЫНКА, ЯРЫСЯ

Ярынка, ярыся,*
Люлі, рана!
Ванютка, жаніся!
Не выбірай дзевак,
Не выбірай на рынку,
А выбірай дзевак,
Выбірай на ніўкі:
На рынку дзеўкі
Хваслівыя,
На ніўкі дзеўкі
Дасужыя.
Шырокі постаці
Займаюць,
Вяжуць снапочкі
Часцесінька.
У каторай галоўка
Гладзейшая,
У каторай постаць
Шырэйшая,
Тую бяры замуж,
Тую бяры замуж.

## 195. ДА НА СІНЕНЬКІМ МОРЫ

Да на сіненькім моры **
Два бабры купаліся,
Да на новенькім ганку
Два стральцы змаўляліся:

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца разам з прыпевам.
** Кожны радок паўтараецца.

— Ой, заб'ём, бабра, заб'ём
Колечку на шапачку,
Нінаццы на шубачку.
Колечку — з'язджацiся,
Нінаццы — вянчацiся.

## 196. НА ДУНАЁЧКУ, РАНА, РАНА

На Дунаёчку, рана, рана,
На беражочку
Купалiся, рана, рана,
Два галубочкi.
Скупаўшыся, рана, рана,
Да й паляцелi,
Да летучы, рана, рана,
Да й гаварылi:
— Да дзе мы будзем, рана, рана,
Ноч начаваці?
Да заначуем, рана, рана,
Хоць у садочку,
Спадмовім сабе, рана, рана,
Шэру зязюлю:
— Шэра зязюля, рана, рана,
Ляцi з намi,
Ляцi з намi, рана, рана,
З галубцамi.
— Рада б я ляцецi, рана, рана,
Жаль саду кiнуцi:
Да мне ў садочку, рана, рана,
Да ягад даволi —
Ёсць i калiна, рана, рана,
Ёсць i малiна.
Да ў Полацку, рана, рана,
На рыначку
П'юць, гуляюць, рана, рана,
Да два малойцы.
Піўшы, гуляўшы, рана, рана,
Да й паехалi,
Да едучы, рана, рана,
Да й гаварылi:

— Да дзе мы будзем, рана, рана,
Ноч начаваці?
Да заначуем, рана, рана,
Хоць у Ганульні,
Спадмовім сабе, рана, рана,
Младу Ганульку:
— Млада Ганулька, едзь з намі, рана, рана,
Да з малайцамі.
— Рада б я ехаць, рана, рана,
Жаль таткі кінуці:
Да мне ў матулькі, рана, рана,
Негі даволі,
Да мне ў татулькі, рана, рана,
Да хлеб сітовы.

## 197. НА ДУНАЁЧКУ

На Дунаёчку,*
На беражочку
Там купаліся
Два галубочкі.
Пакупаўшыся,
Да паляцелі,
Яны, летучы,
Да шчабяталі:
— Да дзе мы будзем
Ноч начаваці,
Да дзе мы будзем
Да жыраваці?
Мы заначуем
У цёмным бару,
Мы зажыруем
На жоўтым пяску.

## 198. ДЫ Ў ПОЛАЦКУ НА РЫНАЧКУ

Ды ў Полацку на рынанку,
Пілі малойцы гарэлачку,
Яны пілі ды гаварылі:

* Кожны радок паўтараецца.

— Ды дзе мы будзем ноч начаваці
І каго будзем сабе падмаўляці?
Начуем ночку хоць у дварочку,
Падмовім сабе Міхаліначку:
«Міхаліначка наша, паедзь з намі,
Паедзь з намі, з намі маладымі».

## 199. ХАЛОДНАЯ ВОСЕНЬ НАСТУПАЕ

Халодная восень наступае,
Не йдзі, дзеўка, замуж маладая.
З бел бярозкі лісток ападае,
Будзе твая долечка благая:
Будзе ў цябе свякроўка ліхая,
Будзе ў цябе дзевярочкаў многа,
А роднага не будзе нікога.

## 200. ВОСЕНЬ ХАЛАДНАЯ, ВОСЕНЬ ХАЛАДНАЯ

Восень халадная, восень халадная,
Восень наступае, восень наступае,
Ішла дзеўка, ішла дзеўка
Замуж маладая, замуж маладая.
Будзе ў цябе, будзе ў цябе
Дзіця малое, дзіця малое.
Будзе ў цябе, будзе ў цябе
Свякроўка ліхая, свякроўка ліхая.

## 201. ІШЛА ЦЯЦЕРА З ЛУГОЎ, З БАЛОТАЎ

Ішла цяцера з лугоў, з балотаў,
Рана, рана.*
За ёй суполе ясны сакалік:

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Пастой, цяцера, пастой, рабая,
Знімаю табе рабае пер'ё,
Жадаю табе саколлі крылля!
— Я не кідаю рабае пер'е,
Я не жадаю саколлі крылля!
Ішла Франуська з хаты на рынак,
А за ёй суполе малады Стасік.
— Пастой, Франуська, пастой, малада,
Знімаю табе румяны венчык,
Складаю табе шаўковы чэпчык!
— Я не скідаю румяны венчык,
Я не жадаю шаўковы чэпчык!

## 202. ЯК ВЫЛЕЦЕЛА ЗЯЗЮЛЯ

Як вылецела зязюля
З шчырага бору на поле:
— Во цяпера я тута палятаю,
Пшанічкі-ярычкі паядаю,
З крынічкі вадзічкі нап'юся,
Я й тута кукаваць навучуся.

## 203. ОЙ, НЕ ВЫЛЯТАЙ, СІВА ЗЯЗЮЛЬКА

— Ой, не вылятай, сіва зязюлька,
З куточка сенажаці:
Ляцяць сакалы, на цябе глядзяць,
Хочуць цябе узяці.

— Ой, няхай ляцяць, ой, няхай глядзяць,
То я іх не баюся,
У вішнёвым саду, у кляновым лісту,
То я там схаваюся.

— Ой, не выглядай, малада дзеўка,
З баценькавага двора,
Бо едуць сваты, музыкі йграюць,
Хочуць цябе ўзяці.

— Ой, няхай едуць, ой, няхай граюць,
То я іх не баюся,
А ў майго бацькі нова камора,
То я там схаваюся.

Нова камора, нова камора,
Замочкі нутраныя,
У майго мілага ўюцца кудзеркі —
Пярсцёнкі залатыя.

## 204. ЛЯТАЛА КАЗА ПА БЯРЭЗНІЧКУ

Лятала каза па бярэзнічку,
Летучы, блекатала:
— Каб не той ваўчок — шэранькі бачок,
Я бы тут зімавала:
Ўчора прыляцеў, дзетачак паеў,
А сягоння самую.
Ходзе Манечка ды па рыначку,
Ходзячы, бедавала:
— Каб не Васілька, каб не малады,
Я б у мамкі век векавала:
Ўчора прыехаў, пярынкі забраў,
А сягоння самую.

## 205. ХАДЗІЛА КОЗАНЬКА ПА ЛУГУ

Хадзіла козанька па лугу,
За ёю ваўчок пазаду:
— Да хадзі, козанька, не хадзі,
Да ўжо ж табе ад мяне на ўвайцi,
Дробных костачак не ўнясці!
Да валяцца рагам па гарам,
Дробным костачкам па лугам!

Хадзіла Марутка па ваду,
За ёю Пракопка пазаду:
— Да хадзі, молада, не хадзі,

Да ўжо ж табе ад мяне не ўвайці,
Русай косанькі не ўнясці!
Да валяцца грэбням па кутам,
Русай косанькe па лаўкам!

## 206. ХАДЗІЛА КОЗАЧКА ПА КРУТОЙ ГАРЭ

Хадзіла козачка па крутой гарэ,
Ножкаю як топ дык топ,
Надражалася шэраму воўку:
— Я ж цябе не баюся!
А ў суботачку, пад нядзелечку,
Козачкі як нет дык нет,
Толькі асталісь ножкі ды рожкі,
Белыя капыцікі.
Хадзіла дзевачка па новых сенях,
Хустаю як мах дык мах,
Надражалася маладому дзяцінку:
— Я ж цябе не баюся!
А ў нядзелечку пад панядзелак
Дзевачкі як нет дык нет,
Толькі асталісь щоўкавы ўплёты
З яе русае касы.

## 207. ХАДЗІЛА КОЗАЧКА ПА КРУТОЙ ГАРЭ

Хадзіла козачка па крутой гарэ,
Ножкамі як топ-топ-топ,
Наругалася щэраму воўку:
— Што я ж цябе не баюся!
Датуль хадзіла, наругалася,
Пакуль яму сталася.
Толькі сталіся ножкі ды рожкі
І буйна галовачка.
Хадзіла Валечка па новых сенях,
Ножкамі як топ-топ-топ,
Наругалася маладому Ваньку:

— Я ж цябе на баюся!
Датуль хадзіла, наругалася,
Пакуль яму сталася.

## 208. ХАДЗІЛА КОЗАЧКА ПА БРАДУ

Хадзіла козачка па браду,
А за ёй шэры воўк па сляду:
— Хоць хадзі не хадзі, козачка,
Быць табе, козачка, з'ядзёнай,
А валяцца рагам па лугам,
А валяцца хвасту па масту,
А самой козачцы — пад мастом.
Хадзіла Манечка па сенях,
А за ёй мамачка па сляду:
— Хоць хадзі не хадзі, дачушка,
Быць табе сягодня звязёнай,
А валяцца касе па расе,
А валяцца уплётам пад плотам,
А самой Манечцы жыць з Ванечкам.

## 209. ХАДЗІЛА ЛІСАНЬКА ПА БАРУ

Хадзіла лісанька па бару,
Прасіла, маліла сабаля:
— А такі-сякі собалю,
Выведзь мяне ды з бору,
Ужо ж мне ў барочку надаела:
Расіца вочанькі выела,
Шышачкі галоўку прабілі,
Сасонкамі ножанькі пакалола.
А хадзіла дзеванька па двару,
Прасіла, маліла сужаньку:
— Выведзь мяне ад татунькі,
Ужо ж мне ў татуньку надаела,
Па высокіх парогах ходзячы,
Дубовыя вядзёркі носячы.

## 210. ХАДЗІЛА КОЗАНЬКА ПА БОРУ

Хадзіла козанька па бору,
Прасіла яна саболю:
— А такій жа, сякій, саболя,
Выведзі мяне сы бору,
Ужо ж міне ў бару надаела:
Шышкамі ножанькі скалола,
Чашчой глазанькі выдрала!
Хадзіла Сахвейка па двару,
Прасіла яна Грыгорку:
— А такій жа, сякій Грыгорка,
Вазьмі ж мяне ад таткі,
Ужо ж мне ў таткі надаела:
Мелін ручанькі адарваў,
Каромысел плечанькі адламаў.

## 211. ЕХАЎ Я КАЛА САДЗІКУ ЗЕЛЯНОГА

Ехаў я кала садзіку зелянога,*
Відзеў я ды яблычка садавое,
Хацеў я ды яблычка сашчыпнуць,
Даждусь тэя пары спасавак,
Тады яблычка сашчыпну, садовае сашчыпну.
Ехаў я кала церама высакога,
Відзеў я Арыначку маладую,
Хацеў я Арыначку заручыць,
Даждусь тэя пары восені,
Тады Арыначку заручу, маладую заручу.

## 212. ЛЯТАЛА ЗЯЗЮЛЕНЬКА

Лятала зязюленька
Па зялёным садочку.

— Ай, сады мае, ай, зялёныя,
Мне па вас не лятаць.

* Кожны радок паўтараецца.

Мне па вас не лятаць,
Вінаграда не клявацъ.

Хадзіла Манечка па садочку,
Ай, па зялёнаму.

— Ай, мне па вас больш
Не хадзіці:

Прыдзець Ванечка вечарком,
Возьмець Манечку з зялёнага садочку.

## 213. ЗЯЛЁНАЯ БЯРОЗАНЬКА, ЧАМУ БЕЛА, НЕ ЗЯЛЁНА?

— Зялёная бярозанька, чаму бела, не зялёна?
— Як жа мне быць зялёнай, пры дарозе стоячы?
Да штодзень купцы едуць,
На карэннях агне кладуць,
Чэраз галлё дымы ідуць,
Карэнейка падпальваюць.
— Красна дзеванька, чаму смутна, нявесела?
— Як мне вясёлай быці, штодзень госцейкі,
Штосуботы то свацейкі,
Штонядзелі маршалачкі.
Зялёнае віно возяць,
Майго ойчаньку пояць,
Мяне, маладзенькае, просяць:
«Красная дзеванька, чы паедзеш ты з намі,
З маладымі сватамі?»
Рада б я паехаці, жаль пакінуці
Айцовага падворайка, матчынага прыбранейка,
Дзявоцкага гулянейка.

## 214. БЕЛАЯ ДА БЯРОЗАНЬКА

— Белая да бярозанька,
Чаму бела да не зелена?
— А як жа мне, да бярозаньке,

Як жа мне да зялёнай быць?
Штодзень купцы едуць,
На каранях да агонь кладуць,
Кранятка падсмаліваюць.
— Маладая дзяўчыначка,
Чаму хмурна да нявесела?
— Як мне, маладзенькай, быць вясёленькай?
Штосуботу сваты едуць,
Мамачцы перапой вязуць,
Матушку падпойваюць,
Мяне, маладу, падмаўляюць.
Матушка мая родная,
Не пі іх да перапою,
Іх перапой — улоў з вадою (бядою):
Каля лугу яны ехалі,
Лугавую ваду да бралі,
З перапоем мяшалі.

## 215. ЗЯЛЁНА ДУБРОВАЧКА, ЗЯЛЁНА ДУБРОВАЧКА

— Зялёна дубровачка, зялёна дубровачка,
Чаго рана зашумела, чаго рана зашумела?
— Як жа мне не шумеці, як жа мне не шумеці?
Буйны ветры павяваюць, буйны ветры павяваюць,
Дробны дажджы паліваюць, дробны дажджы паліваюць.
— Маладая Дунечка, маладая Дунечка,
Чаго, млода, сільна плачаш, чаго, млода, сільна плачаш?
— Учора ў мяне сваты былі, учора ў мяне сваты былі,
Мой татулька не адказаець, мой татулька не адказаець.
Прыехаць прыказаець, прыехаць прыказаець
А ў суботу з гаворкамі, а ў суботу з гаворкамі,
А ў нядзелю з гарэлкаю, а ў нядзелю з гарэлкаю,
У панядзелак за дзеўкаю, у панядзелак за дзеўкаю.

## 216. БЕЛАЯ ДА БЯРЭЗІНКА

— Белая да бярэзінка,
Зачэм бела, да не зелена?
— Як жа мне зялёнай быць?

Да штодзень купцы едуць,
На карэнні агонь кладуць,
Пад карчы дымы ідуць,
Па галлё іскры сыплюць —
Галейка пасыхае,
Лісцейка ападае.
— Красная дзевачка,
Чаму, малада, да нявесела?
— Як жа мне вясёлай быць?
Да штодзень сваты едуць,
Штонядзелі перапой вязуць,
Майго войценка пояць,
Маю матачку намаўляюць,
Мяне, маладзенькую, просяць.

## 217. ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВАЧКА

— Зялёная дубравачка,*
Чаго рана зашумела,
Лісце тваё пажаўцела?
— А як жа мне не шумецi,
Лісцю майму не жаўцецi?
Наехалі злыя людзі,
Злыя людзі татарыны,
Вязлі з сабою татарачку,
Маладую шанкарачку —
Руса каса да паяса,
Чорным шоўкам уплецена,
А золатам пазлочана.
Яны пада мной начавалі,
Вялікі агонь раскладалі.
Таго й рана зашумела,
Лісце маё пажаўцела.

## 218. ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАЧКА

Зялёная дубровачка
Чаго рана зашумела?
Да дым, на полі дымна.

* Кожны радок паўтараецца.

Таго ж яна задымела,
Да што едуць татароўя,
Маладыя жаўняроўя,
Вядуць сабе валыначку,
Маладую Марыначку,
А за ёю мамачка
З вялікаю дружынаю.
Марыначка аглянула
I хустачкай махнула:
— Не бяжы ты, мамачка,
Ужо нас не дагоніш,
Ужо нас не дагоніш,
Сама галоўку паложыш.

## 219. А ЧАМУ ТЫ, ЯЛУШАЧКА, НЕ ЗЯЛЁНАЯ?

— А чаму ты, ялушачка, не зялёная?
— А як жа мне, ялушачцы, зеляніцца?
Пада мною тры купчыкі начавалі,
Яны ж маё руцце-вецце паламалі,
Яны ж мяне, ялушачку, засушылі.
— А чаму ты, дзяўчыначка, невясёлая?
— А як жа мне, дзяўчыначцы, весяліцца?
А са мною бел малойчык начаваў,
Ён жа мяне, маладзеньку, ашукаў,
Ён жа мой руцень вяночак украў.

## 220. ОЙ ТЫ, БЯРОЗА, ЧАМУ НЕ ЗЯЛЁНА?

— Ой ты, бяроза, чаму не зялёна?
— Ой, дакуль мне да зялёнай стаяці?
Прышла пара лісту ападаці —
Бяруць, вязуць мілага ў салдаты.
Па яму плача ацец, стара маці.
— Не плачце вы, бо ўжо вы старыя,
Няхай плачуць дзеўкі маладыя.

## 221. КУПАЛАСЯ ВУТАЧКА НА МОРЫ

Купалася вутачка на моры,
Пакупаўшыся, яна змерзла.
Ды хто ж тую вутачку сагрэіць?
Ды сагрэіць вутачку селязень,
Ды ён сваім сізым крылачкам,
Ды ён сваім мяккім пушочкам,
Ды ён сваім цёпленькім душочкам.
Вымывалася дзяўчына ў цёплай лазіньке,
Памыўшыся, дзяўчына змерзла.
Ды хто яе, маладу, сагрэе?
Ды сагрэіць яе добры маладзец —
Сваім цёплым кажушком,
Сваім добрым душком.

## 222. А НА ГАРЭ ДУБ ЗЯЛЁН КУДРАВІСТЫ

А на гарэ дуб зялён кудравісты,
Іграй сонца із зарою.*

А на тым дубочку Ганначка сядзела,
Яна песню пела.

— Йдзі, Ганя, дахаты,
Прыехалі сваты.

— Я дахаты не пайду,
Я дудара не люблю.

— Ідзі, Ганя, дахаты,
Прыехаў пісар у сваты.

— Я ў хатачку пайду,
Бо я пісара люблю.

Дудар у дудкі іграіць,
Чужых жонак маіць.

Пісар пісьмы піша,
Яго сэрца жарам дыша.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 223. ЯВАР ЗЕЛЯНЕНЬКІ, КУДЫ НАХІЛІЎСЯ?

— Явар зеляненькі, куды нахіліўся? *
— Куды вецер вее, туды й нахіліўся.
— Парань маладзенькі, чаму не жаніўся?
— Жані, жані, бацька і сударыня-матка.
— Не жанісь, сыночак, хоць адзін гадочак.
— Маці мая дарагая, не магу я ждаці,
А дажду ячмень, не з кім будзе жаці,
А прыйдзе цёмна ночка, не з кім размаўляці.

## 224. АЙ, ЦЕМНАЯ, А НЯВІДНАЯ НОЧАЧКА

Ай, цёмная, а нявідная ночачка,
Ай, умная, разумная дзевачка.
Пакаціла вінную чару па сталу,
Выпрабавала свайго сужанькі норавы:
Ай, ці настыр, ці п'яніца сужанька,
Ці ўхопіцца ён за вінную чарачку,
Ці схопіцца ён за красную дзевачку?
Умней яе, разумней яе сужанька.
Не схапіўся ён за вінную чарачку,
А схапіўся ён за красную дзевачку.

## 225. СІНЕНЬКІ СЕЛЯЗЕНЬКА

— Сіненькі селязенька,
Ці быў ты й у галачкі?
— Ну дык што ж, што я бываў,
Я галачкі не відаў,
Толькі я на беражок —
Галачка й уплаў пашла,
За ею ўсе дзетачкі,
Большыя і меншыя.
— Маладзенькі Колечка,
Ці быў ты й у Танечкі?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Ну дык што, што я бываў,
Я Танечкі не відаў,
Толька я на ганачак —
Танечка й у сад пайшла,
А за ею ўсе дзевачкі,
Большыя і меншыя.

## 226. ДРАМЛІВА ПОЛЕ, ДРАМЛІВА

Драмліва поле, драмліва,
Ой, рана, рана, драмліва,*
А на ягодкі ўрадліва.
Пашла Стэпачка ў ягодкі,
Ой, брала-брала — заснула,
Ехаў Юстучок — не чула,
Кінуў пярсцёнак — не лучыў,
Злез з коніка — пабудзіў:
— Уставай, Стэпачка, досыць спаць!
Цябе матулька шукала,
Цэлую ночку не спала.

## 227. ДРАМЛІВА ПОЛЕ, ДРАМЛІВА

Драмліва поле, драмліва,
Ды на ягодкі ўрадліва.
Брала Манечка ягодкі,
Брала ягодкі — заснула,
Ехаў Валодзька — не чула,
Махнуў платочкам — не дастаў,
Кінуў жа персцень— не лучыў,
Злез з коніка — пабудзіў:
— Уставай, Маня, досыць спаць,
Пара да шлюбу выязджаць.

---

* Прыпеў паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

## 228. ДРАМЛІВА ПОЛЕ, ДРАМЛІВА

Драмліва поле, драмліва,*
Да на ягадкі ўрадліва.
Пашла Верачка ў ягадкі,
Ой, брала-брала — заснула,
Прышоў Васілька — не чула.
— Уставай, Верачка, досыць спаць,
Многа ягадак трэба браць,
А то іх людзі пабяруць
І цябе, маладую, асмяюць.

## 229. ДРАМЛІВА ПОЛЕ, ДРАМЛІВА

Драмліва поле, драмліва,*
Да на ягадкі ўрадліва.
Пайшла Ніначка ў ягадкі,
Ой, брала-брала—заснула,
Ехаў Сымонка — не чула,
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў яблычак — не папаў,
Да злез з коніка — пабудзіў:
— Уставай, Ніначка, досіць спаць,
Пара радзінку сабіраць.

## 230. ОЙ, ЗА ГАРОЮ ЗА КРУЦЯНОЮ

Ой, за гарою за круцяною
Малойчык з радзінкаю
Пісямцо пісаў, да дзевачкі слаў,
Ці скора прыехаці.
— Мой ты малойчык, мой рыбачка,
Пачакай гадзіначку,
Пакуль сазаву, пакуль сабяру
Усю сваю радзіначку.
Ночка маленька, радзіна буйненька —

---

* Кожны радок паўтараецца.

Не магу сабрацi,
Не магу сабрацi ды ў рад пасаджацi
Усю сваю радзiначку.
Трэба абабрацъ самога салавейку
Ды паслацъ па радзiнку,
А зязюлечку шэраньку —
Па родную мамачку.
Салавейка ляцiць — радзiнка iдзе,
Да хвала табе, божа.
Зязюлька ляцiць — мамачкi няма,
Ой, мой моцненькi божа.

## 231. А ЗА ГАРОЮ ЗА КАМЯНОЮ

А за гарою за камяною
Ясенька з дружыною
Пiша лiсточкi, шле да дзевачкi,
Цi скора прыязджацi.
— Да не едзь, не едзь, мой ты мiленькi,
Хаця ў гэту гадзiнку,
Пакуль я спрашу, пакуль я збяру
Усю сваю радзiнку,
Пакуль разжалю, пакуль разжалю
Сваю родную мамку.

## 232. ЗАГАРЭЛАСЯ КАЛIНКА, Ў ЦЁМНЫМ ЛУЗЕ СТОЯЧЫ

Загарэлася калiнка, ў цёмным лузе стоячы.
Гасiў яе ветрык, не ўгасiў,
Па полi iскаркi разнасiў.
— Не гары, калiнка, не гары,
Болей гасiць не буду.
Угасiць цябе дробны дождж,
З-пад цёмнай хмары iдучы,
Цябе калiну гасячы.
Заплакала дзевачка,
У бацькi за сталом седзячы.
Унiмаў бацюшка, ды не ўняў,

Болей жаласці ёй задаў:
— Не плач, дзевачка, не плач,
Болей цябе унімаці не буду.
Уніме цябе чужына,
Усё малайцова радзіна:
З левага боку татарын,
З правага боку татарка,
З левага боку малойчык,
З правага боку сваціца,
Малайцова сястрыца.

## 233. РАЗГАРЭЛАСЯ КАЛІНА

Разгарэлася каліна,
Перад зарою стоячы,
Дробныя іскры ронячы.
А гасіў вецер, не ўгасіў,
Па полі іскры разнасіў.
Расплакалася Алечка,
Перад мамулькай стоячы,
А дробныя слёзкі ронячы.
Унімала мамка, не ўняла
Ды горай жалю задала.
А ўніміць яе дружына,
Уся Колечкі радзіна.

## 234. ОЙ, БОР-ПЕРАБОР МЕСЯЧЫК

— Ой, бор-перабор месячык,
Ці ўсе зорачкі перабраў?
— Адну зорачку спадабаў,
Што яна рана ўсходзе,
Позна заходзе,
Рана ўсходзе — світае,
Позна заходзе — змяркае.
— Ой, бор-перабор Міколка,
Ці ўсіх дзевачак перабраў?
— Адну Ганначку спадабаў,

Што яна рана ўстае,
Што яна позна кладзецца,
Рана ўстае — чытае,
Позна кладзецца — вышывае,
Ой, мые, шые, васкуе,
Свайму міламу гатуе.

## 235. ПЕРАБОРНІЧАК МЕСЯЧЫК

Пераборнічак месячык *
Перабраў усіх зорачак.
Як выбраў сабе зорачку,
Хоць яна маленька-ясненька,
Па небу коціцца скоранька.
Пераборнічак Архіпка
Перабраў усіх дзевачак:
Як выбраў сабе дзевачку,
Хоць яна маленька-красненька,
Па вадзіцу бяжыць скоранька,
Вадзіцу нясець — не разальець.

## 236. АЙ, БОР-ПЕРАБОР МЕСЯЧЫК

Ай, бор-перабор месячык *
Браў, перабраў звёздачак,
А выбраў сабе зорачку,
Што раненька ўсходзіць,
Што позненька заходзіць.
Эй, бор-перабор Васілька
Браў, перабраў дзевачак,
А выбраў сабе Манечку,
Што раненька ўстаець,
Што позненька лажыцца,
На работу спяшыцца.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 237. ПАЙШЛА ВУТАЧКА, ПАЙШЛА ШЭРАЯ

Пайшла вутачка, пайшла шэрая
На мора зімаваці,
А за ею ей сіні селязень,
Яе даганяючы:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пашчабечам.
Быў я на моры, чуў я паловы
Аб твае дробны дзеці:
На твае дзеці там робяць сеці,
Хочуць іх палавіці.
— Не бойся, не бядуй, сіні селезень,
Я таго не збаюся:
Сеці разарву, дзяцей выпушчу,
Я ўгару падымуся.
— Чаго, Валечка, чаго, малада,
Ды так жальненька плачаш?
Быў я на рынку, чуў я навінку
Пра цябе, маладзеньку:
Купляюць чубчык, купляюць венчык
На тваю галовачку.
— Не бойся, не бядуй, мой ты Ванечка,
Я таго не збаюся:
Венчык я сарву, хустку завяжу,
Я табе астануся.

## 238. ПЛЫЛА ВУТАЧКА, ПЛЫЛА ШЭРАЯ

Плыла вутачка, плыла шэрая
І да й па сінім Дунаі.

За ей селязень, за ей сівенькі,
І ўсё за ей шчабечучы:

— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пагаворым.

А й быў я на моры, чуў я, гавораць,
Пра твае дробны дзеткі:

Й а робяць сеці на твае дзеці
І хочуць іх палавіці.

— Да няхай робяць, да няхай ловяць,
А я іх не баюся:

Крылцамі ўзмахну, галоўкай устрахну,
Я із дзеткамі ўцяку.

Ходзіць Анечка маладзенькая
Да па новенькіх сенях.

За ей мамачка, за ей родная,
І ўсё з ей гаворачы:

— Мая Анечка, маё дзіцятка,
Як мы с табой расстанемся?

Сваты прыедуць, цябе павязуць,
А я тут астануся й.

— Да няхай едуць, да няхай вязуць,
Ці я ж яго не баюся:

Пайду ў камору, пайду ў новую
І хустачкай ахінуся.

Выйду з каморы, выйду з новенькай,
Слёзкамі абальюся.

## 239. ХОДЗЕ ВУТАЧКА ПА СЕНАЖАЦІ

Ходзе вутачка па сенажаці,
Крыльцамі размахае,
А за ёй, за ёй сель-селязенчык
На крыльцо наступае:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пагаворым.
Да робяць сеткі на твае дзеткі
І на цябе самую.
— Ды няхай робяць, няхай не робяць —

Яны ж нас не паловяць:
Я ў сець увайду і сець прайду,
А сама ўплаў пайду,
Свае дзетачкі, свае дробныя
У асаку пахаваю.

## 240. ПЛЫВЕЦЬ ВУТАЧКА БЕЗ ВУЦЯНЯЦІ

Плывець вутачка без вуцяняці
На мора начаваці,
А за ею ей сінь селязенька,
Яе даганяючы:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пашчабечым.
Быў я на моры, чуў я паловы
На цябе, шэранькая:
Гатоўлюць сеці на тваё дзеці,
Хочуць іх палявацi.
— Да хоць гатоўлюць, хоць не гатоўлюць —
Я іх не баюся:
Я й сеці парву, дзеці ўплаў пушчу,
Сама ўверх падымуся.
Пайшоў Іванька да паненачкі,
Хочаць пагаварыці:
— Пастой, паненка, пастой, малада,
Мы з табой пагаворым.
Быў я на рынку, чуў я навінку
На цябе, маладзеньку:
Гавораць людзі й усе суседзі,
Што я твой не буду.
— Няхай гавораць, ці не гавораць,
Да я іх не баюся:
Каго я люблю, верна кахаю,
Я із тым не расстануся.

## 241. ЛЯЦЕЛА ВУТКА САКАЦІСТАЯ

Ляцела вутка сакацістая,
Па полі мекатала:

— Каб не тойваўчок, каб не шэранькі,
Я ж бы тут начавала!

За ёй селязень, за ёй сівенькі,
Ён за ёй у пагоню:
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пагаворым!

Быў я на моры, чуў я размовы
Пра цябе, шэра вутка:
Стаўляюць сеці на твае дзеці,
Хочуць іх палавіці!

— Няхай стаўляюць, няхай рыхтуюць —
Я й таго не баюся:
Крыльцамі ўзмахну, дзеці панырнуць,
А [redacted] ўверх падымуся!

Ішла дзевачка маладзенькая
Ды праз новыя сені,
За ёй малойчык, за ёй малады,
Да яе гаворачы:

— Пастой, дзевачка маладзенькая,
Мы з табой пагаворым!

Быў я на рынку, чуў я навінку
Пра цябе, маладзеньку:
Таргуюць чапец, купляюць вянец
Ды на тваю галоўку!

— Няхай таргуюць, няхай купляюць,
То я іх не баюся!
Калі трэба мне будзе, маладой,
Я без іх прыбяруся!

## 242. ЛЯЦЕЛІ ПТАШАЧКІ У ТРЫ ПАРАЧКІ, ЗЯЗЮЛЬКА — ПАПЕРАДУ

Ляцелі пташачкі у тры парачкі, зязюлька — папераду,
Пташачкі нам защчабяталі, зязюля закукавала.
Ішлі дзевачкі цераз сенечкі, Маланка — папераду,

Дзевачкі селі, песні запелі, а Маланка заплакала:
— Дзевачкі мае, сястрыцы мае, сядзьце вы укруг мяне,
Покуль прыедуць, покуль прыедуць два малойчыкі,
Яны вас разгоняць, яны вас разгоняць,
А мяне з сабой возьмуць.

## 243. ЛЯЦЕЛІ ГАЛКІ РАД ПА РАДОЧКУ

Ляцелі галкі рад па радочку,
Зязюля — сперадочку.
Галачкі палі, зашчабяталі,
Зязюля закукавала.
Ішлі дзевачкі рад па радочку,
Марфачка — сперадочку.
Дзевачкі селі, песні запелі,
Марфачка заплакала:
— Божа мой, божа мой міласерданькі,
Каму я дасталась?
Нялюбы сядзіць, за руку дзяржыць,
А любы — ў парозе,
Нялюбы п'ець то мёд, то віно,
А любы — гарэлачку,
Нялюбы спіць на пярыначках,
А любы — ў саломе,
Нялюбы накрыт адзеялкаю,
А любы — рагожкаю.

## 244. ЛЯЦЕЛІ ВУЛІ ЧЭРАЗ ТРЫ ПОЛІ

Ляцелі вулі чэраз тры полі,
Зязюля — напярод.
Вулі паселі, забрукавалі,
А зязюля закукавала.
— Што ты, зязюля, што ты, шэрая,
Так рана кукуеш?
Ці ты, зязюля, ці ты, шэрая,
Сцюдзёну зіму чуеш?
— Чую не чую, але добра ведаю:

Цёплае летца скора мінецца і зіма будзіць.
Ішлі дзеўкі чэраз сенюшкі,
Алёнка — напярод.
Дзеўкі паселі, песні запелі,
А Алёнка заплакала.
— Што ты, Алёнка, што ты, маладая,
Так жаласна плачаш?
Ці ты, Алёнка, ці ты, маладая,
Благую свякрову чуеш?
— Чую не чую, добра ведаю:
Няродненькая матка.

## 245. ЛЯЦЕЛІ ГАЛАЧКІ ЧАТЫРЫ ПАРАЧКІ

Ляцелі галачкі чатыры парачкі,
Зязюля — паперадзе.
Галачкі селі, песню запелі,
Зязюля закукавала.
Ішлі дзевачкі цераз сенечкі,
Танечка — паперадy.
Дзевачкі селі, песні запелі,
Танечка заплакала.
Прышла да яе мамачка яе
Да й пытаецца ў яе:
— Чаго, Танечка, красна дзевачка,
Так сільненька плакала?
Ці жалка табе старое мяне,
Ці майго падвор'ейка?
— Не жалка і мне старое цябе,
Ні твайго падвор'ейка,
А жалка і мне русае касы,
Усё й дзявоцкае красы.

## 246. ЛУГАВАЯ ЗЯЗЮЛЕЧКА, ЛУГАМ ЛЯЦІШ

Лугавая зязюлечка, лугам ляціш,
Чаму не кукуеш?
Ужо тваё мінулася вясенняе кукаванейка,

Настала асенняе жыраванейка.
Ой ты, дзеўка-дзяўчыначка, ад бацькі йдзеш,
Чаму не заплачаш?
А ўжо тваё мінулася, дзевачка, каханейка,
Машына гулянейка.

## 247. ПАЙШЛА СІРОТАЧКА

Пайшла сіротачка,
Па полі гукаючы,
Мамачку шукаючы.
Не нашла ж яна мамачку,
Нашла лебядзіначку,
Мамчыну магілачку.
— Лебядзінка, ўскалыхніся,
А мне, мамка, адзавіся.
Устань, устань, мая мамачка,
Ды ўчашы галовачку,
Ды ўмый бела ліцо,
Ды дай мне кашуліцу
І выправі на вуліцу.
— Адступіся, дзіця маё,
Есць у цябе дома матка,
Дома матка, дома мачыха.
Няхай яна галоўку чэша,
Маё сэрца не пацеша.
Няхай яна бела ліцо мые
І кашуліцу дае.
— Як галовачку чэша,
Маё сэрца не цеша,
А як ліцо мые,
Маё сэрца ные,
А як кашульку дае,
Смяртэльнаю клятвай кляне:
«Каб гэтую не знасіла
І каб другой не прасіла».

## 248. ЛЯТАЎ ГОЛУБ, ЛЯТАЎ ПА ДАЛІНЕ

Лятаў голуб, лятаў па даліне,
Шукаў голуб галубачкі галубыя:
— А дзе ж мая галубачка галубая,
Куды ж яна паляцела?
Ці ў край мора
Галубачка паляцела?
Села ж яна на дубочак.
Шуміць, гудзіць,
Зялёны дуб не гаворыць.
Худа жыць на чужбіне:
Не [illegible] каму галовачкі прыхіліць.

## 249. ЗВОНКАЕ ДЗЕРАЎЦА КАЛІНКА

Звонкае дзераўца калінка:
Уверх ляцела — звінела,
Уніз ападала — стучала.
Пакорная дзіцятка Юзэфка:
Не бачыўшы свёкру, спазнала,
Цераз мір ручаньку падала,
Пра мілага здароўе спытала.

## 250. ДЫ ЗВОНКАЕ ДЗЕРАЎЦА КАЛІНКА

Ды звонкае дзераўца калінка,
Да й люлі, рана, калінка:
Звысоку ляцела — звінела,
На земельку падучы, шумела.
Разумнае дзіцятка Ганулька:
Не відзеўшы свёкратку, спазнала,
Чыраз столік ручачку давала,
Свёкратку вітала
І ў свёкраткі здароўя пытала:
— Чы здаровы, свёкратка, усе ўдому?

## 251. РУМЯНА ПОЛЕ, РУМЯНА

Румяна поле, румяна,
Рана, рана, румяна,
Поўны двор каней нагнана,
Рана, рана, нагнана.
Ніхто тых коней не пазнаў,
Рана, рана, не пазнаў
Да ніхто ў стаенькі не загнаў,
Рана, рана, не загнаў.
Вышла Алёнка, пазнала
І да стаенькі загнала,
Рана, рана, загнала.
Прыйшла ў хату, сказала,
Ой, рана, рана, сказала:
— Пойдзе татачка да току,
Ой, рана, рана, да току,
Дай конічку аброку,
Ой, рана, рана, аброку.
Сівому каню болей дай,
Рана, рана, болей дай,
А я пайду ў чужы край
Да за чужое дзіцятка,
Будзе свякроўка — не матка.

## 252. РУМЯНА ПОЛЕ, РУМЯНА

Румяна поле, румяна,
Повен двор коней нагнана.
Ніхто тых коней не знае
Ды да стаенькі не займе.
Вышла дзевачка, пазнала
І да стаенькі загнала,
Свайму татульку сказала:
— Аброку коням, аброку,
Гэтыя коні здалёку,
Не так здалёку, з Вілейкі
Прыслаў па мяне міленькі,
Не так залёку, з Аршавы
Па мяне коні прысланы.

## 253. ВЯЛІКА ПОЛЕ, НЕ МАЛА

Вяліка поле, не мала,
Повен двор коней нагнана.
Ніхто тых коней не прызнаў
І да стаенкі не загнаў.
Млода Манечка прызнала,
Да стаенкі загнала.
— Аброку, татка, аброку,
Гэтыя коні здалёку.
Сіваму каню болей дай,
Ён мяне павязець у чужы край
Да на чужую старану,
На Валодзькаву радзіну́.

## 254. ПА БАРУ, ПА БАРУ, ПА ВЕРАСУ

Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, мамка, ідзі, мамка, знайдзі ключы!
Ідзець мамка, ідзець мамка — ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, татка, ідзі, татка, знайдзі ключы!
Ідзець татка, ідзець татка — ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, брацітка, ідзі, брацітка, знайдзі ключы!
Ідзець брацітка, ідзець брацітка — ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, сястрыца, ідзі, сястрыца, знайдзі ключы!
Ідзець сястрыца, ідзець сястрыца — ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, мілы, ідзі, мілы, знайдзі ключы!
Ідзець мілы, ідзець мілы — ключы нясець.

## 255. І ПАХІЛІЛАСЯ КАЛІНА

І пахілілася каліна,
Пахілілася на Дунай
І лісцем беражкі пакрыла,
Карэннем ваду змуціла.
І пакарыстая Анютка
Пакарылася татульку
І слёзкамі ножкі абліла,
Шоўкам касіцу апляла.
— Ах вы, дзевачкі, вы ўсе мае,
Не завідывайце вы мне,
Бо і вы гэтага дажджэце,
Шоўкам касіцу спляцеце.

## 256. ДА НЕ РАНЕНЬКА

Да не раненька,
Да не позненька —
Соўнейка над заходам,
Маладая дзевачка, маладзенькая,
У мамачкі на выходзе.
Вышла з каморкі,
Вышла з новенькай,
Нізенька скланілася:
— Дзякуй, мамачка, дзякуй, родная,
За тваё гадаванне,
Дзякуй, татачка, дзякуй, родненькі,
За тваё выдаванне.

## 257. А УЖО ПОЗНЕНЬКА ДЫ НЕ РАНЕНЬКА

А ўжо позненька ды не раненька —
Сонейка на заходзе,*
А ўжо Наташа, ужо малада

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

У мамулькі на выездзе.
Яе мамка ў вароцейках стаіць,
Яна яе ўнімае:
— Не едзь, дзіцятка, не едзь, мілае,
Ужо роза расцвітае,
Зялёны явар, зялёны явар
У вяночкі паспявае.
— Мамулька мая, родная мая,
Мне ж розу не рваць,
Мамулька мая, родная мая,
Мне вяночкаў не віці,
Мамулька мая, родная мая,
Мне з табой не жыці.

## 258. УЖО НЕ́ РАНЕНЬКА ДЫ УЖО ПОЗНЕНЬКА

Ужо не раненька ды ўжо позненька —
Сонейка на заходзе,
Была ў мамачкі адна дачушка
І тая на выходзе.
Узяла конаўку, вышла ў каморку,
Беленька памылася,
Вышла з новенькай, вышла з каморкі,
Мамачцы скланілася:
— Дзякуй, мамачка, дзякуй, родная,
За тваё гадаванне,
Што гадавала, што шкадавала,
Нямножка пасылала.
Хто не гадаваў, хто не шкадаваў,
Той будзе пасылаці,
Мамачцы маёй, родненькай маёй
Жалю задаваці.

## 259. УЖО ПОЗНЕНЬКА ДЫ НЕ РАНЕНЬКА

Ужо позненька ды не раненька —
Сонейка на заходзе,
Ужо дзевачка маладзенькая
У мамачкі на выходзе.

Пайшла у святліцу,
Узяла мядніцу,
Беленька памылася,
Выйшла з святліцы,
Выйшла з новенькай,
Мамачцы скланілася:
— Дзякуй табе, мая мамачка,
За тваё гадаванне,
За добрае аддаванне,
Што гадавала мяне малую,
А аддавала вялікую,
Што гадавала із хлебам, із соллю,
А дай жа шчасце, долю.

## 260. УЖО ПОЗНЕНЬКА ДА НЕ РАНЕНЬКА

Ужо позненька да не раненька —
Соўнейка на заходзе,
Ужо дзевачка маладзенькая
У мамачкі на выходзе.
Узяла шкляніцу, пайшла ў святліцу,
Беленька ўмылася,
Вышла з святліцы, вышла з нованькай,
Мамачцы скланілася:
— Дзякуй, мамачка мая родная,
За тваё гадаванне,
Да вот цяжкае да нялёгкае
Нам з табой расставанне.
— Дачушка мая, мілае дзіця,
Да мусім расстаціся,
Сваты прыедуць, цябе забяруць,
Я адна астануся,
Тут астануся, тут астануся,
Слёзкамі абальюся.

## 261. А УЖО НА ДВАРЭ РАНА НЕ РАНА

А ўжо на дварэ рана не рана —
Сонейка над заходам,
Маладая Манечка радзіцца ўпрочкі,

Ай, наўпроць цёмнай ночкі.
Яе ж мамачка ды не пускае,
Ружаю пацяшае:
— Не едзь, Манечка, красная дзевачка,
Ужо ружа расцвітае.
— Ай, няхай цвіцець, расцвітаецца,
Мне ж яе не шчыпаці,
Адзін раз была вяночак звіла,
Я ж яго не насіла.
Толькі насіла, красавалася,
Пакуль звянчалася.
Прыехала дамоў, скінула далоў —
Вот табе, мая мамачка.

## 262. ДА ЎЖО ПОЗНЕНЬКА, НЕ РАНЕНЬКА

Да ўжо позненька, не раненька —
Соўнейка на заходзе,
Маладая дзевачка ўпрочкі радзіцца,
Яна нікому не жаліцца.
Яе мамачка, яе родная
У яе пытаецца:
— Не йдзі, дачушка, не йдзі, родная,
А з намі павячэрай.
— Мяне, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраці.
Горы высокі, калодзеж глыбокі,
Сцежачка крутая.
Вадзіцу прынясу, кожнаму паднясу,
Старому й малѐму.
Вазьму кусочак, сяду ў куточак,
Слёзкамі абальюся.
Кусочак сухі, куточак глухі,
Сяду я вячэраць.
Да каб знала я, каб я ведала
Сваю горкую долю,
Я ж бы ўзрасла, у чарнушкі пашла,
Я ж бы панавала.

## 263. ПАШЛА ДЗЕВАЧКА ЗА ВАРОЦЕЙКІ

Пашла дзевачка за вароцейкі,
Расплятаючы коскі,
За ёй мамачка, за ёй родная,
Разліваючы слёзкі:
— Пастой, дзевачка, пастой, дзіцятка,
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяць, не буду чакаць.
Не буду гаварыці:
Сама знаю, мне людзі кажуць,
Што ў мамачкі не быці.
— Дзіцятка мае, роднае маё,
Не слухай людской моўкі,
Ідзі ў садочак, саві вяночак,
Стань сабе ля дзевачак.
— Мамачка мая, родная мая,
Уся твая няпраўдачка:
Дзевачкі стаяць, па вянку дзяржаць,
А мяне не прымаюць,
Бабачкі стаяць, па сынку дзяржаць,
А мяне паджыдаюць.
Дзевачкаў лаўка, дзевачкаў лаўка
Ад кветачак сіне-сіненька,
Бабачкаў лаўка, бабачкаў лаўка
Ад слёзачак макрусенька.

## 264. ХОДЗІЦЬ ГАЛУБКА ПА ГАЛУБНІЧКУ

Ходзіць галубка па галубнічку,
Галубок за ёю.
— Пастой, галубка, пастой, сівая,
Пабрукуем з табою.
— Не буду стаяць, не буду чакаць,
Брукаваць не буду.
Ходзіць дзевачка па новых сенях,
А мамачка за ёю.
— Пастой, дзевачка, пастой, дзіцятка,
Табе раду параджу:
Ты ідзі ў садок ды зві вянок,

Ды ідзі да дзевачак.
— Мамачка мая, родная мая,
Дзевачкі не прымаюць,
Там бабы сядзяць па сынку дзяржаць
І мяне падклікаюць:
«Ты бяры дзіця ды хадзі сюда,
Хоць з намі пагаворыш».

## 265. ЁСЦЬ У ГАРОДЗЕ ДВА НАГАДОЧКІ

Ёсць у гародзе два нагадочкі,
Каторы вырвеш — пахнець.
Ёсць у Манечкі да два вяночкі,
Каторы возьмеш — плачыць.
Ідзець да яе мамачка яе.
— Чаго, Манечка, плачаш?
— Мая мамачка, мая родная,
Як жа мне не плакаць:
Людзі гаворадь, нашы суседзі,
Што я дзеўкай не буду.
— Не так суседзі, не так суседзі,
Як суседскія дзеці,
Не так дзетачкі, не так дзетачкі,
Як твае бальшаначкі.
Ля цябе сядзяць,аб цябе судзяць,
Аб твае падарачкі:
Не тонка прала, не звонка ткала,
Коратка парэзала.

## 266. ПАНОВА НАСТАСЯ Ў ЗЯЛЁНЫМ САДУ ГУЛЯЛА

Панова Настася ў зялёным саду гуляла,
Зялёна віна варыла, у залаты кубкі ліла,
За ўбраны стол гасцей саджала,
Любых гасцей саджала, частавала.
— Панова Настася, дай вады, дай мыла,
Дай белы ручнічок,
Чым было б уцерціся, на Настасю наглядзеціся.

## 267. ЧАГО, ЛОСЮ, ЧАГО, СІВЕНЬКІ

— Чаго, лосю, чаго, сівенькі,
Ты к сялу прылятаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Хоць цяжкую, хоць не цяжкую,
Над лецечка не будзе:
Я ўлетку пайду,
Лазінку згрызу,
А зімою нічога.
— Чаго, дзевачка маладзенькая,
Ты к сталу прылягаеш?
Ці ты, дзевачка маладзенькая,
Ліхую свякроў чуеш?
— Хоць ліхую, хоць не ліхую,
Над мамачку не будзе:
Я ў мамы жыла,
Як роза цвіла,
А ў свякроўкі не буду.

## 268. ДА ШТО Ж ТЫ, ЛОСЮ, ШТО Ж ТЫ, НЯБОЖА

— Да што ж ты, лосю, што ж ты, нябожа,
Так к стаду прывыкаеш?
Да чы ж ты, лосю, чы ж ты, нябожа,
Ліхую зіманьку чуеш?

— Ой, чы ліхая, чы не ліхая,
Да не будзіць, як летанька,
Да не будзіць, як цёпленька!

— Што ж ты, Тацянка, што ж ты, малада,
Так к сталу прыпадаеш?
Чы ж ты, Тацянка, чы ж ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?

— Ой, чы ліхая, чы не ліхая,
Да не будзіць, як маменька,
Да не будзіць, як родненька!

## 269. ОЙ, ЧАГО, ЛОСЮ, ОЙ, ЧАГО, СІВЫ

— Ой, чаго, лосю, ой, чаго, сівы,
К лугу прылягаеш?
Ой, чы ты, лосю, ой, чы ты, сівы,
Ліхую зіму чуеш?
— Ой, хоць ліхая, хоць не ліхая,
Не будзе, як лецечка:
Я ўлетку пайду, травіну скашу,
Расіцу расцерушу.
— Чаго, дзевачка, чаго, маладзенька,
Так сільненька плачаш?
Чы ты, дзевачка, чы ты, маладзенька,
Ліхую свякроў чуеш?
— Ой, хоць ліхая, хоць не ліхая,
Не будзе, як мацечка:
Я ў маткі пайду, я вяночак саўю,
З дзевачкамі у садок пайду.

## 270. АЙ, ЧАГО, ЛОСЮ, АЙ, ЧАГО, ДЗІКІ

— Ай, чаго, лосю, ай, чаго, дзікі,
Так [illegible] сялу прылягаеш?
Ай, ці ты, лосю, ай, ці ты, дзікі,
Сцюдзёную зіму чуеш?
— Чую не чую, віджу не віджу,
Не цёплае летка будзе.
Цёплае летка скора мінецца,
Зіма надакучыць.
А ўлетку хаджу, расіцу тапчу,
Зялёную траўку скубу,
А ўзімку хаджу, белы снег тапчу,
Сухую лазу грызу.
— Ай, чаго ты, Мар'ютка, ай, чаго, малада,
Так сільненька плачаш?
Ці ты, Мар'ютка, ці ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?
— Чую не чую, віджу не віджу,
Не родненькая мамка будзець.
Мяне, маладу, пашлюць па ваду,

А самі сядуць абедаць.
Горы высокія, воды далёкія —
К абеду не паспею.
Прынясу вады, на сябе бяды,
Кожнаму піці даці:
Падаць старому, падаць малому,
Суженьку маладому.
Ложачкамі бразь-бразь,
Слёзачкамі кап-кап —
Вот табе і паабедала.

## 271. ЧАГО ТЫ, КОСЮ, ЧАГО, СІВЕНЬКІ

— Чаго ты, косю,
Чаго, сівенькі,
Ды к сялу прылятаеш?
Ды ці ты, косю,
Ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Ды хоць цяжкую,
Хоць нялёгкую,
Не будзе, як лецейка:
Я ўлетку хаджу,
Расіцу тапчу,
Зялёную траву грызу,
А ўзіму хаджу,
Сняжочак тапчу,
Сухую лазу грызу.
— Чаго, Манечка
Маладзенькая,
К століку прылягаеш?
Ці ты, Манечка
Маладзенькая,
Ліхую свякроў чуеш?
— А хоць ліхую,
Хоць не ліхую,
Не будзе роднай мамкай:
Я ў мамкі хаджу,
Косачку чашу —
Я ў яе работнічка,

У свякроўкі хаджу,
Работку раблю —
Я ў яе нягодпічка.

## 272. ЧАГО ТЫ, ЛОСЮ, ЧАГО, СІВЕНЬКІ

— Чаго ты, лосю, чаго, сівенькі,
К сялу прылягаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжку зіму чуеш?
— Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую,
Не будзе, як лецечка,
Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую,
Не будзе, як цёплае.
— Чаго, дзевачка, чаго, маладая,
Так сільненька плачаш?
Ці ты, дзевачка, ці ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?
— Хоць ліхую, хоць не ліхую,
Не будзе, як мамачка.
Мамачка была, родная была,
Яна мяне не абсудзіла.
Свякроўка будзе, журліва будзе,
Выйдзе на вулку, абсудзе:
«Спіць нявестачка ды да соўнейка,
Да бадай не ўстала.
Майму дзіцяці даражанькаму
Ды свет завязала».

## 273. ЧАГО ТЫ, ЛОСЮ, ЧАГО ТЫ, СІВЫ

— Чаго ты, лосю, чаго ты, сівы,
К сялу падбягаеш?
А ці ты, лосю, а ці ты, сівы,
Лютую зіму чуеш?
— А хоць лютую, хоць не лютую,
Не будзе, як лецечка:
Я ўлетку пайду, травіцу скубу,

Вадзіцы нап'юся,
А ўзімку ляжу, бок на бок гляджу,
На другі не перавярнуся.
. . . . . . . . . . .
— А ці, дзевачка, а ці ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?
— А хоць ліхую, хоць не ліхую,
Не будзе, як мамачка:
Я ў мамкі — пайду нагуляюся,
Прыду дамоў — высыпаюся,
У свёкаркі — пайду я нараблюся,
Прыду дамоў — папраўлюся:
Мне, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраці.
Прынясі вады, на сябе бяды,
Кожнаму піць паднясі:
Паднясі малому дзеля малосці,
Старому ля старасці,
А свайму Іванку ля маласці.

## 274. ЧАГО, ПЧОЛАЧКА, ЧАГО, ЯРАЯ

— Чаго, пчолачка, чаго, ярая,
К вулейку прылятаеш?
Ці ты, пчолачка, ці ты, ярая,
Ліхую зіму чуеш?
— Хоць жа лютая, хоць жа не лютая,
Не будзець, як лецечка,
Не будзець, як цёплае.
— Чаго, дзевачка, чаго, молада,
К столлейку прылягаеш?
Ці ты, дзевачка, ці ты, малада,
Ліхую свякрову чуеш?
— Хоць ліхая, хоць не ліхая,
Не будзець, як мамачка,
Не будзець, як родная:
Мае ў мамачкі, мае ў роднае
Пірагі ў печы,
Тыя свякровы, тыя ліхія
Кулакі ў плечы.

### 275. А ГУЛІ, ГУЛІ ПЧОЛКІ

А гулі, гулі пчолкі, (2)
К вулейку прылятаючы: (3)
— А ты, вулля, наш вулля,*
Нам тута не зімаваці,
Нам тут не зімаваць
І раёў не адсыпаць.
А плакала Мар'ечка,
К кубліку прылягаючы:
— Ах ты, кубла, мой кубла,
Я не дзень цябе скубла,
Не нядзелю бяліла —
За адзін вечар раздарыла,
Я нікому не ўгадзіла:
Ані цёткам, ані дзядзькам,
Ані родным сястрыцам.

### 276. МАЁ ШЫРОКАЕ ПАДВОР'Е

— Маё шырокае падвор'е,
Чаму вадою заплыло?
Ці табе ветру не стала,
Ці табе сонца замала?
— Свяціла сонца ў ваконца,
Павеяў ветрык з загор'я
На маё нізкае падвор'е.
— Маладая дзевачка, чаго ты замуж хацела?
Ці бацькава роскаш дадзела,
Ці ад людзей павагі не мела?
— Была мне роскаш ў татачкі,
Будзе павага ў свякроўкі,
Будзе знявага ў мілога.

### 277. САЛАВЕЙКА, ПТАШАЧКА МАЛЕНЬКА

Салавейка, пташачка маленька,
Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці?

* Далей кожны радок паўтараецца.

Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці,
Дзе ж ты будзеш гняздзечка звіваці?

Не ляці ж ты за сіняе мора,
Звій гняздзечка ў маёй каморы.

Ты нас будзеш песняй весяліці,
А мы будзем хлебушкам карміці.

Ты нам будзеш песенькі спяваці,
Стане ўзімку лецейка ў хаце.

## 278. СПАСАУКА, ПЕРАЛЁТНАЯ ПТАШКА

— Спасаўка, пералётная пташка,
Дзе лета летавала,
Дзе будзеш зімаваці?
— Летавала у пшаніцы,
Зімавала у крыніцы,
У сцюдзёнай вадзіцы.
— Маладая дзевачка,
Дзе расла, кахалася,
Дзе й будзеш векаваці?
— Расла ж я ў татачкі,
Векаваць я й там буду,
Дзе мне госпад бог судзе:
Ці ў свёкра, ці ў свякроўкі,
Ці ў дзевера, ці ў залоўкі,
Ці ў ліхія вятроўкі.

## 279. ПЕРАПЕЛКА, ЛАСТАУКА

— Перапёлка, ластаўка,
Дзе лета летавала?
Дзе лета летавала,
Дзе будзеш зімаваці?
— Летавала ў пшаніцы,
Зімаваць буду ў крыніцы,

Зімаваць буду ў крыніцы,
У сцюдзёнай вадзіцы.
— Ты, дзяўчына маладая,
Дзе гады гадавала?
Дзе гады гадавала,
Дзе будзеш векаваці?
— Гадавала ў мамачкі,
Векаваць — у свякроўкі,
Векаваць — у свякроўкі,
У чужой у сямейцы.

## 280. БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

Баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела,
Ці табе ў бары надаела?
Ў бары ягадкі салодкі,
У бары крыніца-вадзіца,
У бары ягадкі сытныя,
У бары вадзіца пітная!
Маладая дзевачка,
Чаго ты замуж хацела,
Ці табе ў маткі надаела?
У маткі падвор'е вузенька,
У маткі гулянне блізенька!
У свякроўкі падвор'е шырынька,
У свякроўкі гулянне далёкае!

## 281. ОЙ, БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

— Ой, баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела,
Ці ў бару жыру не мела?
— А ў бару жыру даволі,
Болей не будзіць ніколі.
А ў бару вадзіца-крыніца,
У бару ягодкі салодкі.
— Ой, маладая дзевачка,

Чаго замуж ляцела,
Ці ў таткі хлеба не мела?
— А ў таткі хлеба даволі,
Болей не будзіць ніколі.
У таткі вадзіцы не было,
А было салодкае віно.
Яно ж ў нас рэчачкай цякло,
Не ляніся раненька ўставаць,
Вінцо ў бутылачкі пераймаць.

### 282. І БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

— І баравая цяцера,*
Чаго з бору ляцела?

І чаго з бору ляцела,
На сенажаці села?

На сенажаці села,
Скрыллейка апусціла.

І скрыллейка апусціла,
Саколіка прыўчыла.

— Не я яго прыўчыла,
Ён сам ка мне прывык

І на маё пер'е глядзеў,
На маё шэранькае.

— І маладая Танечка
Хлопчанька прывучыла.

— Не я яго прыўчыла,
Ён сам ка мне прывык

І на маё ліцо глядзеў,
На маё беленькае.

Ён маю радню зважаў,
Ён маю багатую.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 283. ОЙ, ДУРНА, ДУРНА ЦЯЦЕРА

Ой, дурна, дурна цяцера,
Што ты з бору зляцела,
Ці табе ў бары дадзела?
Ой, дурна, дурна Волечка,
Чаго ты замуж хацела,
Ці табе ў мамы дадзела?
Тваёй мамы падвор'е малое,
А ў яе гулянне даволі.
А ў твайго Ванечкі падвор'е шырока,
А ў яго гулянне далёка.
А ў тваёй мамы пірагі, баранкі,
А ў твайго Вані бізуны, нагайкі.
А свякруха не матка:
Будзіць цябе не будзе,
Выйдзе на вуліцу, судзіць будзе,
Што мая нявестка санліва, драмліва.

## 284. КЛЯНОВАЯ ЛІСЦІНАЧКА

— Кляновая лісцінaчка,
Куды цябе ветры веюць?
А ці ў луг, ці ў даліну,
Чы назад на кляніну?
— А веюць мяне ветры
Ані ў луг, ані ў даліну,
Веюць мяне ветры
На шчырыя барочкі,
На зялёныя лужочкі.
— Маладзенька Баська,
Куды цябе мамка аддасць?
А ці ў туркі, ці ў татаркі,
Ці ў турэцку зямлю?
— Аддасць мяне мамка
У вялікае сяло,
У багатую хату,
Дзе дзевяраткі граюць,
А жалвіцы прапіваюць,
Горку долю праклінаюць.

## 285. ЗЯЛЁНЫ ЛІСТОЧКУ

Зялёны лісточку,
Куды цябе ветрык павене?
Ой, ці ўверх, ці ў даліну,
Ці назад да на каліну?
Маладая дзевачка,
Куды цябе бацька аддае?
Ці ў туркі, ці ў татар'е,
Ці ў тую да баяршчыну,
Што гоняць да на паншчыну?
На паншчыну ідуць,
Лусты бяруць.
Ой, знаці, што не свая маці выпраўляе:
Каб свая матка выпраўляла,
Кусок сала ў торбу клала.

## 286. КЛЯНОВЕНЬКІ ЛІСТОНЬКУ

Кляновенькі лістоньку,
Куды цябе вецер коціць?
Чы на гору, чы ў даліну,
Чы ў зялёну дуброву?
Сы на гору, сухі будзеш,
Сы ў даліну, мокры будзеш!
Маладзенькі Іванка,
Куды цябе бацька радзіць?
Чы на вайну, чы да цесценька?
На войне сякуць, рубаюць,
А ў цесценька п'юць, гуляюць,
На вайне з бічыкамі,
У цесценькі з музыкамі.

## 287. ТЫ, ЗЯЛЁНЫ БАРВІНЦУ

Ты, зялёны барвінцу,
Чы марозу не баішся,
Па дарогах не сцелешся?

Ты, клянова лісціна,
Куды цябе вецер нясе?
Чы на дуб, чы на кляніну?
Ты, маладая дзяўчына,
Куды цябе жанішок вязе?
Чы на Дунай, чы ў туркі,
Чы ў татары, чы ў турэцкую землю,
Чы ў шляхецкую сем'ю?
Там яна не знаецца,
Кожнаму кланяецца.
Кланяйся, дзеванька, старому і малому,
Дасць табе гасподзь літную долю.

## 288. ОЙ, КЛЕН, КЛЯНІНА, ТЫ, ШЫРОКАЯ ЛІСЦІНА

— Ой, клён, кляніна, ты, шырокая лісціна,
Куды цябе ліхі вецер панясе, панясе?
Ой, ці ўгору, ці ў даліну, ці назад на кляніну?
— Ой, не ўгору, не ў даліну, да назад на кляніну.
— Маладая дзеванька, куды цябе твой бацютка аддае?
Ой, ці ў туркі, ці ў татары, ці ў турэцкую зямлю?
Ці ў турэцкую зямлю, ці ў шляхоцкую сям'ю?
— Ой, не ў туркі, не ў татары, не ў турэцкую зямлю,
Не ў турэцкую зямлю, не ў шляхоцкую сям'ю.
Ой, там зямля крамяніста, ой, там сям'я наравіста,
Там дарожкі няроўненькі, там бацюхна няродненькі.
Прыдзе ранак — не збудзіць, пойдзе к суседу ды абсудзіць:
«Мая нявеста санлівая, мая нявеста драмлівая,
Спіць яна пад аконечкам, пакуль зыйдзе ясна сонейка».

## 289. КЛЯНОВЫ ЛІСТОЧАК

— Кляновы лісточак,
Куды ты пакоцішся?
Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну?
— Я й сам таго не ведаю,
Куды пакачуся,

Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну.
— Маладзенькі малойчык,
Ды куды сабіраешся?
Ды куды сабіраешся
Проціў цёмнай ночкі,
Проціў буйнага ветру,
Проціў дробнага дожджыку?
— Я і сам таго не ведаю,
Куды матка выпраўляе.

## 290. КЛЯНОВЫ ЛІСТОЧАК

— Кляновы лісточак,
Ды куды ты пакоцішся?
Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці ў бор на кляніну?

— Ды я й сам не ведаю,
Куды вецер пакоціць,
Ці ўгару, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну.

— Маладая дзяўчыначка,
Ды куды ты ідзеш?
— Я й сама не ведаю,
Куды маці аддае,
Ці ў сяло, ці ў прысёлле,
Ці ў дзявочае бяздолле.

## 291. ДА КЛЯНОВЫ ЛІСТОЧАК

— Да кляновы лісточак,
Куды ты пакоцішся?
Ці ўгару, ці ў далінку,
Ці ў луг пад калінку?
Малады малойчык,
Куды цябе татулька шле?

Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да бога па долю?
— Да я сам не ведаю,
Куды мяне татулька шле,
Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да бога па долю.

## 292. ТЫ, КЛЁН, ТЫ, ДЗЕРАВА

— Ты, клён, ты, дзерава,
Ты, кляновы лісточак,
Куды цябе ветры коцяць?
Ці ў гай, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну?

— Я сам не знаю,
Куды мяне ветры коцяць,
Ці ў гай, ці ў даліну,
Ці назад на кляніну.

— Красная Ганначка,
Куды цябе замуж аддаюць?
Ці ў сяло, ці ў мястэчка?

— Я й сама не знаю,
Куды мяне аддаюць,
Ці ў сяло, ці ў мястэчка.
Калі ў сяло — дык буду сялянка,
А на мястэчка — дык буду мяшчанка.

## 293. ЗАЛАТАЯ МАКАЎКА

— Залатая макаўка,
Ці многа маку маеш?
— Ці многа, ці нямнога —
Усе поле абсеяла.
Усе поле абсеяла,

І яшчэ засталося
К налеццю на насенне,
Петрачку на вяселле.

## 294. ЗАЛАТАЯ МАКАУКА

— Залатая макаўка,
Ці многа макаў маеш?
— Ці многа, ці нямнога —
Усё поле засеяла,
А на луг не хапіла.
Мачыну ад насення —
Дзяўчыне на вяселле.
— Маладая дзевачка,
Ці многа дароў маеш?
— Ці многа, ці нямнога —
Усіх сватоў адарыла,
На свякроўку забыла.
Ой, свякроўка-мамачка,
Я цябе не забуду,
Кожны дзень дарыць буду
Доўгімі станінамі,
Белымі кужалямі.

## 295. ВІХОР КАЛІНКУ ПАЛАМАУ

Віхор калінку паламаў,
Сярод Дунаю кладку клаў.
А там Волечка хадзіла,
Сваю мамульку будзіла:
— Устань, мамачка, не ляжы,
Збіраць цвяточкі памажы
Ды на нітачку папляці,
На залатую іголку,
На маю буйну галоўку.

## 296. ОЙ, НЕ КУЙ, НЕ КУЙ

— Ой, не куй, не куй,
Сіва зязюлька, ўночы,
Бо павыкалеш
На шыпшынаньку вочы.

— Вой, як жа бо мне,
Сіненькай, не куваці,
Вывела дзеткі,
Ды не з кім гадаваці!

Вой, не стой, не стой,
Сухі дуб, над вадою,
Бо не чыстая
Вадзіца пад табою.

Вой, не піць яе,
Не есці варыці,
Толькі праз масток
Да паненкі хадзіці.

Вой, плыві, плыві,
Чорна галка, чарненька,
Вой, скажы, скажы,
Дзе мая міленька.

Ох, мая міленька
За гарой, за барамі
Умываецца
Зеллечкам-купінамі.

## 297. НЕ КУЙ, НЕ КУЙ, СІВА ЗЯЗЮЛЕНЬКА, УНОЧЫ

— Не куй, не куй, сіва зязюленька, уночы,
Бо выкаліш на шыпшыну вочы.
— А як жа мне, сівенькай, не кукаваці,
Мела дзетак, да некім паслаці!
Ой, палячу я да лесу, да лесу,

Ці не пачую дзетак сваіх голасу,
Ой, палячу я ад бору да бору,
Ці не пабяру дзетак з сабою.

## 298. АЙ, УПАЛА ЛАСТАУКА, УПАЛА

Ай, упала ластаўка, упала
У тое дзядоўе колкае,
Ай, у тую макрыцу-травіцу.
Ай, па ей жа пташкі тужылі.
— Не тужыце, пташкі, вы па мне!
Я тое дзядоўе паламаю,
Я тую макрыцу-травіцу пакашу.
Ай, упала Ганулька, упала,
Ай, у тое дзявер'е ліхое,
Ай, у тыя залоўкі-чачоткі.
А па ёй жа дзеўкі тужылі.
— Не тужыце ж, дзевачкі, вы па мне!
Я тое дзявер'е пажаню,
А заловак-чачотак пааддаю,
А ліхія дзявер'я — ў суседзі,
А залоўкі-чачоткі — ў гасціны.

## 299. ЯК УПАЛА ШЭРА ВУТАЧКА У ДЗЯДОУЕ

Як упала шэра вутачка ў дзядоўе,*
Сталі па ёй усе пташкі шчабятаць.
— Не шчабячыце, мае пташачкі, вы па мне!
Як для мяне дзядоўіка пасохнець,
Як каля мяне траўку-мураўку пакосяць,
Тагды я к вам, мае пташачкі, прыляту!
Як упала маладая Аленка ў дзевяр'ё,
Сталі па ёй усе дзевачкі бедаваці.
— Не бядуйце, мае дзевачкі, вы па мне!
Як я сваіх усіх дзевяркоў пажаню,
Як я сваіх заловак замуж пааддаю,
Тагды я к вам, мае дзевачкі, прыеду.

* Кожны радок паўтараецца.

## 300. УПАЛА, УПАЛА ЦЯЦЕРА

Упала, упала цяцера,
Ой, рана, рана, цяцера *
У вялікае дзядзеўе.
А мы хлопчыкаў папросім,
Гэта дзядзеўе пакосім.
А мы дзяўчатак сабяром,
Тое дзядзеўе саграбём.
А ўпала, упала Танечка
Да ў вялікія дзевяры,
Да ў ліхія залвіцы.
— А не пужайся, Танечка,
Што вялікія дзевяры,
А што ліхія залвіцы.
Дзевяры будуць суседзі,
Залвіцы будуць госціцы,
А з табой, Танечка, будзем жыць.

## 301. ОЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ

— Ой, восень, восень,
Ты мяне ачарыла:
Прыйдзеш дадому —
Вячэранька няміла.

Ачарыла мяне
Рознымі чаранькамі,
Ажаніла мяне
З сінімі вочанькамі.

— Каб ты не ведаў,
Як коніка сядлаці,
Як я не знала,
Чым цябе чараваці!

Ой, каб ты не знаў,
Як на коніка сесці,

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Як я не знала,
З чым табе даці есці!

Каб я, малада,
Свае волікі мела,
То я на цябе,
Гультая, не глядзела б!

Каб мела валы
Ды яшчэ палавыя,
Любілі б мяне
Хлопчыкі маладыя.

Лецечка было,
Розна зеллечка цвіло,
Восень настала,
Розна зеллечка звяла.

Ой, пайду, пайду,
Дзе я летам хадзіла,
Ці я не знайду,
Каго верна любіла.

## 302. ЧАМУ, СЕЛЯЗЕНЬ

— Чаму, селязень,*
Рана, рана,**
Смуцён, невясёл?

— Як мне, селязню,
Вясёламу быць?

Учора звечара
Я на моры быў,

Я на моры быў,
Вутачку злавіў,

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля першага радка кожнай страфы.

Сягоння рана
Ужо паляцела.

Каб жа далёка,
Жалю б не было,

А так ад мяне
У трэцім кусце,

У трэцім кусце,
Ой, купаецца,

З мяне, селязня,
Наругаецца.

— Чаго, малойчык,
Смуцён, невясёл?

— Як мне, малайцу,
Вясёламу быць?

Учора звечара
На вячорках быў,

На вячорках быў,
Дзяўчыну любіў,

Сягоння рана
Ад мяне ўцякла.

Каб жа далёка,
Жалю б не было,

А так ад мяне
У трэцім двары.

Вадзіцу бярэ,
Умываецца,

З мяне, маладога,
Наругаецца.

## 303. ОЙ, ЧАМУ, СЕЛЯЗЕНЬ, ЧАМУ, СЕЛЯЗЕНЬ

— Ой, чаму, селязень, чаму, селязень,
Рана, рана, смуцен, невясёл?
— А як мне, селязню, а як мне, селязню,
Рана, рана, вясёламу быць?
Учора звячора, учора звячора,
Рана, рана, вутачка была,
Сягоння рана, сягоння рана,
Рана, рана, застралёная,
Застралёная, застралёная,
Рана, рана, панясёная.
— Чаму, Толечка, чаму, Толечка,
Рана, рана, смуцен, невясёл?
— Як мне, малайцу, як мне, малайцу,
Рана, рана, вясёлым быць?
А ў суботу, а ў суботу,
Рана, рана, Верачка была,
А ў нядзельку, а ў нядзельку,
Рана, рана, заручоная,
Заручоная, заручоная,
Рана, рана, павязёная.
Каб жа далёка, каб жа далёка,
Рана, рана, жалю б не было,
А то ад мяне, а то ад мяне,
Рана, рана, у трэцім двары.
Цераз мой дварэц, цераз мой дварэц,
Рана, рана, па ваду ідзець.
Нясець вадзіцу, нясець вадзіцу,
Рана, рана, усміхаецца,
Мне, маладому, мне, маладому,
Рана, рана, наругаецца.

## 304. ОЙ, ДОЖДЖЫК ІДЗЕ, РАСА НАПАДЗЕ

Ой, дожджык ідзе, раса нападзе
Па зялёнай даліне,
Распусціў Яся сваё золата
Па маладой дзяўчыне.

— Ой, не жаль жа мне таго золата,
Што я яго распусціў,
Ды жаль жа бо мне тае дзеўчыны,
Што за людзі пусціў.

Там за рэчкаю, там за быстраю,
Там зялёненькі спорыш.
Чаму, дзеўчына маладзенькая,
Да мяне не гаворыш?

— Ой, як я маю, мой малойчыку,
Да цябе гаварыці,
Мне людзі кажуць, я сама знаю,
Мне цябе не любіці!

— Ой, няхай кажуць, няхай гавораць
Хоць па ўсенькаму свету,
Я цябе любіў, любіці буду,
Мой ружовенькі цвету!

Як добра было, млода дзеўчына,
Мёд, гарэлачку піці,
А цяпер не хоч, маладзенькая,
Са мною гаварыці!

Як добра было, млода дзеўчына,
Падаруначкі браці,
А цяпер не хоч, маладзенькая,
Са мною размаўляці!

— Ой, не многа ж я, а мой Ясенька,
Падаруначкаў брала:
Адны панчошкі і чаравічкі,
То я й тых не стаптала!

Ой, ідзі, маці, ой, ідзі, маці,
Ды да новае скрыні,
Аддай Ясеві падаруначкі
Да ліхое гадзіны!

## 305. ЧАГО, ЗЯЗЮЛЬКА, НЕ КУКАВАЛА

— Чаго, зязюлька, не кукавала,
Як зіма наставала?
— А я ж думала, мае пташачкі,
Што гэта цвяты цвітуць,
Аж тыя цвяты выйшлі на снягі,
Запраўду зіма стала.
— Чаго, дзяўчыначка, ты не плакала,
Як цябе заручалі?
— А я ж думала, мае дзевачкі,
Што сваты жартавалі,
Аж тыя жарты выйшлі напраўду,
Заправду павянчалі.

## 306. ЧАМУ, ЗЯЗЮЛЯ, НЕ КУКАВАЛА

— Чаму, зязюля, не кукавала,
Як сады зацвіталі?
Чаму, дзевачка, ды не плакала,
Як цябе заручалі?
— Як заручалі, тады казалі,
У мілага кароў многа,
А як я прыйшла,
Дык адну знайшла
І тую цялушкаю.
Пагналі ў поле,
З'еў воўк і тое.

## 307. ОЙ, ЖАЛЬ ЖА МНЕ НА ЗЯЗЮЛЕЧКУ

Ой, жаль жа мне на зязюлечку,
Што рана кукавала,
А шчэ горшы жаль мне на мамачку,
Што мала пагуляла.
А ні я піла, а ні я гуляла,
Хораша не схадзіла,
Адну кашульку шоўкам вышыла,

Я і тэй не знасіла.
Прыехала дамоў — скінула далоў,
Ручачкі заламала.
Ляжы, кашулька, знося матулька,
Я насіці не буду.

## 308. ЗАЛАМЛЁНА Ў ЛУЗЕ КАЛІНА

Заламлёна ў лузе каліна.
А хто ж яе, зялёную, заламаў?
Заламаў яе ціхі дробны дождж ык,
Усё й буйныя ветры.
Заручона дзевачка ў татунькі.
А хто яе, маладую, заручыў?
Заручыў яе свёкарка за сына,
Усё й за двараніна.
Павязлі яе лужком да беражком
І к свёкру на двор.
Вялелі коней ссядлаці
І белую пасцель слаці.
Не так яна белую пасцель сцеле,
Як горка плача:
— А не вучыла мяне маці
А белую пасцель слаці.

## 309. ОЙ, ТАМ У БОРУ

Ой, там у бору
Сасна шумела,
Ой, рана, рана,
Сасна шумела.

Як зашумела
Аб нашай ролі,
Ой, рана, рана,
Аб нашай ролі.

Аб нашай ролі,
Аб нашай нядолі.
Ой, рана, рана,
Аб нашай нядолі.

## 310. У ГАРОДЗЕ НА ПАГОДЗЕ

У гародзе на пагодзе
Канапелька стаяла,
На канапельцы на зялёненькай
Зязюля кукавала,
А дзеваччына мамачка
Зязюльку выклінала:
— Каб ты, зязюлька, каб ты, шэрая,
Больш тут не лятала:
Адкукавала, адгаварыла
Мне з хаткі семяніна...
Да у гародзе, да на пагодзе
Канапелька стаяла,
На канапельцы на зялёненькай
Зязюля кукавала,
А малайцова мамачка
Зязюльку выхваляла:
— Каб ты, зязюля, каб ты, шэрая,
Штогод прылятала:
Прыкукавала, прыгаманіла
Мне ў хату семяніна.

## 311. ОЙ, У АГАРОДЗЕ НА ПЕРАХОДЗЕ

Ой, у агародзе на пераходзе
Канапелька стаяла,
На той канапельцы зязюля кукавала.
Выйшла дзяцючкова матка, зязюльку пахваляла:
— Бадай, зязюлька, бадай, совая,
Цэлы век кукавала,
Як ты прыкукавала, прыбрукавала
Мне дамаўніцу і божую паспешніцу.
Пойдзем мы жаці, нажнём снапок,
Нажнём другі, ёсць каму звязаці.

## 312. У ГАРОДЗЕ ДЫ НА ПАГОДЗЕ

У гародзе ды на пагодзе
Канапелька стаяла,
На канапельцы на зялёненькай

Зязюля кукавала.
Чыя мамачка, чыя родная
Зязюлю праклікала:
— Каб ты, зязюля, каб ты, рабая,
Болей не кукавала:
Пракукавала, прашчабятала
Дачушку-работніцу,
Выкукавала, вышчабятала
Нявестку-нягодніцу.
Да ўстану я рана, гляну на хатку,
Слёзкамі аблíюся:
Хатанька мая немяцёная,
Ложачкі нямытыя.

## 313. ДА У ГАРОДЗЕ, ДА НА ПАГОДЗЕ

Да ў гародзе, да на пагодзе
Канапенька стаяла,
На канапеньцы на зялёненькай
Зязюля кукавала.
Чыя-та матка, чыя-та матка
Зязюлю праклінала:
— Багдай, зязюля, багдай, рабая,
Тут болей не лятала:
Адкукавала, адшчабятала
Ад мяне работніцу.
Чыя-та мамка, чыя-та мамка
Зязюлю выхваляла:
— Багдай, зязюля, багдай, рабая,
Кожны год прылятала:
Прыкукавала, прышчабятала
Да мяне работніцу.

## 314. ПАЙДУ Я ДА ДУНАЮ

Пайду я да Дунаю
Да стану я, падумаю.
А ў Дунаю да дно відно,
Мне ў бацюхна добра было:

На вулічцы перад мілым
На музыках заначую.
А цяпер пайду я да Дунаю
Да стану я, падумаю.
А ў Дунаю дна няма,
А ў свёкра дабра няма:
Пры постаці пераднюю,
А пад жорнамі заначую.

## 315. АХ ТЫ, ЯВАР КУЧАРАВЫ

Ах ты, явар кучаравы,
Ты не стой над ракою,
Не махай цецівою,
Не нясі цёшчы звесці,
А я сам к цёшчы йду,
З цёшчаю павідаюся,
А з мілаю паругаюся.

## 316. ДА ВОСЕННАЯ НОЧКА

Да восенная ночка,
Ты мая разлучоначка,
Разлучыла мяне ад роду, ад племя,
Ад бацькі, ад матанькі,
Прылучыла мяне да чужога чужаніцы,
Да вечнае палавіцы.
Хто захоча паглуміцца,
Да няма каму заступіцца.

## 317. У МАЙГО ТАТАЧКІ ГОРЫ ДА ГОРЫ

У майго татачкі горы да горы —
Мне гуляці даволі,

На вуліцу йду — не пытаюся,
З вуліцы — не хватаюся.

У свёкаркі падвор'е роўнае —
Мне гуляці не вольна.
На вуліцу йду — пытаюся,
З вуліцы — хватаюся.

## 318. ДА У МАЙГО ТАТАЧКІ

Да ў майго татачкі
Горы да горы —
Мне гуляці даволі.
А ў майго свёкаркі
Усюдах роўненька —
Мне гуляць не вольненька.

## 319. ЛУЖКОМ, БЕРАЖКОМ РЭЧАЧКА ЦЯКЛА

Лужком, беражком рэчачка цякла,
Па прыгор'ейку Ніначка ішла,
З лугавой вадой гаварыла:
— Як я ў матулькі ў роднай жыла,
Бела свае лічанька ўмывала,
Каб мае лічанька белым было,
Каб я суджанаму міла была.
Як стала я жыць у свякровачкі,
Бела было лічанька — пабялела,
Міла была суджанаму — памілела.

## 320. ОЙ, ПАЙДУ, ПАЙДУ

Ой, пайду, пайду,
Куды летам хадзіла,
Ой, ці не знайду,
Каго верна любіла.

Ой, хоць не яго,
То таварыша яго,
Запытаюся
Аб здароўі мілога.

Галоўка баліць —
Пабаліць, перастане,
А мой горкі быт
Да сэрданька дастане.

Ой, гора, гора —
Не хочацца рабіці,
А горшае гора
Без кашулі хадзіці.

Ой, гора, гора,
Яшчэ горай будзе:
Матуля памрэ —
Другое не будзе.

Ой, павешу я
Вядзёрка над вадою,
А сама скочу
Да маманькі на размову.

Ой, крышачку я
З мамкаю размаўляла,
Ой, яшчэ ж бо я
Праўданькі не сказала.

## 321. ОЙ, ПАЙДУ, ПАЙДУ

Ой, пайду, пайду,
Дзе зроду не хадзіла,
Ой, ці не знайду,
Каго верна любіла.

Каго любіла,
Таго ў людзі пусціла,
Каго не знала,
З тым на шлюбе стала.

На шлюбе стала
З сівою барадою,
А ў людзі пусціла
Яся маладога.

Яго барада,
Як на вуліцы смецце,
А я, малада,
Як каліналька ў цвеце.

Яго барада
Толькі жар замятаці,
А мной, маладой,
Будзе пасылаці.

## 322. ОЙ, ПАЙДУ, ПАЙДУ

Ой, пайду, пайду,
Дзе зроду не хадзіла,
Ды ўгледжу таго,
Каго верна любіла.

Ой, каго любіла,
На людзі пусціла,
А каго не знала,
То любіці стала.

Ой, любіла я
Князя маладога,
Аддалі мяне
За дзеда старога.

Ой, кацілася
Калодачка з печы
Ды пабіла майму
Міленькаму плечы.

А мой міленькі
Да чужых жонак ходзіць,
А мне, маладой,
У бога хваробы просіць.

А мой міленькі
Чужым жонкам гарэлкі купуе,
А на мяне, маладую,
Нагайку гатуе.

## 323. І ПАЙДУ Я ТУДЫ

І пайду я туды,
Пайду я сюды,
І дзе я ў лецях хадзіла,

Ці не ўвіджу я, (2)
Ї каго верна любіла.

Не ўвіджу яго, (2)
І хоць таварыша яго.

Ці ты жыў, здароў, (2)
Ды і хвала табе, божа.

Калі не здароў, (2)
І няхай божа паможа.

## 324. ЦЁМНАЯ НОЧКА, ЦЁМНАЯ

Цёмная ночка, цёмная,
Яшчэ цямней будзе,
Хай судзяць, гавораць,
А што з мяне будзе.
Няхай сабе судзяць,
Няхай гавораць,
А маёй натуры
Не перастановяць,
Бо мая натура
Айца й матулі
Й мужа маладога.

### 325. КАЛІНА-МАЛІНА РАНА РАСЦВІЛА

Каліна-маліна рана расцвіла,
Мяне, маладзеньку, рана мама замуж аддала
У такую старонку невясёлую,
У такую сямейку неспагадную.
Пражыла я годзік, пражыла і два,
А на трэці годзік затужылася,
А на трэці годзік затужылася:
Да мамачкі ў госці захацелася.
Знаю, што далёка,
Знаю, не дайду,
Папрасіла б каня,
Знаю, не дадуць.

### 326. КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЯ, А У БОР ПАЛЯЦЕЛА

Кукавала зязюля, а ў бор паляцела,
Ой, лёлі-лёлі, [redacted] ў бор паляцела,*
Не аддаў мяне бацька, за каго я хацела,
Аддаў мяне бацька за ўдавінага сына,
А ўдавіны сын — горкі п'яніца,
Е[redacted] ночачку п'ець, другую гуляіць,
Прыдзець дворачку — сям'ю разганяіць,
Мяне, маладую, і б'ець, і караіць,
І б'ець, і караіць — к рабоце прывучаіць.
А мяне ж мамачка ў горы радзіла,
Мяне малалетнюю к рабоце прывучыла.
У-у-у!

### 327. ШТО ГУЛА, ГУЛА ГАЛУБАЧКА

Што гула, гула галубачка
Ды на луг паляцела,**
У-у-у!

---

* Прыпеў паўтараецца в другой часткай кожнага радка.
** Кожны другі радок паўтараецца з загукваннем.

Ой, не аддаў мяне мой татачка,
За каго я й хацела,
У-у-у!

Ой, аддаў мяне мой роднянькі,
За каго нягожа,
У-у-у!

Ой, па калена смецця ў хаце,
На стале рагожа,
У-у-у!

А мне, младзе, младзёшаньке,
Глядзець непрыгожа,
У-у-у!

Як вазьму я мяцёлачку
Ды вымяту хату,
У-у-у!

Як вазьму я рагожачку
Пад лаўку падкіну,
У-у-у!

Як вазьму я скацерць бялёву
На стале пасцялю,
У-у-у!

## 328. ЗЯЗЮЛЕЧКА БАРАВАЯ

Зязюлечка баравая
А ў бор паляцела,
Не аддаў жа мой татачка,
За каго я хацела.
Аддаў мяне мой татачка,
Каго я не знала,
Каго я не знала,
У вочы не відала,
Смецця ў хаце па калена,
На стале рагожа,

На стале рагожа,
Глядзець непрыгожа.
Запрагай жа, мой татачка,
Сівую кабылу,
Вывезу я смецце з хаты
На тваю на магілу.
Зарасці-ка, магілачка,
Травой-муравою,
Усё травою-муравою,
Рознымі цвятамі,
Застаюся, мой татачка,
З дробнымі дзяткамі.

## 329. БАРАВАЯ ЗЯЗЮЛЕЧКА

Баравая зязюлечка,
А яна ў бор паляцела, у-у-у,
Не аддаў мяне мой татачка,
За каго я хацела.
Я хацела, я хацела
За купецкага сына,
Аддаў мяне мой татачка
За ўдавінага сына.
Удавіны жа сыночак,
Ён горкая п'янюга,
Ён вор, зладзюга,
З ранды не выходзіць,
Ён гарэлачку цодзіць.

## 330. ОЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Ой, белая бярозачка
Бялей майго цела,
Не аддаў мяне татачка,
За каго я хацела.
Жыву гадок, жыву другі,
На трэці ступаю,
Ніхто ў мяне, бяздольніцы,

У гасцях не бывае.
Ці сцежачкі не ведае,
Дарожкі не знае?
Сцежачка ў вароцецы,
Дарожка ў аконца,
Прыдзі, прыедзь, мой татачка,
Як яснае сонца.
А я табе, татулечка,
Вячэру згатую,
Пад цясовым аконцам
Пасцельку пасцялю.
— Чаму, чаму, мой татачка,
Усю ноч не засыпаеш,
Праз цясовае аконейка
На двор паглядаеш?
— Ой, цяжанька мне, трудненька
Тут ноч начаваці.
— А як жа мне, мой татачка,
Тут век векаваці?

## 331. САМА САД САДЗІЛА

Сама сад садзіла,
Сама пільнавала —
Сад мой не зелен.
Каго ж я любіла,
Каго ж я кахала,
Той мяне не ўзяў,
Над кім я смяялась,
Таму ж я дасталась.
Выйду за вароты,
Выйду за новыя —
Тры парні ідуць,
Самы найпярвейшы,
Самы найлюбейшы
Папярод ідзець:
— Сцялі, сцялі, міла,
Сцялі, чарнабрыва,
Вішыннікам двор,
Каб я не паўмараў

Казловых сапожак,
Залатых упражак.
Сцялі, сцялі, міла,
Сцялі, чарнабрыва,
Скацерці на стол.
І сама ж ты знаеш,
І людзі гавораць,
Што ўжо не твой.

## 332. АЙ, ПАЙДУ Я, ПАЙДУ

Ай, пайду я, пайду,
Нікуды не дзенуся,
Сярдзітая зімушка,
А я, дзевушка, босая.
Не хачу рабіць на пана,
На яго пуза таўстое.
Мае ручкі бяленькія
І ножачкі таненькія,
Спіна мая ізбіта
Панскімі бізунамі, панскімі бізунамі.
Ідзець восень сярдзітая,
З маразамі, ліхая,
А ў мяне маці чужая,
Недзе сіраце падзецца:
І ў пана ліха, і дома,
Нету айца, нету маці,
Некаму мяне пажалець.
Абраўся малайчына
І стаў яе суцяшаць:
— Не плач, сіраціна,
Скора будзе добрая гадзіна,
Скора пана тут не станець,
Скора зоркі на небе заззяюць.
— Ой, малайчына, ой, малайчына,
Каб жа была твая праўда,
Вышыла б я табе сваімі рукамі
Кашулю белую на памяць.
Калі ўмру я, пахавайце
І на мяне не забывайце.
— Не ўмрэш, не ўмрэш, сіраціна,

Не многа гараваць,
Будзем, будзем з табой умесце,
Будзем працаваць,
Адно будзем з табой есці,
Толькі ліхога пана будзем уністажаці.
— Ой, хлапчына, ой, хлапчына,
Ой, што ты гаворыш,
Як узнаіць ліхі пане,
Будзе катаваці.
— Ой, не бойся ты, дзяўчына,
Пара не тая.
Ідзець вясна, ідзець вясна,
Ідзець залатая,
А мы пана, а мы пана
У рэку ўтопім.
Далі людзям, далі людзям
Зямлю працаваці,
А над маім панам
Шуміць зялёна асіна,
А цяпер ускрэсла
Бедна сіраціна.

## 333. ЭЙ, ЗА ЛЕС СОНЦА ЗАКАЦІЛАСЯ

Эй, за лес сонца закацілася,*
Эй, донька ў мамкі загасцілася.
Ой, яе мамка да й праводзіла,
Ой, яе родна да й праводзіла,
Ой, цераз тыя лясы цёмныя,
Ой, ды за гаюшкі зялёныя.
Ой, бяжыць, донька, спатыкаецца,
Ой, яе мамачка пытаецца:
— Ой, чаго, донька, спатыкаешся?
Ой, ці расіца вочкі выела,
Ой, ці травічка ножкі спутала?
— Ой, выела вочкі замужжайка,
Ой, выдрала вочкі падружжайка,
Ой, спутала ножкі падружжайка,
Ой, спутала ножкі замужжайка.
Ой!

* Кожны радок паўтараецца.

## 334. МАМАЧКА ДА МАМАЧКА МАЯ СТАРАЯ

— Мамачка да мамачка мая старая,
Нашто ж ты мяне скарала?
Скарала.
Нашто ж ты мяне скарала,
За п'яніцу замуж аддала.
Аддала,
За п'яніцу замуж аддала.
А не то п'яніца, што дзень п'ець,
Што дзень п'ець,
Да не то п'яніца, што дзень п'ець,
Да то п'яніца, што дні трэць,
Што дні трэць.
— Сядзь, мая радзіначка, за сталом,
Назаві нялюбага сакалом,
Сакалом.
— Лучшы, мамачка, гару капаць,
Як нялюбага сакалом зваць,
Сакалом зваць.
Да горы капаўшы, сяду перадыхну,
З нялюбым жыўшы, не перадыхну,
Не перадыхну.
Пасцялю пасцельку — не ляжа,
Памыю ложачку —не возьме,
Не возьме.
Да ліхі, ліхі мой мужа,
За што ж ён мяне так жура.

## 335. ГАЛОВАЧКА МАЯ БЕДНАЯ

Галовачка мая бедная,
Што дружыначка няверная.
Аддаў мяне мой бацюхна
У чужую старану, у вялікую сям'ю.
Самі сядуць вячэраці,
Мяне пашлюць па ваду.
Я вадзіцу несла, спатыкалася,
Гаручаю слязой абліваласся.
Я к сенечкам падышла, прыслухалася,
А мой муж на палу разуваецца,

А свякруха ліха напускаецца:
— Ах ты, сын, ты мой сын!
А чаму жаны не б'еш?
— А нашто яе біць?
Яна ў мяне ўсё робіць
І ўсякаму наровіць:
І старому, і малому,
І мне, маладому.
А ўзяў жа ён плець
І пагнаў жану ў клець.
Ён не б'е па жане,
А ўсё б'е па сцяне.
Ён і жонкі не біў,
І ўсякаму наравіў.

## 336. ХУДА, ХУДА НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Худа, худа на чужой старане.
Загарыся, чужа сторана,
А без дыму і без полымя,
Без вялікае пажарыку.
Пасылаюць мяне, моладу,
А скрозь ночку па вадзіцуісці,
Па вадзіцу па крынічную, халодную.
А я, малада, слухмяна была,
Узяла вёдры, па ваду пашла.
Наляцелі гусі-лебедзі,
Узмуцілі ваду светлую, крынічную.
Адзін я час прастаяла,
Другі я час прадумала,
Трэці я час праплакала,
Без вады ў двору пашла.
Свёкар мяне як журыць дык журыць,
А свякровушка вяліць пабіць.
Толька за мяне заловачка
Усёй душой, як лябёдачка.
Узялі мяне, як каліначку,
Высушылі на быліначку,
Узялі мяне, як ягодачку,
Высушылі, як лябёдачку.

## 337. ОЙ, НЕ ЖАЛЬ ЖА МНЕ НІ НА КОГА

Ой, не жаль жа мне ні на кога,*
Як на татульку на роднага,
А што аддаў мяне за малога.
А малы не ўмее абувацца,
Толькі ўмее наругацца,
А перак пасцелькі спаць лажыцца,
А к сцяне ліцом вараціцца,
А к сцяне лічком, ка мне плячком.
Пайду я, молада, у новы сені,
Вазьму, молада, круты вожкі,
Звяжу я малому рукі, ножкі,
А тады ў малога папытаю:
— А ці будзеш, малы, наругацца,
А перак пасцелькі спаць лажыцца,
А к сцяне ліцом вараціцца,
А к сцяне лічком, ка мне плячком.
— Не буду, мілая, я не буду,
А павек, мілая, не забуду.

## 338. ОЙ, САМА Я, САМА ПШАНІЧАНЬКУ ЖАЛА

Ой, сама я, сама пшанічаньку жала,
Прыходжу я дадоманьку — няма майго пана,
Няма майго пана, ані аканома.
Ой, дала б белу ручку, да не маю кому.
Прайду да каморы белу пасцель слаці.
Пасцель бела, сцяна нема — не з кім размаўляці,
Пасцелька беленька, а сцяна неменька.
Пажальсь, божы, моцны божа, што я маладзенька.
Ой, пад мостам-мостам трава пасыхае,
За лядашчым чалавекам жонка прападае.
А па слонцу-слонцу трава зелянее,
За харошым чалавекам жонка маладзее.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 339. САМА Ж Я, САМА ПШАНІЧАНЬКУ ЖАЛА

Сама ж я, сама пшанічаньку жала,
Прыйшоў вечар йсці дадому —
Няма майго спадара.
Пайду я ў каморку пасцель слаці,
Пасцель бела, сцяна нема —
Не з кім размаўляці.
Прыляцеў галубок, сеў на вакошка,
Ох, нет, не відаць малага ў ложку!
Прыляцела чырка, залатыя крылкі,
Ох, нет, не відаць майго чарнабрыўка!
Прыляцела пава, на зямельку пала,
Ох, нет, не відаць, каго я кахала!

## 340. ОЙ, ЖАЛА Ж Я, ЖАЛА

Ой, жала ж я, жала,
Пшанічаньку сама,
Ой, прыду я дадому —
Няма майго пана.
Чаляданька ўдому,
Ой, што ж мне па тому.
Ой, дала б я белу ручку,
Да не мае кому.
Пайду да каморы
Пасцель белу слаці,
Пасцель бела, сцяна нема —
Не з кім размаўляці.
Пасцелька бяленька,
Сцenанька няменька,
Што ж па тому, моцны божа,
Што я маладзенька.
Ой, я ў чужым краю,
Паціху ступаю,
Шануй мяне, мой міленькі,
Хоч я цябе лаю.
Ой, я цябе лаю,
То ліха не мыслю,
Шануй мяне, мой міленькі,

Як у саду вішню,
Ой, у саду вішню,
Вішню з ягадкамі,
Шануй мяне, мой міленькі,
З маімі дзеткамі.
У цябе шасточак,
У мяне тры грошы,
Ой, схадзіма да карчомкі
Абое харошы.
Ой, людзі гавораць,
Што я не журуся,
Адна выйду на вуланьку
Да й думку думаю.

## 341. БРОВЫ МАЕ ЧОРНЫЯ, ЧАРНЕЙ ВАРАНА

Бровы мае чорныя, чарней варана,*
Доля мая горкая, гарчэй палына.
Затым жа горкая — дружыны няма.
Свеціць, свеціць месячык — ясная зара,
Каб мне было весела ісці да двара.

## 342. Я УСЮ НОЧАНЬКУ НЕ СПАЎ, Э-ЭХ!

Я ўсю ночаньку не спаў, э-эх!
Ля краваці прастаяў,
Ля краваці прастаяў, э-эх!
Красну дзеўку пабуджаў:
— Устань, устань, дзевіца, э-эх!
Устань, душанька мая.
Правядзі мяне, душа, э-эх!
Хоць да цёмнага леса.
— Правяла ж ба я цябе, э-эх!
Дык баюся я цябе, э-эх!
Каб не зрадзіў ты мяне,
Зрадзіў, зрадзіў маладзец,

* Кожны радок паўтараецца.

Зрадзіў, зрадзіў маладзец.
З абоезнага двара, э-эх!
Выхадзіла дзеўка [а]дна.
Яе русая каса, э-эх!
Яе белае ліцо, э-эх!
Усё заплакана было.
Зрадзіў, зрадзіў маладзец, э-эх!
Зрадзіў беленьку мяне.

## 343. ДЫ ЗАРЖАУ, ДЫ ЗАРЖАУ СІВЫ КОНІК

Ды заржаў, ды заржаў сівы конік,
Па полі гарцуючы,
Чула, зачула мая мілая,
Вячэрку гатуючы.
Чула, зачула, цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала:
— Абярнуся шэранькай зязюлькай,
За міленькім паляту.
А сяду, паду ў вішнёвым садзе
І стану кукаваць.
Вышла ўдава з новага двара
Ды на абед заклікаць.
— Да пакінь, пакінь, шэра зязюля,
Голасна кукаваць.
— Я не пакіну, пакуль не загіну:
Не з кім век векаваць.

## 344. ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, МОЙ КОНІК СІВЫ

Заржы, заржы, мой конік сівы,
Позна з поля ідучы,
Ці не пачуе мая мамачка,
Вячэру гатуючы.
А як пачула, цяжка ўздыхнула,
Моцна заплакала:
— Дзе маё дзіцятка,
Дзе маё мілае

Ночку начаваць будзе?
Ці ў полі роўным,
Ці ў лесе зялёным?
Калінку ламала,
Пад галоўку слала,
Там маё дзіцятка
Ночку начавала.

## 345. ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, СІВЫ КОНІК

Заржы, заржы, сівы конік,
Позненька з поля йдучы,
Няхай пачуе мая мілая,
Вячэрку гатуючы.
Чула не чула — цяжка ўздыхнула,
Ціханька заплакала:
— Каб я была шэрая зязюля,
Каб я ўмела лятаці,
Паляцела б я на Украіну
Міленькага шукаці.

## 346. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, ВАРАНЫ КОНЮ

Ой, заржы, заржы, вараны коню,
Дарогаю бегучы,
Чы не ўчуе мая дзеванька,
Вяночкі да ўючы.
Ой, як учула, так і пазнала:
— Ой, едзе ужо, едзе!
Едзе Ясенька, едзе сэрданька,
Вязе з руты вяночка,
Ох, вязе, вязе з руты вяночка,
Пярсцёнка залатога.
Яся малады, конік вараны,
Сядзелка залатое.

## 347. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, КОСЮ ВАРАНЫ

Ой, заржы, заржы, косю вараны,
Да дарогаю ідучы,
Ці не зачуе млода дзяўчына,
З руты вяночка ўючы.
Ой, як пачула, зара пазнала:
— Мой мілюсенькі едзе!
Ой, едзе, ой, едзе дарагі квеце,
Завязаны мой свеце!
Завязаў мне свет
Да на цэлы век
Рознымі думанькамі:
Ні я ў вяночку, ні я ў таночку,
Ані я з дзеванькамі.
Ой, пайду я да да малоданек,
Малодкі не прымаюць,
Ой, пайду ж я да да дзевачак,
Дзевачкі абмаўляюць.

## 348. ДА ЗАРЗАУ, ЗАРЗАУ МАЛАДЫ КОНІЧАК

Да зарзаў, зарзаў малады конічак,
Да па полі гарцуючы,
А як пачула мілая мая,
Вячэрку гатуючы,
Сільненька заплакала:
— Дзе ж мой міленькі, чарнабрывенькі?
Ён каня сядлае,
Каня сядлае, сам выязджае.
З кім мяне пакідае?
— Выязджаю я, мілая мая,
Не магу адказацца,
Загадалі мне сядлаці каня,
На вайну сабірацца.
— Няма шчэпачкі, ні лучыначкі
Сцежачкі асвяціці,
Няма брацейкі, ані сястрыцы,
З кім слоўца гаварыці.
— Ключыкі ж мае залаценькія

Сцежку табе свяціць будуць,
Замочкі мае нутраненькія
З табой гаварыць будуць.

## 349. ДА ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, СІВЫ КОНІЧАК

Да заржы, заржы, сівы конічак,
На полі гарцуючы,
Ці не пачуе мілая мая,
Вячэру гатуючы.
Да як пачула,
Цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала:
— Да куды, куды,
Куды ты ад'язджаеш?
Пры ком мяне, маладзенькую,
Тут адну пакідаеш?
— Пакідаю ў атца,
Пры роднай матца,
Сам буду даведацца.
— Да каб я была
Шэра зязюля,
Да каб умела лятаці,
Палецела б я па белым свеце
Міленькага шукаці.
Ляцела к сялу,
К новаму двару
Ды села кукаваці,
Вышла удава з новага двара
Ды стала суцяшаці:
— Досіць, зязюлька, досіць, шэра,
Тут табе кукаваці,
Твайго мілага, чарнабрывага
Тут нідзе не відаці.

## 350. БРОВЫ МАЕ ЧОРНЕНЬКІЯ

Бровы мае чорненькія,
Запрапала я з вамі,
Запрапала, бровы, з вамі,

'Шчэ за маімі за ўрагамі.
А ўсе ўрагі спаць паляглі,
Адзін ураг не лажыцца,
Што за мной валачыўся.
Адкасніся, злы ўража,
Няхай са мной роўны ляжа
І ўсю праўдачку раскажа,
Няхай са мной пагавора,
Пака ахотаньку згоне.

## 351. А МАЯ Ж ТЫ ДОЛЯ, ЯК МАКАЎ ЦВЕТ

А мая ж ты доля, як макаў цвет,
Уначы цвіце, удзень западзе,
А маё жыцце ўсё марна йдзе.
Ці ў такі я час радзілася,
Ліхая доля ўчапілася.
Ой, ці такія кумы бралі,
Што мае долі не ўгадалі.
Мае сяброўкі раней усталі,
Маю доленьку разабралі,
А я, малада, спазнілася,
Ліхая доля ўчапілася.

## 352. ЦІ БЕЗ ДОЛІ МЯНЕ МАМАЧКА РАДЗІЛА

Ці без долі мяне мамачка радзіла:
Куды пайду, куды пайду, долі нету.
Ці не ў моры мая доля ўтанула,
Ці не ў лесе мая доля заблудзіла,
Ці не ў полі мая доля з краскамі,
Ці на вуліцы мая доля з дзеўкамі?
Калі ў моры затанула — узнырніся,
Калі ў лесе заблудзіла — адгукніся,
Калі ў полі з краскамі — расцвяціся,
На вуліцы з дзеўкамі — разгуляйся,
На мяне, маладую, не забывайся.

## 353. НАРАДЗІЛА РАДЗІМАЯ МАМАЧКА

Нарадзіла радзімая мамачка,
Ды не дала долі.
Толькі дала радзімая мамачка
Ліцо чарнаброва,
Ліцо, ліцо ды чорныя бровачкі,
Ды русыя кудры.
А ўжо ды мае русыя кудзеркі
За мамачку ўюцца,
Як за мяне, белага малойчыка,
Дзяўчынкі б'юцца.

## 354. НА ГАРЫ, ГОРЦЫ, ЧАТЫРЫ ЖОНЦЫ

На гары, горцы чатыры жонцы
Ячмень жнуць,
А ў даліне дзве дзяўчыны
Лён бяруць.
На бярозе два салавейкі
Шчабечуць.
Не шчабячыце, два салавейкі,
Седзячы,
Не збудзіце мае свякрухі,
Лежачы,
Бо як яна ўстане, будзе работанькі
Пытаці,
То я, маладзенька, не ведацьму,
Што сказаці.

## 355. ВО Ў ГАРАДЗЕНЦЫ ДВА МАЛАДЗЕНЦЫ

Во ў гарадзенцы два маладзенцы
Ячмень жнуць,
Во й рана, рана, ячмень жнуць.
Сонца нізенька, вечар блізенька —
Не дажнуць,
Во й рана, рана, не дажнуць.

## 356. А У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ТРЫ САДОЧКІ

А ў чыстым полі тры садочкі,*
А ў тыя садочкі тры слядочкі,
А ў першым садзе салавейкі,
А ў другім садзе зязюлечка,
А ў трэцім садзе мамка з сынам.
Дзе салавейкі, там шчабечуць,
Дзе зязюлечкі, там кукуюць,
Дзе мамка з сынам, там гавораць.
А мамулька ў сына запытала:
— Хто ж табе, мой сынку, наймілейшы?
Ці цёшча, ці мамка, ці жонка?
— Мне цёшча міла для прывету,
Мне жонка міла для савету.
Ты ж, мая мамулька, мілей свету:
Ты ж мяне насіла — галасіла,
Ты ж мяне раджала — умірала,
А сорак ночак не ўсыпала,
Пакуль мяне, маладога, узгадавала.
Як цёшча памрэ — гарэлкі нап'юся,
Як жонка памрэ — ажанюся,
Як мамка памрэ — слязамі абальюся.

## 357. У ПЕРШАМУ САДУ ЗЯЗЮЛЬКА КУКУЕ

У першаму саду зязюлька кукуе,
А ў другому — салавейка пяе,
А ў трэцім — сын з маткаю ходзіць,
Паціху гаворыць:
— Ой, сыну, мой сыну наймілейшы,
Ох, хто ў цябе есць за матку вярнейшы?
Чы цешча, чы жынка?
— У мяне цешча верна толькі для прыхілля,
У мяне жонка верна — яблынева кветка,
Няма надвярнейшу над матку раднейшу:
Як мяне насіла — уголас галасіла,

* Кожны радок паўтараецца.

Як мяне радзіла — канала-ўмірала
І к сырой зямлі грудзьмі прыпадала,
І сабе кашуленьку на смерць гатавала.

## 358. ОЙ ТЫ, ЗАЮШКА, ГАРНАСТАЮШКА

Ой ты, заюшка, гарнастаюшка,
Ох, і я леле, гарнастаюшка,*
Ты куды бяжыш із поля ў лясы?
Ці табе мілей за палі лясы?
Ох ты, міленькі, чарнабрывенькі,
Ты куды ляжыш к сцяне ачмі, к жане плячмі?
Ці табе мілей за жану сцяна?

## 359. СУХІ ДУБЫ, СУХІ, ЧАМУ НЕ ЗЯЛЁНЫ?

— Сухі дубы, сухі, чаму не зялёны?
Малады малойчык смуцён, невясёлы?
— А як жа мне жыці, вясёламу быці?
Чужыя жоначкі, як перапёлачкі,
А мая няўдалая на свет негадна.
Вазьму я няўдалую за белую ручку,
Павяду я няўдалую к ціхаму Дунаю,
Укіну няўдалую ў вір галавою.
Па лужочку хаджу, каліначку ламаю,
Каліну ламаю, смародзіну кіну,
Удовачку люблю, дзетак ненавіджу.
— Не бойся, малойчык, не бойся, малады,
Ты пойдзеш з касой, дзеткі — з грабелькамі,
Ты будзеш пласціць, дзеткі — ў копы класці.
— А касіў я, касіў, захацеў я есці.
— Сходзі, мой міленькі, некаму прынесці.
— Бог дай, маё сена асакою села,
Бог дай, мая каса ў крук сагнулась,
Каб мая няўдала ўзад вярнулась.

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 360. ЖАНІЎСЯ Я, АЖАНІЎСЯ Я

Жаніўся я, ажаніўся я —
Сухата мая.*
Ой, і ўзяў жану,
Жану малую,
Жану малую,
'Шчэ й няўдалую.
Не ўмее жана
Ні печ, ні варыць,
Ні печ, ні варыць,
З людзьмі гаварыць.
Як пайду, маладзец,
Да па беражку,
Ой, куплю, маладзец,
Маляваны кораб,
Маляваны кораб,
'Шчэ й вясёлушка.
За кораб плачу
Дваццаць пяць рублёў,
За вясёлушку —
Паўтара рубля.
Ой, найму грабцоў,
Белых малайцоў,
Павязу жану
На быстру раку,
Пасаджу жану
У маляваны кораб,
А няхай кораб
Па мору плывець.
Ой, грабцы грабуць,
Як арлы равуць,
А мне, малайцу,
Стала жаласна.
Маляваны кораб,
Вярніся назад,
Малада жана,
Ідзі-ка к дзецям.
Маляваны кораб
'Шчэ й не вернецца,
Рацiва сэрца
Не прыгорнецца.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

## 361. НЕ ЖАНІЎСЯ Я — КРАСАТА МАЯ

Не жаніўся я — красата мая,
Ажаніўся я — сухата ж мая.
Ах, і ўзяў жану, жану малую,
Жану малую, усё няўдалую:
З ёю ні ў пір пайсці, ні ў бяседзі сесць.
З ёй у пір пайсці — пасварыціся,
І ў бяседзі сесць — ды й пабіціся.
Як пайду молада я ў новы горад,
Як куплю жане маляван чавён,
Маляван чавён і вясёлушку.
За чавён плачу а я соценку,
За вясёлушку — а я тысячу.
Як пушчу чавён ды й на сіня мора,
А сам сяду я й на беражку.
Я й буду глядзець, як чавён плывець,
Я й буду глядзець, як грабцы грабуць.
А й чавён плывець ды па сінім моры,
А жана сядзіць — мне й зазнобушка.

## 362. НЕ ЖАНІЎСЯ Ж Я — КРАСАТА МАЯ

Не жаніўся ж я *— красата мая,
Ажаніўся я — сухата мая.
Ах, і ўзяў жану, жану малую,
Жану малую, усё няўдалую,
Мне й не біць жану, не караць маладу.
Станеш біць жану — будзець плакаці,
А караць маладу — станець жаліцца.
Паеду, маладзец, я ў ноў гарадзец,
Там куплю, маладзец, маляван чавён.
За чавён плачу а я сто рублёў,
За вясёлачку — ажно тысячу.
Пасаджу жану ў маляван чавён
І пушчу чавён на Дунай-раку,
Сам пайду глядзець, як чавён плывець.
А чавён плывець, як сакол ляціць,

* Першая частка кожнага радка паўтараецца.

А жана сядзіць, як лябёдачка,
А мне, молайцу, усё зазнобушка...
— Ты вярнісь, жана, вярнісь, малада,
Хоць не для мяне, для дзяцей сваіх.
— Не вярнуся я ані для цябе,
Ані для цябе, не дзяцей сваіх,
Ты умеў з мяне надругаціся,
Ты стругаў стружкі з белых рук маіх,
Віў вяровачкі з русых кос маіх,
Ты каціў камень чэраз жывот мой!
— Няпраўда жана, мая мілая!
Я стругаў стружкі з белай бярозкі,
Віў вяровачкі із мяккай пянькі,
А каціў камень чэраз дарогу.

## 363. ОЙ, ДУМА МАЯ, ДУМА

Ой, дума мая, дума,
Звяла казака з ума:
Не па волі жаніўся,
Не пад мыслі жонку ўзяў,
Сам па вячорушках пашоў,
На выбар дзевушкі любіў.
Да ўсе дзеўкі харошы,
Да адна крашэй усіх:
На ёй русая каса —
Усяму да роду прыкраса,
Варожанькам сухота,
Нежанатаму пячаль.
Любіў дзеўку, да не ўзяў,
Адно свет ёй завязаў,
Русу косу расчасаў.

## 364. РАБА ДЗЕРАЎЦА, КУДЫ ХІЛІШСЯ?

Раба дзераўца, куды хілішся?
Аддавай, маці, замуж, куды прыдзецца:
Ці за старога, ці за малога,

Ці за казачаньку разудалога.
Аженілі мяне малалетняга,
Малалетняга, малаумнага.
Ох, узяў ён нашу малдаваначку,
Малдаваначка, не каханачка,
Што не ўмее рабіць:
Ані жыта жаць,
Ні снапочкі вязаць.
Ды як звяжа сноп,
Сноп развяжацца.
Ну, як скажа славечка,
Не наравіцца.
Вот узяў ён жану на вяровачку
І павёў на базар, як каровачку.
Вот узяў за жану тры цалковыя
І купіў за жану боты новыя.

## 365. БЫЛО НЕ СЕЧ ЗЯЛЁНАГА ГАЮ

Было не сеч зялёнага гаю,
Было не браць з далёкага краю.
Было не сеч сухія яліны,
Было не браць дзеўкі-сіраціны.
Было не сеч зялёнага дуба,
Было не браць, калі я не люба.

## 366. ДА ПРЫЕХАЛІ ДА ДВА БРАЦЕЙКІ

Да прыехалі да два брацейкі
Да маей жа старонкі,
Запыталіся ў сваёй сястрыцы:
— Якаво табе жыці?
— Мае брацікі, мае родныя,
Каб не муж мой п'яніца...
— Наша сястра, наша родная,
Пазволь яго набіці.
— Мае братачкі, мае родныя,
З кім жа я буду жыці?

Палажу спаці да ў краваці,
Падсцялю саломкаю,
Да сама пайду да на вуліцу,
Крыкну па-хлапцоўскаму:
«Вы, людзі, спіцё, вы не чуеце,
Што сёння бура была,
Бура была і з грымотаю,
Убіла майго мужа».

## 367. НАВАРЫЎ ВЕРАБЕЙ ПІВА

Наварыў верабей піва,*
Ён усіх пташак зазваў,
Аднае савы не зваў.
А сава не ўпірліва,
Прыляцела сама ў піва.
Села сабе на прыпечку,
Як зайграла ў скрыпачку,
Усе вароны — ў далоні,
А ўсе галкі — у палкі,
Усе сарокі — у скокі,
Верабейка — ў танец,
Паламаў сабе палец.
Наварыў брацец піва,
Ён усіх гасцей зазваў,
Аднае сястры не зваў.
А сястра не ўпірліва,
Прыехала сама ў піва.
Села сабе ў парозе,
Усё й на братняй дарозе.
Брацец гасцей частуець,
А сястрыцу мінуець.
— А бадай табе, брацец,
Быў і пір невясёлы,
І гарэлка не горка,
І мядок не салодкі.
Як сказала, так стала:
Стаў і пір невясёлы,
І гарэлка не горка,

* Кожны радок паўтараецца.

І мядок не салодкі.
Пайшла сястра заплакаўшы,
Братку свайму не падзякаўшы.
— А сыночкі-сакалочкі,
Запрагайце вазочкі,
Даганяйце цётачку
Хоць у паўдарожачкі.
Як прывезлі цётачку,
Пасадзілі на куце,
Стаў і пір вясёленькі,
І гарэлка горкая,
І мядок салодзенькі.

## 368. ВЫЙДУ ЗА ВАРОТЫ

Выйду за вароты —
Лугі да балоты,
Выйду за новыя —
Вадзіца лялее,
Маё сэрца млее,
Ные-заўнывае, што дружка не мае.
— А й дзе ж ты, мілы, шляўся,
А й дзе ж ты валачыўся
Начною парою з чужою жаною?
Чым чужыя жонкі,
Чым жа яны крашэй?
— Ой, свая маладзенька,
Як мёд, саладзенька,
З сваёй пагаворыщ —
Ума набярэшся,
А з чужой пагаворыш —
Толькі насмяешся.

## 369. ПАЛЯЦЕЛА ЗЯЗЮЛЯ ПА ЛУЖОЧКУ

Паляцела зязюля па лужочку,
Заганяла пташак да барочку:
— Ай, да бору, пташачкі, да бору,

Не рабіце шкоды вы нікому,
А не клюйце пшаніцы у полі,
А не піце вадзіцы з крыніцы,
А клюйце вы ягадкі ў барочку,
А піце вадзіцы вы з лісточку.
Пахадзіла Аўгінька па пірочку,
Прасіла Барыску дадомачку:
— Ай, дадому, Барыска, дадому,
Не рабі ж шкоды ты нікому,
Не любі чужых жонак у пірочку,
А любі мяне, маладу, ў дамочку,
Лажыся спатанькі у палажочку.

## 370. ОЙ, БАДАЙ ЖА ТЫ, СІВА ЗЯЗЮЛЬКА

— Ой, бадай жа ты, сіва зязюлька,
Налета не кувала,
Ой, выкувала майго бацэньку,
Я сіратою застала.

— Ой, я кувала, куваці буду,
Па бары лятаючы,
А ты плакала, плакаці будзеш,
Бацэнькі шукаючы.

Ой, я палячу, сіва зязюлька,
На каліну куваці,
А ты, дзеўчына маладзенькая,
На магілу плакаці.

## 371. ЯК ПАЙДУ, ПАЙДУ НА ДУНАЙ ПА ВАДУ

Як пайду, пайду на Дунай па ваду,
Ці не ўвіджу каго роднага свайго.
Аж там вутачка па рацэ плывець,
То ж не вутачка, а мая мамачка.
— Пастой, мамачка, пагаворым з табой,
Пастой, родная, пагаворым з табой.
— Вада сільна б'ець, гаварыць не даець.
Як пайду, пайду на Дунай па ваду,

Ці не ўбачу каго роднага свайго.
Аж там селязень па рацэ плывець,
То ж не селязенька, а мой татулька.
— Пастой, татулька, пагаворым з табой,
Пастой, родненькі, пагаворым з табой.
— Вада сільна б'ець, гаварыць не даець.

## 372. З-ПАД ЛЕСУ, ЛЕСУ ЦЁМНАГА

З-пад лесу, лесу цёмнага,
Із-пад садзіка зялёнага
Узнімалась туча грозная,
Снегавая, непагодлівая,
Са дажджамі, са марозамі,
Са вятрамі са няцііхімі.
Дочка ў госці прыбіралася
На ломанай целяжоначке
І на худой кабылёнушке.
Кабылёнушка ўтамілася,
А целяжоначка зламілася,
Сярод лесу станавілася,
К дубочку прыхілілася. (2)
На тым дубчыку салавеюшка. (2)
— Ты ляці, ляці, салавеюшка,
У маёй матушкі старонушку,
Ты нясі, нясі, салавеюшка,
Маёй матушке нізкі уклон,
Сёстрам маім ўсё падарушкі, (2)
Усё салодзенькі папранічкі,
Матцы маей падарушкі,
Шаўковы ўсё кітаюшкі.

## 373. ОЙ, НОЧ МАЯ, НОЧКА ЦЁМНАЯ

Ой, ноч мая, ночка цёмная,*
У мяне мамачка, ой, не родная,
Сямеечка несагласная.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Самі сядуць да й вячэраюць,
Мяне, маладу,— скрозь ноч па ваду
А босую, праставалосую,
Толькі лычкам папіразанай,
Каравачкаю завязана.
Не папала цераз цёмны бор,
А папала цераз бацькаў двор,
Цераз бацькава падворайка.
Ой, татачка ля варот стаіць,
А мамачка — ў новых сенечках,
А ў татачкі слёзкі капаюць,
А ў мамачкі, як рака, льюцца:
«Ці не наша то дзіцятачка
А і босае, праставалосае?»

## 374. А ДУБ'Я, МОЙ ДУБОЧАК КУЧАРАВЫ

А дуб'я, мой дубочак кучаравы,
Лістом прыукрашан,
Парнішачак маладзенькі
Славамі прылесен.
Слова яго ласкавае —
Усё чортава думка,
Сколькі яго ні любіла,
Гула, як галубка.
Гула, гула галубачка,
Паляцела ў мора,
Яна, летучы, гаварыла:
— Ой, гора мне, гора!
Затаніла галовачку
На дно ў гэтае мора.
Павек таму сіняму мору,
Павек не высыхаць,
Павек маёй галовачцы
Дабра не відаць.
З кім любілась, разлучылась —
Нада забываці,
З кім не зналась, павянчалась —
Трэба прывыкаці.

## 375. ГАВАРЫЛІ ПРА ДЗЕВАНЬКУ ЛЮДЗІ

Гаварылі пра дзеваньку людзі:
— Не йдзі замуж, гора табе будзе.
А дзеўчына людзей не слыхала,
Свой розум учыніла
І галоўку ўзлажыла ў гора,
Як сізая галубачка ў мора.
Як галубіцы з мора не ўзлятаці,
Павек дзеўцы гора гараваці.

## 376. А БЯРОЗА, БЯРОЗА

А бяроза, бяроза,
Не стой пры дарозе,
Не пушчай карэннейка,
На дарожку веццейка:
Буду ісці к татку ў госці,
Я й карэння патапчу,
Веццейка паламлю,
У татулькі пагуляю.

## 377. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ КАЛІНА-МАЛІНА

— У цёмным лесе каліна-маліна,*
Куды едзеш, мая журавіна?
— Еду, еду я к татку ў госці,
Не хачу я ні піці, ні есці,
Толькі хачу я з татулькам сесці,
Не хачу я ні спаць, ні драмаць,
Толькі хачу я з таткам гукаць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 378. А НА ГАРЭ ПІВА

А на гарэ піва,*
Пад гарою дзіва.
А пад тою гарою
Карчомка стаяла,
А ў той жа карчомцы
Увесь мой род гуляець,
Мяне памінаець:
— Дзе ж наша сястрыца,
Дзе ж наша радная,
Старшая, большая,
Жывець, пражываець,
У госці не бываець?
— Тады ў госці буду,
Як гора забуду,
А ў леце ў карэце
Ад жаркага сонца,
Зімою ў вазочку
Па белым сняжочку,
А восенню ў чаўночку
А ўслед за вадою.
Я й хоць абмачуся,
У радочку абсушуся.
Я к матцы на двор —
Мяне маці не ўзнала,
Са двара сагнала.
Толькі ўзналі суседачкі
І падружачкі мае:
Суседачка наша —
Гэта дачка ваша.
— Суседачкі мае,
Вярніце ж вы яе.
— А хоць бы [мяне] вярнулі,
Я не вярнуся,
Я не вярнуся,
Слязамі абальюся.
Тады я ■ вам буду,
Як хлеб дабуду і пра гора забуду.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 379. ШТО НА ГАРЭ ВЕРБЫ

Што на гарэ вербы,*
Пад вярбой шыночак,

Пад вярбой шыночак,
Там мой увесь радочак,

І п'юць, і гуляюць,
Мяне ўспамінаюць:

— Нейдзе наша дочка
Горку долю мае,

Горку долю мае
І ў нас не бывае.

Ці коніка не мае,
Ці дарожку не знае?

— Я й коніка маю,
Дарожачку знаю,

Сухая лясіна
Дарожачку заламіла,

Нялюбая дружына
Ад роду адбіла.

А я сваайму роду
Хоць па шыю ў воду,

Хоць я памачуся,
Я й перасушуся,

А я з сваім родам
Да й нагаваруся.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 380. ДА ПРЫЕХАЎ МОЙ БРАЦЕЙКА

Да прыехаў мой брацейка
Мяне адведаці,
Да й пытае мой брацейка,
Ці жывы-здаровы.
— Папытай, мой брацейка,
Ці добра мне доля.
Сцяна бела, пасцель бела
Кроўю акіпела,
Хвартушына бялюсенька
Ад слёз макрусенька.
А ляціць певень чэраз рэку,
Запеў кукарэку.
— Гэта ж табе, мая сястра,
Песенька давеку.
Не слухала айца-маці,
Ні старшага брата,
Гэта ж табе, мая сястра,
Харошая хата.

## 381. НІЗКА-НІЗКА СОНЕЙКА ЎСХОДЗІЦЬ

Нізка-нізка сонейка ўсходзіць,
Ніжэй лесу не заходзіць,
Блізка-блізка брацітка едзіць,
Да мяне ў госці не заедзіць.
— А брацітка-салавейка, чаго ў госці не заедзеш?
Ды ці ты дарожкі не ведаеш?
— Ды я ўсе дарожкі ведаю і коніка завярну,
Ды я еду — ты плачаш, ад'язджаю — уздыхаеш,
Ды я — за горы, ты — найгоры,
Я — за лясы, ты — у галасы.
— Брацец-салавейка, вазьмі, вазьмі маё гора
Свайму коніку на грыўку!
— Ды, сястрыца-перапёлка,
Мой конік маленькі, сядзеліца караценька!
— Ды развей, развей маё горушка
Па сцежках, па дарожках, па жоўтым пясочку!
Людзі жыта сеюць, бога просяць,

Каб жыта ўсхадзіла,
А я гора сею, бога прашу,
Каб гора не ўсхадзіла.
Як узыйшло гора
Ды ўсё рожнымі кветкамі,
Ды толькі адзін васілёчак —
Мой міленькі дружочак.

## 382. ГОРАЧКА МАЯ КРУТАЯ

Горачка мая крутая,*
Долечка мая ліхая,

Ніхто горачкі не знімець,
Ніхто долечкі не зменіць.

Знімець горачку вадзіца,
Зменіць долечку сястрыца.

Мамачка мая старая,
Нашто ж ты мяне скарала?

Нашто ж ты мяне скарала
Ды за п'яніцу аддала?

П'ець п'янічанька нядзелю,
А я, молада, мадзею,

П'ець п'янічанька другую,
А я, молада, гарую.

П'ець п'яніца ў шынку,
Прыдзець удвору — б'ець жынку.

Прывыкай, жонка, прывыкай
Ды ў зялёны гай уцякай.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 383. АЙ, П'ЕЦЬ П'ЯНІЦА НЯДЗЕЛЮ

— Ай, п'ець п'яніца нядзелю,*
Я без хлебушка мадзею,

Ай, п'ець п'яніца другую,
Я без хлебушка гарую.

— Не ўнывай, дочка, не ўнывай,
У зялёны сад убягай.

У зялёным саду зязюля,
Яна не кукуець, кубруець,

Ніхто зязюлі не чуець.
Зачула, пачула нявестка,

У бару ваду беручы,
На круту гару несучы.

— Горачка мая крутая,
Долечка мая худая.

Ніхто горачкі не зрыець,
Ніхто долечкі не зменіць.

Зрыець горачку вадзіца,
Зменіць горачка сястрыца,

Тая вадзіца, што ў моры,
Тая сястрыца, што ў горы.

## 384. А БЯДА НА МЯНЕ, МАЕ ЖОНАЧКІ

— А бяда на мяне, мае жоначкі,
Што ліхі муж, ліхі: **
Сам піва не варыць,

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Кожны другі радок паўтараецца.

У чужое не ідзець.
— А ідзі, міла, у чужое піва
Ды не забаўляйся,
На скрыпачкі ды на дудачкі
Не заслухавайся,
На дзіцятачка на маленькае
Не забывайся.
Пайшла міла ў чужое піва
Ды й забавілася,
На скрыпачкі ды на дудачкі
Ды й заслухалася,
На малойчыкаў на маладзенькіх
Ды й заглядзелася,
На дзіцятка на маленькае
Яна забылася.
— А пяе певень, а пяе другі,
Я дамоўкі іду.
— А нявехначка, а лябёдачка,
А будзець мілы біць.
А дзеверачка, а братулечка
А табе адбараніць.
— А пашыю табе я кашулечку
Я з тонкага рубку,
Яшчэ к таму да штонікі
Выстрачоныя.
А зачуў-пачуў мой міленькі,
У пасцелі лежачы:
— А кашулечку з тонкага рубку
Я і сам жа знайду,
А штонікі выстрачоныя
У паклад пакладу,
А табе, шэльма ды нягодніца,
Першы раз я прашчу.

## 385. КРАПІВА, КРАПІВІЦА

Крапіва, крапівіца,
Зялёная, кучаравая,*
А ўсе лугі прызаглушыла,

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

А ўсе сцёжачкі-дарожачкі
Зараслі ельнічкам, бярээнічкам
Да сцяглясцічкам сасоннічкам.
Гоніць мілы табунок лашадзей,
А ўсе конікі вароненькія.
Папярод ідзець буланы конь,
Буйну голаву павесіўшы,
Яры глазачкі заплакаўшы.
— Што ж ты, конік мой, скушон, невясёл?
Ці ты, конік, недакормлены,
Ці ты, конік, недапоены,
Ці твой возік цяжалее што за ўсіх?
— Мне твой возік не цяжоленек,
Мой хазяін — горкі п'яніца,
Нігдзе нанач не дапросіцца,
Аўса, сена не дакупіцца.

## 386. ГАСІЦЕ ЛУЧЫНАЧКУ, КЛАДЗІЦЕСЯ СПАЦЬ

Гасіце лучыначку, кладзіцеся спаць,
А мне, маладзенечкай, усю ночку не спаць,
Пайду ў камораньку пасцельку слаць
І буду свайго п'яніцу з карчмы чакаць.

## 387. НА ГАРЭ ДУБОК

На гарэ дубок,
На гарэ зеляненькі,
Пажаніліся
Абое маладзенькі,
Пажаніліся
Абое маладзенькі,
Пажаніўшыся,
Абое пахварэлі.
Касенька ляжыць
У айца, маткі ў каморы,
Малады Ясе —
У зялёнай дуброве.

Маладой Касі
Мёду, віна задосыць,
Малады Яся
Зімнае вады просіць.
— Мая матуля,
Калі я табе міла,
Ой, зашлі, зашлі
Майму Ясеві віна.
Мая матуля,
Адчыні шкатуланьку,
Ой, вышый, вышый
Ясеві кашуленьку.
Калі жыў будзе,
То няхай здароў носіць,
А калі памрэ,
То няхай на смерць ўзложыць.
Па младой Касі
Айцец, матуля плача,
А па Ясеві
Чорна варонка крача.

## 388. ПАД БЕЛАЮ, ПАД БЕЛАЮ, РАНА, РАНА, БЯРОЗАЮ

Пад белаю, пад белаю, рана, рана, бярозаю
Пала раса, пала раса, рана, рана, сцюдзёная,
А другая, а другая, рана, рана, мядовая,
А трэцяя, а трэцяя, рана, рана, залатая.
Сцюдзёнаю, сцюдзёнаю, рана, рана, таптаць буду,
Мядоваю, мядоваю, рана, рана, збіраць буду,
Залатую, залатую, рана, рана, шанаваць буду.

## 389. МАЛАДАЯ МАЛАДЗІЦА

Маладая маладзіца *
Стада гусей прыганяла:
— Ах вы, гусі, гусі мае шэрыя!

* Кожны радок паўтараецца.

Прывыкайце к майму полю,
К майму полю далёкаму,
К майму ніўю шырокаму,
А як я, малада, прывыкала
Ды к чужое старонкі,
Ды к свёкару і к свякроўкі,
Ды к маладому мужу.

## 390. ЦЕМНА, ЦЕМНА НОЧАНЬКА

Цёмна, цёмна ночанька,
Калі табе, ноч, дзень будзе?
Надаела маладзюсенькай
Па цёмнай ночцы ходзячы,
Ліхой свякроўцы годзячы.
Гаджу, гаджу, не ўгаджу,
Пасцялю пасцельку — не ляжа,
Мяне, маладзеньку, зняважа.

## 391. ДЗЕ Я РАДЗІЛАСЯ, НЕ БЫЛА

Дзе я радзілася, не была,*
Там мяне цёмная ночка абняла,
Пад калінаю спаць лягла,
Ножкамі каліну кранула,
На мяне каліна канула.
Не буду такая, як была,
Як мяне мамачка радзіла:
А цяпер я ў свякроўкі,
Да не ў роднага таткі,
Я стала бела, як папера,
Стала тонка, як былінка.

## 392. ДЗЕ РАДЗІЛАСЯ, НЕ БЫЛА

Дзе радзілася, не была,
Там мяне цёмная ноч абняла,
Недзе маладзе начаваць.

* Кожны радок паўтараецца.

Ці мне, маладзе, на вадзе,
Ці ў новенькай каморы,
Ці ў зялёненькай дуброве?
На вадзе рыбачка з вакунём,
У дуброве белачка з сабалём,
У каморы дзевачка з малайцом.
На вадзе рыбачка валну б'ець,
У дуброве белачка гняздо ў'ець,
У каморы дзевачка слёзкі льецъ.

## 393. ДЗЕ Я РАДЗІЛАСЯ, ДЗЕ ВЫРАСЛА

Дзе я радзілася, дзе вырасла,
Там мяне цёмна ночка абняла, (2)
Я пад калінкаю спаць лягла.
Ножкаю калінку кранула,
На мяне расіца лінула,
На маю пасцельку бяленьку,
На мяне саму, маладзеньку.
Лінула расіца, лінула,
Каб я, малада, утанула.
А ўтану я, малада, утану,
Не стануся нікаму, (2)
Толькі аднаму мору сіняму.

## 394. АЙ, ЗАРА МАЯ ТА ВЯЧЭРНЯЯ

— Ай, зара мая та вячэрняя,*
Чаго ты рана патухаць стала?
Чаму мяне, месячка, не даждалася?
— Ой, ждала я, ждала й пераждалася,
Абняла мяне грозна тучанька,
Абліў мяне дробны дожджык.
— Ай, жана мая, жана малада,
Чаго ты рана спаці ўклалася?
Чаму мяне, малайца, не даждалася?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Я ждала, ждала й праждалася,
Абняла мяне цёмна ночанька,
Абселі мяне дробныя дзетачкі,
Аблілася я дробнымі слязамі.

## 395. А ШТО УЖО ТАМ ЗА ЗЕЛЛЕЙКА

А што ўжо там за зеллейка,
Што чорнае насеннейка?
Я яго шчыплю-ламлю,
То яно адрастае.
Я яго ў вяночак ўю,
То яно расцвітае.
Я яго на галоўку кладу,
То яно размаўляе.
А што ўжо за ойчанька,
Што далёка дзіця аддае,
Што далёка дзіця аддае,
Што і сам не ведае
Ды праз людзі пытае:
— Ці жыве дзіця маё?
Ці жыве, ці гаруе,
Ці з панамі пануе?
— Жыве, жыве, не гаруе
І з панамі не пануе,
З панамі не пануе,
Дробны дзеткі гадуе.

## 396. ОЙ, НА ПАВАНЬЦЫ РАБА ПЕР'ЕЧКА

Ой, на паваньцы раба пер'ечка,
На павічу какошы,
Ой, не зажыла жадна нявестка
У свёкаркі раскошы.

Ходзіць свёкарка па новых сенях,
Нявестку пабуджае:
— Уставай, нявестка, уставай, малада,

Ужо свякроў парабляе!

Нявестка ўстала ды й заплакала,
Ручанькі заламала:
— Ой, куды ж бо я, маладзенькая,
У няволю папала!

## 397. МЕДУНІЦА, МЕДУНІЦА ЛУГАВАЯ

— Медуніца, медуніца лугавая,
Чаго не цвіцеш па ўсім лузе па зялёным?
— Як жа я буду цвісці па ўсім лузе?
Мошкі цвецікі аб'ядаюць,
Воды корні падмываюць.
— Маладзіца, маладзіца маладая,
Што не ходзіш на вуліцу на шырокую?
— Як жа мне на вуліцу хадзіць?
Што свякруха кажа: сакатуха, растанчыца,
А залоўка кажа: лядачая пахмурніца,
Свёкар кажа: мядзведзіца лесавая,
Мілы кажа: маладзіца маладая.
Сарока-сакатуха — па-над коллю,
Растанчыца — дачка ў бацькі,
Пахмурніца — цёмна ночка, цямнюсенька,
Мядзведзіца — у цёмным лесе цямнюсенькім.

## 398. АЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ, ЦЕМНАТА

Ай, восень, восень, цемната,
Дзе мая дзелася красата?
За табою мілы, за табою,
За тваёю дурною галавою,
Што мяняеш коні без цаны,
Б'еш мяне, маладую, без віны.
А мяняй ты коні цаною,
Бі мяне, маладую, віною.

## 399. АЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ, ЦЕМНАТА

Ай, восень, восень, цемната,
Дзе мая дзелася красата?

За табой, нялюбы, за табой,
За тваёй дурною галавой.

Як я ў татулькі бывала,
Белае лічанька ўмывала,

Каб маё лічанька бела была,
Каб я свайму міламу люба была.

## 400. АЙ, ШУМЕЛА-ГУДЗЕЛА

Ай, шумела-гудзела *
Зялёна сасна ў лузе.
Ай, шумеўшы, гудзеўшы,
Ай, на дворычку свякроў прышла.
Ай, шумеўшы, ай, гудзеўшы,
Ай, на дворычку прышла,
А прычыначку нашла
На большага сына,
На большую нявесту,
А што дворычку не прыщла
І каровак не доіць,
У чыста поле не гоніць.
— А ты, сынька мой, сынька,
Навучай сваю жонку.
Як узяў сын раменку
Навучаць сваю жонку.
Не папаў па жонушкі,
А папаў па падушкі.
Ён жану, ай, не скалечыў,
Сваю мамку ўцешыў.
Не відала малада,
Калі моладасць прайшла,
Гора прыключылася,

* Кожны радок паўтараецца.

З мілым разлучылася,
Разлучылася з міленькім
Пад белай бярозіцай.
Цалавалася з міленькім,
Разлучалася з міленькім
Пад горкаю асінай.
Ета ж мая долюшка.

## 401. ДЫ ЦЯЖКА ТРАВЕ, ДЫ ЦЯЖКА МУРАВЕ

Ды цяжка траве, ды цяжка мураве
Ад зямлі адхадзіці,
А яшчэ цяжэй мне, маладзенькай,
У чужой сям'і быці.
Самі сядуць сняданне есці,
А мяне шлюць сенцы месці.
Сенцы падмяту, снедаці сяду,
Шлюць мяне па ваду,
А самі сядуць абедаць.
Гара высока, вада далёка,
Не скора вярнуся.
Прынясу вады, на сябе бяды,
Кожнаму піць даці:
Падам старому, падам малому,
Міламу маладому.
Свякроўка злуе, свёкар не бярэ,
Міленькі наравіцца,
Ды і залвіца — не родная сястрыца —
Усё мне наругаецца.
А сяду вячэрку есці,
А ў мяне слёзкі ісці.
Лыжку ў міску,
Слёзкі ў лыжку —
Вот мая вячэрачка.
Лыжку ў раток,
Слёзкі, як бабок,—
Вот я і павячэрала.
А каб я знала, каб я ведала
Сваю горкую долю,
Не пашла б я замуж ніколі.

## 402. ЦЯЖКА ТРАВЕ

Цяжка траве,
Цяжка мураве
Ад зямлі адрастаці,
А яшчэ цяжэй,
Яшчэ горай
Зялёнай пасыхаці.
Цяжка дзевачцы,
Цяжка маладой
Ад мамачкі адвыкаці,
А яшчэ цяжэй,
Яшчэ горай
К свякроўцы прывыкаці.
А я ў мамачкі была,
Як вішня цвіла,
Я ж была работніца.
У свякрухі стала,
Як трава эвяла,
І стала нягодніца.

## 403. ЦЯЖКА ТРАВЕ, ЦЯЖКА МУРАВЕ

Цяжка траве, цяжка мураве
Ад зямлі адкаціцца,
А яшчэ цяжэй, мамачка мая,
У чужой сям'і ўжыцца.
Самі сядуць, вячэрку ядуць,
Мяне шлюць па вадзіцу.
Прынясла вады, для сябе бяды,
Кожнаму піць падаці:
Падай старому, падай малому,
Міламу маладому.
Старому — гаршком,
А малому — каўшом,
Міламу — шкляначкай.
Стары нап'ецца,
Малы надзьмецца,
А мілы загневаецца.

## 404. ТАДЫ БЫЛА ДОБРАЯ ГАДЗІНА

Тады была добрая гадзіна,
Як мяне матанька радзіла.
А радзіла мяне у даліны,
А купала мяне у каліны,
Спавівала мяне у шырыны,
Спаць клала у пярыны,
Скалыхнула мяне высока,
Абяцала мяне далёка,
Чэраз тры пушчы дрымушчы,
Чэраз тыя ручайкі цякушчы.
Калі к матцы ў госці захачу,
Я тыя барочкі парублю,
Цёмныя лясочкі выпалю,
Сінія азёры намашчу,
А ў сваёй матанькі пагашчу.

## 405. ДУМА МАЯ, ДУМА

Дума мая, дума,*
Думачка бальшая.

Кабы к гэтай думе
Мамачка й радная.

Я ж ба ёй расказала,
А яна мне разгадала:

«Гаруй, дочка, гора,
Як я гаравала,

Гадуй, дочка, дзетак,
Як я гадавала».

Каб мамачка жывая,
Што й дарожачка міла,

Як мамачка памрэ,
Дарожачка зарасце.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтарасцца.

Зарасце дарожачка
Хмызнікам, бярэзнікам,

Хмызнікам, бярэзнікам,
Горкім асіннічкам,

Горкім асіннічкам,
Колкім шыпшыннікам.

## 406. ОХ ТЫ, ВОЛЬХА ЗЕЛЯНА!

— Ох ты, вольха зеляна!
Чаго ж ты не такая,
Як у Пятроў дзень была?
Фросенька малада,
Чаму ты не такая,
Як у роднай мамкі была?
— Міхалачка, сэрца маё,
Дай мне волю такую,
Як у роднай мамкі была!
— Фросенька, душа мая,
Выведзь дзевяць сыноў,
А дзесятую доч Марысю!
— Міхалачка, сэрца маё!
Пастаў дзевяць дамоў,
А дзесяты — цяром:
Усім сыночкам па дамочку,
А дочцы Марысі — высок цяром.

## 407. ЗА ЦЁМНЫМ ЛЕСАМ ТРАВА ПАВЯЛА

За цёмным лесам трава павяла,
За благім мужам жана прапала,
На ніўку пойдзець — ніўку праклінаець:
— Каб гэта ніўка пакарацела,
Каб гэта постацька павузела,
Каб я, старэнька, яшчэ пастарэла!
За цёмным лесам трава зялёна,

За добрым мужам жана вясёла,
На ніўку пойдзець і бога просіць:
— Каб гэта ніўка падаўжэла,
Каб гэта постацька пашырэла,
Каб я, маладзенька, памаладзела!

## 408. ОХ, У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ ТРАВА ЗЕЛЯНАЯ

Ох, у лузе, лузе трава зеляная,
У харошага мужа жана маладая.
Ох, у лузе, лузе трава зашумела,
У харошага мужа жана забалела.
Як прыйшоў жа мілы,
Прынёс гарнец піва.
— Умру, умру, мілы,
Не буду я жыва.
Як пайшоў жа мілы
Ды прынёс гарэлкі.
— Умру, умру, мілы,
Шукай сабе дзеўкі.
Як пайшоў жа мілы
У зялёну лясінку,
А вырваў мілы
Тонкую дубінку,
А папарыў мілы спінкі серадзінку.
Яна ж ля яго ўстала,
Як і не ляжала,
Яна ж ля яго села,
Тры песенкі спела.

## 409. ОХ, ВІШАНЬКА-ЧАРЭШАНЬКА

Ох, вішанька-чарэшанька
З-пад кораня зеляненька,
Ой, за добрым жана мужам —
Штодня яна весяленька.
Ох, вішанька-чарэшанька

З-пад кораня да й зацятая,
Ой, за благім жана мужам —
Штодзень вочы заплаканы.

## 410. ОЙ, САРВУ, САРВУ З РОЗЫ КВЕТАЧКУ

Ой, сарву, сарву з розы кветачку
Да пушчу на вадзічку.
Ой, плыла, плыла з розы кветачка
Да ля беражку стала.
— Дзіцятка маё, мілае маё,
Знаць, тры гады ляжала.
— Не ляжала ж я, мамачка мая,
Ані дня, ні гадзіны,
Аддалі ж мяне, ссушылі мяне,
Як лісток ад рабіны.

## 411. САРВУ, ЗЛАМЛЮ З РОЗЫ КВЕТКУ

Сарву, зламлю з розы кветку
Ды пушчу на ваду,
Плыві, плыві, з розы кветка,
Аж да майго роду,
Аж да роду, да радзімага,
Да роднае маткі.
Вышла маці вады браці —
Кветачку паймала.
— Знаці, знаці, маё дзіцяці,
Сем нядзель ляжала.
— Не ляжала, мая матка,
Ні дня, ні ночы,
Ды ссушылі, ды знудзілі
Свякровіны вочы.
Не ляжала, мая матка,
Ні дня, ні гадзіны,
Ды ссушылі, ды знудзілі
Цяжкія радзіны.

## 412. ВЫЙДУ Я НА ГОРАЧКУ

Выйду я на горачку,
Пакачу іголачку.
Кацішя, іголачка,
К свёкру пад аконачка,
Свякроўцы пад другое.
Паслухай, іголачка,
Што свёкарка гаворыць:
Ці аб цябе, іголачка,
Ці аб мяне, нявестачку?
Ці аб цябе, залатую,
Ці аб мяне, маладую.

## 413. АЙ, ШТО ЗА ДУМКІ Ў ШЭРАЙ ЗЯЗЮЛЬКІ?

Ай, што за думкі ў шэрай зязюлькі? *
Учора была ў шчырым бару,
Сягоння ўстала ў зялёным саду.
Ай, што за думкі ў нашай Галечкі?
Учора была ў таткі на дварэ,
Сягоння ўстала на чужой старане.
У чужой старане — у свёкра на дварэ,
У свёкра на дварэ, у чужой хатцы,
У чужой хатцы для чужой мамкі.

## 414. НА КАГО ТЫ, МОЙ МІЛЕНЬКІ, ЗЛУЕШ?

— На каго ты, мой міленькі, злуеш?
А што ты, тваё сэрдынька, труеш?
— А я злую на матку старую,
Што не вялела худобаньку браці,
Толькі вялела багатую шукаці.
Багатая — куды к чорту пышна,
Мая худобанька, як у саду вішня.
Багатая па вуліцы ходзіць,
Мая худобанька што возмець, то зробіць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Багатай сукні адамашкі,
А ў маёй худобанькі серыя сярмяжкі.
У багатай — валы да каровы,
А ў маёй худобанькі — чорныя бровы.
У багатай валы, каровы паздыхаюць,
А ў маёй худобанькі бровы не зліняюць.

## 415. ОЙ, ПАСЕЯЎ РАТАЙ ЖЫТА І ПШАНІЦУ, І ЗЯЛЁНЫ АВЁС

— Ой, пасеяў ратай жыта і пшаніцу, і зялёны авёс,-
Не па праўдзе, мой міленькі, са мною жывеш:
Міма мае сені, новае каморы да другой ідзеш,
Мяне, маладую, галубку сівую, самую кідаеш.
— Высцель, мая мілая, кітайкаю двор,
Як я іцім да другое, то й да цябе зайду.
Пасадзі, мілая, на двара вярбу,
Як я іцім да іншае, то й да цябе зайду.
Высцель, высцель, мая міла, кітайкаю двор,
Каб не памазаў я, маладзенек, сваіх чобат.
— Бадай жа ты, міленькі, таго не даждаў,
Каб ты маю чырвону кітайку ножкамі стаптаў.

## 416. ПУШЧУ СЯРПОК МЛАДА ПА ДАЛІНЕ

— Пушчу сярпок млада па даліне,
Не жаты мой авёс,
Не па праўдзе, не па шчырасці,
Мой мілы друг, жывёш.
Ты да белай, ты да харошай
Віна-мёду нясеш,
А да мяне, горкай, бяздольнай,
Чорнае піва шлеш.
Запражы, мой братка, запражы, мой родны,
Пару коней вараных,
Я паеду даганяць
Сваіх летаў маладых.
— Я табе запрагу хоць конікаў пяць,
Да ўжо табе, мая сястрыца,
Лет сваіх не дагнаць.

Пашлі твае леты па белым свеце,
Як ліст па вадзе.
— Уцяшаюцца ўсе мае ворагі
А маёй бядзе,
Так мая бяда, так мая нуда,
Як летняя раса.
Слонца пагрэе, ветрык павее —
Раса спадзе,
Так мая бяда, так мая нуда
Марне прападзе.

## 417. ПАВЯНІ, ВЕТРУ

— Павяні, ветру,
Да із крутое гары...
— Ой, рад бы [illegible] павяваці —
Усё крутая да гара,
Ой, рад бы я прыбываці —
Усё чужая старана.
Да няма ж аўса, ані сена,
Нечым каня гадаваці,
Азьму ў ручку пудсталіта,
Пайду галачак страляці.
Да не застрэліў чорнай галкі,
Да застрэліў сакала.
Ой, кіну, брошу пудсталіта,
Пайду ў карчму піць, гуляць,
А за мною мая міла вячэраці звадь.
— Ох, вячэрай, мая міла,
Вячэрай сама,
Ох, е ў мяне лучай цябе —
Вячэраці дасць.
Чужу міленькую і пацалую, агарну,
А сваю няўдалачку, дзе сустрэну, то заб'ю.
Як ударыў няўдалачку
Ды па белу ліцу, палілася кроў гарача
Па тонкаму рукаўцу.
— Не жаль жа мне, мой міленькі,
Белага ліца,
Да жаль жа мне, мой міленькі.
Тонкага рукаўца.

## 418. ОЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА

Ой, божа мой, божа,
Што мужык не любіць,
Па вячорках ходзіць,
К беламу світу да мяне прыходзіць,
Лажыцца спаці поперак краваці
Да сцяны вачыма, да мяне плячыма.
— Адвярніся, мілы, я цябе разую,
У правае вочка цябе пацалую.
— Адступся, гідкая, адступся, брыдкая!
Ох, е ў мяне іншая, лучча, не такая.
— Хоць у цябе і дваццаць і чатыры,
То я ля таго старшэй за ўсе тыя.
— Ой; дзе ты старшэнства дастала?
— У чыстаму полю цэркаўка стаяла,
Там жа я, маладая, старшэнства дастала:
Прысягала богу і святому Юр'ю з табою, дурню.
Прысягала й святому спасу з табой, свінапасам.

## 419. ПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАМАЧКА

Парадзіла мяне мамачка
Не ў шчаслівы дзень, у пятніцу, (2)
У вішнёвым саду пад яблынкаю. (2)
Закрывала мяне мамачка
Ад ветрыку да й ад дожджычку,
Не закрыла мяне мамачка
Ад ліхога замужайка, (2)
Што не верная падружанька.

## 420. ВОХ, ПРАПАЛА Ж МАЯ ДОЛЯ, ПРАПАЛА

Вох, прапала ж мая доля, прапала,
На балоце ў ачарэці запала.
— За каго ж ты мяне, маці, аддала?
— За п'яніцу-лядашчыцу аддала,
Што п'яніца-лядашчыца ў карчме п'ець,

А як прыдзе дадому, жонку б'ець.
Прыехаў мой бацюшка з Альгова
Да пытае п'янічэнькі, чы дома.
— Вох, памалу, мой бацюшка, гамані,
Спіць п'яніца-лядашчыца ў каморы.
Я ж думала, што п'яніца не чуе,
Аж на мяне нагаечку гатуе,
Я ж думала, што нагайка з паперу,
Ажно яна з сырэнькага раменю,
Я ж думала, што нагайка з жывіцы,
Ажно яна з сырэнькае сырыцы.

## 421. ТАПОЛЯ З ВЕТРАМ ГАВАРЫЛА

Таполя з ветрам гаварыла:
— Не вей, ветру буйнесенькі,
Да не ламі голля майго,
Не раскідай па ўсім полю,
Няхай голле пада мною.
Цешча зяцю гаварыла:
— Не пей, зяцю, гарэлачкі,
Не бі, зяцю, маёй дочкі,
Мая дочка ізмарнела
Ўсю вясну за кроснамі,
Ўсё лета за жнітвамі,
А ўсю восень за грыбамі.
— Шчэ й дочка не змарнела,
Нагаечка не нагрэла,
Нагаечка-драцяначка,
Будзе дочка каханачка.

## 422. А БЕЛЫЯ КУРЫ

А белыя куры,
Да вы не пейце да рана,
Ой, не кажыце,
А што ночанька мала,

А што ночанька мала,
А я, маладая,
Усю ночку не заснула,

Усю ночку не заснула,
Свайго дарагога
Із дарожанькі ждала,

Із дарожанькі ждала.
Ой, прыехаў мілы
Із дарожанькі да позна,

Із дарожанькі позна.
Ён раскідаў маю
Пасцель розна,

Пасцель белу розна.
— На каго ты, мілы,
На каго ты злуеш?

На каго ты злуеш?
— Ой, я злую, злую
На цябе да маладую,

На цябе да маладую:
Ой, як я ж дома,
Ты мяне праклінаеш,

Ты мяне праклінаеш,
А як я ў дарозе,
Дык ты мяне дажыдаеш.

## 423. Я СЯГОННЯ УСЮ НОЧКУ НЕ СПАЛА

Я сягоння ўсю ночку не спала,
Міленькага з карчомачкі ждала.
Як прыехаў мой міленькі позна,
Параскідаў усе падушачкі розна.
— За што, за што, мой міленькі, злуеш,
За што мае падушачкі тусуеш?
Ой, ты ехаў ля белае бярозы,

Ты ж мяне браў не п'яны — цвярозы.
Ой, ты ехаў ля зялёнага дубу,
Нашто ж ты браў, калі табе не люба?
Ой, ты ехаў ля зялёнага гаю,
Нашто ж ты браў, калі ніхто не раіў?

## 424. ОЙ, ЧАГО, БЯРОЗА, А ЧАГО, КУДРАВА

— Ой, чаго, бяроза, а чаго, кудрава,
Лісце раненька зраніла?
Ой, чаго, малодка, як замуж пайшла,
Красу раненька згубіла?
— А калі б знала, калі б ведала
Сваю горкую долю,
А я б замуж не йшла,
А ў чарнушкі б пайшла,
У чарнушачках век бы пражыла.
А ў чарнушачках ды й дзела не робяць,
Толькі хораша ходзяць.

## 425. ПАЗДАРОЎ, БОЖА, МАЙГО МІЛАГА

Паздароў, божа, майго мілага
Сівою барадою,
Што я гуляла, раскашавала
За яго галавою.

Паздароў, божа, майго мілага
І мяне каля яго.
Сам рана ўстане, мяне не будзіць
Да кужалю белага.

Сам рана ўстае, сам рана ўстае,
Йшчэ мяне напранае:
«Ой, спі, мілая, чарнабрывая,
То будзеш маладая!»

## 426. ЛІХА Ж ТАМУ КАЗАЧЭНЬКУ

Ліха ж таму казачэньку,
Харошаму няўдаўшыся,
Сядзіць яго міленькая
С другім абняўшыся.
— Няхай сядзіць, няхай сядзіць,
Няхай яна насядзіцца.
Няхай на чужыя, харошыя,
Няхай яна наглядзіцца.
Як прыдзе дадамоньку,
То я яе пакараю,
Ой, белаю бярозаю ручкі,
Ножкі паадбіваю.
— Не бі ж мяне, мой міленькі,
Да белаю бярозаю,
Буду табе наравіці як п'янаму,
Так цвярозаму.
Не бі ж мяне, мой міленькі,
Да гнуткаю ляшчынаю,
Буду табе наравіці,
Як была дзяўчынаю.

## 427. ОХ, БЕЛАЯ БЯРОЗАНЬКА, ЧАМУ НЕ ГАРЫШ

Ох, белая бярозанька, чаму не гарыш
Да не курышся?
За нічогім жана мужам не жыве,
Да адно журыцца.
Запалеце бярозаньку — няхай гарыць
Да не курыцца,
Удружэце маладзіцу, няхай жыве
Да не журыцца.
Падпалілі бярозаньку, каб гарэла,
Не курылася,
Удружылі маладзіцу, каб жыла
Да не журылася.

### 428. САЛАВЕЙ, САЛАВЕЙ

Салавей, салавей,
Не залятай на мой двор,
Не задавай жалю мне,
Бо я ў чужой старане,
Трудна маёй галаве:
Ў мяне бацюшкі няма,
А матулька не родна,
Пасылае па ваду
Да й да быстрае ракі,
Да халоднае вады.
А ў той рэчцы не стэку,
Прыкуньчыка прыточу.
Надзень, мілая, шацён
З тонкіх белых палацён,
Вох, каб сонца не пякло,
Вох, каб вецер не задуў,
Каб мой мілы здароў быў!

### 429. ЗАШУМЕЛА ЯЛЕНЧАНКА ЗЕЛЯНАЯ

Зашумела яленчанка зеляная,*
Заплакала удованька маладая.
Яна свайго усё й мілага праважала,
Яна ў яго шчырай праўды дахадзіла:
— Скажы, скажы, мой міленькі, шчырую праўду,
Ці хадзіць мне па кірмашах, як хадзіла,
Ці любіць мне малойчыкаў, як любіла.
— Хадзі, хадзі па кірмашах, як хадзіла,
Любі, любі малойчыкаў, як любіла.
Не кажы ім шчырай праўды, як казала,
Не сцялі ты пасцель белу, як ты слала.
Яны тваю пасцель белу параскінуць,
Яны цябе любіць будуць да й пакінуць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 430. ІВАНЮША, РАЗУДАЛА ГАЛАВА, Э-ЭЙ!

Іванюша, разудала галава, э-эй! *
Куды едзеш, ад'язджаеш ад мяне? Э-эх!
Каму, Ванька, прыпаручаеш меня?
З кім я буду зіму люту зімаваць? Э-эх!
З кім я буду вясны краснай дажыдаць? Э-эх!
А на лета а я парабка найму, Э-эх!
А к той парэ Іванюшка сам прыду.

## 431. ОЙ, АДЛЯТАЕ СЫЗЫ ЯСНЫ САКОЛІК СЫ ЗЯЛЁНАГА САДУ

Ой, адлятае сызы ясны саколік сы зялёнага саду,
Ой, да ад'язджае мілы мой дружочак ў чужадальнюю старану,
Ой, са слязамі я дружочка прасіла: — Варацїся, друг, назад,
Ой, да варацїся, мой мілы дружочак, хоць гадочак пажывем,
Ой, да сы гадочак, хоць адну нядзельку, сы нядзелькі хоць, хоць адзін дзянёчак,
Ой, да сы нядзелькі хоць адзін дзянёк.

## 432. ПАКАЛОЛА Я СВАЕ РУЧАНЬКІ, ПШАНІЧАНЬКУ ЖНУЧЫ

Пакалола я свае ручанькі, пшанічаньку жнучы
А праглядзела свае вочанькі, да міленька ждучы.
— Да прыедзь, прыедзь, да мой міленькі, з чужыя старань.,
А ўжо ж мая пасцель бела пылочкам запала,
А ўжо ж маё сэрца унылае даўно праждала.

## 433. З АДНОЙ ГАРЫ ВЕЦЕР ВЕЕ

З адной гары вецер вее,
З-пад другой гары павявае,
Да маці сына ж ўгаварывае:

* Кожны радок паўтараецца.

— Да не едзь, сынку, начуй дома,
Бо твая жана ж нездарова.
А сын мацеры не паслухаў, (2)
Асядлаў каня, сеў, паехаў.

## 434. ОЙ, ЯК ПАЕХАЎ МІЛЫ МОЙ У ДАРОГУ

Ой, як паехаў мілы мой у дарогу,*
Кінуў мяне дома нездарову.
Як прыехаў мілы мой з дарогі:
— Чаго, міла, на лічанька бела?
Ці хто цябе так крэпенька ўдарыў?
— Ударыў, ударыў малады парнішка.
Сядлай, мілы, каня варанога,
Даганяй жа парня маладога.
— Ой ты, міла, ой ты, чарнаброва,
Чыя ў цябе на руках дзяціна?
— Учора ў мяне цыганачка была,
Яна сваё дзіця прызабыла.
— Брэшаш, міла, брэшаш, чарнаброва,
Цыганскае дзіця не такое,
Цыганскае дзіцяці чарное.

## 435. МІЛ ПАЕХАЎ У БАЛЬШУЮ ДАРОГУ

Міл паехаў ў бальшую дарогу,*
Кінуў жонку ў доме нездарову.
Міл прыехаў да з большае дарогі,
Сустрэў жонку ў доме на парозе.
— Здраствуй, міла чарнабрыва,
Чыё ў цябе да на ручках дзяціна?
— Была ў мяне ды цыганка-варожка,
Яна ў мяне да тры дні варажыла,
Да яна мне да дзіця падарыла.
— Брэшаш, міла чарнабрыва,
Не цыганскай да пароды дзяціна.

* Кожны радок паўтараецца.

Быў у цябе да казак маладзенькі,
Начаваў ён тры ночы, чатыры,
Да ён табе да дзяціну пакінуў.

## 436. І, ОЙ, ПАРАЙ, МАМКА, ПАРАЙ

— І, ой, парай, мамка, парай,*
Як з нялюбым мужам жыці.
— І параю, дзіцятка,
Параю, міленькае.
І занясі ў цёмны лес.
Завядзі ў цёмны лес,
Палажы пад ёлачкай.
І палажы пад ёлачкай,
І накрый саломачкай,
Падпалі лучыначкай
І выйдзі на вулачку,
Крыкні гвалт-ратуначку:
«І, здаецца, гром не быў —
Мілага пярун забіў,
І маланка не смаліла —
Мілага запаліла».

## 437. ОЙ, ЦЯЖКА, ЦЯЖКА — НЯПОЎНА ПЛЯШКА

Ой, цяжка, цяжка — няпоўна пляшка,
Некаму ж даліваці,
Аддалі мяне, забылі мяне
[І] некаму [ж] шкадаваці.
Да прыехалі да два брацеткі
Да сястрыцы ў госці.
— Якаво ж табе, наша сястрыца,
Да за п'яніцай жыці?
— Я жыву, жыву, мае братачкі,
Да ў жаль не ўдаюся,
Штогадзіначкі, штомінутачкі

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я смерці спадзяюся.
— Да пазволь, пазволь, наша сястрыца,
Ты нам яго забіці.
— А не пазволю, мае браточкі,
Не з кім веку дажыці.
Не кляніце, мае брацейкі,
Не кляніце вы яго,
А кляніце таго, брацейкі,
Хто усватаў за яго.

## 438. КАЛІНАЧКА ДА МАЛІНКУ КАЛЫША

Каліначка да малінку калыша,*
Братка сястры да пісемачка піша.
Рана піша, а ўвечары чытае,
Нейдзе сястра долю горкаю мае.
Узыйдзі, ўзыйдзі, да вячэрняя зара,
Прыйдзі ў госці, мая родная сястра.
Зара ўзыйшла да ўвесь свет засвяціла,
Сястра прышла да ўвесь род развесяліла.

## 439. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ БЯРОЗАЧКА СТАЯЛА

У цёмным лесе бярозачка стаяла,
У цёмным лесе кудравая стаяла.
Што ніхто к той бярозачцы не ходзіць,
Што ніхто к той кудравай не едзіць.
Як зайшла, заехала цёмна хмара,
Аблілася бярозачка расою,
А ўсё тою расою дажджавою...
Як аддаў мяне татачка далёка,
Ён далёка, далёка — ў чужыя людзі,
Ён і сам ка мне ў госцікі не ходзіць,
Мае мамачкі роднай не пускае.
Як прыслаў ка мне браханьку мяншога,
Ён мяншога, мяншога — не бальшога.

* Кожны радок паўтараецца.

А як стаў жа мой браханька ў парозе
І «дабрыдзень» сястрыцы не гаворыць,
Пра здароўе у сястрыцы не пытае...
Аблілася малодачка слязамі,
А ўсё тымі слязамі гаручымі.

## 440. СЫНКУ ВАСІЛЬКУ У ГАІ НАЧАВАУ

Сынку Васільку ў гаі начаваў,
У гаі начаваў, чудны сон бачыў,
Прыйшоў да маці сон разгадаць:
— Маці, маці, пара ўставаці,
Пара ўставаці, сон разабраці.
Маці ўстала, сон разабрала,
Сон разабрала, сыну сказала:
— Сынку Васільку, твой сон нядобры,
Жонка малада сына радзіла
І сама няжыва.
Запрагай коні ўсе найлепшыя,
Выпраўляй слугі найвярнейшыя.
Сынку Васільку конікі запрог,
Сеў сам і паехаў.
Ехаў борам — бор той не шуміць,
Прыехаў у сад—сад той не цвіцець,
Прыехаў на двор — двор той не мецены,
Глянуў у сад — салавей не вясёл,
Прыйшоў у сені — майстры майструюць,
Майстры майструюць, труны гатуюць.
Прыйшоў я ў хату — лаўка заслана.
Лаўка заслана, жонка прыбрана,
Лаўка заслана бялюсенька,
У яе галавах свечкі гараць,
У яе нагах дзеткі плачуць.
Свечкі гараць, памігаюць,
Дзеткі плачуць, прылягаюць.
— Плачце, дзеткі, плачце, мілыя,
Мне жонка другая будзе,
Мне жонка у вяночку,
Ваша мамка у пясочку.

## 441. ХОДЗІЦЬ ВАНЬКА ДА ПА БЕРАЖОЧКУ

Ходзіць Ванька да па беражочку,
Весялочкам апіраецца,
Слёзачкамі абліваецца.
— Што ж ты, Ванька, тут робіш?
Ці ты, Ванька, рыбку ловіш,
Ці ты, Ванька, перавоз возіш?
— Эй, горкі мае да перавозы,
Абліваюць жа да мяне слёзы.
Эй, была ў мяне жана Ульяна,
На Дунаю да ваду брала,
На камені ножкі мыла,
У Дунай-рэчке затанула.
Двое дзетак мне пакінула,
А трэцяе ў спавіточку,
Эй, а трэцяе ў спавіточку,
Дурыць маю галовачку...

## 442. БЫЛІ У ДЗЕДА ТРЫ ДАЧУШКІ

Былі ў дзеда тры дачушкі,
То дзеду бог даў.*
Адна выйшла за гаршкаля,
Другая выйшла за хлебароба,
Трэцця вышла за дудара.
Гаршкаль едзе — воз гаршкоў вязе,
Хлябар едзе — воз хлеба вязе,
Дудар едзе — воз дудак вязе.

## 443. БЫЛІ У ТАТУЛЬКІ ДА ТРЫ ДАЧУШКІ

Былі ў татулькі да тры дачушкі,
То яму бог даў.*
Усіх трох ён замуж павыдаваў:
Першую аддаў да за пашнічка,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Другую аддаў да за бортнічка,
Трэцюю аддаў да за дудара.
Што за пашнічкам, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — бохан хлеба,
А малым дзеткам па піражочку;
Што за бортнічкам, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — гаршчок мёду,
А малым дзеткам па гарнушачку;
Што за дударом, едзіць у госці,
Вязець гасцінец — дуду-рагаўню,
Малым рабяткам па жалеечцы.

## 444. Я ЎЧОРА Ў ПІРУ БЫЛА

Я ўчора ў піру была,*
П'янюсенька ў двор прышла,
З міленькім паспорыла,
Жаніцца пазволіла.
Жанісь, жанісь, міленькі,
Жанісь, чарнабрывенькі,
А бяры сабе лепшую,
Сястру маю меншую,
Сястру маю меншую,
Яна красівейшая.
У сястры маёй меншыя
Падушкі пуховыя.
Я думала, міленькі за жарт прыняў,
Ажно мой міленькі
У суботу сватоў паслаў.
А ўскінуся молада
Шэраю зязюляю,
Сяду пайду молада
У арэхавым кусціку.
Конічак спужаецца,
Кусцічак зварухнецца,
А ўдарыцца міленькі
Аб сыру зямлю-матушку.
Не астанешся, міленькі,
Ні мне, ні сястрэ маёй,
Ні маёй таварачцы.

* Кожны радок паўтараецца.

## 445. А НА ДВАРЫ ДОЖДЖЫК

А на двары дожджык,*
Як у сіцечка сіціць,

А брат сястру
І ў вакошачка клічаць:

— А хадзі, сястра,
У карчомку гуляці.

— А гуляй, брацец,
Калі табе ўдалося,

А я буду гараваць,
А мне гора нашлося.

А ў цябе, брацец,
Жытца зарадзіла.

А ў цябе, брацец,
Уся радзінка нашлася.

А ў мяне, брацец,
Пшонка не ўрадзіла.

А на мяне, брацец,
Уся радзінка забыла.

## 446. ОЙ, У ПОЛІ ВЕЦЕР ДЫША

Ой, у полі вецер дыша,
Каліну калыша,
Братка да сястрыцы
Часта пісьмы піша:
— Ты, сястрыца мая родна,
Ці прывыкла адна?
— Буду прывыкаці
Гора гараваці.

* Кожная страфа паўтараецца.

Выйду, выйду за варота,
Стану, як сірота,
Ды хто йдзе, мінае:
«Знаць, роду не мае».
Пусці, пусці, мілы, к роду
Мяне хоць праз воду.
— Не пушчу й к роду,
Скажаш ўсю прыгоду.
— Хоць будуць ў мяне пытаці,
Не буду казаці,
Толькі будзе знаці
Родна мая маці.
— Ох ты, маці мая, маці,
Дзе ж мне цябе ўзяці?
Маляроў наняці
Мамку змаляваці?
Маляры мамку малююць,
Ды ўсё ж не такую,
Ды ўсё ж не такую,
Як мамку радную.
Маляры мамку малююць
З чорнымі брывамі,
Няма маёй мамкі
З вернымі славамі.

## 447. ДУБРОВЕНЬКА ЗЕЛЯНАЯ

— Дубровенька зеляная,
Чаго рана зашумела?
Удовенька маладая,
Чаго рана заўдавела?
— Не сама я заўдавела,
Злыя людзі абсудзілі,
З мілым другам разлучылі.
Мае дроўцы ў дуброўцы
Засталіся нясечаны,
Мая траўка на лужочку
Засталася някошана.
Пайду к татку на параду,
Як мне жыці-гараваці.
— Тады гора адгаруеш,
Як дзетачак падгадуеш.

## 448. ДУБРОВАЧКА ЗЯЛЁНАЯ

— Дубровачка зялёная,
Чаго рана зашумела? *

— Не сама я зашумела,
Буйны ветры скалыхнулі.

— Удованька маладая,
Чаго рана заўдавела?

— Не сама я заўдавела,
Злыя людзі разлучылі.

Свякроў мая багатая,
Яна мяне неўзлюбіла,

А як вышла на вуліцу,
Яна мяне абсудзіла.

— Парай, парай, матуленька,
Як свякроўцы ўгадзіці?

— Цярпі, мая дачушка,
Доля твая нешчаслівая.

## 449. ЗЯЛЁНАЯ, ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАЧКА, ДУБРОВАЧКА

— Зялёная, зялёная дубровачка, дубровачка,
Чаго рана, чаго рана нахілілась, нахілілась?
— Я й не сама, я й не сама нахілілась, нахілілась,
Буйны ветры, буйны ветры нахілілі, нахілілі.
— Маладая, маладая ўдовачка, ўдовачка,
Чаго рана, чаго рана заўдавела, заўдавела?
— Я й не сама, я й не сама заўдавела, заўдавела,
Злыя людзі, злыя людзі разлучылі, разлучылі.
Пайду к брату, пайду к брату на параду, на параду:

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Парадзь, браце, парадзь, браце, што рабіці,
што рабіці:
Мае ніўкі, мае ніўкі не араны, не араны,
Мае пожкі, мае пожкі, не кашоны, не кашоны.

## 450. САСОНАЧКА ЗЕЛЯНАЯ

— Сасоначка зеляная,*
Малодачка маладая,

Чаго плачаш і рыдаеш,
На доўгу дарожку пазіраеш?

— А як жа мне не рыдаці,
На доўгу дарожку, эх, пазіраці?

А ўсе дружкі з вайны ідуць,
Майго дружка каня вядуць.

Ой, кося мой вараненькі,
А дзе дружок маладзенькі?

А ці ўбілі, ці ўстралілі,
А ці ў плен забралі?

— А не ўбілі, не ўстралілі,
А не ў плен забралі,

А твой дружок ранен ляжыць,
Праваю рукою каня дзяржыць,

Праваю рукою каня дзяржыць,
Леваю рукою ваду грабець,

Леваю рукою ваду грабець,
На сярдзечка ўзліваець,

На сярдзечка узліваець,
Таварышаў прызываець.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 451. ШУМЕ-ГУДЗЕ ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОЎКА

Шуме-гудзе зялёная дуброўка,
Плача і рыдае маладая ўдоўка.
Усе з Дону ідуць,
А майго мілага каня вядуць.
Пайду, пайду, каня рассядлаю,
Пра свайго дружка распытаю:
— Ох ты, конь мой сівагрывы,
Скажы праўду, дзе мой мілы?
— Твой міл убіты ляжыць,
У правай руцэ хрэст дзяржыць,
Леваю ваду набірае
Да на сэрца палівае,
Таварышу рэчы размаўляе:
«Таварышу, родны браціку,
Як пойдзеш жа на маю староначку,
Накажы ты майму роду,
Не так роду, як маёй жане,
Маладой удовачке,
Няхай яна мяне не жджэ,
Няхай замуж ідзе,
Пакуль мяне дажджэцца,
Уволю ў свеце нажывецца».

## 452. НЕ ШУМІ ТЫ, ДУБРОВАЧКА ЗЯЛЁНАЯ

Не шумі ты, дубровачка зялёная,
Не плач, не плач, удовачка маладая,
Недалёка мілы пашоў — да Аршавы.
У Аршаве п'юць, гуляюць, барабаняць,
Малодзенькіх малойчыкаў паучаюць.
Каторыя жанатыя, тыя плачуць,
Каторыя халастыя, тыя скачуць.
— Засталіся нашы жонкі ўдоўкамі,
Нашы деткі малалетнія сіроткамі.
Жана мужа праваджала, праваджала,
Яна яго верна пытала, верна пытала:
— Ці гуляці, мой міленькі, як гуляла?
Ці наймаці скрыпкі, цымбалы, як наймала?

— Гуляй, гуляй, мая міла, як гуляла,
Наймай сабе скрыпкі, цымбалы, як наймала.
— Не гуляці мне ўжо болей, як гуляла,
Не наймаці скрыпкі, цымбалы, як наймала.

## 453. ІШЛА УДОВА ІЗ ІЛЬВОВА

Ішла ўдова із Ільвова,
Вяла дзеткі за сабою,
Паставіла пад вярбою.
— Стойце, дзеткі, пад вярбою,
А я пайду да бацюхны на размову:
— Парадзь жа мне, мой бацюхна,
Як мне дзеткі пракарміці.
— Прадай дзетак двое
Да выкармляй хоць адное.
Ішла ўдова із Ільвова,
Вяла дзеткі за сабою,
Паставіла пад вярбою.
— Стойце, дзеткі, пад вярбою,
А я пайду да мілога на размову:
— Парадзь жа мне, мой міленькі,
Як мне дзеткі пракарміці.
— Гаруй, міла, як гаравала,
Гадуй дзеткі, як гадавала,
Гаруй, міла, як ізможаш,
Гадуй дзеткі, бог паможа.

## 454. Э-ЭЙ, СУДЗІ, БОЖА, ВЯСНЫ ДАЖДАЦЬ

Э-эй, судзі, божа, вясны даждаць,
Я, малады, ажанюся,
Э-эй, я, малады, ажанюся,
Туманчыкам апушчуся,
Э-эй, туманчыкам ціхусенькім,
А дождлжыкам драбнюсенькім.
Э-эй, добра табе, туманіку,
З лукі на луку ідучы,

Э-эй, з лукі на луку ідучы,
Быстрыя рэкі мыючы,
Э-эй, быстрыя рэкі мыючы,
Жоўтыя пяскі рыючы.
Э-эй, добра табе, удовачка,
За другога замуж ісці,
Э-эй, за другога замуж ісці,
Два парогі ступаючы,
Э-эй, два парогі ступаючы,
Два наравы звяраючы.
Э-эй, самі сядзем абедаем,
Аб дзетачках не ведаем,
Э-эй, самі сядзем па застоллю,
А дзетачкі — па заўголлю.

## 455. ЯК Я БЫЛА МАЛАДАЯ

Як я была маладая
Сем гадоў удавою,
Як даждала маладая
Я цёплага лета.
А ўсе людзі жыта сеюць,
А я, млада,— гора.
А ўсе людзі бога просяць,
Каб жыта радзіла,
А я, млада, прашу бога,
Каб гора не ўсхадзіла.
Зарадзіла ў людзей жыта
Буйнымі кустамі,
Як зацвіло маё гора
Сінімі цвятамі.
А ўсе бабы йдуць у поле
З яснымі сярпамі,
А я, млада, іду ў поле
З гаручымі слязамі.
Усе мужчыны йдуць у поле
Снап'я сабіраці,
А я, млада, іду ў поле
Сваё гора сарваці.
А як сяду я, маладзенька,
На беленькі камень,

Як падходзіць ка мне дзядок
З сівой барадою:
«Не плач, не плач, маладзіца,
Не кляні сваю долю,
Тваё гора пашло ў поле
Табе долю шукаці».

## 456. УСЕ ЛЮДЗІ БАРЫ АРУЦЬ

Усе людзі бары аруць,
А я — роўна поле.
Усе людзі жыта сеюць,
А я сею гора.
Усе людзі бога просяць,
Каб жыта радзіла,
А я хаджу, бога прашу,
Каб гора не ўсхадзіла.
Радзі, радзі, буйна жыта
Густымі кустамі,
Ой, зацвіці, мая доля,
Рознымі цвятамі.
Павязу я сваё гора
На торг прадаваці,
Усе людзі гора знаюць,
Не хочуць купляці.

## 457. УСЕ ЛЮДЗІ ДОБРА ЖЫВУЦЬ

Усе людзі добра жывуць,
Я адна гарую,
Усе людзі жыта сеюць,
А я — сваё гора,
Усе людзі — з севалачка,
А я — з падалочка.
Усе людзі бога просяць,
Каб жыта ўрадзіла,
А я, млода, бога прашу,
Каб гора не ўсхадзіла.

Як узыйшло маё гора
Густымі кустамі
Да расцвіло маё гора
Рознымі цвятамі.
Усе цвяты пустацветы,
Адзін васілёчак,
Уся сям'я няверная,
Адзін мой дружочак.

## 458. УСЕ БАРЫ ПАГАРЭЛІ

Усе бары пагарэлі,
Засталося поле,
Усе людзі жыта сеюць,
А я — сваё гора.
Як узышло маё гора
Сінімі васілямі.
Няма цвету найсінейшага,
Як сінь васілёчак,
Няма друга найлюбейшага,
Як мілы дружочак.
Сядзіць за столікам
Сівы галубочак,
На ём шапачка з баброамі,
Галоўка з кудрамі.

## 459. УСЕ ЛЮДЗІ БАРЫ АРУЦЬ

Усе людзі бары аруць,
А я — роўна поле.
Усе людзі жыта сеюць,
А я — сваё гора.

Жыта ўзышло, жыта ўзышло
Каласочкамі,
Гора ўзышло, гора узышло
Васілёчкамі.

Усе васількі, васількі,
Адзін у іх цвяточак,
Чураецца радня мяне
І мой жа браточак.

Зялёная травіца,
Яна ж развіваецца,
Адна мая сястрыца
Мяне не чураецца.

## 460. ЯК ЗАДУМАЛА, ЗАГАДАЛА МАЛАДА УДАВА ЗАМУЖ

Як задумала, загадала малада ўдава замуж,
Як заплакалі яе дробныя дзеці:
— А не йдзі, не ідзі, наша матулька, замуж,
А не сіраці нас, дробных дзяцей.
А йдзі ты ў зялёны сад гуляць,
Паглядзі ты на зялёны сад.
Ці парасцвіліся цвяты
А ці разжыліся ўдовіныя сыны?
— Не ўсе цвяты расцвітаюцца,
Не ўсе ўдовіныя сыны разжываюцца,
Палавіна цвятоў пасыхаець,
Удовіны сыны не разжываюць.

## 461. ПАСЦІЛА УДОУКА СЕМ ПАНЯДЗЕЛКАУ

Пасціла ўдоўка сем панядзелкаў,
Восьмую нядзелечку,
Прынясі, божа, нежанатага
На маю пасцелечку.
Прыехаў казак з Украіначкі
На мае пярыначкі.
Як ажаніўся, то зажурыўся,
Што ў мяне дзяцей многа.
— Малады казак, ты не журыся,
Што ў мяне дзяцей многа,
Асядлай каня да едзь у поле,
Паглядзі работачкі:
Чатыры аруць, тры барануюць,

Тры дачкі на постаці.
Прыехаў казак, рассядлаў каня:
— Вось цяпер, жана мая,
Дзетачкі твае — прыслугі мае,
Ты — ў хаце гаспадыня.

## 462. У ГАРОДЗЕ ДА ПШАНІЧАНЬКА РОДЗІЦЬ

У гародзе да пшанічанька родзіць,
У той жа пшаніцы да перапёлачка ходзіць,
За сабою дробных дзетачак водзіць.
— Дзеткі ж мае, прапала я з вамі,
Што не маю бацькі над вамі.
— Мамка ж наша, не гаруй жа ты з намі,
Парастуць крыльцы — разляцімся мы самі.
Паляцім жа мы па лясам, па далінам
Да сядзем мы на чырвону каліну,
Да будзем жа мы калiначку есці,
Да будзем жа сваёй мамачцы несці.

## 463. ДА ЗА СЦЯНОЮ ЗА КАМЯНОЮ

Да за сцяною за камяною
Удоўка сільна плача.
— Не плач, удава — бедна галава,
Татачка ў госці едзе.
— Да няхай едзе,
Не заязджаецца,
Не будзе начаваці:
Не маю стайні
Ані новенькай
Конікаў пастаўляці,
Не маю сыра
Ані белага
Татачкі частаваці,
Не маю слаўца
Ані вернага
З татачкам гаварыці,
Не маю саду я вішнёвага
З татачкам пахадзіці.

Да за сцяною за камяною
Удоўка сільна плача.
— Не плач, удава — бедна галава,
Міленькі ў госці едзе.
— Да няхай едзе, заязджаецца,
Будзе тут начаваці:
Маю я стайні,
Маю новыя
Конікі пастаўляці,
Маю я ложа і падушачкі
Міламу пасцель слаці,
Маю я сыр, маю белы
Мілага частаваці,
Маю я слаўца, маю верна
З міленькім гаварыці,
Маю я садзік, ўсё вішнёвенькі,
З міленькім пахадзіці.

## 464. ПЛЫВЕ ВУТАЧКА, ПЛЫВЕ ШЭРАЯ

Плыве вутачка, плыве шэрая
Усё й па сіняму мору.
Плыла ўдовачка маладзенькая
Усё і па свайму гору.
— Чаго, вутачка, чаго, шэрая,
Галоўку задзіраеш?
Чаго, ўдовачка маладзенькая,
Белы ручкі ламаеш?
— Як не задзіраць мне галовачкі?
Цяжка ж пад воду плысці.
Як не ламаць белы ручачкі?
Цяжка без мужа жыць.

## 465. МАЛАДАЯ УДОЎКА

Маладая удоўка *
Каля гаю хадзіла
Ды й з гаем гаварыла:
— А ты, гаю, мой гаю,

* Кожны радок паўтараецца.

Падымай вецце ўгору,
Пратарай мне дарогу,
Бо я к мамачцы іду.
Калі мамачка жыва,
Будзь, дарожачка, торна
І паходачка спорна.
Калі ж мамачка ўмерла,
Будзь, дарожка, не торна
І паходка не спорна.

## 466. НА УДОУЧЫНЫМ ПОЛІ

На ўдоўчыным полі
Сабраліся работнічкі:
Мядзведзь карчом арэць,
Лісіца ваду бярэць,
А зайчык барануіць,
А ваўчок жыта сеіць.
А як пачаў дождвык
Ды ўсё надкрапляць,
А як пачалі работнікі
Дамоўкі ўцякаць:
Мядзведзь на лес палез,
А зайчык — у Дунайчык,
А лісічка — ў норачку,
А ваўчок — у хмызнячок.

## 467. А НА УДОУЧЫНАЙ ГАРЭ

А на ўдоўчынай гарэ
Мядзведзька карчом арэ,
А заенька барануе,
Лісічка абед гатуе.
Як прыгрэла сонейка,
Пайшлі ўсе работнічкі:
Мядзведзька — у ельнічак,
Лісічка — у бярэзнічак,
Заенька — пад ламочак,
А ўдоўка — ў галасок.

## 468. РАЗГАРЭЛАСЯ ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА

Разгарэлася вячэрняя зара,
Як расплакалась салдацкая жана,
Новы сені вымятаючы,
Свайго мілага ўпрашаючы:
— Начуй, начуй ты, мой міленькі,
Гэту ночаньку васенную,
А васенную, пследнюю!
— Рад бы, мая мілая, начаваць —
Мае конікі запрэжаны стаяць,
Мае служачкі ўвабраныя стаяць,
Мае хорцікі накормлены ляжаць,
Мае сокалы на вылеце,
Сам я, моладзец, на выездзе,
Толькі сесці да паехаці,
А ў барабанушкі ударыці,
Маладу жану разжаліці,
Маладу жану салдацкую.

## 469. РАЗГАРЭЛАСЯ ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА

Разгарэлася вячэрняя зара,*
Як расплакалась салдацкая жана,
Новы сені вымятаючы,
Свайго мілага ўпрашаючы:
— Што я, не гневайся, мой міленькі,
Ды ж табе гаварыць буду...
Мне за цябе не хацелася,
Мне хацелася за лепшага,
За твайго за брата меншага,
За малага, кучаравага,
За меншага, прыгажэйшага.

## 470. ЦЕПЛА ЛЕЦЕЧКА ПРАХОДЗІЦЬ

Цёпла лецечка праходзіць,
Зіма люта настаець,
Усе рэчкі пазамерзлі,

* Кожны радок паўтараецца.

Ручаёчкі не цякуць,
Усе пташкі пазаціхлі,
Салавейка не пяець.
Пашоў міленькі лужочкам,
А я — крутым беражком,
Махнуў міленькі платочкам,
А я — праваю рукой:
— Прашчай, прашчай, друг любезны,
Не вянчацца нам з табой,
Не вянчацца, распрашчацца
І пакончыць нам любоў.

## 471. ЛЕТА СХОДЗЕ, ЗІМА БУДЗЕ

Лета сходзе, зіма будзе,
Злое ўрэмя настае,
Дзяўчыначка маладая
Да й сваю долю кляне.
Быстры рэчкі прызябнулі,
Ручаёчкі не цякуць,
У полі травачкі завялі,
У садзе цвяты не цвітуць.
У садочку на кусточку
Дробны пташкі не пяюць (2)
І салаўі не шчабечуць.
А две браўся малойчык
Да й з старонак чужых.
— Не плач, не плач, мая міла,
Яшчэ ў летах маладых,
Зіма сойдзе, лета будзе,
Вазьму замуж за сябе, (2)
Наўсягды вазьму цябе.

## 472. МАРОЗ РЭЧКІ ЗАМАРОЗІЎ

Мароз рэчкі замарозіў,
Ручаёчкі не цякуць,
У лузе траўка пазавяла

І цвяточкі не цвітуць.
Тую пору, ета ўрэмя,
Маць сына радзіла.
Нарадземшы сына,
Горку долю наракла,
Яна, й нарокшы горку долю,
І ў салдацікі аддала.

## 473. БЯРОЗКА БЕЛАЯ БЯЛЯВА

— Бярозка белая бялява,
Чаго стаіш
Смутная да ты невясёла,
Смутна, невясёла?
— Прайшло лета,
Вясёла стаяла, (2)
Прыйшла восень,
Стаў ліст ападаці. (2)
Бяруць, бяруць
Малойца ў салдаты. (2)
Па ём плача
Яго родная маці. (2)
За матушкаю —
Сястрыца родная, (2)
За сястрою —
Жана маладая. (2)
За жаною —
Яго дробныя дзеткі.

## 474. ВЫ, СЫНОЧКІ, ГАЛУБОЧКІ МАЕ

Вы, сыночкі, галубочкі мае,
Вы пайдзіце ў зялёненькі садок
Да ўнівіце вы на дудачкі сябе.
Чыя дудка галасней зайграе,
Таму сынку у салдацікі ступаць.
Старшы кажа: — Ў мяне дзяцей грамада.
Сярэдні кажа: — Ў мяне жонка малада.
Старшы кажа: — Трэба дзяцей гадаваць.

Сярэдні кажа: — Трэба жонку навучаць.
Меншаму сынку
У салдацікі ступаць.
Меншы сынок не ўпіраецца,
Ў каморцы прыбіраецца,
З атцом, з матушкай прашчаецца:
— Прашчай, прашчай, ацец, матушка,
Ці я ў вас не дзіцятачка?
Ці я ў вас не радзімы сынок?
Ці я ў вас не касіў, не араў,
Што ацец мяне ў салдацікі аддаў?

## 475. ОЙ, ЛІСТАМ, ЛІСТАМ ДАРОЖАЧКА ЗАПАЛА

Ой, лістам, лістам дарожачка запала,
Ой, там дзяўчоначка малойчыка шукала,
Вой, да знайшоўшы; яна ў яго пытала:
— Вой, да чаго ж ты, бел малойчык, засмуціўся?
— Ой, прышла копія і ў салдацікі ісці,
Вой, папка плача, конікаў сядлаючы,
Вой, сястра плача, ўслед за возам ідучы.

## 476. А У НЯДЗЕЛЬКУ РАНЕНЬКА

А ў нядзельку раненька
Ўзялі молайца, узялі, *
Ручкі, ножачкі звязалі,
Пасадзілі у вазочак
Яго ў саменькі куточак.
Самі селі, загрымелі,
Громкі песенкі запелі.
— А спасіба айцу, маці,
Што яны мяне нарадзілі,
Горкай доляй нагрbelieveрадзілі.

* Кожны другі радок паўтараецца.

## 477. ПЫЛЯЦЬ, ПЫЛЯЦЬ ВЕТРЫКІ

Пыляць, пыляць ветрыкі
Па ўбітым шляху.
А ўжо мае лічанька запылілася,
А ўжо я па міламу зажурылася.
Праважу я мілага хоць да Кіева,
А з горада Кіева у Варшаў-горад.
У Варшаве-горадзе станавіліся,
Там мы з сваім міленькім распрасціліся.
А ўся наша армія задзівілася,
Якая та парачка разлучылася:
А ці кум з кумою, ці брат з сястрою?
Каб кум з кумою, то дзіця б на руках,
А брат із сястрою, на адно лічанька б.
Гэта разлучыліся палюбоўнічкі.

## 478. ВОСЕНЬ МАЯ, ВОСЕНЬ

— Ой, восень мая, восень,
Восень сцюдзёная,
Чаго ты рана захаладала?
— Я й не раненька,
Я й не позненька —
Калі мая пара прышла.
Лісточак апаў, зямельку ўслаў —
Вот мая і пара прышла.
Рэчкі сталі, пазамярзалі —
Во мая й другая пара.

## 479. АЙ, ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ, ТЫ СЦЮДЗЁНАЯ

— Ай, восень, восень, ты сцюдзёная,
Чаго рана настала?
— А што й за рана,
А што й за позна?

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ужо й мая пара прышла.
Лісточак падзець,
Травіцу кладзець —
Ужо й мая пара прышла.
Сняжочак падзець,
Травіцу крыець —
Ужо й мая пара прышла.

## 480. БЫЛА ВОСЕНЬ, ЦЯПЕР ЗІМА

Была восень, цяпер зіма,
Былі хлопцы, цяпер няма.
Былі бедны і багаты,
Было з чаго выбіраці.
Не выбрала даспадобы,
Да выбрала да худобы,
Да выбрала злогá духа,
Што ні світкі, ні кажуха.

# ІЛЬНЯНЫЯ ПЕСНІ

## 481. НА ГАРЭ ЛЕН, НА ГАРЭ ЛЁН, БЕЛЫ КУЖАЛЬ

На гарэ лён, на гарэ лён, белы кужаль,
Рана, рана, белы кужаль.
Не з кім стаці, не з кім стаці лёну брацї,
Рана, рана, лёну брацї.
Свёкар кажа, свёкар кажа: — Я з табою,
Рана, рана, з маладою.
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Свякрухна кажа, свякрухна кажа: — Я з табою,
Рана, рана, з маладою.
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Дзевер кажа, дзевер кажа: — Я з табою,
Рана, рана, з маладою.
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Ятроўка кажа, ятроўка кажа: — Я з табою,
Рана, рана, з маладою.
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Залвіца кажа, залвіца кажа: — Я з табою,
Рана, рана, з маладою.
То не бранне, то не бранне — гараванне,
Рана, рана, гараванне.
Мілы кажа, мілы кажа: — Я з табою.
Рана, рана, з маладою.

## 482. НА ГАРЫ ЛЁН

На гары лён, на гары лён, белы кужаль
валакністы, валакністы.

Не з кім стаці, не з кім стаці лён ірваці
і гукаці, і гукаці.*

Мамка кажа, мамка кажа: — Я з табою,
з маладою, з маладою.
А мне з мамкай, а мне з мамкай ані рвання
ні гукання, ні гукання.

Татка кажа, татка кажа: — Я з табою,
з маладою, з маладою.
А мне з таткам, а мне з таткам ані рвання,
ні гукання, ні гукання.

Сястра кажа, сястра кажа: — Я з табою,
з маладою, з маладою.
Мне з сястрою, мне з сястрою ані рвання,
ні гукання, ні гукання.

Мілы кажа, мілы кажа: — Я з табою,
з маладою, з маладою.
А мне з мілым лён ірванне, лён ірванне
і гуканне.

## 483. НА ГАРЭ ЛЕН

На гарэ лён, **
Прападзі ён!
Не з кім стаці
Лён ірваці,
Лён ірваці.

Свёкар кажа:
— Я з табою,
З маладою.

— Мне з табою,
Ой, не рванне —
Гараванне.

---
* Першая страфа паўтараецца перад кожнай наступнай.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

На гарэ-лён,
Урадзі ён!
Есць з кім стаці
Лён ірваці,
Лён ірваці.

Мілы кажыць:
— Я з табою,
З маладою.

— Мне з табою,
Ай, не рванне —
Мілаванне.

## 484. НА ГАРЭ ЛЁН

На гарэ лён,*
Белы кужаль валакністы.
Не з кім стаці
Лён ірваці, лён ірваці.**

Свёкар кажыць:
— Мы з табою, з маладою.
— Нам з табою
Да не рванне — гараванне.

Свякроў кажыць:
— Мы з табою, з маладою.
— Нам з табою
Да не рванне — гараванне.

Мілы кажыць:
— Мы з табою, з маладою.
— Нам з табою
Да не рванне — мілаванне.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Першая страфа паўтараецца перад кожнай наступнай.

## 485. НА ГАРЫ ЛЁН

На гары лён,*
Белы кужаль.
Не з кім стаці
Лянок браці.
З свёкрам стаці
Лянок браці,—
Ой, не бранне,
Гараванне.
З свякровай стаці
Лянок браці,—
Ой, не бранне,
Гараванне.
З залоўкай стаці
Лянок браці,—
Ой, не бранне,
Гараванне.
З мілым стаці
Лянок браці,—
Ой, да бранне,
Мілаванне.

## 486. ПАСЕЯЛІ ДЗЕЎКІ ЛЁН

Пасеялі дзеўкі лён,
Эй, люлі, дзеўкі лён.

Пасеяўшы, палолі,
Эй, люлі, палолі,

Белы ручкі калолі,
Эй, люлі, калолі.

Унадзіўся сівы конь,
Эй, люлі, сівы конь.

Патаптаў ён дзеўкам лён,
Эй, люлі, дзеўкам лён.

* Кожны радок паўтараецца.

Ён макушкі паскусаў,
Эй, люлі, паскусаў

І ў рашточкі пакідаў,
Эй, люлі, пакідаў.

Дзеўкі лянок сабралі,
Эй, люлі, сабралі,

Белы кужаль паслалі,
Эй, люлі, паслалі,

А паслаўшы, памялі,
Эй, люлі, памялі.

Дзеўкі лянок папралі,
Эй, люлі, папралі,

Палаценка саткалі,
Эй, люлі, саткалі.

## 487. ОЙ, ГАВАРЫЛА КАНАПЕЛЕЧКА

Ой, гаварыла канапелечка,
Стоячы у гародзе:
— Каб не тыя ціхія ветры,
Стаяла б, зімавала б.
Як сталі веяць, сталі павяваць,
Мусілі абламалі.
Ай, гаварыла маладая дзевачка:
— Каб не тыя добрыя людзі,
Жыла б я ў мамачкі,
Як сталі хадзіць, мамачку прасіць,
Мусілі з сабой узяці.

## 488. БЕДАВАЎ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН

Бедаваў зялёны лён:
— Ай, бяда мая, бяда,
Што дробныя дарожанькі,

Што буйныя ветрыкі.
Не даюць ні вырасці,
Ні цвяточкам выцвісці!
Бедавала Ганначка,
Па таткавым двару хадзя:
— Ай, бяда мая, бяда,
Што частыя госцейкі,
Што часценька прыязджаюць,
Моладу намаўляюць,
А матульку спадманываюць.
Не даюць ні вырасці,
Ні касіцы выплесці!

## 489. ОЙ, ЗЯЛЕН МОЙ ЛЕН, ЗЯЛЕН

Ой, зялён мой лён, зялён,
Да пры мяжы стоячы,*
Галоўкамі звонячы.

Не дадуць паспяліці,
Галоўкамі пазваніці.

Ой, бяда мая, бяда,
Што я ў мамачкі адна.

Не дадуць дасядзеці,
Касіцы дарасціці,

Кубяльца налажыці.
Ой, кубялец мой новы,

Не за год налажоны,
За гадзіну страчоны.

## 490. БЕДАВАЎ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН

Бедаваў зялёны лён,
Пры дарозе стоячы:
— Ой, бяда ж мая, бяда,

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Што сцюдзёная вясна.
Не дала мне вырасці,
Майму семю выспеці.
Бедавала дзяўчынка,
У таткі гуляючы:
— Ой, бяда ж мая, бяда
Ды з частымі сватамі.
Не далі мне вырасці,
Русай коскі выплесці.

## 491. ГАВАРЫУ ЛЁН ЗЯЛЁНЫ

Гаварыў лён зялёны,
Пры дарозе стоячы:
— Ай, бяда мая, бяда,
Ай, зялёны лён, лён зялёны,
Ай, бяруць мяне, бяруць,
Із карэнейкам ірвуць,
Не даюць мне вырасці,
Сінім цветам адцвісці.

## 492. ГАВАРЫУ МОЙ ЛЁН ЗЯЛЁН

Гаварыў мой лён зялён,
На абмежку стоя,
Што б'юць мяне і караюць,
Ірвуць мяне з карэннейкам,
Б'юць мае галовачкі,
Сцелюць мяне на пожаньцы.
Жаль мне, жаль на матулечку,
Што рана мяне замуж аддавала,
Не дала мне ў маладых пахадзіць,
Дарагіх плаццікаў-шаўкоў панасіць.

## 493. БЕДАВАУ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН, ПРЫ ДАРОЗЕ СТОЯЧЫ

Бедаваў зялёны лён, пры дарозе стоячы,
Пры дарозе стоячы, галоўкамі звонячы:
— Ой, бяда ж мая, бяда, што халодная восень.

Не дала лёну паспець, ані галоўкам сазрэць.
Бедавала дзевачка, у каморы седзячы,
У каморы седзячы, праз ваконца гледзячы:
— Ой, бяда ж мая, бяда, што я так непрыгожа.
Прыгожыя дзевачкі, яны маюць парачкі,
А я куды ні пайду, сабе пары не знайду.

## 494. ГАВАРЫЎ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН

Гаварыў зялёны лён,
Пры дарозе стоя:
— Калі мяне не вырвіце,
Я сам завалюся, па дарожцы расцялюся!
Гаварыла Юзэпка сваей роднай маці:
— Калі мяне не выдасце,
Я і сама замуж пайду:
Што за тын, за вароты,
За суседняга сына.
Ды ён будзе купчаваці,
А я за ім — панаваці,
Ён будзе мёд-віно піці,
А я буду слёзы ліці!

## 495. ЯК ПАД ГАЕМ, ЯК ПАД ГАЕМ

Як пад гаем, як пад гаем
Зеляненькім, зеляненькім,

Там ірвала, там ірвала
Дзяўчынанька лён драбненькі.

Ехаў казак, ехаў казак
Маладзенькі, маладзенькі:

— Бог у помач, бог у помач,
Дзяўчынанька, лянок рваці.

— Ай, спасіба, ай, спасіба,
Казачэнька маладзенькі.

— Ай, паедзем, ай, паедзем,
Дзяўчынанька, з намі, казакамі.

У нас рэкі, у нас рэкі
Мядовыя, мядовыя,

У нас горы, у нас горы
Залатыя, залатыя,

У нас травы, у нас травы
Шаўковыя, шаўковыя.

— Пайду ў таткі, пайду ў таткі
Запытаю, запытаю.

— Ай, спасіба, ай, спасіба,
Маё дзіця не глупое.

А каб былі, а каб былі
Рэкі мядовыя, мядовыя,

Усе паны, усе паны
Паз'яджалі, паз'яджалі б,

А каб былі, а каб былі
Горы залатыя, залатыя,

Усе людзі, усе людзі
Пасхадзілі, пасхадзілі б.

## 496. ЯК ПАД ГАЕМ

Як пад гаем
Зеляненькім,
Як пад гаем
Брала дзеўка (2)
Лён драбненькі. (2)
А там ехаў (2)
Маладзенькі. (2)

— Кідай, дзеўка, (2)
Лён ірваці (2)
Ды паедзем (2)
З казачэнькамі
Гуляці.
Мы паедзем (2)
Край да краю. (2)
А ў нас стораны (2)
Такія,
Ой, такія:
Растуць горы (2)
Зеляныя, (2)
Растуць травы (2)
Шалкавыя, (2)
Цякуць рэкі (2)
Медавыя. (2)
За лясамі
Зязюленька
Кукавала, (2)
Дзяўчоненку (2)
Навучала: (2)
— Дурна, дурна (2)
Дзяўчоненка,
Не разумна,
А ў іх стораны (2)
Такія,
Эй, такія:
Растуць горы
Камяныя, (2)
Растуць травы (2)
Зеляныя, (2)
Цякуць рэкі (2)
Слёзавыя. (2)
Дзяўчоненка
Едзець поле
І другое
Едзець поле.
На трэцяе (2)
Уз'язджае — (2)
Гарыць агонь (2)
За лясамі. (2)
— Я й не віджу (2)
За слязамі. (2)

## 497. СЕЯЎ БЫ ЛЁН ПАД БОРАМ

Сеяў бы лён пад борам,
Сеяў бы лён пад борам,
Але не маю кому,
Некаму лянку рваці —
Вярнуся дадому.
Сеяў бы матцы сваёй,
Сеяў бы матцы сваёй,
Матанька вельмі стара,
Не будзе лянку рваці —
Вярнуся дадому.
Сеяў бы сястрэ сваёй,
Сеяў бы сястрэ сваёй,
Сястра барзо мала,
Не будзе лянку рваці —
Вярнуся дадому.
Сеяў бы жонцы сваёй,
Жонка вельмі млода,
Яе пекна ўрода,
Не будзе лянку рваці —
Вярнуся дадому.

## 498. БРАЛА ДЗЕВАЧКА ЛЯНОЧАК БЕЛЕНЬКІ

Брала дзевачка ляночак беленькі,
Да яна брала, танесенька ўсцілала
І к свайму лічаньку раўнавала:
— Лічанька маё беленькае,
Каму ж ты будзеш міленькае?
Ці дзьячочку, ці паночку,
Ці маладому чумачочку?
Чумак з дому выязджае,
Жану дома спакідае:
— Аставайся, жана маладая,
Цярпі гора і кручыну,
Сячы дровы і лучыну.
Сячы дровы на парозе,
А лучыну — на ўслоне.
— Я лучынку рубала,
Белы палец адрубала.

### 499. ОЙ, ТАМ ЗА ДВАРОМ БРАЛА ДЗЕЎКА ЛЁН

Ой, там за дваром брала дзеўка лён,
Да не ўмела павязаці.
— Павяжу я свой лён хоць сухою ажынаю
Да накажу да свайго мілага хоч чужою чужынаю:
«Прыбудзь, прыбудзь, хоць коніка дабудзь,
Усё лугамі, берагамі».
— Не прыбуду, каня не дабуду за ліхімі варагамі.
— Я варагі падтапчу пад ногі, круту гору пераскочу,
Аддай мяне, матка, за каго я сама хочу!
Не аддала мяне матка, за каго я хацела,—
Ходзіць драцяна нагайка кала майго бела цела.
Тая ж нагайка нігды з гваздзя не спускае,
А мая хусціна бела нігды з слёз не высыхае.

### 500. ОЙ, ПАД ГАЕМ ЗЯЛЁНЕНЬКІМ

Ой, пад гаем зялёненькім
Рвала дзеўка лён беленькі.
Рвала, рвала, тонка слала,
К сырой зямлі прыпадала:
— Зямля ж мая сырэнька,
Узяла айца, узяла матку, (2)
Вазьмі ж мяне, сіротаньку.
— Што я мела цябе браць,
Лепей табе долю даць.
Долю даўшы — будзеш жыці,
У зямлю ўзяўшы — будзеш гніці.

### 501. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ГАЕМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ

Ой, за гаем, гаем зеляненькім,
Ой, там брала лён драбненькі,
Ой, там брала, дзеўка выбірала,
Пры дарозе тонка слала,
Пры дарозе, пры дарозе тонка слала,
К сырой землі прыпадала:

— Ой ты, зямля, ой ты, зямля сырусенька,
Узяла маіх айца і матку,
Узяла маіх, узяла маіх айца і матку,
Узяла маю ўсю радзіну,
Узяла маю, узяла маю ўсю радзіну,
Вазьмі мяне, сіраціну.
— Ой, нашто мне, ой, нашто мне цябе браці,
Трэба табе пару даці, (2)
Хоць не таку,
Хоць не таку, як людскую,
Трэба даці сіроцкую.

## 502. ЯК ПАД ГАЕМ

Як пад гаем
Зеляненькім

Брала дзеўка
Лён драбненькі.

Яна брала,
З зямелькаю
Размаўляла.

— Зямель мая
Чарназёмна,

Узяла ты
Атца з маці,

Вазьмі мяне,
Маладую.

— Нячым цябе,
Дзеўка, браці,

Лучша табе
Долю даці,

Адну долю
Грашавую,

А другую —
Хлебавую,

А трэцюю —
Ўсякую.

## 503. ШТО Й ЗА ГАЕМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ

Што й за гаем зеляненькім
Брала дзеўка лён бяленькі,
Яна брала, к сырой зямлі прылягала,
Горкі слёзы пралівала:
— Ох, лён, мой лён ты бяленькі,
А хто ж цябе сеяў, мой міленькі?
— Хлопчычак маладзенькі.
— Чую, чую я нядоленьку сваю,
Што не быць яму ўдаму,
А быць молайцу у рэкруцкім у наборы,
У салдацкам у прыборы.

## 504. А Ў БАРУ, У БАРУ ЛЁН БЯРУ

А ў бару, у бару лён бяру,
Каля Дунаю стаўляю.
Ехалі казакоў сем палкоў,
Яны маю работу хвалілі:
— Хараша работа, хараша,
Спалюбіла Марыська галыша:
Ні шубкі ў яго шытае,
Ні хаткі ў яго крытае.
Як зачуў тое хлопчычак:
— Ой, не клапаці, Маруська,
Я, эй, сабе шубу пашыю,
Я сабе хатку пакрыю.

## 505. ШТО ПАД ГАЕМ ПАД ЗЯЛЁНЫМ

Што пад гаем пад зялёным,
Там удоўка лянок брала.
Яна брала, выбірала,

Тонкі голас падавала.
Там Васіль сена косіць,
Тонкі голас пераводзіць.
Кінуў коску на пакоску,
А сам пашоў ды да ўдоўкі.
— Пазволь, маці, удоўку браці,
— Ой, удоўка — ўсё махлёўка,
Яна ўмеець чараваці,
Шчаравала свайго мужа.
— А я буду ўдоўку браці.
— Хадзі, Вася, піць, гуляці.
— Тады буду піць, гуляці,
А як буду ўдоўку браці.

## 506. АЖАНІЛА МАЦІ СЫНА, ДА НЕ ПА ЛЮБОВІ

Ажаніла маці сына, да не па любові,*
Узяла нявестку, да паняволі,
Паслала маць нявестку ў свет лён убраць.
— Не выбераш лёну, не йдзі, шэльма, двору.
Прыказанне злое ад лютай змяі,
Прыказанне такое, хоць двору не йдзі.
— Я лянок выберу і двору пайду,
З сваім нялюбым я спаценькі лягу.
Як увідзіць свякрова, стане тармазаць:
— А дзе, шэльма, гуляла, а дзе, шэльма, была?
Ці з хлопцамі гуляла, ці белы лён брала?
— Я лён не брала, з хлопцамі прагуляла.

## 507. ЯК Я НОНЕШНІ ГАДОК

Як я нонешні гадок,
Цягала ў татачкі лянок,
Я цягала, сказала:
— Купі мне, татачка, платок,
Я ўжо працаўніца не ваша,

* Кожны радок паўтараецца.

Я працаўніца таму,
Хто пасватаў мяне на даму.
Пячы, мама, пірагі,
Астатні годзік беражы,
Вары кашу, масла лей,
Астатні годзік пажалей.
Пасцялі пасцеленку
На астатнюю нядзеленку,
На пасцельке паляжу,
На мілага пагляджу.
Вось слава, вось і чэсць,
Што мілёнак у мяне есць.

## 508. ЧОМ ВЫ, КАНАПЕЛЬКІ, НЕ ЗЯЛЁНЫ СТАІЦЕ?

— Чом вы, канапелькі, не зялёны стаіце?
Ой, люлі, люлі, не зялёны стаіце.*
— Як жа нам, канапелькам, зялёным стаяці?
Зверху канапелькі клююць вераб'і,
З ісподу канапелькі вада падмыла,
А ў сярэдзіне канапелькі хваля зламіла.
— Чом ты, дзевачка, не вясёлая ў танку?
— Як жа мне вясёлаю ў танку стаяці?
Бацюшка, кажа, за князя аддаць,
Мамачка, кажа, у чорныя чарнушкі.
Ой, стукаў, пагрукаў у цясовыя вароты,
Мне бачца, мой бацька з князямі, з баярмі,
Аж то мая мамка з чорнымі чарнушкамі.

## 509. ТЫ КАНАПЛІНКА, ТЫ ЗЯЛЁНАЯ

Ты канаплінка, ты зялёная,
Ці пара цябе рваці?
Аддала мяне мая мамачка
На ўвесь век гараваці.
Гарую гадок, гарую другі,

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

На трэці аглянуся:
— Не мінаецца мая долечка,
Пайду я й утаплюся.
— А не тапіся, мая дачушка,
Навек душу загубіш,
Падышчу табе тако зеллейка,
Што мілога палюбіш.

## 510. КАЛАПНІНА ТЫ ЗЯЛЁНАЯ

Калапніна ты зялёная,
Як цябе выбіраці?
Аддала мяне, маладзенькую, мамачка
Навек гараваці.
Гарую гадок, гарую другі,
На трэці аглянуся:
— Калі долечка не паправіцца,
Дык пайду утаплюся.
— Да не тапіся, маё дзіцятка,
Сваю душу загубіш,
Да было казаць, было гаварыць,
Што ты яго не любіш.

## 511. ДА ТЫ, КАНАПЕЛЬКА

Да ты, канапелька,
Да ты, зеляненька,
Ні сама не рвешся,
Ні мне не даешся...

## 512. БРАЛІ МЫ ПЛАСКОННЕ, СЛАЛІ ДРУЖАК У РОССТАНІ

Бралі мы пласконне, слалі дружак у росстані,
Бралі дзевачкі лён, гналі свашачак вон.
Дзевачкі-маўчанкі, у іх языкі, як каўганкі.
— Пара вам, дзевачкі, ісці дадому, мяшаці свінням палову.
— А вы, свашачкі, за намі, есці палову з свіннямі.

## 513. ВОСЕНЬ МАЯ ДА Й ХАЛОДНАЯ

— Восень мая да й халодная,
Апазнілась канапель брацъ.
— Было, дзеўка, замуж не йсці,
Да шчэ лета да й пагуляць.
— Як гуляла, то й гуляла,
Мяне маці не спыняла,
А цяпера ты спыніла,
Мая доля нешчаслівa.
Як я была да дзяўчынаю,
Усе ж мяне жаніхі зналі,
А цяпера маладзіцаю
Усе ж на мяне ворагі сталі.
Варажыце, варожанькі,
Да на свае безгалоўечка,
А я буду піці, есці
За мілога здароўечка.

## 514. ДАБРО МАЁ ЗЕЛЯНОЕ, ЗЕЛЯНОЕ

Дабро маё зеляное, зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла,
У цёмным лесе зялёненькім заблудзіла.
Татка клічаць — я й не чула.
Дабро маё зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла,
У цёмным лесе зялёненькім заблудзіла.
Мамка клічаць — я й не чула,
Па голасе не спазнала,
Роднай мамкай не назвала, не назвала.
Дабро маё зеляное, зеляное, зеляное,
Я й па табе, дабро маё, пахадзіла, пахадзіла,
У цёмным лесе зялёненькім заблудзіла, заблудзіла.
Мілы клічаць — я пачула, я пачула,
Па голасе, па голасе я й пазнала, я й пазнала,
Сваім мілым, сваім мілым я й назвала.

## 515. ДУБРОВА МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

Дуброва мая зялёная,
Я ж па табе пахадзіла,
Я ж у табе заблудзіла.*

Клікаў татка — я не пачула,
Па галасочку не пазнала,
Родным татанькам не назвала.

Клікала мамка — я й не пачула,
Па галасочку не пазнала.

Клікаў братка — я не пачула,
Па галасочку не ўвазнала,
Родным браткам не назвала.

Клікаў мілы — я й пачула,
Па галасочку яго пазнала,
Сардэчным дружком яго назвала.

## 516. ДУБРОЎ МАЯ

Дуброў мая (2)
Зялёная, (2)

Я па табе, (2)
Дуброванька,
Пахадзіла,

Шуму-груму (2)
Набралася,
Заблудзілася.

Свёкар клікаў — (2)
Я й не чула,

Родным таткам (2)
Не назвала. (2)

* Першая страфа паўтараецца перад кожнай наступнай.

Дуброў мая
Зялёная, (2)

Я па табе, (2)
Дуброванька,
Пахадзіла.

Шуму-груму (2)
Набралася,
Заблудзілася.

Мілы клікаў — (2)
Я й пачула, (2)

Мілым дружком (2)
Я й назвала. (2)

## 517. ЖАБКА НА МОРЫ КРОСЕНЦЫ ТКАЛА

Жабка на моры кросенцы ткала,
Рана, рана! *
Прыехаў рачак да жабкі ў сваты.
— Бог помач, жабка, кросенцы ткаці!
— А табе, рачак, каня сядлаці!
— Ты, жабка, не ўмееш кросенцы ткаці!
— А ты, рачак, не ўмееш каня сядлаці!
— А ў цябе, жабка, чатыры лапкі!
— А ў цябе, рачак, назаду вочкі!

## 518. А У БАЛОЦЕ

А ў балоце
Ды на калодзе, **
А там жабачка
Красёнцы ткала.
Прышоў да яе
Рачок яе.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок паўтараецца.

— У помач, жабка,
Красёнцы ткацi!
— Дзякуй, рачок,
На добрым слове.
— Цi ўмееш, жабка,
Красёнцы ткацi?
— Цi ўмееш, рачок,
Каня сядлацi?

## 519. НА МОРЫ ЖАБКА

На моры жабка,*
Раю, раю,**
Красёнцы ткала.

Прышоў да яе,
Да яе рачок.

— Бог помач, жабка,
Красёнцы ткацi.

Што ў цябе, жабка,
Кароткi лапкi?

— Лапкi кароткi
Далёка скачуць.

Што ў цябе рачок,
Узадзе вочкi?

— А ўзадзе вочкi
Далечка вiдзяць.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля першага радка кожнай страфы.

# ПЕСНІ ПРЫ ЗБОРЫ ЯГАД, ГРЫБОЎ І АРЭХАЎ

## 520. ДА У БАРУ, У БАРУ ГРЫБЫ БЯРУ

Да ў бару, ў бару грыбы бяру,*
Да пры балоце — балоцінкі,
Да кругом мяне смуродзінкі.
Да й наламаю смуродзінак,
На дарожцы пакідаю,
Ці не едзіць мой міленькі,
Ці не падбярэ смуродзінкі.

## 521. ПА БАРУ ХАДЖУ

Па бару хаджу,
Па бару хаджу,
Я ягодкі бяру!
Памачылася,
Урасілася,
Я й пазябла дужа!
А ты, сонейка,
Да ты, жаркае,
Абагрэй ты мяне!
А ты, ветрычак,
Да ты, буйненькі,
Абсушы ж ты мяне!
А мой міленькі,
Чарнабрывенькі,
Пажалей ты мяне!
Я на цябе
Не забуду,
Пакуль жыва буду!
А калі памрэш,
А калі памрэш,
Буду плакаць па табе!

* Кожны радок паўтараецца.

## 522. ПА БАРУ ХАДЖУ

Па бару хаджу
Па бярэзнічку,
Ой, люлі, люлі,
Па бярэзнічку.*

Бяру ягадкі,
Буйны, салодкі.

Мяне свёкарка
Ўсе гуку-гуку.

А я й, малада,
Не адгукаюся,

Толькі слёзкамі
Абліваюся.

Па бару хаджу,
Па бярэзнічку.

Бяру ягадкі,
Буйны, салодкі.

Мяне міленькі
Ўсе гуку-гуку.

А я й, малада,
Адгукаюся,

Адгукаюся
І ўсміхаюся.

## 523. ЗА МХОМ, ЗА МШАРЫНКАЙ

За мхом, за мшарынкай
Буйны журавіны,
Аёў-аёў-аёў. **

---

* Прыпеў паўтараецца з другім радком кожнай страфы.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Журавіны буйны
Нашлі мальцы дурні,

Журавіны пабуйней
Нашлі мальцы падурней.

## 524. ПАЙШЛІ ДЗЕЎКІ Ў ЯГАДЫ

Пайшлі дзеўкі ў ягады,
У чырвоныя журавіны.
Пайшлі яны ў журавіны,
Адну дзеўку загубілі.
Прыйшлі яны да Дунаю,
Трэба ім праз Дунай плысці,
Адна дзеўка ўтапілася —
З кладачкі звалілася.
Пайшлі весці па воласці,
Зайшлі да яе маценькі.
Пайшла маці, гукаючы,
Свае дочкі шукаючы.
Пайшла маці, шукаючы,
Прыйшла яна да Дунаю:
— Ой, Дунай мой, Дунаю,
Як я цябе звадь думаю?
Ці назваці Дунайчыкам
Або ціхім патончыкам,
Ці назваці цябе зяцем,
Што ты маю дачку ўзяў?

## 525. ДА СПАРАДЗІЛА МЯНЕ МАЦІ

Да спарадзіла мяне маці
Ай, ні ўдзень, ні ўночы,
Да спарадзіла мяне маці,
Ай, па ягадкі ідучы.
Ягадкі ў прыполлі,
Мяне на далоні.

## 526. ОЙ, РЫКНУЛА КАРОВАЧКА

Ой, рыкнула каровачка,*
З пашанькі йдучы,
Парадзіла мяне маці,
Ягады беручы.
Ох, ягады ў прыполі,
Няма ў мяне долі,
Толькі ў мяне й долі,
Што чорныя бровы.

## 527. ГОЦ, КАЛІНА, ГОЦ, МАЛІНА

Гоц, каліна, гоц, маліна,
У лес па ягады хадзіла,
Гоц, каліна мая,
Гоц, маліна мая.
Толькі пісар да я,
Мая верная слуга,
Пашлю я за вадой,
За няшчаснай удавой...

## 528. ХАДЖУ МЛАДА ПА БАРУ, СІЛЬНЫ ЯГАДЫ БЯРУ

Хаджу млада па бару, сільны ягады бяру,
Салоўшка чок, маладзенькі чок, чок, чок.
Я бяру, бяру, бяру, я не знаю я каму,
Ці бацюшкі радному, ці свёкру лютому.
Бацька ягад не любіць, мяне, младу, галубіць,
Свёкар ягад любіць, мяне, млоду, пажурыць.
Хаджу млада па бару, сільны ягады бяру,
Ці матушкі родненькай, ці свякрові ліхенькай.
Матка ягад не любіць, мяне, младу, галубіць,
Свякрыва ягады любіць, мяне, младу, пажурыць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

### 529. Я Ў БАРУ, БАРУ ЯГАДКІ БЯРУ

Я ў бару, бару ягадкі бяру,
Сама не знаю каму:
Ой, ці свёкру, ці свякрушатцы,
Ой, ці татачкі, а ці братачку,
Ці свайму нялюбаму.
А мой жа нялюбы ягадак не любіць,
Ён мяне не галубіць.
А мой татачка ягадкі любіць,
Ён мяне прыгалубіць.

### 530. ОЙ, ЗАЦВІЛА СІНЯ ЯГАДА Ў БАРУ

Ой, зацвіла сіня ягада ў бару,
Ой, заблудзіла красна дзевачка ў лясу,
Ой, прыблудзіла к быстрай рэчкі к берагу,
Ой, склікнула перавозчыка к сабе:
— Перавозчык, перавязі ты мяне,
Я табе так дарага заплачу.
Рассцілала тонкі беленькі платок
І стаўляець водачкі бачок,
На закусачку — сладкіх яблачкаў пяток.
— А я цябе заплатачкі не хачу,
Толькі я хачу з табой
Адзін дзянёк пагуляць,
Толькі я хачу з табой
Адну ночку начаваць.

### 531. ЗАРАДЗІЛІ СІЛЬНЫ, БУЙНЫ ЯГАДКІ Ў БАРУ

Зарадзілі сільны, буйны ягадкі ў бару,
Ой, заблудзіла красная дзеўка а ў цёмным лясу,
Ой, прыблудзілась красная дзеўка к раке,
Стала думаць, гадаць, перавоз гукаць:
— А перавозчык, бел малойчык, парань маладой,
Ой, перавязі на той бок ракі.
Што ж ты скажаш, бел малойчык, то я заплачу.

— Не хачу я, красная дзеўка, платушкі твае,
Толькі хачу, красная дзеўка, замуж за сябе.
Вынімала са кармана шоўкавы платок,
Высцілала круты беражок,
Станавіла дзеўка водачкі стапок,
На закуску — белы піражок,
На забаўку — яблычак пяток.

## 532. ОЙ, ЗАРАДЗІЛА МНОГА ЯГАД, ЯГАД У БАРУ

Ой, зарадзіла многа ягад, ягад у бару,
Заблудзіла красна дзеўка, дзевушка ў лесе,
Прыблудзіла край Дунаю, к Дунаю беражку,
Разаслала белы ядвабны, ядвабны платок,
Пастанавіла слодкай водкі, водкі поўны штоф,
За закусачку слодкіх яблак, яблычак пяток,
Да сама стала, закрычала горкім галасам:
— Ах ты, звозчык-перавозчык, барын маладой,
Перавязі на ту сторану, сторану дамой!
Ах, што захочаш, тое возьмеш з мяне, маладой.
— Не хацеў бы я нічога з цябе, дзеўка, ўзяці,
Толькі хацеў бы я цябе за жану ўзяці.
Вярнулася красна дзеўка, дзевушка назад:
— Ах, то няволя, то няволюшка мая,
Ах, то воля да воля матушкі і айца.

## 533. ПАЕХАЎ МІЛЫ ПА ЖУРАВІНЫ

Паехаў мілы па журавіны,
Прыстаў конічак, божа ядыны!
Конічак тупча, праўды не кажа,
З кім мая мілая спаці ляжа.
Ляжа яна спаці сама з сабою,
Белыя ручкі пад галавою.
— Дзяўчына русая, запыні гусі
Альбо пацалуй русыя вусы.
— Шэрыя гусі грэчку паелі,
На сіня мора яны паляцелі.

## 534. ПАЕХАЎ МІЛЫ НА ЖУРАВІНЫ

Паехаў мілы па журавіны,
Пагубляў коні, божа мой мілы!
Дарожка ляжа, праўды не скажа,
З кім мая мілая спаці ляжа.
Ой, ляжа, ляжа сама з сабою,
Белыя ручкі пад галавою.
Прыехаў мілы, стук-стук у вакенца:
— Адчыні, міла, ты маё сэрца.
Мілая ўстала, тыдзень не спала,
Абняла мілага, пацалавала.
А ў паніхі сабакі ліхі,
Нет куда выйці, пагаварыці.
Сабакі пойдуць у салому спаці,
А мы з табою пойдзем гуляці.

## 535. СХІЛЮ, ЗЛАМЛЮ

Схілю, зламлю *
Арэшынку

Да нашчыплю
Арэшыкаў.

Спеленькія —
Да ў прыпалочак,

Зялёныя —
Да ў кішанёчак.

Спеленькія —
Роднай мамцы,

Зялёныя —
Ліхой свякроўцы:

— Еш, да мамка,
Да пажывіся,

А ты, свякроўка,
Еш, папярхніся.

* Кожны радок паўтараецца.

## 536. ДЗЯЎЧЫНАНЬКА ПА ГРЫБЫ ХАДЗІЛА

Дзяўчынанька па грыбы хадзіла,
У зялёнаму лесе заблудзіла.
Прыблудзіла к зялёнаму дубу.
— Ой, тут жа я начаваці буду.
Яна думала, што дуб зеляненькі,
Аж там стаяў казак маладзенькі.
— Ты, казача, вялікі гультаю,
Выведзь мяне на дарогу з гаю.
— Садайся, дзяўчына, у падмову,
То выведу з гаю на дарогу.
Казак з гаю дзяўчыну выводзіць,
На ручаньках дзяціну выносіць.
— Люлі, люлі, мой сынку,
Дадуць жа мне сто палак на спінку,
Люлі, люлі, дзяціна малая,
А дзе ж твая маці маладая?
— Ой, дам табе карову рабую,
Гадуй, гадуй дзяціну малую.
Ой, дам табе чтыры фаскі масла,
Ачапіся на каго напрасна.
Ой, дам табе чтыры булкі хлеба,
Ачапіся на старога дзеда.
Ой, дам табе дравянога сыра,
Гадуй, гадуй маленькага сына.

## 537. А У ЛЕСЕ ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

А у лесе грыбы зарадзілі,
Дзеўкі й бабы па грыбы хадзілі.*

Адна дзеўка ў лесе заблудзіла,
Маладая ў гаю заблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу.
— Ой, тут жа я начаваці буду.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Я ж думала, што дуб зеляненькі,
Ажно стаіць казак маладзенькі.

Хоць, казача, [redacted] цябе не знаю,
Выведзь мяне на дарогу з гаю.

— Купі, дзеўка, мне квартаньку мёду,
Тады цябе завяду да роду.

## 538. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

У цёмным лесе грыбы зарадзілі,
Там дзяўчаты па грыбы хадзілі.
Адна дзеўка прыблудзіла к лесу,
Прыблудзіла к зялёнаму дубу.
— Вот я тут жа начавацы буду,
Вот я тут жа гардавацы буду.
Я думала, дубок зеляненькі,
Аказаўся хлапец маладзенькі.
Ох ты, хлапец, вялікі гультаю,
Вядзі мяне на дарогу з гаю.
— Бадай табе, дзеўка, ліха стала,
Як ты мяне гультаём назвала. (2)
Вот вазьму я паўкварты гарэлкі,
Пагляджу я, што за розум дзеўкі.
— Вазьмі кварту, вазьмі і другую,
Не абманеш мяне, маладую.
Узяў хлопец дзеўку за белую руку,
Павёў яе пад белу бярозу,
Абмануў жа не п'яну, цвярозу.
— Памалюся я святому спасу,
Што ніколі не пайду да лесу,
Памалюся я святому Юр'ю,
А не табе, казачэньку, дурню.

## 539. ПАСВІЛА ПАДАЛЯНАЧКА ВАЛЫ

Пасвіла падаляначка валы,
Ой, пасвіла, пасучы, пагубіла,
Ой, пасвіла, пасучы, пагубіла,

А шукаючы, ў гаю заблудзіла.
Блудзіла ж яна да зялёнага гаю.
— А тут жа я да начаваці маю.
Блудзіла ж яна да зялёнага дуба.
— А тут жа я да начаваці буду.
Я не думала, што дуб зялёны,
Ажно ляжыць да казак малады.
Добры вечар, да казача-гультаю,
Да выведзь мяне на дарожаньку з гаю.
— Хадзі, дзеўка, да на ціху размову,
То я выведу з гаю на дарогу.
— Лепш буду да па гаю блудзіці,
Чым з гультаем паціху гаварыці.
Паблудзя, некалі прыблуджуся,
З казакам няславы набяруся.

## 540. ЗА РЭЧКАЮ ЗА БЫСТРАЮ

За рэчкаю за быстраю
Маліна радзіла.*

Як па той жа па маліне
Дзяўчонка хадзіла.

Яна хадзіла, яна хадзіла,
У гаю заблудзіла.

Малодзенькі мальчышачка
Па хатачке ходзіць,

А ён ходзіць, а ён ходзіць,
Галосненька свішчыць.

Маладая дзяўчоначка
Па голасу пазнала.

— Малодзенькі мальчышачка,
Выведзь мяне з гаю,

* Кожны другі радок паўтараецца.

А я з гаю, а я з гаю
Дарожку не знаю.

— Маладая дзяўчоначка,
Што за гэта будзець?

— Малодзенькі мальчышачка,
Падарак падарую.

— Я падарка не жалаю,
Цябе ўзяць жалаю.

— Малодзенькі мальчышачка,
За цябе пайду я.

## 541. У ЦІХІМ ЛЕСЕ ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

У ціхім лесе грыбы зарадзілі,*
Там дзяўчыны па грыбы хадзілі.

У ціхім лесе дзеўка заблудзіла,
Прыблудзіла к зялёнаму дубу.

— Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно сядзіць Яся маладзенькі.

Ах ты, Ясю, вялікі гультаю,
Выведзь мяне з зялёнага гаю.

— Каб ты, дзеўка, дарожанькі не знала,
Што ты мяне гультаём назвала!

Завёў дзеўку пад белу бярозу,
Змануў дзеўку не п'яну, цвярозу.

— Дам, дзяўчына, каня воранога,
Скажы, скажы, дзеўка, на каго другога.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А яшчэ дам паўбуханкі хлеба,
Скажы, скажы на старога дзеда.

Звіўся, сплёўся куколь з лебядою,
Ажаніўся стары з маладою:

— Едуць людзі на поле араці,
А мой стары — ў карчомку гуляці.

Едуць людзі із поля, з арання,
А мой стары — з карчомкі, з гуляння.

Як мой стары на парог ступае,
Я, малада, праз акно ўцякаю.

## 542. ОЙ, ПАЙДУ, ПАЙДУ

Ой, пайду, пайду
Пад той гай зеляненькі,
Ой, спаткаў мяне
Жаўнерык маладзенькі.

Ой, стаў ён мяне
Дарожанькі пытаці,
А я, малада,
Не ўмела адказаці.

Ой, не на тое
Матуля парадзіла,
Каб я жаўнера
Па дарожках вадзіла.

Ой, не на тое
Матуля гадавала,
Каб я з жаўнерам
Усю ночку вандравала.

Ой, прывёў, прывёў
У зялёну ляшчыначку,
Ой, здрадзіў, здрадзіў
Маладу дзяўчыначку.

## 543. ЯК ПАЙДУ Я ПАД ГАЙ ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Як пайду я пад гай зеляненькі,
Спаткаў мяне казак маладзенькі.
Стаў у мяне дарожкі пытаці,
Я ж сумела яму адказаці:
— Не на гэта мяне маць радзіла,
Штоб я казака па дарожцы вадзіла,
А на тое мяне маць радзіла,
Штоб я маці ручкі падмяніла.

## 544. ОЙ, У БОРУ ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

Ой, у бору грыбы зарадзілі,
Там дзяўчына па бору хадзіла,
Маладая ў бору заблудзіла,
Прыблудзіла к зялёнаму дубу.
— Ой, тут жа я начаваці буду!
Я думала, што дуб зелянeнькі,
Ажно гэта казак маладзенькі.
Ты, казача, вялікі гультаю,
Выведзь мяне на дарожку з гаю!
— Каб ты, дзеўча, дарожак не знала,
Што ты мяне гультаём назвала!
Ой, дам табе паўгарца гарэлкі,
Запрабую, што за розум ў дзеўкі!
— Вазьмі сабе паўгарца другога,
Не падманеш мяне маладую!
Вазьмі сабе хоць два гарцы піва,
То наробіш усяму роду дзіва!

## 545. ЗА ГАРАМІ, ЗА ЛЯСАМІ

За гарамі, за лясамі
Пайшла дзеўча за грыбамі
Край-далінаю,
Гэй, гэй, край-далінаю!
Дзяўчэ з бору не выходзіць,

Краснага грыба знаходзіць,
Краснага грыба,
Гэй, гэй, краснага грыба.
Яна яго падхапіла
Ды й у кошык палажыла,
Сама пайшла ў бор,
Гэй, гэй, сама пайшла ў бор.

## 546. КРУГОМ ГОРУШКІ, ДАЛІНЫ

Кругом горушкі, даліны,
Пашла Каця за грыбамі,
За грыбамі, за грыбамі.
Не дайшла ж яна да бору,
Найшла ж яна мухамору.
Дзівавалася, дзівавалася:
— Што ж гэта за грыбочак,
Што прыкрасненькі вяршочак?
Панясу дамоў, панясу дамоў.
Як дамоў яго прынесла,
Я й у зямельку ўсадзіла,
Усадзіла, пасадзіла.
Я ж грыбочак палівала,
Жывот, грудкі надарвала,
Падарвала, падарвала.
Я ж грыбочак палівала,
Жывот, грудкі падарвала,
Патом ён усох.

## 547. А Я, МАЛАДА, У ГРЫБЫ ПАЙШЛА

А я, малада, у грыбы пайшла,
З грыбоў прышоўшы, у харомы зайшла,
У харомах трох паноў знайшла.
Я з панам разгукалася,
З малайцамі рассмяялася.
Зара ўзыйшла, а я дамоў не йшла,
Зара ўзыйшла, я дамоў пайшла.

Вароціki расчыняюцца.
Мой міленькі прачынаецца.
— Мая міла, дзе дасюль была?
— Я ў хароме трох паноў знайшла,
Я за табой была, што пень гнілы,
Адпусці мяне на волю.
Я хачу з панамі пагукаць,
Я з малайцамі пагуляць!
— Мая міла, адкуль ты прыйшла,
Каб ты туды і не дайшла.

# ПАСТУХОЎСКІЯ ПЕСНІ

## 548. ВЫДЗІ, ВЫДЗІ, ПАСТУШОК

— Выдзі, выдзі, пастушок,
І затрубі ў ражок.
Вышаў, вышаў пастушок
І затрубіў у ражок:
— Выганяйце вы быдліну
На шырокую даліну,
На зялёну лугавіну.
Жануць дзеўкі, жануць бабы
І маленькія дзіцята.

## 549. ХАРОШАНЬКІ ПАСТУШОК

Харошанькі пастушок,
Кароценькі кажушок.
Як выганіць на лужок,
Як зайграе на ражок,
Гоняць дзеўкі, гоняць бабы,
Гоняць малыя рабяты
І старыя старычкі,
І праўдалыя малайцы.

## 550. ПАСТУХ ВЫЙДЗЕЦЬ НА ЛУЖОК

Пастух выйдзець на лужок,
Як зайграець у ражок:
— Уставай, дзеўкі, уставай, бабы,
Уставай, малыя рабяты,
Выганяйце вы скаціну
На шырокую даліну.

## 551. Я ТАБУН СЦЕРАГУ

Я табун сцерагу,
А ўсе людзі спяць,
Я адзін на расе
Абмакрэў, акалеў,
Перамёрз, адубеў. Ой!
Вы, кароўкі старыя,
Вы, цяляткі малыя,
Вы хадзіце па траве,
Не мычыце, не бадайце
Ды ў шкоду не ўпадайце. Ой!
Эх вы, коні мае,
Коні быстрыя,
Вы хадзіце па траве,
Не іржыце, не брыкайце
Ды ў шкоду не ўпадайце. Ой!

## 552. ДА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Да ў зялёнай дуброве,
Эх, там Дуня валы пасла.
Напасціўшы валы,
Пашла ў сад гуляці.
Пакуль Дуня гуляла,
Эх, свае валы пагубляла.
Што Дуні рабіці?
Будзе маці біці,
Будзе маці Дуню біць,
Эх, стануць бабы гаварыць:
— Няўдала дзяўчына,
Не вазьму за сына.
Да ў зялёнай дуброве,
Эх, там Дуня валы пасла,
Напасціўшы валы,
Пайшла ў сад гуляці.

## 553. ПАГНАЛА МАЛОДКА ВАЛЫ

Пагнала малодка валы
На зялёныя бары
Да, пасучы, пагубіла,

Шукаючы, заблудзіла.
Прыблудзіла к лугу,
Няма ў лузе нікагенька,
Адно ціхі салавейка.
— Ты, саколе, саколе,
Ты высока лятаеш,
Ты далёка відаеш,
Ці не бачыў валоў маіх
Альбо майго міленькага?
— Я не бачыў валоў тваіх,
Адно бачыў міленькага.
Ён на коніку сядзіць,
У стрэмень ножанькі дзяржыць,
Да схіліў ён галаваньку
На чужую старонаньку.

## 554. НЕ БУДЗІЦЕ МАЛАДУ

Не будзіце маладу
Рана-раным па вутру.
Вы тады мяне ўзбудзіце,
Калі сонейка ўзыйдзець,
Пастух выйдзець на лужок
І зайграіць у ражок:
— Выганяйце-ка скаціну
На шырокую даліну.
Гонюць дзеўкі, гонюць бабы,
Гонюць малыя рабяты,
Гонюць стары старыкі,
Міраеды-мужыкі,
Гонюць старыя старухі,
Міраедавы жанушкі,
Адна дзеўка хараша
У карагод гуляць пайшла.
Яна скачыць, ручкай машыць,
Пастушка к сабе маніць.
У яе 'дну ночку начаваў —
Каровушку згубіў,
Другую начаваў —
Усё стада разгубіў.

## 555. ДЗЯЎЧЫНЕНЬКА КРАСНА

— Дзяўчыненька красна,
Дзе ты валы пасла?
— Пад дубкамі з парабкамі,
Дзе травіца расла.
— Ой, я цябе бачыў,
Як ты валы гнала,
Не смеў цябе зачапіці,
Бо матка стаяла.
— Не зачапай, Ясю,
Хоць я табе міла,
Стаіць матка пад акном,
Паглядае скрыва.

## 556. ДЗЕВАЧКІ, МАЕ СЯСТРЫЦЫ

Дзевачкі, мае сястрыцы,
Папасеце да валоў маіх.
Я пайду, чабору нарву,
А з чабору да вянок саўю,
З вамі, дзевачкі, у танок пайду.

# ПЕРАДЗІМНІЯ. ЗАКАНЧЭННЕ ВОСЕНІ

## 557. ЧАГО, ЗІМАЧКА МАРАЗЯНАЯ

— Чаго, зімачка маразяная,
Так рана нападаеш?
— Я не раненька, я не позненька —
Самая паравая.
Дробны дождж ідзе,
Белы снег кладзэ,
Бо яму пара прыйшла.
— Чаго, дзеванька маладзенькая,
Да так жальненька плачаш?
— А як не плакаць, а як не тужыць?
Само гора тужыцца:
Прыдуць сваты, мяне забяруць,
Мамачка застанецца.

## 558. ОЙ, ЧАГО, ЗІМАЧКА

— Ой, чаго, зімачка,
Ой, чаго, лютая,
Раненька настала?
— Ой, я не раненька,
А ўжо позненька
Зімачка настала.
Ужо лісточак апаў
Ды й зямліцу ўваслаў —
То мая пара прышла.
А рэчачкі сталі
Ды й пазамярзалі —
То пара й другая.
— А чаго, дзевачка,
А чаго, красачка маладзенька,
Замуж пайшла?

— А я ўжо вырасла,
Як былінка ў полі,—
То мая пара прышла.
А я ўжо расцвіла,
Як ружачка ў садзіку,—
То пара-й другая.

## 559. ЧОМ ТЫ, ЗІМАЧКА, ЧОМ, ХАЛОДНАЯ, РАНЕНЬКА НАСТАЕШ?

— Чом ты, зімачка, чом, халодная, раненька настаеш?
— Ой, я сваю пору знала, я і настала.
Лісточак апаў, зямельку ўслаў — та мая пара прышла.
— Чом ты, дзевачка Хвелечка, чом, маладая, рана замуж пайшла?
— Не сама я йшла, не ахотаю, мяне татка аддаў.
Татка аддае, сам не ведае, яка долечка будзе.
— Донечка мая маладая, долечка твая перад вачамі, косачка твая за плячамі.

## 560. ЧАГО, ЗІМАЧКА МАРАЗЯНАЯ

— Чаго, зімачка маразяная,
Так рана наступаеш?
— Я не ранняя і не позняя —
Самая паравая.
Дробны дождж ідзе,
Белы снег падзе —
Мне ўжо пара прышла.
— Чаго, Ганначка [маладая,] так рана
Замуж ідзеш?
— Я не старая і не малая —
Самая паравая.
Татачка аддае,
Ясюлька бярэ —
Мне ўжо і пара прышла.

## 561. ОЙ, ЗІМА, ЗІМА ЛЮТАЯ БЫЛА

— Ой, зіма, зіма лютая была,
Чаго рана наставала?
— Я й не раненька, я й не позненька.
— Чаго, Евачка, красна дзевачка,
Рана замуж пайшла?
— Я й не млада, я і не малада,
Як сталі сваты хадзіць,
Гарэлку насіць.
Патуль хадзілі, гарэлку насілі,
Пакуль татачку ўпрасілі.
Ой, не жалка так нікога,
Як свайго татачку:
Пашыў шубку з белых аўчынак,
Я ж не насіла,
Толькі насіла, красавалася,
Як вянчалася,
Павянчалася, прыехала дамоў
І здзела далоў.

## 562. ДЫ ЗІМА, ЗІМАЧКА ТЫ СЦЮДЗЁНАЯ

— Ды зіма, зімачка ты сцюдзёная,
Чаго рана наставала?
— Я не раненька, я не позненька —
Ужо мая пара прыйшла.
Лісточак апаў, зямельку услаў —
Ужо мая пара прыйшла.
— Чаго ты, дзевачка, чаго ты, красная,
Малая замуж зайшла?
— Я ж не маленька, не вялічачка —
Ужо мая пара прыйшла.
Татачка аддае, свякорка бярэ —
Ужо ж мая пара прыйшла.

## 563. ЧАГО, ЗІМАЧКА МАРОЗНАЯ

— Чаго, зімачка марозная,
Так рана наступаеш?
— Да я не рана, да я не позна —

Мне ўжо пара прышла:
Дробны дождж ідзець,
Белы снег падзець,
Марозік пацiскаiць.
— Чаго, Манечка маладзенькая,
Так рана замуж ідзеш?
— Да я не рана, да я не позна.—
Мне ўжо пара прышла:
Татачка аддаець,
Іванька бярэць,
Свякроўка пераймаець.

## 564. А ТЫ, ЗІМАЧКА, А ТЫ, ХАЛОДНАЯ

— А ты, зімачка, а ты, халодная,
Чаго так рана стала?.
— А я не рана, а я не позна,—
Як мая пара прышла.
Лісток падзе, травіцу кладзе —
Вось мая і пара прышла.
— А ты, Ганулька маладзенькая,
Чаго так рана замуж пашла?
— А я не рана, а я не позна,—
Як мая пара прышла.
Татулька аддаець, сужанька-бярэць —
Вось мая й пара прышла.

## 565. ЗІМА ТЫ МАЯ

Зіма ты мая *
Халодненькая,
Баюсь я цябе,
Замарозіш мяне.
Не так жа мяне,
Як дружка майго,
Як дружка ж майго,

* Кожны радок паўтараецца.

З паходу йдучы, (2)
Каня ведучы.
Й а ў майго каня
Косы плятуцца,
Й а ў майго дружка
Кудзеркі ўюцца.
За тыя кудры,
За тыя русы
Дзевачкі б'юцца.
— Вы не біцеся,
Не сварыцеся,
Дзевачкі мае,
Аднэй каторай
Застануся я.

## 566. МАРОЗ, МОЙ МАРОЗ

Мароз, мой мароз,*
Не змарозь мяне (2)
У чужой старане,
З паходу йдучы,
Каня ведучы, (2)
Збрую несучы.
Збруечка мая,
Збруя ясная.
А ў майго каня
Косы плятуцца,
За мяне, малайца,
Дзевачкі б'юцца.
— Вы не біцеся,
Памірыцеся,
З адной каторай
Я застануся.

## 567. АХ, ЗІМА Ж ТЫ МАЯ

Ах, зіма ж ты мая,
Зіма ты мая халодненькая,
Баюся я цябе, баюся я цябе,

* Кожны радок паўтараецца.

Змарозіш мяне.
А не так жа мяне, (2)
Ванюшу майго,
З паходу йдучы, (2)
Каня ведучы.
— Не ўсім жа я вам,
Не ўсім жа я вам
Дастануся,
А з адной каторай (2)
Павянчаюся.

## 568. ОЙ ТЫ, ЗІМАЧКА, ЗІМА МАРОЗНАЯ

Ой ты, зімачка, зіма марозная,
Прашу я цябе:
Не змарозь мяне,
А не так мяне,
Як майго дружка.
Не змарозь мяне,
Ні дружка майго.
Мой дружок ідзець,
Збруюшку нясець.
Збруечка яго серабраная,
Жоначка яго разудалая.

# ВЕСНАВАЯ ТАЛАКА

## 1. ТАЛАКА, ТАЛАКА

Талака, талака
Талачылася,
Увесь дзень па полі
Валачылася.
Мы ўвесь гнаёчак
Павыносілі,
На падводачках
Павывозілі.
Да ўвесь гнаёчак
Раскалацілі,
На ручках гнаёчак
Перадзяржалі,
Ножкамі зямельку
Перамералі.

## 2. А І ДОБРА МЫ ТАБЕ

А і добра мы табе,
Татулька, зрабілі:
Мы твае хлявочкі
Папаражнілі,
Мы твае нівачкі
Пазалацілі.
Заплаці ж возьнічкам
Хоць па грыўнічку,
А сваім капачам —
Па рубельчыку.

## 3. ГАСПАДАР, ГАСПАДАР

Гаспадар, гаспадар,
Выхадзі з клеці,
Вынасі, вынасі
Кварту гарэлкі.
Мы твае гнаёчкі
Павывозілі,
Мы твае хлявочкі
Павычышчалі,
Мы твае нівачкі
Пазасцілалі.

## 4. ТАРГУЙСЯ, ТАРГУЙСЯ, СУСЕДКА, З НАМІ

Таргуйся, таргуйся, суседка, з намі,
А плаці ж, суседка, нам чырванцамі.
Мы тваё полечка ўсё разведалі,
Мы тваe нівачкі пазатрасалі,
Мы тваe хлявочкі павычышчалі,
Ад цябе, суседка, чэсці не зналі.

## 5. А МЫ СВАЙМУ ПАНУ

А мы свайму пану
Даказалі славу,
Даказалі, даказалі.

Гнаёк павазілі,
Бога папрасілі,
Папрасілі, папрасілі.

Радзі, божа, жыта,
Радзі ўсюдах роўна,
Радзі, божа, ўсюдах роўна.

Якое на навозе,
Такое й на аблозе,
Радзі, божа, ўсюдах роўна.

## 6. А МЫ СВАЙМУ ПАНУ

А мы свайму пану
А ўчынілі славу,
Славу ўчынілі,
Гнаёк павазілі,
Ніўку ўкрасілі.
Радзі ж, божа,
Жыта на навозе.
Дай, божа,
Такое і на аблозе,
Жыта ядраное,
Калоссе буйное.

## 7. ДАМАШЭЎСКАЕ ПОЛЕ

Дамашэўскае поле
Задрамала стоя.
Чаго яно задрамала?

Разбівачкі старыя,
А вілкі дзервяныя.
Таго яно задрамала.

Папоўскае поле
Зазвінела стоя.
Чаго яно зазвінела?

Разбівачкі маладыя,
А вілкі залатыя.
Таго яно зазвінела.

## 8. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, АНДРЭЙКА, ТВАЯ

Няслава, няслава, Андрэйка, твая,
Не п'яна, це п'яна талака твая.
Учыні ж ты, Андрэйка, славу сваю,
Папаі, папаі талаку тваю.

А ўчыніў жа Андрэйка славу сваю,
Папаіў, папаіў талаку сваю.
У хлеве мужчынкі покатам віжжаць,
А на ніве жоначкі, як званкі, звіняць,
У хлеве мужчынкі б'юцца-дзяруцца,
А на ніве жоначкі пяюць-смяюцца.

## 9. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, БАРЫСКА, ТВАЯ

Няслава, няслава, Барыска, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
Учыні ж, Барыска, ты славу сваю,
Упаі, Барыска, талаку сваю,
Каб твая талака вясёла была,
Каб ішлі з талакі пахваляліся,
На вуліцы дзевачкі не валяліся.
На ніўцы дзевачкі весялюсенькі,
А ў хлеве мужычкі ўсе п'янюсенькі.

## 10. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, ГАСПАДАР, ТВАЯ

Няслава, няслава, гаспадар, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
А ў хлеве, у хлеве мужчынкі п'янюсенькі,
А ў полі, у полі жоначкі цверазюсенькі.
А ў хлеве мужчынкі, як жучкі, гудзяць,
На полі жоначкі, як пчолкі, звіняць.
Да ўчыні, да ўчыні славеньку сваю,
Да ўпаі, да ўпаі талаку тваю.

## 11. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, ІВАНЬКА, ТВАЯ

— Няслава, няслава, Іванька, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
А ўчыні, учыні, Іванька, славу,

А ўпаі, упаі талаку сваю.
А хто ж у цябе работку рабіў?
А хто ж у цябе гарэлку папіў?
— Рабілі работку талачанікі,
Папілі гарэлку прыхаджанікі.

## 12. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, ХАДОТКА, ТВАЯ

— Няслава, няслава, Хадотка, твая,
Што не п'яна талака твая.
— Жоначкі, лябёдкі, не гудзьце мяне,
Прынясу гарэлкі — упаю я вас.
— Хто рабіў работку?
— Талачанкі.
— Хто папіў гарэлку?
— Прыхажанкі.

## 13. НЯСЛАВА, НЯСЛАВА, ХАЗЯІН, ТВАЯ

Няслава, няслава, хазяін, твая,*
Не п'яна, не п'яна талака твая.
Няўдала, няўдала жоначка твая,
Капачы ў хлеве урыўшыя ляжаць,
Трасенніцы на полі, як пчолкі, дрыжаць.

## 14. СЛАВА, НЯСЛАВА, ПАНОЧАК, ТВАЯ

Слава, няслава, паночак, твая,
Не п'яна, не п'яна талака твая.
Да ўчыні, да ўчыні, паночак, славу,
Да ўпаі, да ўпаі талаку сваю.

* Кожны радок паўтараецца.

Да ў хляве, да ў дварэ усе п'янюсенькія,
На полі жоначкі ўсе цверазюсенькія.
Да ў хляве мужчынкі, як свінні, ляжаць,
На полі жоначкі, як пшчолкі, дзвіняць.
Па сялу мужчынкі набадзяліся,
Да на іх сабакі набрахаліся.
Мяркуйся, мяркуйся, паночак, з намі,
Плаці нам, плаці нам хоць талярамі,
А сваім важтайкам — хоць па рубельчыку,
Сваім капачам задай макрачамі.

## 15. ВОТ ЦЯПЕР, ХАЗЯІН, ТАРГУЙСЯ З НАМІ

Вот цяпер, хазяін, таргуйся з намі: *
Жоначкам, жоначкам, па рубялёчку,
Маленькім важтайкам хоць па талеру.
Капачам, капачам у лоб таўкачом:
За імі конікі настаяліся,
Па вуліцы важтайкі нагуляліся,
На полі жоначкі настаяліся
І розных там песень напяяліся.

## 16. А ЗНАЦЬ, НАШ БАЦЮШКА БАГАТА ЖЫВЕЦЬ

А знаць, наш бацюшка багата жывець,
Яго талака далёка слывець.
А ў яго талака ўсё наёмная,
Паплаціш, бацюшка, талачаначкам:
Маладым дзевачкам па чырвончыку,
А маладым важтайкам па рубельчыку.
А сваім кідачом паддай гарбачом:
За імі конікі настаяліся,
Малыя важтайкі нагуляліся,
У полі дзеванькі напяяліся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 17. ТАРГУЙСЯ, ТАРГУЙСЯ, КІРЫЛКУ, З НАМІ

Таргуйся, таргуйся, Кірылку, з намі,
Мы твае поленька златам слалі,
Золатам, золатам да ўсё серабром.
Да дай жа нам, Кірылка, хоць па талеру,
Вайжцякам, вайжцякам — хоць па рубелечку,
Капачам, капачам — хоць па бізуночку,
Што яны табе наругаліся,
На стайні конікі настаяліся,
У полі жоначкі напяяліся.

## 18. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу.*

Таргуйся, таргуйся,
Хазяін з намі.

Мы твае ўсё поле
Золатам склалі.

Плаці нам, плаці нам
Ты па рубельку,

А малым важтайкам —
Па грывеннічку,

А старым капачам
Задай таўкачам.

## 19. А У НАШАГА ПАНОЧКА ДВОР НА ПАМОСЦЕ

А ў нашага паночка двор на памосце, **
А ў яго за сталом бедныя госці.
Вот цяпер, паночак, рашчытай ты нас,

* Кожная страфа паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Як наймаў, дык казаў тры капейкі дам.
І дзевачкам ды бабачкам тры капеечкі,
Мужчынкам, мальчыкам хоць гарэлачкі.
А тая бабулька ўдоўка была,
А ў тэй удоўкі чацвёра дзяцей.
Як прыйшла ўдоўка ад пана дамоў,
А дзеткі малыя спрасілі ў яе:
— Мамулька родная, што пан заплаціў?
— Дзетачкі малыя, тры капеечкі.
— Мамулька родная, з голаду памром
— Й дзетачкі малыя, па міру пайдзём.

## 20. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу,
Не дасцё гарэлкі —
Паб'ю тарэлкі.
Талачу, талачу,
Не талочыцца,
Сухі гной, сухі гной
Не калоцішца!

## 21. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу.
Не дасцё гарэлкі —
Паб'ю талеркі.
Талачу, талачу,
Я сыра хачу.
Не дасцё сыра —
Палажыце сына.
Дайце мне гарэлкі
З белай бутэлькі.
Дайце мне закускі
З поўнай талеркі.

## 22. ТАЛАЧУ Я, ТАЛАЧУ

Талачу я, талачу,
Я гарэлкі хачу.
Талачу я, талачу,
Талакі не ўняць,
Каб далі гарэлачкі,
Умела б пяяць.

## 23. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу.*

Не дасцё гарэлкі,
Дайце кісялю,

Я вашу талаку
Усю развесялю.

## 24. ТАЛАКА, ТАЛАКА

Талака, талака
Не талочыцца.
Піва п'юць, сыр ядуць,
І мне хочацца.
Піва п'юць, сыр ядуць,
І мне хочацца.

## 25. У МАЙГО ТАТУЛЬКІ

У майго татулькі
Новая брама.
А з-пад той брамачкі

---

* Кожная страфа паўтараецца.

Тры ручаёчкі ідуць:
У адным ручайку —
Горка гарэлка,
А ў другім ручайку —
Зялёнае віно,
А ў трэцім ручайку —
Салодкі мядок.
Горкая гарэлка —
Для кідальнічкаў,
Зялёнае віно —
Для трасеннічкаў,
Салодкі мядочак —
Для важтаечкаў.

## 26. НЕ ПАЙДУ У ТАЛАКУ НІКОЛІ

Не пайду ў талаку ніколі,
Не даюць гарэлкі даволі,
Толькі даюць хлеба ды солі.
Верна, наша доля такая,
Што наша хазяйка скупая.
Сядзіць на палочку ў куточку,
Дзяржыць бутэлечку ў падалочку.
Ківаець, міргаець на мілога:
— Нясі, мой міленькі, бутэльку,
Нада даць трасенніцам гарэлкі.

## 27. НАВЕРНА, НАША ДОЛЯ ПЛАХАЯ

Наверна, наша доля плахая,*
Наша гаспадынька скупая,
Не даець ні сыра, ні масла,
Толькі даець хлеба ды солі.
Сядзіць на палочку у куточку,
Ківаець, міргаець на мілога:
— Не давай ты дзеўкам гарэлкі,
Кідай к заўтраму на пахмелкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 28. ЗНАЦЬ, НАША ДОЛЯ НЕ ТАКАЯ

Знаць, наша доля не такая,*
Што наша хазяйка скупая.
Сядзіць на палочку ў куточку,
Дзяржыць бутэлечку ў падалочку,
Ківаець, міргаець на мілога:
— Не пей, мой міленькі, гарэлку,
Кідай к заўтраму на пахмелку.
Будзем раненька ўставаці,
Сваю сямейку пахмяляці.

## 29. ДОЛЯ НАША, ДОЛЯ ХУДАЯ

Доля наша, доля худая,*
Што наша хазяйка скупая,
Пад падолам бутылкі хаваець
І свайму міламу міргаець:
— Пап'юць талачанкі гарэлку,
Паб'юць талачанкі бутэльку.

## 30. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ, ГАРЭЛКІ ХАЧУ

Талачу, талачу, гарэлкі хачу,*
Не дасцё гарэлкі, не буду пяяць.

А ці ж мая доля такая,
Да што ж гаспадынька скупая?

Сядзіць у дамочку у куточку,
Дзяржыць бутэлечку ў падалочку.

Яна ж на мілога міргаець:
— Не давай гарэлкі памнога,
А што ж мы так упіліся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 31. ЦІ НАША ДОЛЯ ТАКАЯ

Ці наша доля такая,
Наша гаспадынька скупая,
Ды што к нам на ніўку не ходзіць,
Ні сыру, ні масла не носіць.
Ды сталі жоначкі ей пяняці,
Дык стала на ніўку хадзіці,
Стала сыр і масла насіці.

## 32. ТАЛАКА НАША НЕВЯСЁЛАЯ

Талака наша невясёлая,
Ох, люлю-люлю, невясёлая: *
Гаспадынечка нездаровая,
На печы ляжыць,
Жыватом крычыць.

## 33. ТАЛАКА МАЯ НЕВЯСЁЛАЯ

Талака мая невясёлая,
Ай, люлі-люлі, невясёлая: *
Ай, хазяечка нездаровая,
Ай, капатая, ламуватая.

## 34. ПАДХОДЗІМ МЫ К ДОМУ

Падходзім мы к дому,
К новаму цярому. **

---

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Кожная страфа паўтараецца.

Хазяін выходзіць,
Гарэлку выносіць.

Хазяйка выходзіць,
Закуску выносіць.

А дайце мне, дайце
Тры чаркі гарэлкі:

А першую чарку
Радзі пахмялосці,

А другую чарку
Радзі весялосці,

А трэццю чарку,
Каб я й запяяла,

Каб я й запяяла,
Голасу не мала.

Голас на далінку,
Свякроўку ў магілку.

Голас на часочак,
Свякроўку ў пясочак.

## 35. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Я гарэлкі хачу,
Дайце мне, дайце
Тры чаркі гарэлкі:
Першую чарку
Радзі хмялосці,
Другую чарку
Радзі пумялосці,
Трэццю чарку,
Штоб песні папяяла.

## 36. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу.*

Не дасцё гарэлкі,
Пяяць не буду.

Дасцё чарку адну,
Песню спяю.

Дасцё дзве чаркі,
Другую спяю.

## 37. АЙ, ДАЙЦЕ МНЕ, ДАЙЦЕ

Ай, дайце мне, дайце
Сем чарак гарэлкі.*

А першую дайце —
За стол пасаджайце.

А другую дайце,
Каб я пасядзела.

А трэцюю дайце,
Каб я пасмялела.

Чацвёртую дайце,
Каб я паскакала.

А пятаю дайце,
Каб я папяяла.

А шостую дайце —
З столу высажайце.

А сёмую дайце —
Дамоў адпраўляйце.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 38. А ПАЗВАЛІ Ў ТАЛАКУ

А пазвалі ў талаку,
Пасадзілі на палу.
І на пол не нясуць,
І на кут не завуць.
Дайце чарку адну —
Я й дамоў пайду.

## 39. А ЗАЗВАЛІ МЯНЕ Ў ПІР

А зазвалі мяне ў пір,
Пасадзілі за сталом.
Мне і тут не даюць,
І на кут не завуць.
А дайце ж мне кажарачку —
Я й дамоўкі пайду:
Я гэтую бяседачку
І ў татулькі знайду.

## 40. СУСЕДКА, СУСЕДКА, ПАДВЯЖЫ ШТАНЫ

Суседка, суседка, падвяжы штаны,
Прынясі гарэлкі чатыры жбаны.
Суседка, суседка, я ў цябе адна,
Налей мне гарэлкі, я вып'ю да дна,
Налей мне другую, я вып'ю і тую.
Налей мне трэцюю, я падзянькую.

## 41. ДЗЕ ПАЧУЮ ТАЛАКУ

Дзе пачую талаку,
Туды ногі валаку.
Дзе гарэлку пачую,
Там я ночку начую.
Дзе гарэлкі не чуваць,
Там не буду начаваць.

## 42. ТАЛАКА, ТАЛАКА, ТАЛАКІ НЕ ЎНЯЦЬ

Талака, талака, талакі не ўняць,*
Не дасць пан гарэлкі, не буду пяяць.
— Татулька родненькі, я ў цябе адна,
Налей мне чарачку, я вып'ю да дна.
Налей мне другую, я й вып'ю й тую,
Налей мне і трэцюю, я й чару паб'ю,
З чацвёртай, татулька, я й дамоў пайду.

## 43. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ, Я ГАРЭЛКІ ХАЧУ!

Талачу, талачу, [redacted] гарэлкі хачу!
Талака, талака, талакі не ўняць,
Не даюць гарэлкі — не буду пяяць.
А ў каго, а ў каго двор на памосце,
А ў таго, а ў таго любыя госці.
— А чаму, сусед, піва не варыш,
Ці ў цябе, сусед, ячмень не ўрадзіў?
— Не ўрадзіў ячмянёк, толькі пшоначка,
Не вяліць, не вяліць мая міла жоначка.

## 44. ЦІ Ў ЦЯБЕ, БАРЫСКА, ДВОР НА ПАМОСЦЕ

— Ці ў цябе, Барыска, двор на памосце,
Ці ў цябе, суседка, любыя госці?
Чым жа нас, суседка, частаваць будзеш?
Ці віном зялёным ці гарэлачкай?
— Я віном зялёным, салодкім мёдам.
— Ці ў цябе, Барыска, ячмень не ўрадзіў,
Што для нас, для гасцей, піва не варыў?
— А ўрадзіў жа ячмень, яшчэ пшоначка,
Не варыла ж піва мая жоначка.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 45. КАЛА МЕСЯЦА, КАЛА ЯСНАГА

Кала месяца, кала яснага
Усё дробныя звёзды,
У нашага гаспадара кала століку
Усё любыя госці.
— А ты, Андрэйка, ты, татулькін сын,
Прыглядай жа гасцей.
А ты, чарачка пазлачоненька,
Да хадзі ж ты часцей.

## 46. АЙ, ГАЛОВАЧКІ НАШЫ БЕДНЫЯ

Ай, галовачкі нашы бедныя,
Ах, люлі-люлі.
Нам гарэлачкі дужа хочацца,
Хоць не горкія, хоць салодкія,
Не з перчыкам, дык з інберчыкам.
Хоць мы трубачкі застаўляць будзем,
Мы ж гарэлачкі зажываць будзем,
Не горкую, хоць салодкую,
Хоць не з перчыкам, дык з інберчыкам,
Ах, люлі, люлі.

## 47. Я НЕ ПАНСКАГА РОДУ

Я не панскага роду:
П'ю гарэлку, як воду.
А мне смачна пілося,
Па сярмяжцы лілося,
А па белай паліне —
На здароўейка мне.

## 48. ЯК СЯДЗЕМ МЫ НА ЛАВАЧЦЫ

Як сядзем мы на лавачцы,
Як вып'ем ды па чарачцы,
Як сядзем мы на роўненькай,

Як вып'ем ды па поўненькай.
А мы пілі, не ўпіваліся,
А з нас людзі дзівавaліся,
Што дамоў ішлі, не валяліся,
У вароцейках пахіліліся,
У новых сенях паваліліся.

## 49. ВЫ, МУЖОВЕ-ПАНОВЕ

Вы, мужове-панове,
Пейце піва п'янoе,
Гаварыце мужскoе:
А ў каго мамка стара —
У той хаце слаўна,
А чыя жонка добра —
У той хаце штодзень гульня,
У каго жонка ліха —
У хаце не ціха.

## 50. НЕ РАСЦІ, ЧАБОРУ

Не расці, чабору,
Блізка дарогі,*

У нашых хлопчыкаў
Крывыя ногі.

Дайце ім качаргу
Апірацiся,

Дайце ім атымку
Абцірацiся.

Талака, талака
У нас талочыцца,

А нашай талацэ
Водкі хочацца.

* Кожная страфа паўтараецца.

## 51. А СПАСІБА ТАМУ

А спасіба таму,
У чым я даму.*

Хлебам-соллю накарміў,
Гарэлачкай напаіў,

Пугу ў ручачкі даў,
Дарожачку паказаў.

## 52. ДЗЯНЬКУЮ, ДЗЯНЬКУЮ ЗА УВЕСЬ ДАР

Дзянькую, дзянькую за ўвесь дар,
Ні хлеба, ні солі не пазычалі.
Ні хлеба, ні солі не пазычалі,
Мы сваім суседцам не дакучалі.

## 53. НА МЯНЕ КАЗАЛІ

На мяне казалі —
Пасялушачка,*
А я ў свайго таткі
Весялушачка.
На мяне казалі —
Па сялу хаджу,
А я ў свайго таткі
Работку раблю.
На мяне казалі —
Горка п'яніца,
А я ў свайго таткі
Ды й работніца.

## 54. КАЗАЛІ НА МЯНЕ — ПАСЯЛУШАЧКА

Казалі на мяне — пасялушачка,
Я ў свайго татулькі на куце сяджу.
Казалі на мяне, што я п'яніца,

* Кожная страфа паўтараецца.

У свайго татулькі я парадніца.
А я п'ю, я п'ю, я і гуляю,
Як тая рыбінка сярод Дунаю.
Прыплыўшы к беражку, я і ўстрахнуся,
Усім сваім злоснікам я наругнуся.
Прыду я дамоў, аж кіі стаяць,
Кіі стаяць, усе кіі дубовыя
На мае плечыкі на здаровыя.
Усе тыя кіі паламаліся,
А мае плечыкі не баяліся.

## 55. ТАЛАКА, ТАЛАКА

Талака, талака
Талачылася,
Таўкучы, мелючы,
Я змарылася.
Сеяла мучыцу —
Апылілася.
Вышла на вуліцу —
Скаланулася
Ды сваім суседкам
Наругнулася.
Работка мая
Уся пыльная,
Маім суседзям
Ды й завідная.

## 56. ТАЎКУЧЫ, МЕЛЮЧЫ, ЗАПЫЛІЛАСЯ

Таўкучы, мелючы, запылілася,*
Носючы вадзіцу, замарылася,
Вышаўшы на вулку, страпянулася,
Я сваім злоснічкам наругнулася:
— Дай жа, бог, злоснічкам агонь да вада,
Я й буду пець, гуляць адна й малада.

* Кожны радок паўтараецца.

## 57. ВУЛІЦА, ВУЛІЦА ТЫ ШЫРОКАЯ

Вуліца, вуліца ты шырокая,*
Па табе травіца ўсё зялёная,
Па табе я хаджу — не нахаджуся,
А каго люблю — не налюблюся.
Люблю я, люблю куміну дачку,
Куміну дочачку, куміну дачушку,
Ды й малодзеньку,
Яе лічыка, як ягодзенька.

## 58. ВУЛІЦА, ВУЛІЦА ЎСЁ МЯЦЁНАЯ

Вуліца, вуліца ўсё мяцёная,*
Па табе, вуліца, не нахаджуся,
Каго я люблю — не нагляджуся.
А люблю я, а люблю я кавалерчыка,
А ў яго боцікі лакіровыя,
А ў яго парцянкі ўсё бялёвыя,
А ў яго вусікі папяровыя,
А ў яго бровы чарнабровыя.

## 59. АХ ТЫ, ВУЛІЦА МЯЦЁНА

Ах ты, вуліца мяцёна,
А чым вуліца ўкрашона?
А ці дзеўкам, а ці жонкам?
А ні дзеўкам, а ні жонкам.
Украшона щэрай пташкай,
Шэрай пташачкай, зязюлечкай.
Сіне мора пераляцела,
Крылейкам не змахнулася
І на ножанькі не странулася.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 60. А ТЫ, ВУЛІЦА МЯЦЁНАЯ

А ты, вуліца мяцёная,*
А чым вуліца ўкрашоная?
Ці дудамі, ці музыкамі,
Ці мальцамі без'языкімі?
Ні дудамі, ні музыкамі,
Ні мальцамі без'языкімі,
А тэй дзевіцай-красавіцай...

## 61. ЦЕРАЗ ПЕНЬ, ЦЕРАЗ ПЕНЬ, ЦЕРАЗ КАЛОДУ

Цераз пень, цераз пень, цераз калоду
Палезлі дзецюкі па шыю ў воду.
— Бадай вы, дзецюкі, патапіліся,
Чаму вы ўвосень не жаніліся.
— Бадай вы, дзяўчаты, вялікія раслі,
Як мы вас сваталі, вы за нас не пайшлі.

## 62. ОЙ, ПАЙДУ Я ДА Й НА ТАЛОКУ

Ой, пайду я да й на талоку,
А на талоцы ды ўсе хлопцы.
Да смяюцца з мяне хлопцы,
Што я ў тоўстай сарочцы.
Ой, пайду я дамовачку,
Да й надзену сарочку —
І тонку, й бяленьку,
К паперу раўненьку.

## 63. АЙ, БЫЛА Я НА ТАЛАЦЭ

Ай, была я на талацэ,
На талацэ да ўсе хлопцы.

* Кожны радок паўтараецца.

На талацэ да ўсе хлопцы
Да смяяліся з мяне,
Што я ў тоўстай сарочцы,

Што я ў тоўстай сарочцы.
— Не смейцеся з мяне, браткі,—
У мяне не родная матка.

## 64. БРУІЛА ВАДА КАЛЯ КАМЕШКУ

Бруіла вада каля камешку,*
А пабруіўшы, у Дунай пайшла.
Мовіла дзеўка з добрым молайцам,
А размовіўшы, у цяром пашла.
— Добры маладзец, прыбывай ка мне,
Як па полейку — шэрым заенькам,
Па падвор'ейку — гарнастаенькам.
Ты на ганачак — як бараначак,
Як у сенечкі — красны яблычак,
У высок цяром — добрым молайцам.
Добра молайцу пасцелечку слаць,
Да халастому, нежанатаму,
Што таму чорту барадатаму.

## 65. БРУІЛА ВАДА КАЛА КАМЕНЯ

Бруіла вада кала каменя,*
Сколькі бруіўшы, ды на ніз пашла.
Мовіла дзеўка з добрым молайцам,
Сколькі мовіла, ды ў цяром пайшла.
— Ты не йдзі ка мне позна з вечара,
А прыдзі ка мне су паўночанькі.
Па полю ідзі ты туманейкам,
Па сялу ідзі дробным дождж ычкам,
А на двор ідзі ясным месяцам,
А ў сеначкі — шэрым коцікам,
А ў хатаньку — залатым кальцом,
На криватаньку — добрым малайцом.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 66. БРУІЛА ВАДА КАЛЯ КАМЕНЯ

Бруіла вада каля каменя,*
Сколькі бруіўшы, да й на ніз пайшла.
А на нізочку застаялася,
З дробнай рыбачкай загулялася.
Гуляла Валя з добрым молайцам,
Сколькі гуляўшы, да й дамоў пайшла.
Каля доміка застаялася,
З добрым молайцам распращчалася.

## 67. А Ў БАРУ КАЛЫСКА

А ў бару калыска
Высока, не нізка. **

Калышуцца дзеўкі,
Слічныя паненкі.

І мне, маладзенькай,
Туды захацелась,

Праз цёмную ночку
Туды заляцела.

Набіў мяне свёкарка
Шоўкавай істужкай,

А я з таго бою
Нядзелю хварэла.

Нядзелю хварэла,
Не піла, не ела.

У бару калыска
Высока, не нізка.

Калышуцца дзеўкі,
Слічныя паненкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожная страфа паўтараецца.

І я, маладзенька,
Туды захацела,

Праз цёмную ночку
Туды заляцела.

Набіў мяне мілы
Дратаванай пужкай,

А я з таго бою
Ні дня не хварэла.

Ні дня не хварэла,
Піла ды і ела.

## 68. А ПАД ДУБАМ, ДУБАМ, ДУБАМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ

А пад дубам, дубам, дубам зеляненькім,
Там гулялі дзеўкі, красныя паненкі.
А я й, маладзенька, туды захацела,
Туды захацела, дзіва паглядзела!
Ды біў мяне татка саламянай пужкай,
Саламянай пужкай па белым кажушку.
А я з таго бою ні піла, ні ела,
Ні піла, ні ела, нядзелю хварэла.
А біў мяне мілы дубовым кіёчкам,
Дубовым кіёчкам у ваднэй сарочцы.
А я з таго бою і піла, і ела,
І піла, і ела, ні дня не хварэла.

## 69. ЛЯТАЛА ПАВАЧКА

Лятала павачка
У саду, па саду,*
Раніла пер'ейка
У зялёну траву.
Не жаль мне павачкі,

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Ні пер'я яе,
Ды жаль мне мілога
У чужой старане.

## 70. ЛЯТАЛА ПАВАНЬКА З САДУ ДА САДУ

Лятала паванька з саду да саду,*
Раняла пер'ейка ў зеляну траву.
Не жаль жа мне павы, ні пер'я яе,
А жаль мне сястрыцы ў чужой старане.
Сядзіць пад вакном, як розавы цвет,
А плачыць сільненька, што радзіны нет:
— А павей, вецярок, па быстрай вадзе,
А прывей радзіну ка мне, сіраце.
Трудненька рыбаньцы ў мутнай вадзе,
Так маей сястрыцы ў чужой старане.

## 71. ЛЯТАЛА ПАВАНЬКА У САДУ, ПА САДУ

Лятала паванька ў саду, па саду,
Раніла пер'ейка ў зеляну траву.
Не жаль жа мне паванькі, ні пер'я яе,
Ды жаль жа сястрыцы ў чужой старане.
Як трудна рыбаньцы ў мутнай вадзе,
Так маей сястрыцы ў чужой старане.
Як трудна рыбаньцы без вады быць,
Так маёй сястрыцы без радні жыць.
Як лягу — забуду, устану — на ўме,
Што мая сястрыца ў чужой старане.

## 72. ЛЯТАЛА ПАВАНЬКА ПА ШЧЫРЫМ БАРУ

Лятала паванька па шчырым бару,
Раніла перайка ў зялёну траву.
Не жаль паванькі, ні пер'яў яе,

* Кожны радок паўтараецца.

Да жаль мне дзіцяці ў чужой старане.
Як шчыра рыбанька без вады б'еццa,
Так маё дзіцяці слязой льецца.
Як шчуцы-рыбаньцы без вады нудна,
Так маей дзіцяці без маці трудна.

## 73. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ, ГАРЭЛКІ ХАЧУ

Талачу, талачу, гарэлкі хачу,*
Ах, божа мой, божа, як я лянівa:
Кала угла рэчкай шла, рук не памыла.
Ах жа вы, мальчышкі, ай вы, панічы,
Купіце, купіце вы мне мыла.
Ды памыць, памыць нада мне рыла,
Каб мяне мой мілы дома не ўзнаў,
Каб жа ён да мяне і паняй назваў.

## 74. ТАЛАЧУ, ТАЛАЧУ

Талачу, талачу,
Гарэлкі хачу. **

Не дасце гарэлкі,
З талакі уцяку.

Казалі на мяне,
Што я лянівa:

Пад акном рэчанька —
Ручак не мыла.

Дзецюкі-дуракі,
Купіце мыла.

Памыюся, утруся
І вам буду міла.

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожная страфа паўтараецца.

## 75. КАЗАЛІ НА МЯНЕ

Казалі на мяне,
Што я ляніва: *

І кала угла рэчкай шла —
Рук не памыла.

Мужыкі-дуракі,
Купіце мыла.

Вымыю ручанькі
Бель-бялюсенька,

Буду я міламу
Усё мілюсенька.

## 76. ШЭРА ВУЦІЦА РАКОЮ ПЛЫВЕЦЬ

Шэра вуціца ракою плывець,
А мне, моладзе, павесці нясець:
Каб я стáраму пірог спякла
На сцюдзёнай на вадзіцы
Да із чорнай мучыцы,
Каланіцаю падмазывала,
А стáраму есць паднашывала.
Шэра вуціца ракою плывець,
А мне, моладзе, павесці нясець:
Каб я молайцу пірог спякла
Не з халоднаю вадзіцаю,
Да із пшоннаю мучыцаю,
Саланінаю падмазывала,
А молайцу есць паднашывала.

## 77. ЯК МНЕ, МОЛАДЗЕ, ПАВЕСТКА ПРЫШЛА

Як мне, моладзе, павестка прышла, **
Каб я свёкарку пірог спякла
У васінавых начовачках.

---

* Кожная страфа паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Да тры ложкі я дзёгцю ўліла,
Каланіцаю падмазывала
І свёкарку есць паднашывала.
Як мне, маладзе, павестка прышла,
Каб я міламу пірог спякла
У дубовенькіх начовачках.
Да тры ложкі я і масла ўліла,
А смятанкаю падмазывала
І міламу есць паднашывала.

## 78. ІШЛА Я, МАЛАДА, БЫСТРАЮ РАКОЮ

Ішла я, малада, быстраю ракою,
Ламала красачкі праваю рукою.
Я тыя красачкі ды пагубляла,
Я свайго татульку тры гады ждала,
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Прыехаў татулька неспадзевачкі.
Я свайму татульке піва варыла.
Ішла я з піўніцы — заваліласяя,
Залата чарачка разбілася,
Я з сваім татулькам пасварылася.

## 79. ПАЙДУ Я, МАЛАДА, БЫСТРАЙ РАКОЮ

Пайду я, малада, быстрай ракою,
Выламлю калінку правай рукою.
Гэта калінка ў руках звяла,
Я свайго мілога тры гады ждала,
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі.
Прыехаў мой мілы неспадзевачкі
Да мяне, маладой, як да дзевачкі.

## 80. ДА Й КАСАРЫКІ Ж КОСЯЦЬ

Да й касарыкі ж косяць,
Ветрычак павявае,
Мой міленькі

З іншаю ж й размаўляе.
Да калі з добраю,
Памагай яму, божа,
А калі з ліхою,
Пакарай яго, божа.
Да пакарай яго, божа,
Ліхімі славамі,
Штоб не размаўляў
Да з чужымі й жанкамі.

### 81. ЗА НОВАЙ СВЯЦІЛЬНЯЙ

За новай свяцільняй
Стаіць вярба з расіцаю.
Ды хто ж тую вярбу зламаець?
Ды хто ж тую расу соймець?
Вярбу зламае сам Ягор,
А расу сойме жана яго.
Расу сойміць — твар мыць,
Каб бел быў.
Вярбу зломіць — каня біць,
Каб беглы быў.

### 82. ЧЫРВОНАЯ РОЖА, ЗЯЛЁНА, ПРЫГОЖА

Чырвоная рожа, зялёна, прыгожа,
Не стой пры дарозе, не цвіці прыгожа.
Хто ідзець — ламаець, хто едзіць — чапаець.
Дзяды йдуць — ламаюць, дзяды на бароды,
Бабы йдуць — ламаюць, бабы на памёлы,
Мальцы йдуць — ламаюць, сабе пад брылёчкі,
Дзеўкі йдуць — ламаюць, сабе на вяночкі,
Рабяты йдуць — ламаюць, рабяты на цацкі.

### 83. ЯК НА ЎЗНЭРАЧКУ, НА КРУЖЭЛАЧКУ

Як на ўзнэрачку, на кружэлачку,
Ах, люлі-люлі, на кружэлачку,
Там сядзіць селязенечка, шэра вутачка,

Ах, люлі-люлі, шэра вутачка,
Быстра крыллейка, сіза пер'ейка,
Ах, люлі-люлі, сіза пер'ейка.
Ах каму ж тое пер'е надабі?
Міхалютачку пер'е надабі:
Як паедзіць ён ажаніціся,
А заторкнець ён ды за шапаньку,
Ён за шапаньку, ён за ярыньку.
Ах, і возьмець ён ды мяшчаначку,
Ён мяшчаначку, ён гультаечку:
А на ніўку ідзець, сільна плачучы,
Ах, і з ніўкі йдзець, праклінаючы.
Як на ўзнэрачку, на кружэлачку
А сядзіць, сядзіць селязенечка,
Селязенечка, шэра вутачка,
Быстра крыллейка, сіза пер'ейка.
Ай, каму ж тое пер'ейка надабі?
Арцёмушку тое пер'ейка надабі:
Як паедзіць ён ажаніціся,
Ах, заторкнець ён а за шапаньку,
Ён за шапаньку, ён за ярыньку.
Ах, і возьмець ён ды прыгонніцу,
Ён прыгонніцу, ён работніцу:
На ніўку ідзець, бога просючы,
А з ніўкі ідзець, бога молючы:
— Ах, радзі, божа, жыта густое,
Жыта густое, ядраністае,
Што я, молада, працавістая.

## 84. ЯК ПА ТРАЎЦЫ, ПА МУРАЎЦЫ

Як па траўцы, па мураўцы,
Па зялёненькім лужочку
Палын-травушка шатаецца,
Сын у матушкі пытаецца:
— Жані мяне, ацец, матушка,
Жані мяне, маць ражоная.
— Не бяры ж ты тэя ўдовушкі,
А ўдовушка — двуйсярдзечны друг,
Як у зімняй пары ярка сонейка.

Яно коціцца ярчусенька,
А мне, молайцу, студзянюсенька.
Як па траўцы, па мураўцы,
Па зялёненькім лужочку
Палын-травушка шатаецца,
Сын у матушкі пытаецца:
— Жані мяне, ацец, матушка,
Жані мяне, маць ражоная.
— Ай, бяры ж ты тую дзевушку!
А ў дзевушкі адно сердзюшка,
Як у леці хмарна соўнушка.
Яно коціцца хмарнюсенька,
Мне, молайцу, усё цяплюсенька.

## 85. А Ў СУСЕДА БЯСЕДА, А Ў ІВАНА ТАЛАКА

А ў суседа бяседа, а ў Івана талака,
Піва п'янае п'юць, мяне ў госці не завуць.
А не жаль мне піва, жалка малайца.
Удалы маладзец каля століка стаіць,
Ручкі звязаныя, ножкі скованыя.
— Ой, удалы маладзец, за што кара табе?
Ні адзін ты там быў, ні адзін вараваў.
— Было ў мяне яшчэ тры таварышчы:
Адзін таварыш — шпаркі конь,
А другі таварыш — востра шабля на баку.
Трэці таварыш — гасподзь бог нада мной.
Шпаркі конь пада мной — унясець ён мяне.
Востра шабля пры баку — адбароніць мяне.
Гасподзь бог нада мной — сцеражэ-беражэ.

## 86. НАША ГАСПАДЫНЯ СЫНА СПАРАДЗІЛА

Наша гаспадыня сына спарадзіла,
Сына спарадзіла на тры гарадочкі:
Першы гарадочак — расці, мой сыночак,
Другі гарадочак — жанісь, мой сыночак,
Трэці гарадочак — жыві, мой сыночак.

## 87. НЕ ЛЯТАЙ, САЛАВЕЙ, ПА ЧАПЧЫННІЧКУ

— Не лятай, салавей, па чапчыннічку,*
Не злівай, салавей, з лісту вадзіцы.
Чы ў цябе, салавей, пташачкі нету?
— Каб у мяне была шэра зязюля,
Не лятаў бы б я па чапчыннічку,
Не зліваў бы б я з лісту вадзіцу.
— Не хадзі, Валодзя, па цёмных начах,
Не дражні, Валодзя, чорных ты сабак,
Не будзі, Валодзя, маладых дзяўчат.
— Каб у мяне была свая дзевачка,
Не хадзіў бы я па цёмных начах.
Не будзіў бы я маладых дзяўчат.

## 88. АСОЦІНКА ЗЯЛЁНАЯ

Асоцінка зялёная,
Пара це касіці.

Не скасіўшы асоцінку,
Быдлы аб'ядуцца.

Іванечка малодзенькі,
Пара це жаніці.

Не жаніўшы Іванечку,
Людзі насмяюцца.

А Танечка ваду нясець,
Каромысел гнецца.

За ёй ззаду Іванечка
Слёзкамі ліецца.

Каромысел малінавы,
Бадай ты зламіўся,

А я б тады, маладзенькі,
З табой ажаніўся.

* Кожны радок паўтараецца.

## 89. ЗАЙШОЎ, ЗАЙШОЎ МАЛАДЗЕЦ У ЧУЖУЮ СТАРОНКУ

Зайшоў, зайшоў маладзец у чужую старонку,
Налілі ж малайцу тры чары паўненькія,
Тры чары паўненькія, усе тры раўненькія.
— Выпі, выпі, маладзец, тры чары паўненькія,
Забудзь, забудзь, маладзец, на сваю старонушку.
— Хоць я іх і вып'ю, я п'янінек не буду,
Я на сваю старонушку павек не забуду.
У маёй старане тры сады зялёныя,
Тры сады зялёныя, а ўсе тры вішнёвыя:
У первым садзіку — явар зеляненькі,
У другом садзіку — яблынка кудравая,
А ў трэцім садзіку — ігруша з адросткамі.
Явар зеляненькі — мой татка старусенькі,
Яблына кудравая — маць мая старая,
Ігруша з адросткамі — жана мая з дзеткамі.

## 90. ОЙ, КУБАК, КУБАК МАЛІНАВЫ МОЙ

Ой, кубак, кубак малінавы мой,
Пастаўлю кубак пасярод стала,
Наллю кубак зелянога віна.
А сам я сяду за сталом на куце,
Гляну я, гляну па ўсіх жоначках —
Усе жоначкі харошы, прыгожы,
А мая жонушка харашэй, прыгажэй.
А пашыю шубу з сямісот сабалёў.
— Насі ж ты, баба, ні аб чым не тужы,
Калі ж яна доўга — вышэй паднімі,
А калі каротка — ніжэй апусці.

## 91. ТЫ ЯСНА, ТЫ КРАСНА З-ПАД СВЕТУ ЗАРА

Ты ясна, ты красна з-пад свету зара,
Ты люба, ты міла Барыску жана,
Як пашыў шубачку аж да падола.
Дай, божа, Катарынке шубу знасіці,
На лета на тое другую пашыці.

## 92. НА ВУЛІЦЫ ЖУК, ЖУК

На вуліцы жук, жук,
На вуліцы чорны.
Натачыў норкі
Аж да чужой жонкі.
А чужая жонка,
Як асіна, горка.
Свая маладзенька,
Як мёд, саладзенька.

## 93. А БЯДА НА САЛАЎЯ

А бяда на салаўя, (2)
І што студзёная вада:
Ані яму гнязда звіці,
Ані яму яйца знесці.
Звіўшы гнязда — разаўецца, (2)
Знёсшы яйцо — разаб'ецца.
А бяда на малайца, (2)
Што нялюбая жана: (2)
Ані з ей у пір пайці, (2)
Ані з ей дома быці. (2)
У пір пайці — сварыціся,
Дома быўшы — пабіціся.

## 94. ІШОЎ Я З ПОЎНАЧЫ

Ішоў я з поўначы
З карчмы,
Нашоў я салаўя
У карчы.
— Салавей-пташачка,
Пташка дробная,
А запей, загуляй
Песню розную.
— Не буду, не буду
Песенькі пяяць,

А буду, а буду
Ўсю праўду казаць.
Учора з вячора
Татульку схаваў,
Сягоння раненька
Па ім шчабятаў,
Шчабятаў, шчабятаў,
Голас пацяраў.
Палячу, палячу
Ў шчырыя бары,
Ў шчырыя барочкі
К шэрай зязюлі.

## 95. ІШОЎ Я, ІШОЎ Я

Ішоў я, ішоў я
З поўначы з карчмы,
Найшоў я, найшоў я
Салаўя ў карчы.
— Салавей, салавей,
Пташка дробная,
Запей, салавей,
Песні розныя.
— Рад бы я пяяць —
Голасу няма.
Учора з вячора
У зязюлі быў,
У зязюлі быў
І з ёй шчабятаў,
Сягоння рана
Голас пацяраў.

## 96. ЯК УЗЫЙДУ Я НА ГОРУ

Як ўзыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мая маці чуець,
Вячэру гатуець

І пасцелю сцеліць
Во для мяне, маладэя!
Вячэра — панпушкі,
Пасцеля — падушкі.
Вячэра — скарынкі,
Пасцеля — пярынкі
Во для мяне, маладэя!
Як ўзыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мой татка чуець,
Пасагу гатуець
Во для мяне, маладэя!
Як узыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мой брацец чуець,
Коніка гадуець
Во для мяне, маладэя!
Як узыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мая сястра чуець,
Вяночак гатуець
Во для мяне, маладэя!
Як ўзыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мой дзядзька чуець,
Кубельчык гатуець
Во для мяне, маладэя!
Як ўзыйду я на гору
І ўдару я ў ладоні!
Няхай мая цётка чуець,
Трубачкі гатуець
Во для мяне, маладэя!

## 97. А У ПОЛІ ДУБОК, НА ІМ ГАЛУБОК

А ў полі дубок, на ім галубок,
Ай, люлі-люлі, на ім галубок.*
А ў маці дачка, як галубачка.
— Ай, пара, маці, дачку ў людзі аддаць.

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Падажджы, дочка, насею лянку,
Насею лянку, насею лянку,
Насею лянку, натку кужальку,
Я й тады, дачка, цябе ў людзі аддам.

## 98. ОЙ, ДОНЬКА, ДАЧУШКА, АДДАМ ЦЯБЕ ЗАМУЖ

— Ой, донька, дачушка, аддам цябе замуж!
— А за каго, мой татулька?
— Аддам цябе замуж хоць за бандарочка!
— Бондар рана ўстаець, а мне спаць не даець,
Не пайду, не пайду, мой татулька!
— Ой, донька, дачушка, аддам цябе замуж!
— А за каго, мой татулька?
— Аддам цябе замуж хоць за кавалёчка!
— Каваль рана ўстаець, а мне спаць не даець,
Не пайду, не пайду, мой татулька!
— Донька, дачушка, аддам цябе замуж!
— А за каго, мой татулька?
— Аддам цябе замуж хоць за ганчарочка!
— Ганчар рана ўстаець, ён мне спаці даець,
Пайду, пайду, мой татулька!
Ганчар гаршкі прадаець,
А мне грошыкі 'ддаець,
Пайду, пайду, мой татулька.

## 99. КАЛА РЭЧАНЬКІ ХАДЗІЛА

Кала рэчанькі хадзіла,
Кала быстрае гуляла,
З татулькай гаварыла,
З родненькім размаўляла:
— Не аддавай мяне, татулька,
Не аддавай мяне, родненькі,
У тую чужу старану,
У тую незнакомую.
У тэй чужэй старане,
У тэй незнакомае

Палыном сеяна,
Гірчыцняй абсаджана,
Я, малада, не венчана.
Кала рэчанькі хадзіла,
Кала быстрае гуляла,
З татулькай гаварыла,
З родненькім размаўляла:
— Аддай мяне, татулька,
Аддай мяне, родненькі,
У тую сваю старону,
У тую знакомую.
У сваей старане,
У сваей знакомай
Жытам поле сеяна,
Вінаградам абсаджана,
Я, малада, звенчана.

## 100. Я НАД РАКОЮ СТАЯЛА

Я над ракою стаяла,
Белыя ручкі ўмывала.
Ручачкі мае белыя,
Каму будзеце вы верныя:
Калі старому — бронь, божа,
Па раўне сабе — дай, божа.
За старым буду гараваць,
А за малым буду бедаваць,
А па раўне сабе — жыць буду.

## 101. ДУНАЙ З МОРАМ ПАСПІРАЛІСЯ

Дунай з морам паспіраліся
А за дзеваньку сіроціньку.
Мора кажыць: — Я яе ўтаплю
Гэту дзеваньку сіроціньку.
Дунай кажыць: — Валной выкіну
Гэту дзеваньку сіроціньку.
Соўнца кажыць: — Я яе высушу

Гэту дзеваньку сіроціньку.
Дождж кажыць: — Я яе абаллю
Гэту дзеваньку сіроціньку.
Вецер кажыць: — Я яе абадму
Гэту дзеваньку сіроціньку.
А бог кажыць: — Я ёй долю дам,
Гэтай дзеваньцы сіроціньцы.

## 102. НЕ СТОЙ, ВЯРБА, НАД ВАДОЮ

Не стой, вярба, над вадою,
Горка вада пад табою.
Будуць дзеўкі ваду браць,
Будуць цябе праклінаць:
— Бадай гэта вярба ссохла,
Як пад ей вада горка.
Хораша дзераўца — лебядзінка,
Харошая дзевушка — чалядзінка.

## 103. А НАДВОР'Е ДА НЕ РАНА, ДА ЦЁМНЕНЬКА НОЧ, НОЧ

А надвор'е да не рана, да цёмненька ноч, ноч,
Адлятала галубанька ад галубка проч, проч.
— Да дзе будзеш, галубанька, ночку начаваці?
— Буду, буду, галубочак, у зімным садочку!
— Да чым будзеш, галубанька, бела вымывацца?
— Буду, буду, галубочак, ранняю расою!
— Да чым будзеш, галубачка, суха выціраццa?
— Буду, буду, галубочак, сызаю крылою!..
А надвор'е не раненька, да цёмная ноч, ноч,
Адхадзіла Мар'янaчка ад Іванкі проч, проч.
— Да дзе будзеш, Мар'яначка, ночку начаваці?
— Буду, буду, Іванічка, у таткавым дамочку!
— Да чым будзеш, Мар'яначка, бела вымывацца?
— Буду, буду, Іванічка, ключавой вадою!
— Да чым будзеш, Мар'яначка, суха выцірацца?
— Буду, буду, Іванічка, тонкім палаценцам.

## 104. А ПАД ТЫМ ГОРАДАМ, ПАД КАЗАНСКІМ

А пад тым горадам, пад казанскім,
Там дзяўчына з малайцамі чалом біла.
Яна біла, яна біла, праўды дахадзіла:
— Да не я к малайцам прыхадзіла,
Самі ка мне малойчыкі прыхадзілі,
Зеляногa віна прынасілі.
Я ў молайца на ручках заснула,
Сталі мяне малойчыкі прабуджаці:
«Устань, устань, дзяўчынанька, абачніся.
А ўжэ твая матуленька даўно на таргу
Да таргуець, купляець усё раменныя плеці,
Будзіць цябе, маладзеньку, межы плеч сечы».

## 105. ТАМУ ДОБРА, У КАГО МАТУШКА

Таму добра, у каго матушка,
Як у мяне ліха мачыха,
Пасылаець мяне у высок церам
Пасцельку слаць ахвіцэру нежанатаму.
Ужо на дварэ сняданне ідзець —
Краснай дзеўкі з церама нет.
Ужо на дварэ абеды ідуць —
Краснай дзеўкі з церама нет.
Ужо на дварэ палудні ідуць —
Краснай дзеўкі з церама нет.
Ужо на дварэ вячэры ідуць —
Красну дзеўку з церама вядуць:
Русы косы растрапаныя,
Пярсцёначкі памяняныя.

## 106. А У ПОЛАЦКУ ДА НА РЫНАЧКУ

А у Полацку да на рыначку
Да два пісары пішуць,*

* Кожная страфа паўтараецца.

А ў камораньцы да за дзверцамі
Дзеўка сына калышыць.

Ай, калышучы да шыбаючы,
Да дзіця праклінае:

— А бадай, дзіця маё мала,
Ты з калыскі упала.

За табой, дзіця маё, дзетка,
Уся гульня мая прапала.

— Не кляні, дзеўка, не кляні, дзеўка,
Да дзіцяці малое,

А кляні, дзеўка, да кляні, дзеўка,
Казака маладога.

А нашто хадзіў, а нашто звадзіў
Да цябе, маладую.

## 107. ЛЯТАЛА ПАВАНЬКА З САДУ ДА САДУ

Лятала паванька з саду да саду,
Раняла перыйка ў зеляну траву,
У ей перыйка залацістае.
Там малада дзяўчонка па саду хадзіла,
Павіна перыйка ў рукавок збірала,
І яшчэ хадзіла, вяночак скруціла.

## 108. ПАСЕЯЛІ ДЗЕЎКІ ЛЁН

Пасеялі дзеўкі лён
У чыстым полі пад дубам,
А выраслі каноплі.
Павадзіліся салаўі,
Саловушкі дробныя,
Пяюць песні розныя,

А мяне, маладу, мыслі бяруць:
За старога замуж аддаюць.
А я за старога не пайду,
На смерць старога не люблю.
Старога не люблю,
Пасцель яму не пасцялю
І ізгалоўюшку яму не кладу.
А хоць яму пасцялю —
У тры рады камення,
У чацверты рад бярвення.

## 109. КАЛЯ ГАЮ ЗЯЛЁНАГА

Каля гаю зялёнага
Я й за дзень абыграю, да абыграю,
Я ж свайго міленькага
Па шапцы пазнаю, я й пазнаю.
Шапка нова, шапка нова,
А сурдуцік зеляненькі, да зеляненькі.
Да дзе ж ходзіць, пахаджае
Да дружок мой міленькі?
Рэчка быстра, рэчка быстра,
А чаўначкі плывуць,
Ды на тых жа чаўначках
Малойчыкі едуць.

. . . . . . . . . . .

Шапачкай махае, «здраствуй» падавае.

## 110. СІВЫ КОСЯ НЕ П'ЕЦЬ, НЕ ЕСЦЬ

Сівы кося не п'ець, не есць,
Дарожаньку чуець,
Бог знаець, бог ведаець,
Дзе мой мілы начуець.
Ён начуець у камяніцы,
У пуховай пярыне.
А ён ляжыць і чуць дышыць,
Ка мне пісьма пішыць:

— Не плач, не плач, міленькая,
Я дамоў вярнуся,
Я дамоў вярнуся,
З табой ажанюся.

## 111. ПАЙДУ Я, МОЛАДА, КАЛЯ ДУНАЮ

Пайду я, молада, каля Дунаю,
Я свайго коніка ці не пазнаю.

Да хоць пазнаю — лавіць не ўмею,
Прасіла б хлопчыкаў — прасіць не смею.

— Хлопчыкі, брацікі, злавіце каня,
Пастаўлю гарэліцы, паўгарца віна.

## 112. ЯК У ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ

Як у лесе на верасе
Сарокі сакочуць.*

А мой мілы чарнабрывы
Кідаць мяне хочыць.

— Не кінь, не кінь, мой міленькі,
Буду шанаваці.

Мае ручкі бялюсенькі —
Буду абнімаці.

Мае губкі саладзенькі —
Буду цалаваці.

## 113. У САДЗЕ КАЛІНКА ПАХІЛІЛАСЯ

У садзе калінка пахілілася,
На мяне матулька насварылася.
Я тую калінку ссяку, зраблю,

* Кожная страфа паўтараецца.

Я тыя трэсачкі ў гразь заmяту,
Я сваю матульку ў сад павяду.
Пастаўлю зэдлік і калодачку,
Пасаджу матульку, як малодачку.
Адшчыкну ў садзе вінаградачку,
Пасаджу матульку ў парадачку.

## 114. ЗАРЫЦА, ЗАРЫЦА

Зарыца, зарыца,
Не ўсхадзі рана,
Не кажы, зарыца,
Што ночка мала.
Ноч мала, ноч мала —
Мне надаела,
Даўно я, даўно я
З мілым сядзела.
Міленькі, міленькі,
Ясная зара,
Дай, падай ручачкі
Хоць сярод двара.
Міленькі, міленькі,
Яснае сонца,
Дай жа, дай ручачку
Хоць праз ваконца.

## 115. НА ГАРЫ ЦЯРОМ СТАІЦЬ

На гары цяром стаіць,
Ай, люлі-люлі, цяром стаіць.*
А ў тым цераме тры акошачкі,
А пад адным акном мілая сядзіць.
А прышлі да яе тры молайцы.
Адзін прышоў і сыр прынёс,
Другі прышоў і віна прынёс,
Трэці прышоў і мёду прынёс.

* Прыпеў паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

А ўсё папіць, паесць — жывой не быць,
А ўсіх любіць — няславы зажыць.
А буду я мядочак есці — ён салодзенькі,
А буду я Кузьму любіць — ён малодзенькі.

## 116. ЯК ПАЙДУ Я УДАЛЬ ДАЛІНОЮ

Як пайду [redacted] ўдаль даліною,
Выламлю ветку, ветку з каліною,
Падторну ветку пад таткіну клетку.
У майго таткі на двары бяседа.
Пройдзець татка ў клетку,
Глянець на ветку:
— А дзе ж мая дачка, дзе яна ёсць?
Ці гора гаруець, ці панам слугуець?
Ні панам слугуець, да гора гаруець,
Сядзіць пад вакошкам, як макаў цвет,
Заплаканы вочы — не глянець на свет.

## 117. А ШТО ГЭТА ЗА ШУМ ПА ДУБРОВЕ?

А што гэта за шум па дуброве?
А што гэта за пыль па зялёнай?

Дачка бацьку гасцінца шлець,*
Садавое яблачка.

А ля таго яблачка
Залатая лісцінчка.

А на тэй лісцінчцы
Тры слоўцы напісана.

Ах, і первае слоўца:
Ці здароў татулечка?

---

* Далей першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А другое слоўца:
Як жывеш, татулечка?

Ах, і трэцяе слоўца:
Гарую, татулечка!

— Ай, гаруй, дзіця, гаруй,
Малых дзетачак гадуй.

Малых дзетачак падгадуеш,
Гараваць не будзеш.

Сама сядзеш на кравацi,
Імі будзеш слугаваці.

## 118. ПА ШЫРОКАМУ ГАСЦІНЦУ ВЯЛІКІ АБОЗ ІДЗЕ

Па шырокаму гасцінцу вялікі абоз ідзе,
Дачка матцы гасцінчык шле,
Невялікі гасцінчык — віннае яблычка,
На том яблычке тры слоўцы напісана.
Первае слова: Добры дзень, матачка!
А другое слова: Ці жыва, здарова?
А трэцяе слова: Бывай, матка, здарова.

## 119. ШЫРОКА ВАЛОКА — МЯЖЫ НЕ ВІДАЦЬ

Шырока валока — мяжы не відаць,*
Нет майго татулькі — не з кім пагукаць.
— Парай, татулька, як з нялюбым жыць.
— Жыві, дачушка, любя не любя,
Сцялі пасцельку хаця не хаця,
Спаці кладзіся, к сцяне вярніся,
К сцяне вачамі, к яму плячамі.
— Татулька родненькі, ён мяне заб'ець.
— Дачушка родная, усё патрапляй,
Затое у яго шырокі шнурок.

* Кожны радок паўтараецца.

## 120. А УСТАНУ Я РАНА

А ўстану я рана,
А ўмыюся бела,
Пайду я, млода, у вішнёў сад.
Па саду пахаджу,
Сваіх вішань пагляджу,
Ці ўсе мае вішні цвітуць.
Вішанька к вішні,
Галовачкі звісшы,
А я, млода, ды ні к кому.
Пахілю галаву
На чужую старону,
На чужую староначку.
Сэрданька б'ецца,
Душа не хінецца,
Што не родны татулька.
Сэрданька б'ецца,
Душа не хінецца,
Што не родна мамулька.
А пайду я з гора
Ды й ў чыстае поля,
Там гуляець мая доля.

## 121. ОХ, ОХЦЯ МНЕ

Ох, охця мне,
Два валы ў гумне,
Лемяшы ў сырой зямле.
Мой мілы прытаміўшыся,
Просіць есці не ўмыўшыся.
— Вадзічка ў гарнушачку,
Памыйся, мой душачка!
Рушнічок на колічку,
Утрыся, саколічку!
Гарэлачка ў бочыцы,
Напіся, скольки хочацца.
Напіся, праспіся,
Толька са мной не біся.

## 122. НІ НА КОГА ТАК НЕ ЖАЛЬ

Ні на кога так не жаль,
Як на татку свайго.*

А нашто ж ён паднароў
Мяне замуж аддаваў?

Ці на хату багату,
Ці на коні вараных?

Ці на коні вараных,
Ці на шубак дарагіх?

Ай, у хаці багаці —
Мне ў ёй жа ж не жыць.

А й на конях вараных —
Мне не ездзіць на іх.

А і шубак дарагіх —
Не насіці мне іх.

А і служкам маладым —
Не слугаваці мне ім.

## 123. ДЫ СТАЯЛА БЕЛА БЯРОЗА Ў ЗАЦІШКУ

Ды стаяла бела бяроза ў зацішку,
Ды стаяла кудравая пры закутку,
Ды ніхто к тэй бярозе не заходзіць.
Толькі зайшоў ясен месяц із зарою,
Аблілася ўся бяроза расою.
Ды аддаў мяне татка замуж далёка,
Ды і сам жа не йдзець,
Маці старой не пускаець.
Толькі прыехаў брацітка з сястрою,
Залілася сястрыца ўся слязою.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 124. ТАЛАКА, ТАЛАКА ТАЛАЧЫСТАЯ

Талака, талака талачыстая,*
Даў мне бог мужыка наравістага.
Я яго наравы не разведала,
Сабрала радзінку ды па'бедала.

## 125. ВУЗКАЯ ВУЛАЧКА, КАМЯНІСТАЯ

Вузкая вулачка, камяністая,*
Ды даў бог мне мілога наравістага.
Пакуль я норавы пераведала,
Не раз я слёзкамі паабедала.
Пакуль ■ норавы ўсе перазнала,
Не адну я ночаньку пад вуглом спала.

## 126. БЕЛАЯ БЯРОЗКА КАРАНІСТАЯ

Белая бярозка каранiстая,
Да папаўся мне мілы наравісты.
Пакуль я наравы яго зведала,
Не раз я слёзкамі паабедала,
Не раз я пад акном настаялася,
Рукаўком слёз наўціралася.
Не раз мне падпаветка за хатку была,
Не раз мне суседка за мамку была.

## 127. БЯРОЗА, БЯРОЗА

Бяроза, бяроза
Каранiстая,
Даў мне бог мілага
Наравістага.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пакуль я норавы
Яго разведала,
Сабрала сямейку,
Паабедала,
Паслала пасцеленьку,
Спацечкі легла.
Легла ж я спацечкі
Сама сабою,
Белыя ручачкі
Пад галавою.

## 128. БЯРОЗА, БЯРОЗА КАРАНІСТАЯ

Бяроза, бяроза караністая,*
I даў мне бог мілога наравістага.
I я ж яго наравы не разведала,
Сабралась сямейка і паабедала.
— I дзевярок, лебядзёк, б'ець мужынёк.
I дзевярок, папрашу, мяне барані,
I дам табе хустачку вышыванаю.

## 129. БЯРОЗА, БЯРОЗА КАРАНІСТАЯ

Бяроза, бяроза караністая,*
А мая свякроўка ганарыстая.
Яе і гонар усё ведала,
Сабрала сямейку ды паабедала.
Я сваей сямейцы парадак дала:
I меншую сямейку у ягодачкі,
Большую сямейку на работачку.
I меншая сямейка ягадкі нясець,
Й большая сямейка з работкі ідзець.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 130. БЕЛАЯ БЯРОЗА КАРАНІСТАЯ

Белая бяроза каранiстая,
Лiхая свякроўка наравiстая.
Я тую бярозу ссяку, зрублю,
Лiхую свякроўку, злую згублю.
Я тымi трэскамi абед згатую
I лiхую свякроўку я ўпатрахтую.

## 131. ТАЛАКА, ТАЛАКА ТАЛАЧЫСТАЯ

Талака, талака талачыстая,*
Божа мой мiленькi, галоўка балiць,
Лiхая свякроўка — не магу угадзiць,
Таўкучы, мелючы, я спынiлася,
Лiхая свякроўка знаравiлася.
Божа мой мiленькi, што нешчаслiва,
Нашто ж ты, мамачка, мяне радзiла
Да й лiхой свякрухi ў хату пусцiла.

## 132. А У ПОЛІ БЯРОЗА СТАЯЛА

А ў полi бяроза стаяла,
Я там, маладзенька, гуляла,
Залатыя вецця ламала,
Зыбкiя масточкi масцiла,
Я ў свайго брацюткi гасцiла.
Гашчу i ночку, i другую,
А дрэннага слоўца не чую.
Чую, што братоўкi гаворуць:
— Горкая рыбка — аблiчка,
Нялюбая госця — заловачка.
Смашная рыбка — шатрынка,
А любая госця — сястрычка.
Мы сваей роднай сястрыцы
Выкацiм бочку з пiўнiцы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 133. А У ПОЛІ БЯРОЗА СТАЯЛА

А ў полі бяроза стаяла,*
Я там, маладзюсенька, гуляла,
Зялёнае суччайка ламала,
Рэчкі, ручаёчкі масціла,
К брацітку ў госці хадзіла.
У брацітки ночку начую,
Ад брацітки слоўца не чую.
Толькі ўчула ад братоўкі:
— Чорт — гэта госця, залаўніца,
Лучча б мая родная сястрыца.
Знала б я з ей што гаварыць,
Нашла б я ей што пасуліць.

## 134. НЯДОЛЯ, НЯДОЛЯ

Нядоля, нядоля,
Няшчасце маё, **
Не любіць свякроўка
Йменнечка майго,
Ні ймення, ні мяне,
Ні работачкі.
Шчэ й пятух не пяяў,
Гусак не крычаў,
Толькі адна ваўчыца
У лесе выла,
Тады мяне свякроўка
Па ваду слала.
Як стукну, як грукну,
Суды беручы,
Як крыкну, як гукну,
Па вуліцы йдучы.
Як пачуў міленькі,
Коні пасучы.
— Пастаі, мілая,
Коні напасу,
Я й коні напасу,

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожныя два радкі паўтараюцца.

Ваду прынясу.
— Чарэпай, міленькі,
Суды поўныя
Ды нясі, міленькі,
Памалюсеньку,
А пастаў, міленькі,
Паціхусеньку,
Каб гэта лавачка
Не ўздрыгнулася,
Каб гэта вадзіца
Не пліхнулася,
Ліхая свякроўка
Не абачхнулася.
— Вот табе, свякроўка,
З Дунаю вада,
Памыйся, напіся
З поўнага вядра.
— Я й цябе, нявеста,
Ні вады слала,
Я й цябе, нявеста,
З свету збаўляла.

## 135. НЕ БУДУ ДОМА СЯДЗЕЦЬ

Не буду дома сядзець,
Пайду на кірмаш.*

Пайду я на кірмаш,
Людзей пагляджу,

Як чужыя мужыкі
Жонак шануюць:

Захадзя напярод,
У губы цалуюць.

Й нядоля, й нядоля,
Няшчасце маё,

* Кожная страфа паўтараецца.

Не любіць свякроўка
Да ймення майго.

Ты ж мяне, свякроўка,
У дзеўках знала.

Нашто ж ты, свякроўка,
За сына брала?

За сына, за сына,
За нявестачку.

Чужыя мужыкі
Жонак шануюць:

Захадзя напярод,
У губы цалуюць.

А як мой дурачына,
Кіі гатуіць.

Усё кіі, ўсё кіі,
Усё і дубовыя,

На мае плечанькі
На здаровыя.

## 136. ДА ЖАЛЬ ЖА МНЕ, ЖАЛЬ НЕПАМАЛУ

Да́ жаль жа мне, жаль непамалу,*
Што я малады не жаніўся,
Пад старыя леты ажаніўся,
На пасцелі спаць палажыўся
Да я пад пасцелю зваліўся,
Да я аж да смерці забіўся.
Асталася жонка маладая,
Асталіся дзеткі малыя,
Асталіся валы палавыя,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Асталіся коні вараныя.
Хто ж будзіць валамі пахаці?
Хто ж будзіць на конях паязджаці?
Да хто ж будзіць жонку шанаваці?
Да хто ж будзіць дзетак гадаваці?

## 137. А ЖАЛЬ ЖА МНЕ МАЛАДОСЦІ

А жаль жа мне маладосці,
Што я малады не жаніўся,
Аж да старых лет валачыўся,
А пад старасць ўзяў ажаніўся.

Узяў сабе жонку маладую,
Узяў і пасцельку мяккую.
Узяў сабе коні вараныя,
Узяў сабе госці любыя.

А як жа лёг спаць на пасцельцы,
Ды сасніўся сон мне нерадосны:
З правай ручкі персцень зваліўся,
Пад самы ложак падкаціўся.

Была ў мяне мамка-старушка,
Разгадала сон нерадосны:
Асталося мала жыць на свеце.

Астанецца жонка маладая,
Астанецца пасцелька мяккая,
Астаюцца коні вараныя,
Астаюцца госці любыя.

## 138. ІДУ Я, БРЫДУ Я БЫСТРАЮ РАКОЮ

Іду я, брыду я быстраю ракою,*
Зламала калінку правай рукою.
У маёй ручцы калінка завяла,

* Кожны радок паўтараецца.

Ды, пэўна, па мне матулька забедавала:
— Дзе маё дзіцятка заначавала?
Ці ў бару, ці ў бару,
Ці ў бярэзнічку,
Ці ў новай каморы
На пасцелечцы?
Ні ў бару, ні ў бару,
Ні ў бярэзнічку,
А ў новай каморы
На пасцелечцы.

## 139. У БАРЫ ЗЯЗЮЛЯ ЗАКУКАВАЛА

У бары зязюля закукавала,
Ды па мне матулька забедавала:
— Дзе ж маё дзіцятка заначавала?
Ці ў бару, ці ў бару, ці ў бярэзнічку,
Ці ў мяду саладу, ці ў гарэліцы,
Ці ў свайго міленькага ў пасцеліцы?
Ні ў мяду саладу, ні ў гарэліцы,
У свайго міленькага ў пасцеліцы,
Праваю палою накрыўшыся,
Гарачымі слязамі заліўшыся.

## 140. ІШЛА Я, МАЛАДА, З ПОУНАЧЫ З КАРЧМЫ

Ішла я, малада, з поўначы з карчмы,
Учула я, малада, салаўя ў карчы.
Салавей шчабечыць, ён праўду кажыць,
Ды з кім мой міленькі спатанькі ляжыць.
Ён ляжыць з богам ды сам з сабою,
Белыя ручанькі пад галавою,
Белаю прастынню абкрыўшыся,
Жаркімі слязамі абліўшыся.

## 141. ІШЛА Я Й, МАЛАДА

Ішла я й, малада,
З паўночы з карчмы,
Знайшла я, малада,

Салаўя ў карчы.
Я таго салаўя
Не баялася,
Я й у таго салаўя
Запыталася:
— Салавей, салавей,
Дробна пташачка,
Ды дзе мой міленькі
Ночку начаваў?
Ці ў свата, у брата,
За скамеечкай,
Ці з другой паненкай
На пасцелечцы?

### 142. ІШОЎ Я ПОЗНЕНЬКА З КАРЧМЫ

Ішоў я позненька з карчмы,
Найшоў я салаўя ў карчы.
Салавей шчабечыць, усю праўду кажыць,
Дзе мая мілая ночку начуець,
Ці ў лесе, ці ў цёмным бару?
Ні ў лесе, ні ў цёмным бару,
А ў свайго мілага пад пярынаю.

### 143. ДАЎНО, ДАЎНО Я Ў МАТУЛЬКІ БЫЛА

Даўно, даўно я ў матулькі была,
Ужо тая дарожка травой зарасла,
Чырвонай калінай павілася.
Я гэту калінку ссяку-зрублю,
У пучкі павяжу, масты памашчу,
Зялёную траўку касой пакашу,
Тады да матулькі ў госці пайду.
— Матулька родная, я ў госці іду.
— Дзіцятка роднае, я пераймаю.
— Матулька родная, я есці хачу.
— Дзіцятка роднае, я есці гатую.
— Матулька родная, я піці хачу.

— Дзіцятка роднае, я піва вару.
— Матулька родная, гуляці хачу.
— Дзіцятка роднае, музыку найму.
— Матулька родная, я спаці хачу.
— Дзіцятка роднае, пасцельку зраблю.

### 144. ЗАРА МАЯ, ЗОРАНЬКА

Зара мая, зоранька,
Узайдзі рана, пастой позна,
Пакулька я прыбяруся,
Умяту двор мяцёлачкай,
Усцялю стол скацерачкай.
Будуць ка мне любыя госці:
А любы госць — родны татка,
Любая госця — родная мамка.
Госці на двор — кубкі на стол,
Госці з двору — кубкі з столу.

### 145. ЯК ПАЙДУ МАЛАДА КАЛЯ РЭЧАЧКІ

Як пайду малада каля рэчачкі,*
Як 'дламлю калінкі я тры ветачкі.
А тая калінка на ручках звяла,
Я свайго татульку ў госцейкі звала.
Я й піва варыла, мёд саладзіла,
Я свайму татульку ўсё не ўладзіла.
Ці піва не п'яна, мёд не салодак?

### 146. ОЙ, У ПОЛІ ДВА ДУБОЧКІ

Ой, у полі два дубочкі,
Да й абодва спахелестыя,
Сабраліся мы з міленькім,

* Кожны радок паўтараецца.

Да й абое наравестыя.
Ой, ён мяне б'е, карае,
Ой, я ж яму ж да не пакаруся,
Ой, выйду я да на вуліцу
Да з міленькім й абдымуся.

## 147. ЦВІЦЕЛА МАКОЎКА НА БАБОВІШЧЫ

Цвіцела макоўка на бабовішчы,*
Пераспаў мой мілы на саломішчы.
Ці ён ліх, ці ён ліх, ці я не дабра? —
Паслала пасцельку, сама й не лягла.

## 148. РАСКІПЕЛІСЯ ГАРШКІ, НА ЗАГНЕЦІ СТОЮЧЫ

Раскіпеліся гаршкі, на загнеці стоючы,
А ўсердзіўся свёкарка, у запечку седзючы.
А парасла лебяда вышы гарадзішча,
На вуліцы хлопцаў нет — не будзець ігрышча.
А тую лебяду казáмі патраўлю,
А я хлопцам кукіш дам,
Сама йгрышча спраўлю.

## 149. РАСКІПЕЎСЯ ГАРШЧОЧАК, НА ЗАГНЕЦІ СТОЯ

Раскіпеўся гаршчочак, на загнеці стоя,
А на дварэ ды не рана!
Разбурчэўся свёкарка, на пяколку седзя,
А на дварэ ды не рана!
А свякроўка на полу падгаварыець яму.
А мой мужу-блазне хочыць мяне біці.
— Не бі ж ты удзень, не смяшы ж ты людзей,
А бі ж ты ўначы, будзець куды ўцячы.
Уцяку я за раку к багатаму мужыку, к харошаму дзецюку,
А на дварэ ды не рана!

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 150. ЦЕСНАЯ ВУЛАЧКА

Цесная вулачка —
Як па ей хадзіць?
Ліхая свякроўка —
Як жа ёй гадзіць?
Па цеснай вулачцы
Нахадзілася,
Я сваей свякроўцы
Нагадзілася.
— Ты ж мяне, свякроўка,
Дзеўкай знала.
Нашто ж ты, свякроўка,
За сына брала?
Я ж цябе, свякроўка,
Не баялася,
Выйшаўшы на вулку,
Нагулялася
І з сваім міленькім
Паядналася.

## 151. КРЫВАЯ ВУЛАЧКА

Крывая вулачка —
Як па ёй хадзіць?
Ліхая свякроўка —
Як ёй угадзіць?
Па крывой вулачцы
Нахадзілася,
Ліхой жа свякроўцы
Нагадзілася.
Па крывой вулачцы
Хадзіць не буду,
Ліхой свякроўцы
Гадзіць не буду.

## 152. ВУЗКАЯ ВУЛАЧКА, НЕШЫРОКАЯ

Вузкая вулачка, нешырокая,
Блізкая свякроўка, недалёкая.
Вузкая вулачка — як па ёй хадзіць?

Ліхая свякроўка — як ёй угадзіць?
Па вузкай вулачцы бачком перайду,
Ліхой жа свякроўцы скачком угаджу.

## 153. НЕ БУДУ, НЕ БУДУ ГАРЭЛКУ ПІЦІ

Не буду, не буду гарэлку піці,
Маніўся, маніўся мяне муж біці.
Учора не біў, пужачкі не звіў,
Сягодня наб'ець, пужачку саўець.
Як жа мне ў яго папрасіціся?
Назваўшы татулькам — грэшна будзець,
Назваўшы брацішкам — смешна будзець,
Назваўшы міленькім — уцешна будзець.

## 154. КАБ І Ў ВУЛІЦЫ, У ВАКОЛІЦЫ

Каб і ў вуліцы, у ваколіцы,
А там дзевачкі скачуць, гуляюць,
Скачуць, гуляюць, мяне гукаюць.
А мой нялюбы ў варот стаіць,
У варот стаіць, на мяне глядзіць.
— А ты стой не стой, глядзі не глядзі —
Не пайду з табой у адну клетку спаць,
У адну клетку спаць, на адну кравзць.

## 155. ДОБРА МНЕ, ДОБРА

Добра мне, добра
За старым дзедам:
Не маю клопату
За яго хлебам.
Пойдзець у карчомку,
А я — за ім следам.
З карчомкі ідзець,
За ручку вядзець.
Прывёўшы дамоў,

Пасцельку сцеліць.
Паслаўшы пасцель,
Спатачкі кладзець.
— Спі, мая мілая,
Да белага дня:
У мяне не дзесяць,
Ты ў мяне адна.

## 156. БАРАШАЧКА ЧОРНЕНЬКІ, ЧОРНЕНЬКІ

Барашачка чорненькі, чорненькі
Па століку коціцца, коціцца,
Нам гарэлачкі хочацца, хочацца!
А мы барашачку мыць будзем,
А мы гарэлачку піць будзем.
А мы барашачку вымылі, вымылі,
А мы гарэлачку выпілі, выпілі.

## 157. ДЫ БАРАНЬКА ЧОРНЕНЬКІ

Ды баранька чорненькі,
Ды на ім воўна сучыцца,
Нам гарэлкі хочыцца.
Гаспадару несці маркотна,
А нам піці ахвотна.
Гаспадару несці маркотней,
А нам піці ахвотней.

## 158. БАРАШАЧКА ЧОРНЫ, ЧОРНЫ

Барашачка чорны, чорны,
Па ім кудры сочацца, сочацца,
Нам гарэлачкі хочацца, хочацца.
Мы баранчыка абстрыжом, абстрыжом,
Усю гарэлку пап'ём, пап'ём,
Мы хазяіну песеньку папяём, папяём
І гарэлачку яго пап'ём, пап'ём.

# ЖНІЎНАЯ І АСЕННЯЯ ТАЛАКА

## 159. ІШЛА ТАЛАКА З ЧЫСТАГА ПОЛЯ

Ішла талака з чыстага поля,
З круглае ніўкі.
— Гаспадынька, запалі свечку,
Выйдзі на сустрэчку.
Не пытаець наша гаспадынька:
Ці жывы, здаровы,
Ці крэпкі, вясёлы?
Толькі пытаець:
Ці многа ўвазілі,
Ці многа ўлажылі?
Улажылі поле нязмернае,
Увазілі вазы незлічоныя.

## 160. АДЧЫНЯЙ, ПАН, ВАРОТЫ

Адчыняй, пан, вароты —
Ідуць жнеі з работы.
Адчыняй і другія —
Ідуць маладыя.
Ідуць жнеі маладыя,
Сярпы залатыя.

## 161. А ШТО У ПОЛІ ШУМІЦЬ, ГУДЗЕ?

А што ў полі шуміць, гудзе?
Шуміць, гудзе.
Там талака дамоў ідзе,
Дамоў ідзе.

Там Іванка снапы вязе,
Снапы вязе,
А Змітрачка ў варот стаіць,
У варот стаіць.
— Вязі, Іванка, у маё гумно,
У маё гумно.
Маё гумно вялікае,
Вялікае,
Да зяроды высокія,
Высокія,
Да старонкі глыбокія,
Глыбокія.

## 162. ДА ГУДЗЕ Ў ХМАРЫ, ГУДЗЕ

Да гудзе ў хмары, гудзе,
Да талака з поля ідзе.
Жанішок у варот стаіць,
Шапачку у ручках дзяржыць.
— Да сюды, сюды, божа, сюды,
Сюды з сваею талакою,
Да да маго бацюхна.
У маго бацюхна да сталы засцелены,
Кубачкі паліваны.

## 163. ЯК ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Як ішоў бог дарогаю
З вялікаю талакою,
З харошымі жэньчыкамі,
З залатымі серпікамі.

## 164. ВЫЙДЗІ, ВЫЙДЗІ, ГАСПАДАРЫКУ

Выйдзі, выйдзі, гаспадарыку,
Спатыкаць з усякім збожжам талаку.
Раскрый жа хатачку
Да перад такім жа госцем.

27. Зак. 1049

Пакланіся ж пані талацэ,
Пакланіся ёй найніжай.
Пасадзі ж яе да на куце,
Што есць толькі да найвышай.

Выйдзі, выйдзі, гаспадынечка,
Спатыкаць з усімі госцьмі
Талаку ж но ў вароцечка,
Стань ёй борзна, на ўкосні.

Пакланіся ж пані талацэ,
Пакланіся ж ты ёй каркам.
Выстаў, выстаў ёй да на стале
Саламашкі і з прыскакам.

## 165. НАША ПАНІ МАЛАДАЯ

Наша пані маладая
Па ганачку пахаджае,
Сталы, лавы засцілае,
Ґалачане спатыкае,
Мёдам, віном раздзяляе.

## 166. АХ, І ПОЙДЗЕМ ЖА МЫ ДАМОЎ, ДАМОЎ

Ах, і пойдзем жа мы дамоў, дамоў,
Ах, люлі-люлі, мы дамоў, дамоў.
Станем мы у вароціках,
Ах, люлі-люлі, мы ў цясовенькіх.
Гаспадарачка — у клецъ па гарэлку,
У клець па гарэлку, сыр на тарэлку,
Гаспадынечка — у печ па яешню.

## 167. ВЫХАДЗІ, ХАЗЯЙКА, НА ГАНАК

Выхадзі, хазяйка, на ганак,*
Вынасі бутэльку гарэлкі,
Вынасі сыр на тарэлкі.
А на вакне пачкі-табачкі,
А пад вакном мальцы-сабачкі.

## 168. ПРЫЎКРАСНА КАЛІНА ПРЫ ДАРОЗЕ СТАЯЛА

Прыўкрасна каліна пры дарозе стаяла,
Прыўкрасней жа яе Міхалкіна жонка.
Па двару хадзіла, у сені ступіла,
У сені ступіла, служак разбудзіла:
— Уставайце, служкі, родныя дачушкі!
Сталы засцілайце, кубкі налівайце,
Наехалі госці не з нашай валосці.

## 169. ЧЫЕ ГЭТА ЖОНКІ

Чые гэта жонкі
Блізка ля дарожкі
Перакоп капалі,
Перабору іскалі?
Нашлі перабору —
Калінчыну ветку.
Чырвона, чырвона
Калінчына ветка.
Чырваней за тую
Гаспадарова жонка.
Па двару ходзіць,
Як жар разгараець.
А ў сені ўходзіць,
Як мак расцвітаець.
А ў хату ўходзіць,
Служак пабуджаіць:

* Кожны радок паўтараецца.

— Уставайце, служкі,
Сынкі і дачушкі,
Сталы засцілайце,
Гасцей сазывайце.
Кубачкі паўнenькі,
Госцікі даражэнькі.

## 170. АЙ, ЖАРКА ТО, ЖАРКА Ў ЛОЗЕ КАЛІНЦЫ

Ай, жарка то, жарка ў лозе калінцы,
Ай, жарчэй то, жарчэй нашай гаспадыньцы.
Наша гаспадынька па двару хадзіла,
Па двару хадзіла, слядочкі драбіла.
На ганак ступіла — ганак абламіла,
У сені ступіла — сені асвяціла,
У хату ступіла — хату залаціла,
У камору ступіла — служак пабудзіла:
— Уставайце, служкі, верныя дачушкі,
Сталы засцілайце, кубкі налівайце,
Кубкі налівайце, гасцей сазывайце.
— А сталы засланыя, кубкі наліваныя,
Кубкі наліваныя, госці сазваныя.

## 171. А ЧЫЯ ТО ЖАНА ПА ДВАРУ ХОДЗІЦЬ

А чыя то жана па двару ходзіць,
Двор разлягаецъ?
Максімава жана па двару ходзіць,
Двор разлягаецъ.
На ганачак узойдзецъ —
Аж ганачак гнецца,
А ў клетаньку войдзецъ —
Аж клетанька ззяецъ.
За пляшачку возьмецца —
Гарэлачка льецца.
За чарачку возьмецца —
Гарэлачка п'ецца.

## 172. ЦІ НЕ ПЧОЛКА

Ці не пчолка
Зазвінела звонка,
З вулля вылятая?
То ж не пчолка,
А наша гаспадынька
Па двару хадзіла,
Ключыкі насіла,
Каморы адмыкала,
Кубкі налівала,
Кубкі налівала,
Гасцей угашчала.

## 173. А ЗЕЛЕН НАШ БОР, ЗЕЛЕН

А зелен наш бор, зелен
Над усімі барамі.
А чым жа ён зелен?
Поўна красачак у ём.
А славен жа наш Барыска, славен
Над усімі барамі.
А чым жа ён славен?
Поўна гумно жыцечка навёз.
Калі ж бог спаможыць,
І ярыной даложыць.

## 174. ГАСПАДЫНЯ ТУЖЫЛА

Гаспадыня тужыла,
Што вялікая дружына,
А гаспадар таму рад:
— Садзіцеся ўсе ў рад,
Дам па чарцы гарэлкі,
А хазяйка — сыр на тарэлцы.
А хазяйка ў лісе
Нясець гарэлкі у місе.
А жоны атвячаюць
Ды кашы пытаюць:

— Гаспадынька таўстая,
Ці ёсць каша густая?
Гаспадынька ўцяжку,
Нясі кашу ў гаршку.

## 175. ГАСПАДАР НАШ

Гаспадар наш,
Гарэлкі не даш?
Бяры жыта мерку,
Ступай па гарэлку.
Гарэліца шумна
Завяла да гумна.
А ў гумне старонкі,
Поўныя саломкі.
А я ў саломцы спала,
Нічога не знала.

## 176. ГАСПАДЫНЬКА-РАРА

Гаспадынька-рара,
Пашла дамоў рана.
Гаспадынька цяцера,
Ці гатова вячэра?
Калі гатавенька,
Сядзі харашэнька,
Пастаў ножкі на суножкі.
Калі не гатова,
Не сядзі, лома, дома,
Убірайся пад печ,
Пад печ, пад карыта,
Бо ты будзеш біта.

## 177. ГАСПАДЫНЯ ЦЯЦЕРА

Гаспадыня цяцера,
А чы гатова вячэра?
Калі ўжо гатова,
Заві, пара да стола.

Стол накрыт абрусам,
Поўны місы з скусам.
Стаў да настаўляй нам
Марцыпаны з мясам.

## 178. ГАСПАДЫНЯ ЦЯЦЕРА, ЦІ ГАТОВА ВЯЧЭРА?

Гаспадыня цяцера, ці гатова вячэра?
Ай, на дварэ ды не рана.*
Калі не гатова, дык не сядзі дома,
Калі гатовенька, сядзі харошанька,
Пастаў ножкі на суножкі,
Палож ручкі на століцу,
Палож зубкі на палічку.

## 179. ГАСПАДЫНЯ ЦЯЦЕРА

Гаспадыня цяцера,
Ці гатова вячэра?
Ай, на дварэ ды не рана!
Калі гатавенька, сядзі харашэнька,
Ай, на дварэ ды не рана!
А калі не гатова,
Не марудзь доўга,
Ай, на дварэ ды не рана!

## 180. ЧЫЯ Ж ГЭТА ТАЛАКА

— Чыя ж гэта талака
Шчуку-рыбу валакла
А сабе на вячэру?
— Іванава талака
Шчуку-рыбу валакла

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А сабе на вячэру.
Гаспадыня тужыла,
Што вяліка дружына:
Піва не набраці.
А гаспадар таму рад:
«Садзіцеся, жнейкі, у рад,
Буду частаваці».

## 181. У НАС СЯГОННЯ ТАЛАКА

У нас сягоння талака
Шчуку-рыбу валакла,
А на дварэ да не рана! *

Гаспадар салавей,
Варочайся жывей!

Гаспадынька вутка,
Варочайся хутка!

Наварыла буракоў,
Насыпала чарвякоў.

Наварыла кашы,
Насыпала сажы.

## 182. У НАШАГА ГАСПАДАРА

У нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудзеркамі патрасець,
Нам гарэлкі прынясець.
Ён кудзеркамі павароціць,
Гарэлачку падсалодзіць.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 183. А ХТО Ж У НАС КУДРАВАТ?

А хто ж у нас кудрават?
Кудрават, кудрават.
Іванечка кудрават,
Кудрават, кудрават.
Ён кудрамі патрасець,
Патрасець, патрасець,
Нам гарэлкі прынясець,
Прынясець, прынясець.
Пашоў жа ён у зелен сад,
У зелен сад, у зелен сад,
Нашоў жа ён тры вузлы,
Тры вузлы, тры вузлы:
У адным вузле чорны мак,
Чорны мак, чорны мак;
У другім вузле няхай так,
Няхай так, няхай так;
У трэцім вузле любіста,
Любіста, любіста,
Каб дзевачкі любілі,
Любілі, любілі,
Пад ручаньку вадзілі,
Вадзілі, вадзілі.

## 184. А У НАШАГА ГАСПАДАРА

А ў нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудрамі патрасець,
Нам гарэлкі прынясець.
Ён нясець лупаром,
Толькі нам чатыром.
Ён нясець, мармочыць,
Ён нам даць не хочыць.

## 185. ДАЖАЛІ МЫ ЖЫТА

Дажалі мы жыта
Да самай граніцы,
У нашай гаспадыні

Шырокія спадніцы.
Спадніцамі патрасець,
Нам закуску прынясець.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!
А ў нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудрамі патрасець,
Гарэлкі нам прынясець.
Ён кудрамі пакалоціць,
Гарэлку нам пасалодзіць.
Плён жыта, плён са ўсіх старон!

## 186. ТАЛАЧАНКІ НЕ ПЯЮЦЬ

Талачанкі не пяюць,
Ім гарэлкі не даюць,
А на дварэ да не рана.*

Кабы гарэлкі далі,
Мы ўж бы пялі.

У нашага гаспадара
Кудравая галава.

Ён кудрамі патрасець,
Нам гарэлкі прынясець.

Ён кудрамі пакалоціць,
Нам гарэлку засалодзіць.

Гаспадыня вутка,
Варочайся хутка.

Вы гарэлку дайце
І песень вымагайце.

Дайце кашу на стол
І гаршчок кіньце пад стол.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 187. ТАЛАЧАНЕ НЕ ПЯЮЦЬ

Талачане не пяюць,
Нам гарэлкі не даюць,
Ляжыць паня ў цяньку...
— Ці ёсь каша ў гаршку?
Штоб салома па кію,
А калоссе па валу,
А-я-я-яй, а-я-я,
А калоссе па валу.

## 188. АЙ, НА МАСТУ

Ай, на масту
Да пад мастом
Да ўсё жоўтыя краскі. (2)
Ай, ці маем,
Ці не маем
Іванавай ласкі? (2)
Ай, хоць маем,
Хоць не маем,
Яшчэ пагуляем, (2)
Гарэлачкі салодкія
Яшчэ папіваем. (2)

## 189. І ДЗЕ Ж ТАЯ БАРЭЛАЧКА, ШТО БЫЛА ГАРЭЛАЧКА?

І дзе ж тая барэлачка, што была гарэлачка?
Ці ў хаце пад лаўкай зарасла мураўкай?
Ці ў сенях пад суднікам зарасла трыпутнікам?
Ці ў хаце пад загнетам зацвіла жоўтым цветам?
Дайце нам зелязніцу, адкапаем п'яніцу.
Сядзем мы на лавуньцы, вып'ем мы па чаруньцы.
Сядзем мы на роцьніцы, вып'ем мы па поўніцы.
Мы людзі рабочыя, піць гарэлку ахочыя.

## 190. АХ ВЫ, СТОЛІКІ МАЕ

Ах вы, столікі мае,
Вы цясовенькія!
А чаго вы стаіцё
Незасланенькія?
Ах вы, госцікі мае,
Вы любоўненькія!
А чаго вы сядзіцё
Невясёленькія?
А ці хлебушка пущон?
Ці хазяін невясёл?
Калі хлебушка пушон —
Магу выпалаць.
А хазяін невясёл —
Магу выведаць.
Кунні сабалі
На колічках вісяць,
Мужыковы наравы
На плечыках ляжаць.
Кунні сабалі
Усе сізюсенькія,
Мужыковы наравы
Усе малюсенькія.

## 191. АХ ВЫ, ПЧОЛЫ МАЕ, ПЧОЛЫ

Ах вы, пчолы мае, пчолы,
Пчолы ярыя мае,
Што вы ціха седзіцё,
Хлеба-солі не ясцё?
Ці вам хлебушка пушон?
Ці хазяін невясёл?
Калі хлебушка пушон,
То мы выпалаем,
А хазяін невясёл —
Праўду выпытаем.
Мы харошага роду,
П'ем гарэлку, як воду,
Завярнуўшыся ў куток,
Па тры чаркі ў раток.

